ЗІНАІДА ДУДЗЮК

# ПАЛОННІКІ ЖЫЦЦЯ

АПОВЕСЦІ,
АПАВЯДАННІ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1997

# *Кошт апошняга слова*

Магутны лівень неспадзявана абрынуўся на горад, апантана змываў бруд і сажу. Мутныя рагі вады плылі па шыбах, кроплі гучна і бязладна стукалі па бляшаным падваконні, мякка шамацелі ў буйной свежай лістоце дрэў.

Каця Чарановіч незадаволена паглядвала праз рэдакцыйнае акно на вуліцу, парадкавала стол, завалены паперамі: радыёсцэнарыямі, лістамі слухачоў, вершамі пачаткоўцаў. Яе ўвагу прыцягнуў каляровы буклет. Гэта быў рэкламны праспект новага літаратурна-мастацкага аўкцыёна, пакінуты некім з супрацоўнікаў, якія ведалі яе цікавасць да такіх падзей.

— Аўкцыён? Хіба ў нас яшчэ засталося што прадаваць?— з'едліва пасміхнулася жанчына і прабегла вачамі старонку.— Рукапісы Данілы Шалахвоста... Жывапіс мастакоў з гурту "Арсіс"... Майка бас-гітарыста Херувімчыка...

Раптам позірк яе спатыкнуўся і замёр на знаёмым прозвішчы. Каця захвалявалася, упілася вачамі ў радкі і некалькі разоў перачытала кароткую абвестку за нумарам васемнаццаць: "Прапануецца перадсмяротная запіска выдатнай паэткі Алесі (Аляксандры Паўлаўны) Вішанькі, якая сем гадоў таму скончыла жыццё самагубствам. Стартавы кошт — адзін мільён. Уладальнік — інкогніта".

Каця зняла акуляры, прыжмурыла вочы, нібы здатная была цяпер разгледзець у мінулым тое, чаго не бачыла і не разумела да гэтага часу. Хто ж гэты інкогніта? Ціхан Рапак, былы муж Алесі? Клара Нерат, блізкая сяброўка? Менавіта яны ў ліку першых апынуліся ў Алесінай кватэры пасля яе смерці. А зрэшты, хто там толькі не быў!

Неспакой і радасць ахапілі Кацю Чарановіч: мо нарэшце яна здолее здзейсніць клятву, якую дала сабе на Алесіным пахаванні,— даведацца праўду. Яна была ўпэўнена, што паэтку падвялі пад самагубства ці нават забілі.

Калі ж гэты аўкцыён адбудзецца? Жанчына нервова пагартала буклет. Заўтра, а дзесятай гадзіне. Як дажыць да заўтрага? З'явілася неадольнае жаданне з некім раіцца, некуды бегчы... Але куды? Міліцыю, Саюз пісьменнікаў, суседзяў паэткі абхадзіла яна яшчэ сем гадоў таму, аднак нічога не дазналася. Цяпер трэба было самой разгадаць гэтую тайну...

Каця скінула басаножкі, падкурчыла пад сябе ногі, села зручней, абаперлася локцямі на стол, задумалася, гледзячы ў акно, за якім шалеў чэрвеньскі лівень, малады і задзірысты; сцяна вады засціла вуліцу; абрысы будынкаў, слупоў, машын дваіліся — усё набывала няпэўнасць, размывалася, знікала і з'яўлялася зноў. Гэтак і жыццё ўспрымаем мы праз наша ўяўленне, адчуванне і неразуменне. Помнім дарагія драбніцы, імгненні, а ў той жа час з памяці выпадаюць цэлыя гады.

Сваю апошнюю сустрэчу з Алесяю за тры дні да яе смерці Каця помніла надзіва яскрава. У той вечар яна забегла да прыяцелькі, як звычайна, пасля працы, калі ў Вішанькі на чатырох канфорках нешта кіпела, булькала і смачна пахла. Сама Каця не любіла выстойваць каля пліты ў гонар страўніка, галоўнае ж — душа, а не цела, звычайна замест абеду перахоплівала што-небудзь на хаду: кубачак кавы, пончык, яблык.

Алеся, худзенькая, як дзяўчынка, у квяцістым фартушку, шчыравала каля кухоннага стала, крышыла гародніну

на салату. Круглы твар, спакойныя шэрыя вочы, усмешлівы шыракаваты рот, таўшчэзная цёмная каса на плячы — ва ўсёй яе паставе было нешта дзявочае, некранутае чэрствым жыццём.

— Як у цябе, Алеся, усё выходзіць: і вершы пішаш добрыя, і варыш смачна!— шумна ўцягнула Каця носам паветра.— А я пасля таго, як сын пайшоў у войска, зусім мужа голадам замарыла.

— Напэўна, самой сабе я таксама паленавалася б... Адвечная драма — сутыкненне будзённага і ўзвышанага. Трэба прымушаць звінець жыццёвую муць.

— На гэта здатныя толькі таленавітыя, як ты. А пасрэдных пачытаеш, дык убачыш адны перапевы газетнай публіцыстыкі.

— Галоўнае, Каця, не тое, што напісана, а тое, што засталося паміж радкамі недагаворанае, калі ж вобраз узнікае знарок ці выпадкова, дык гэта зусім не прыкмета паэзіі...

— Цудоўная думка! Давай зробім на гэтую тэму перадачу па радыё для пачаткоўцаў.

— Можна зрабіць што хочаш, але якая з гэтага карысць? Навучыць пісаць нельга. Колькі мудрых кніг на свеце, а ці чалавецтва памудрэла за тысячагоддзі? А я сама?.. Вось хата кніжкамі завалена... Каб хоць шафу якую набыць. І зноў праблемы: як прывезці, як сабраць?

— Выходзіла б ты, Алеся, замуж.

— За каго? Добрыя мужчыны жонак трымаюцца, а дрэнныя нікому не трэба.

— Няўжо пасля разводу ніводнага вартага мужчыны не сустрэла?

— Чаму ж, сустракала... Але ўсе захапленні заканчваліся расчараваннямі. Шкада, канечне, мне ж усяго трыццаць сем, яшчэ і сына магла б нарадзіць...

— А ці не зашмат мы ад мужчын патрабуем?

— Ай, Каця, я хачу дачакацца сапраўднага пачуцця, кахання, калі не трэба цвярозым розумам узважваць, што цябе задавальняе, а што не. Ты разумееш?

— Напэўна, гэта магчыма было ў юнацтве, а цяпер цяжка спадзявацца на шчаслівую сустрэчу...

— Вось таму і цікава. А хто ведае, што наперадзе мяне чакае?— гарэзліва пасміхнулася Алеся.— Хаця калі прызнацца шчыра, дык іншы раз ужо нічога не хочацца, а найгорай праца абрыдла, як звязаная ёю. Адны і тыя людзі, хітрыкі, зламыснасць... Каб толькі дацягнуць да пенсіі, ні дня лішняга не працавала б. Пісала б вершы, жыла б суладна з душою, а не гвалціла б яе штодня, як цяпер...

Алесіны вочы зрабіліся вялікія і сумныя, нешта непакоіла яе, але гаварыць пра гэта з Кацяю яна не хацела, і Каця перамяніла тэму гаворкі, пачала распытваць пра Алесіну дачку Юлю. Як вучыцца? З кім сябруе?

Хутка прыбегла ад сяброўкі і сама Юля. Дзяўчынка з твару была вельмі падобная на Ціхана Рапака, рыжанькая, твар з рабацінкамі, вельмі рухавая і ўсмешлівая.

Утрох яны павячэралі проста на кухні.

— А гэта праўда, цёця Каця, што ўчора на радыё адзін дыктар так выгаварыў слова "стракатая", што ў яго літара "т" згубілася?

— Не ведаю, не чула...

— Ды ў вас жа, на радыё было...

— Юлька, годзе выдумляць,— лагодна абарвала дачку Алеся.

Быў звычайны вечар, нічога не абяцала блізкае бяды.

Пра смерць Алесі паведаміла Каці Ёўга Смаляр позна, ажно пад вечар, патэлефанавала ад разгубленасці ці ад жадання болей даведацца пра былую сяброўку, з якою некалькі апошніх гадоў варагавала. Каця бегла да станцыі метро, а розумам ніяк не магла спасцігнуць, што Алесі ўжо няма жывой. Даўкі нервовы камяк сціскаў горла, слёзы засцілі свет, жанчына хавала твар ад цікаўных вачэй.

У Алесінай кватэры таўклося мноства людзей, і тых, якія мелі дачыненне да літаратуры, і выпадковых цікаў-

ных. Яны бязладна і бесцырымонна хадзілі па пакоях, нібы пасля смерці гаспадыні ёй тут ужо нічога не належала. Акно, з якога раніцою адляцела ў небыццё Алеся са свайго адзінаццатага паверха, было расчынена, поўніла кватэру сакавіцкаю золлю. Людзі выглядвалі ў акно, перагаворваліся, выказвалі кожны сваё меркаванне наконт самагубства. Час ад часу між прысутных узнікалі спрэчкі, людзі шукалі вінаватых у трагедыі, але пры гэтым зыходзілі з нейкіх даўніх сваіх крыўдаў і прэтэнзій, а таму вінавацілі найперш сваіх крыўдзіцеляў, хоць тыя не мелі ніякага дачынення да нябожчыцы.

Ціхан Рапак сядзеў на канапе, панура курыў цыгарэту за цыгарэтаю і прымаў спачуванні, гэтая роля трохі бянтэжыла яго, бо ён даўно ўжо быў жанаты з іншаю жанчынаю. Клара Нерат снавала між прысутных, далучалася да агульных размоў, але сама гаварыла вельмі ціха, шыпела нешта па-змяінаму, нібыта баялася, каб яе не пачула нябожчыца з тае вышыні, куды адляцела спакутаванаю душою.

У калідоры ўбачыла Каця на тумбачцы грошы — тысячы дзве ці болей. Напэўна, Алеся збіралася ехаць па шафу, але нешта затрымала яе дома. Каб ведаць што? Пасля чаго здарылася няшчасце?..

Каця ўвайшла ў маленькі пакой, які служыў Алесі адначасова спальняю і кабінетам, высунула шуфляду пісьмовага стала, убачыла некалькі лісточкаў, спісаных вершамі, а з-пад іх вытыркалася цыдулка. Жанчына выцягнула яе і прачытала: “Аляксандра Паўлаўна, я ўсё зрабіў, каб Вы атрымалі літаратурную прэмію. Л. С.”.

Каця здагадалася: пісаў Лявон Самковіч. Апраўдваўся? Не, хутчэй нешта патрабаваў, напамінаў пра сваю паслугу. Гэта і ён, былы любімы Алесін настаўнік, неўпрыкмет падштурхоўваў паэтку да гэтага акна, да краю, да бездані... Ды не толькі ён... Былі іншыя, што пагражалі ананімна па тэлефоне, у вочы выказвалі нянавісць. Што ж здарылася з Алесяю? Самагубства ці забойства? Гэтае

2. Зак. 7

пытанне сем гадоў не давала спакою Каці. Алеся не збіралася паміраць. Што прымусіла яе зрабіць гэты непапраўны крок? І сведкаў ніякіх не аказалася. Толькі суседзі расказвалі: як няшчасце здарылася, да пад'езда прыехалі дзве машыны — адна "хуткай дапамогі", другая з псіхдыспансера. Хто іх выклікаў? Мо сама Алеся? А мо той, хто дапамог ёй забіць сябе?

Увогуле, за два апошнія гады з Алесяю неаднойчы здараліся дзіўныя гісторыі, пра якія яна старалася нікому не расказваць, баялася плётак і лішніх размоў, нездарма ж напісала гэткія радкі:

Напэўна, я сябе перажыла,
Што не баюся адзіноты хворай.
Мяне не звабіць прывіднасць святла,
Я не хачу ні з кім дзяліцца горам.

Бадай, і радасцю не было ёй з кім дзяліцца. А тая літаратурная прэмія, пра якую нагадваў Самковіч, прынесла Алесі столькі гора і расчараванняў, што неяк яна сказала Каці: "Хай бы лепш нічога не было..."

Нават пасля смерці адбывалася нешта незразумелае. Калі на другі дзень Алесіны родзічы, Ціхан Рапак і Каця Чарановіч паехалі забіраць нябожчыцу з морга, дык санітар ніяк не мог знайсці яе труп. Пасля агульнай разгубленасці, разваг і доўгіх пошукаў нарэшце высветлілася, што нябожчыцу недакладна зарэгістравалі ў кнізе, прапусцілі дзве літары ў прозвішчы, замест Вішанька запісалі Віньдзе ка. Зноў Каця пыталася ў сябе, ці не наўмысна гэта было зроблена некім? Ці не імкнуліся зрабіць так, каб Алеся зусім знікла са свету, каб не было чаго нават пахаваць?

Пасля здарэння ў моргу Каця абышла ўсіх суседзяў. Няўжо ніхто нічога не чуў і не бачыў? Суседзі адмоўчваліся. Каму якая справа да мёртвай паэткі? Толькі адна жанчына з кватэры насупраць згадала, што дні за тры да трагедыі, калі яна выносіла смецце ў смеццеправод, убачыла дзецюка, які адмыкаў дзверы ў Алесіну кватэру, але

замок не слухаўся. Хлопец павярнуўся да жанчыны і патлумачыў:

— Гаспадыня дала мне ключ, каб я паладзіў тэлевізар, але дзверы чамусьці не адмыкаюцца...

— Яна хутка павінна прыйсці, у яе сёння госці збіраюцца,— схлусіла жанчына, бо інтуітыўна адчула нешта нядобрае.

— Так? Тады я наведаюся пазней,— адказаў дзяцюк і пашыбаваў да ліфта.

Увечары суседка зайшла да Алесі. Аказалася, што Вішанька нікому ключа не давала, а тэлевізар спраўны. Хто гэта быў? Рабаўнік? Забойца?

Каця разумела, што самой ёй да праўды не дакапацца. А судовай справы ніхто не збіраўся пачынаць з тае прычыны, што Алеся была на ўліку ў псіхдыспансеры. Ці мала што можа ўчыніць з сабою псіхічнахворы чалавек! Трэба было шукаць зацікаўленых людзей, аднадумцаў, каб разгадаць таямніцу смерці прыяцелькі. Таму кінулася Каця да былога аднакурсніка Жоры Лазюка, які меў уплывовага цесця ў органах унутраных спраў. Дамовіліся сустрэцца ў рэдакцыі газеты, дзе ён працаваў адказным сакратаром. Пасля некалькіх звычайных ветлівых фраз пра жыццё-быццё Каця выказала сваю прапанову:

— Я збіраю матэрыялы пра смерць Алесі Вішанькі, яна выдатная паэтэса і мая зямлячка, але адной мне гэта не пад сілу. Далучайся, зробім сенсацыйны матэрыял, ты — для сваёй газеты, а я — для радыё. Мо твой цесць нечым дапаможа, нейкае ж следства яны праводзілі...

Жора скрывіў свой пляскаты і бліскучы, як намаслены блінец, твар, пакруціў пальцам каля скроні:

— Ты такая ж чокнутая, як і яна. Лепш не лезь туды, куды цябе не просяць...

— Маўчаць? Ты мне пагражаеш?

— Папярэджваю...

— Каму яна замінала? І чым? Вершамі?

— Калі не хочаш мець непрыемнасці, лепш сядзі ціха і не тузайся!

— Значыць, ты нешта ведаеш? Ведаеш і маўчыш! Я разумею: Алеся была выдатная паэтка, і гэтакім няздарам, як ты, проста соладка на сэрцы, калі таленты паміраюць, а шэрасць застаецца паскудзіць свет!

— Ды якая з бабы можа быць паэтка ці журналістка? Цьфу! Пустая трата дзяржаўных сродкаў!

— І гэта гаворыш ты? Убоства, якое з "хвастамі" ледзьве цягнулася ад сесіі да сесіі. А цяпер адно, што ты маеш за душою, гэта ўплывовага цесця!— у свае словы Каця ўклала столькі гневу і пагарды, аднак Лазюк пазіраў на яе абыякава, і ўвесь ягоны выгляд гаварыў: "Так, ёсць у мяне цесць і сувязі з патрэбнымі людзьмі. А ты, дурніца, павучыся ў мяне, як трэба жыць..."

Каця павярнулася і пайшла да дзвярэй. Не, ніколі мужчыны не дапамагалі ёй, не ўмела яна карыстацца ні іхняй мудрасцю, ні іхняй сілаю. Нават на ўласнага мужа за дваццаць гадоў сумеснага жыцця не змагла паўплываць. Ён быў бухгалтар, лічыў дзяржаўныя і свае грошы, купляў і збываў акцыі, розныя банкаўскія паперы, як заядлы ігрок, радаваўся, калі ўдавалася атрымаць прыбытак, і хадзіў раздражнёны і маўклівы, калі пралічваўся. Яшчэ ў маладосці яна падумвала развесціся з ім, але так і не адважылася. Спачатку шкадавала сына, якому патрэбны быў бацька, а пасля сама пачала баяцца адзіноты, бо ўзрост хіліўся да старасці, цяпер ёй падбіралася пад пяцьдзесят.

— Пазней прыйсці не магла?— упікнуў Кацю муж на парозе.

— Магла, але дождж зарана скончыўся.

— Яно і відно...

— Алёшка не званіў?

— Не.

— Другі тыдзень не аказваецца...

— Сын гэтакі, як і ты, за сваімі справамі нікога не помніць.

— Не вярзі дарма абы-што на дзіця. У нас добры хлопчык. Ты ж не ведаеш, як яму там, у Маскве. Мо і грошай няма...

— Каб галадаў, дык аказаўся б...

— Ты вячэраў?

— Вячэраў. І табе трохі смажанай бульбы засталося...

— Дзякую. Хадзем гарбаткі разам вып'ем.

— Не хачу, я піў...

— Хадзем, хадзем, нешта раскажу,— пацягнула Каця мужа за рукаў на кухню.

Ён не надта ўпіраўся, паплёўся следам.

— Глядзі, што я прынесла,— Каця падала мужу рэкламны праспект аўкцыёна.— Чытай абвестку за нумарам васемнаццаць, гэта заўтра будзе...

Муж нетаропка разгарнуў праспект, прачытаў, паціснуў плячыма:

— Ну і што?

— Гэта ж Алеся! Я павінна ведаць праўду пра яе смерць!

— Праўда — рэч вельмі дарагая, часам жыцця каштуе.

— Але ж хлусня нам абыходзіцца яшчэ даражэй!

— Ці мала цябе па судах цягалі, як ты паспрабавала дабіцца праўды пра незаконную прыватызацыю? Забылася ўжо? Спакойнае жыццё надакучыла?

— Затое я перамагла, суд мяне апраўдаў.

— У тым і бяда, што апраўдвацца давялося табе, а не ім. Колькі нерваў, колькі здароўя табе гэта каштавала?

— Ах, Божа мілы, ды, можа, нервы на тое і ёсць, каб іх псаваць і траціць! Інакш зямля не прыме!— горача адказала Каця.

— Што ты збіраешся рабіць?

— Пайсці заўтра на аўкцыён і ўзяць інтэрв'ю ў таго, хто прадасць запіску, і ў таго, хто купіць, калі, канечне, удасца, бо могуць жа спаслацца на камерцыйную тайну. Толькі гэтая цыдулка адкажа на пытанне: забойства гэта ці самагубства? Некага ж павінна непакоіць пачуццё віны, а можа, і страх. А раптам гэта і ёсць галоўны доказ!

— Думаю, што справа гэтая хутчэй за ўсё бяздоказная. Калі ўжо тады вінаватых не знайшлі, дык цяпер дарма на нешта спадзявацца. Ды ці мала людзей самі сябе забіваюць? А тут псіхічнахворая паэтка... Ды ўсе паэты — прыдуркі...

— Ніякая яна не хворая. Канечне, здараліся ў яе дэпрэсіі з-за таго, што з яе чыстай душою занадта цяжка было жыць у хлуслівым і разбэшчаным свеце, але гэта не хвароба. Ты ведаеш, чым Бог адрозніваецца ад Сатаны? Абодва ж магутныя!

— Пачынаецца філасофія,— незадаволена адмахнуўся муж, каб спыніць пустую гаворку.

— Не, ты даслухай. Бог умее ствараць новае, невядомае, а Сатана здатны толькі разбурыць, у лепшым выпадку скапіраваць. У гэтым уся розніца.

— І пры чым тут Вішанька?

— Тое самае адбываецца з таленавітымі і пасрэднымі людзьмі. Вечны антаганізм паміж Моцартам і Сальеры. Пасрэдныя пнуцца дасягнуць узроўню геніяў, зайздросцяць ім, а часам нават і знішчаюць як канкурэнтаў.

— Гэта толькі твае здагадкі,— муж падняўся з кухоннага зэдліка і падаўся ў пакой.

Каця чула, як ён уключыў тэлевізар, глядзеў футбольны матч. Ягоная абыякавасць і неразуменне заўсёды выклікалі ў яе пачуццё самоты. Напэўна, усе толькі прыкідваюцца, што жывуць адно дзеля аднаго, а ў сапраўднасці стараюцца выкарыстаць напарніка ў сваіх мэтах. Але ад Каці мужу не вялікі набытак. Яна заўсёды, як паветраны шарык, гатовая ўзляцець і ўзарвацца. І толькі ён за нітачку лёсу ўтрымлівае яе, а без яго ўжо невядома, куды занесла б Кацю неміласэрнымі вятрамі. У кожнага сваё прызначэнне.

Было яно і ў Алесі Вішанькі. Яе вершы пры максімальнай нагружанасці сэнсам і музычнасці здаваліся надзіва простымі і зразумелымі. Кожнае слова, нават гук былі насычаныя колерам, пачуццёва афарбаваныя. Яна знахо-

дзіла цудоўнае ў самых звычайных рэаліях вясковага і гарадскога жыцця. Яна мела адметны паэтычны зрок і слых.

Упершыню Каця Чарановіч убачыла і пачула Алесю Вішаньку, тоненькую першакурсніцу з доўгаю цёмнаю касою на плячы, ва універсітэце на літаратурнай вечарыне. Дзяўчына зачаравала слухачоў пяшчотнымі лірычнымі вершамі пра Дняпро, пра родную вёсачку. Яе тонкі высокі голас прагаворваў вершы з гэтакім натуральным рытмам, як дыханне, як стук сэрца. І пасля, калі б Каці ні даводзілася чытаць Алесіны вершы, яна заўсёды нібы чула яе голас, інтанацыю, рытм.

У той жа год Каця скончыла універсітэт, узяла накіраванне на радзіму, у Гомель. Працавала на тэлестудыі. У правінцыі жыццё рухалася марудна, а яна прагнула сапраўдных, вялікіх спраў, бо адчувала ў сабе сілу і здольнасці. Каця заўсёды была выдатніцаю ў вучобе і працавала таксама з запалам і жаданнем. Была яна хударлявая, трохі вышэй сярэдняга росту, але косць мела шырокую, сялянскую, заўсёды цвёрда стаяла на ступаках, на якія падбірала абутак саракавога памеру.

Уздоўж і ўпоперак аб'ездзіла яна вобласць, працуючы ў маладзёжнай рэдакцыі. Радавалася, калі ўдавалася праездам наведаць бацькоў. А ў адной камандзіроўцы, у зацішным Лоеве, выпадкова пазнаёмілася са сваім бухгалтарам, прыкметным знешняю абаяльнасцю і засяроджанай мужчынскаю разважлівасцю. Спачатку Каця перацягнула яго ў Гомель, а пазней, калі прапанавалі працу ў Мінску, разам паехалі ў сталіцу. Не замарудзіў з'явіцца на свет сын Аляксей. Каці найчасцей даводзілася пакідаць сына з мужам, а самой ездзіць з канца ў канец па рэспубліцы, гэтага вымагала праца на радыё.

У Мінску зноў звёў лёс Кацю з Алесяю Вішанькаю. Паэтка выходзіла замуж за яе былога аднакурсніка Ціхана Рапака. Каця прыхапіла рэдакцыйны магнітафон і накіравалася на ўрачыстасць.

Вяселле выдалася шматлюднае і тлумнае. Шчаслівы жаніх туліў да сябе вяснушкаватую, дробную целам нявесту, лёгкую, як воблачка, у падвянечным строі, нібыта баяўся, што дзьмухне вецер, падыме яе ўвышыню, і ніколі не дацягнуцца рыжаватаму жаніху, не надта прыгожаму, але сімпатычнаму інтэлегентнасцю і выхаванасцю, да сваёй любай у завоблачнай далечыні.

Алеся пры ім глядзелася не кідка, але была прывабная чыстаю маладосцю ды доўгаю цёмнаю касою, што звешвалася цераз плячо ніжэй пояса. А яшчэ іх яднала каханне, якое яны шмат гадоў песцілі, аберагалі вершамі і лістамі на адлегласці, сэрцамі — поруч.

Хто ж мог падумаць, што шлюб з каханым чалавекам для Алесі стане цяжкім выпрабаваннем? Хоць і тады ўжо было відаць пранікліваму воку, што не прыняла Ціханава маці нявестку, не пра такую дзяўчыну свайму сыну марыла яна. Адчужана глядзела жанчына на новых вясковых сваякоў, на іхняе стракатае адзенне, на парэпаныя рукі і прыгаворвала, шкадуючы сябе і сына: “Мой Ціша нібы ў палонку галавою кінуўся, нібы ў палонку...” Ніяк не магла зразумець, як гэта яна, настаўніца з трыццацігадовым стажам, што думкі чужыя па вачах чытае, не здолела ўладкаваць лёс роднага сына. Чым гэтае шэранькае ды маленькае дзяўчо прычаравала яго? Хіба толькі вершыкамі? Ці ж гэта занятак для замужняе жанчыны? Незадаволенасць раздзірала сэрца. Чаму Ціхана напаткала такое няшчасце? Нібы аслеп! Нібы звар'яцеў! Нічога і нікога не хацеў слухаць. Не дапамаглі ні матчыны ўгаворы, ні бацькавы пагрозы. Зрабіў па-свойму, ажаніўся.

Маці, як заставалася сам-насам з сынам, усё нашэптвала яму: “Сыночак мой родненькі, якое ж гэта жыццё з паэткаю? Замест таго каб з мужам цешыцца, усю ноч святло паліць ды нешта піша. Я разумею, табе, мужчыну, трэба расці на службе і ў творчасці, а ёй нашто? Ці яна разумнейшая за цябе? Раз-раз, напстрыкае тых вершыкаў і панесла ў рэдакцыю, надрукавалася. А табе проза вунь

як цяжка даецца, тут жа думаць трэба, а не ўсялякую лухту рыфмаваць".

Ціхан спачатку адмахваўся ад матчыных гаворак, ■ пасля агледзеўся ды і сам пачаў скардзіцца на жонку: "Ведаеш, мама, яна ў мяне думкі крадзе. Скажу ёй што-небудзь, а пасля гэтае ж чытаю ў яе вершах".

"Я ж табе казала — вампірка яна. Не слухаўся мамы, цяпер вось і маеш! Увесь дух з цябе і з мяне высмактала! Не пара яна табе!" — гаварыла маці і залівалася слязамі.

Матчыны слёзы падмывалі трывалы бераг, разбуралі найлепшыя пачуцці, якія былі ў душы Ціхана да Алесі. Ён раўніва перажываў тыя хвалебныя артыкулы, якія пісаліся на Алесіны зборнікі і падборкі вершаў, а ягонай прозы ніхто не заўважаў, нібы яна другарадная, нібы ён рабіў нешта непрыстойнае. А напачатку хвалілі ж і яго, масцітыя пісьменнікі ўскладалі на яго надзеі. Напэўна, сапраўды забірае ў яго жонка творчую энергію і сілу. Ён прымхліва глядзеў на Алесю, сачыў за кожным яе рухам.

Калі наведваліся сябры ды сяброўкі, Ціхан зачыняўся з імі ў малым пакоі, гадзінамі праседжваў за размовамі, ■ тым часам самотная Алеся тулялася па кватэры, як цень. Чакала, мо паклічуць да сябе ці папросяць хоць каву згатаваць. Не клікалі... Каву гатавала свякруха.

Пра гэта Каці расказвала сама Алеся. Не ганіла яна былога мужа, не кляла, рэдка згадвала, але той даўні боль не сціраўся ў памяці як шкадаванне, што не здолела з самага пачатку разгледзець і зразумець чалавека, яго мізэрнасць не толькі ў каханні, але і ў творчасці. У рэшце рэшт выбіўся ён у рэдактары ведамаснай газеткі, пачаў пісаць танную публіцыстыку, глыбакадумна выдаючы агульнавядомыя ісціны за свае адкрыцці.

Каця падняла накрыўку на патэльні, зірнула на халодную смажаную бульбу. Есці не хацелася, абмежавалася гарбатаю з бутэрбродам. Зазірнула ў пакой, дзе на канапе

муж глядзеў тэлевізар, пагладзіла яго ўскудлачаныя сівыя валасы, але зразумела, што замінае яму, бо ён занадта захоплены футбольным матчам. Узяла з кніжнай шафы двухтомнік Алесіных вершаў, пайшла ў спальню. У пасцелі прачытала некалькі ранніх вершаў, пасля перайшла да самых апошніх, скрозь — шчырасць і безабароннасць. Таму і было ёй цяжка жыць сярод людзей, здатных на хітрыкі, зайздрасць, зло. Расчароўвацца ў адных і шукаць паратунку ў іншых, гэтакіх самых.

Каця была ўпэўнена: зайздрасць меней здольных Алесіных паплечнікаў да яе таленту найбольш шкодзіла паэтцы ў жыцці. Шмат непрыемнасцей прыносіла і праца ў выдавецтве. Вішанька пакутавала, калі даводзілася пісаць адмоўныя заключэнні на рукапісы. Ведала: аўтары будуць крыўдаваць і праклінаць яе. І гэтая іхняя злосць трывожыла яе сны і яву, тады яна без дай прычыны адчувала невыносную тугу ў сэрцы. Яна неаднойчы скардзілася Каці, што час ад часу нехта па тэлефоне пагражае забіць яе.

— Не звяртай увагі,— супакойвала Каця прыяцельку,— нехта жартуе.

— Не, Кацечка, яны ўжо гэта робяць марудна сваімі просьбамі і патрабаваннямі прапіхнуць бяздарны рукапіс, напісаць прадмову да нейкай лухты, адрэдагаваць такі няўдалы твор, што яго лягчэй было б перапісаць нанова...

— Такая ў цябе праца...

— Каб я была адна, сядзела б на хлебе і вадзе, пісала б вершы і была б шчаслівая. Але ж мне дачку трэба гадаваць... А на голыя ганарары не пражывеш.

— Не цяжка ж даведацца, хто тэлефануе...

— Нашто мне ведаць таго чалавека? Ён чужы. Як мне змірыцца з тым, што самыя лепшыя сяброўкі здраджваюць? Хоць бы Ёўга Смаляр... Як гэта здарылася, колькі ні думаю, зразумець не магу нічога. Мы ж з ёю жылі цэлы год у мяне дома, як сёстры. А цяпер, калі маем па асобнай кватэры ў розных канцах горада, нам цесна ў літаратуры. Во дзівосы!

Каця ведала, як скончылася гэтае шматгадовае сяброўства. Алесі за новую кніжку вершаў "Любістак і палын" далі літаратурную прэмію, на якую прэтэндавалі Еўга Смаляр і яшчэ некалькі паэтаў. Еўга папярэдне абзваніла ўплывовых людзей, папрасіла, каб прагаласавалі за яе на камісіі. Уплывовыя нахвальвалі яе кнігу і абяцалі выканаць просьбу. Але ў выніку тайнага галасавання аказалася, што лепшаю прызнана Алесіна кніга.

Еўга знікла з урачыстага сходу адразу пасля абвяшчэння лаўрэатаў. Алеся ж была шчаслівая. Яе віншавалі і хвалілі, напэўна, яна гэтага заслугоўвала і толькі жартавала: "Каму не шанцуе ў каханні, таму даюць прэміі". І для сябе адкрывала глыбокі сэнс. Сапраўды, калі б яна была ў пары з Ціханам, жыла спакойна без болю і стратаў, пэўна, і дзесятай долі тых пранікліва-балючых вершаў пра каханне не здолела б напісаць. Такі ўжо лёс паэта: чым болей карае, тым болей узнагароджвае.

Было ў той вечар і шампанскае ў пісьменніцкім бары, і шмат цёплых слоў пачула Алеся ад калег-пісьменнікаў, чаго звычайна ад мужчын не дачакаешся. Дамоў вярнулася позна, але адразу заснула, задаволеная і заспакоеная. Сярод ночы патрабавальна зазваніў тэлефон. П'янавата-грубы жаночы голас пракрычаў у вуха:

— Гэта ты, самадайка, усіх падкупіла! Пад самога Трамваева падаслалася. Каб табе век дабра не відаці.

Алеся пазнала Еўгу, сцялася ад нечаканасці, пакуль слёзы крыўды не хлынулі з вачэй, і яна праз плач толькі здолела выгаварыць:

— Грэх табе, Еўга! Грэх! Я пазнала цябе! Пазнала!

У шматдзетнай сям'і нарадзілася Еўга, але была асуджана лёсам на адзіноту. Бацька памёр, калі ёй было чатыры гады. Ад бяды і нуды захварэла маці на сухоты. Трое малодшых аддала ў інтэрнат, двое старэйшых пайшлі на працу. З інтэрната Еўга паступіла ў педагагічны інстытут.

Жыла голадна, апраналася бедна, затое фантазія адносіла яе ў далёкія краіны, а будучыня ўяўлялася незвычайнаю і цікаваю. Таму накіраванне на працу ўзяла сабе на Далёкі Усход у Прыморскі край. І паехала туды цягніком праз усю Расію. Першыя пяць дзён усё пазірала ў акно, а пасля нудзіла яе ад гэтай бясконцай дарогі і ад голаду. Праз паўмесяца дабралася яна нарэшце ў свой таежны пасёлак. Вакол — сопкі ды лес. У пасёлку — рабочы люд, заняты ў леспрамгасе.

Як толькі з'явіўся ў школе новы настаўнік, гэтакі ж расчараваны рамантык, Ёўга выйшла за яго замуж, бо не было ніякае сілы трываць неўладкаванасць таежнага жыцця: здабываць дровы, паліць у грубцы, цягаць з калодзежа вёдры з вадою. Быў у сям'і разумны лад і спакой, але пакахаць Барыса Ёўга так і не змагла.

У тым таежным пасёлку, сумуючы па радзіме, і пачала Ёўга пісаць вершы, пасылаць у беларускія газеты і часопісы. На радзіме заўважылі здольную паэтку, запрасілі на семінар творчай моладзі. Тады і пазнаёмілася Ёўга з Алесяю, маладою, але ўжо вядомаю паэткаю. Гадзінку мо пагаварылі, паскардзілася Ёўга на сваё жыццё, на адарванасць ад роднае зямлі, і Алеся, не доўга думаючы, запрасіла яе да сябе пажыць, пакуль Ёўга ўладкуецца ды атрымае якое-ніякое жытло.

— Ці ж можна гэтак?— сумелася Ёўга.

— А чаму не? Я пакаштавала гэтага жыцця таксама, не было дзе жыць з дачкою. Усё разумею. Дык я яшчэ на радзіме была, а ты — у тайзе. Прыязджай з сям'ёю.

Ёўга гвалтам звольнілася са школы сярод навучальнага года і прыехала адна. З Алесінаю дапамогаю знайшла сабе працу ў выдавецтве, бадай, гэта быў самы шчаслівы час у яе жыцці, калі яна сапраўды адчула сябе вольным і творчым чалавекам. Па дванаццаць гадзін праседжвала за сталом, пісала вершы, прозу, эсэ. І з Алесяю цудоўна ладзіла, жывучы ў яе кватэры. Сустракаліся звычайна ўвечары, абмяркоўвалі такія-сякія навіны, Алеся тым часам

гатавала вячэру, рабіла яна гэта хутка і смачна. Ёўга варыць не любіла, затое мела звычку нанач добра наесціся, калі было што. Гэтае вечнае адчуванне голаду засталося ў яе з юнацкіх гадоў. Была яна высокая, скроеная па-мужчынску: шырокая ў плячах, з вузкімі клубамі, твар прыемны, заўсёдная кароткая завіўка, адметныя былі толькі зубы, яны адкрываліся пад час смеху, вялікія і драпежныя, з-пад тонкіх вуснаў.

Месяцаў праз восем далі Ёўзе пакойчык у інтэрнаце, а потым і кватэру. Прыехала сям'я. Пакаціліся гады ў турботах і працы. Неяк сама сабою вырасла дачка. Ёўга нават не заўважыла, як гэта здарылася. Усе даччыны праблемы звычайна браў на сябе муж, ён працаваў у той самай школе, дзе вучылася дачка, разам яны адыходзілі ранкам, разам вярталіся пад вечар, гатавалі абед, вячэру, рыхтавалі хатнія заданні. А Ёўга была засяроджана на сабе, на сваёй душы, спрагнелай і стомленай ад адчування марнасці і бессэнсоўнасці жыцця. У сэрцы панавала пустэча, якую можна было напоўніць толькі каханнем. І яна чакала яго з усіх шляхоў. Павінен жа быць недзе той яе адзіны, наканаваны...

Сустрэла яго на свяце паэзіі ў Маскве. Гэта быў той ідэальны тып мужчыны, пра якога яна марыла: высокі, плячысты, цемнавокі. Непакорныя чорныя пасмы спадалі на лоб, ён час ад часу адкідваў іх рукою назад. Яна не магла адвесці вачэй ад гэтае прыгажосці, мужнай і высакароднай. А ён, адчуваючы на сабе яе позіркі, вінавата апускаў вочы, і ўвесь ягоны выгляд красамоўна гаварыў: усё ведаю, усё разумею, але ўсё мінае, і застаецца пустата...

Ёўга нічога не хацела ведаць пра ягоны вопыт, мінулае жыццё, яе істота прагнула кахання і лагоды. Яна марудна і доўга набліжала яго да сябе, развітвалася і абяцала пісаць і тэлефанаваць, хоць адчувала, што яму гэта не трэба. І няхай! Затое гэта неабходна ёй. Не будзе прычыны каяцца, што нечага не зрабіла дзеля свайго кахання. Яшчэ

адзін ліст з дабрынёю і любоўю, няхай адказу не дачакаецца. Яшчэ адна асцярожная і чулая тэлефонная размова. Пакуль абраннік нарэшце не адчуў у ёй няхай не каханую, але і не варожую сабе істоту.

У чарговую іхнюю сустрэчу ён быў з ёю такі, як ёй хацелася,— лагодны і спагадны. А яна прыгожая і шчаслівая. Гасцінічны пакойчык, утульны, з двайнымі дзвярамі, акрыў іх ад свету, ад чужых вачэй. Еўга піла, не магла здаволіцца пяшчотай і любасцю роднага чалавека, раставалася, знікала, прападала ў ім...

Толькі пасля, стомленая і заспакоеная, яна папракнула яго, што надта ўжо ён скупы на словы.

— Не веру я словам, сцерліся яны, як старыя пятакі,— адказаў ён.

— У нас з табой свае словы, не пазычаныя...

— Згубіў я ўсё. Столькі ўжо было ўсяго: жанчын, слоў. Адна пустата засталася. А я нічога не чакаю ад жыцця...

— Ды ты ж ахвяра сваёй неразборлівасці... А ці кахаў якую па-сапраўднаму?

— Мо ў юнацтве... Цяжка сказаць, столькі ўсяго было...

— Нічым я табе, Слава, не дапамагу, бо я для цябе толькі адна са шматлікіх,— асуджана сказала Еўга, паднялася з пасцелі, пачала апранацца.

— Ты пакрыўдзілася?

— Не. Я кахаю. Гэтага мне дастаткова. А да тваіх пачуццяў мне справы няма. Бывай. Адгукайся. Буду радая пачуць твой голас.

— Пачакай, я ж дзеля цябе сюды прыехаў!..

Яна засталася з ім на вечар, каб гаварыць ні пра што, піць каньяк і каву, курыць. Гэта былі хаўтуры па яе няспраўджаным каханні. Ён не верыў сабе, не здатны быў закахацца. Дык ці ж у гэтым вінаватая Еўга? Яна яшчэ доўга прысвячала яму вершы, пісала лісты, пакуль на змену гэтаму безнадзейнаму каханню не прыйшло новае за-

хапленне тут, у Мінску, з таемнымі сустрэчамі на дачы. Але цяпер яна сама зразумела, што пакахаць не можа. Гэта толькі гульня ў маладосць і захапленне. І, напэўна, ужо больш нічога не будзе. Засталіся толькі яе драпежныя зубы, якімі яна сквапна ўгрызаецца ў жыццё, каб адхапіць лепшы кавалак. А побач гэтаксама хапаюць, ірвуць, цягнуць да сябе. Усё навокал аблізана, абслінена, усё нячыстае і хворае. І адзіны шлях да ачышчэння душы — гранічна шчырая споведзь праз творы. Яна ж не адна такая, але астатнія не маюць адвагі агаліць свае язвы, паказаць заганы, а яна можа вывернуць душу, аблегчыць, апрастаць і жыць далей.

Адзіным Богам для яе стала праца, цяжкая, вярэдлівая турбота. Творчасць прыносіла радасць за ўдала напісаныя радкі, за свежы вобраз, яна стамляла, забірала сілы, але і напаўняла новымі задумамі. Ёўга прачыналася а пятай гадзіне раніцы і садзілася за машынку, клавішы якой шчэрыліся гэткаю ж драпежнаю і хціваю белатою, як і зубы гаспадыні, калі яна ў час працы пасміхалася сабе ці раз'ятрана спрачалася з уяўнымі асобамі, хоць разумела, што нават у мастацкім творы кожны нясе свой крыж. І невядома, дзе цяжэй: на крыжы ці пад крыжом. Яе неспатоленая прага кахання — гэта таксама наканаванне, якое яна валачэ на сабе з апошніх сіл, аддаючы лепшыя гады беспрасветнай працы. І калі не каханне, дык няхай бы праца ўзнагародзіла яе, але і тут не было ўзаемнасці.

Алеся аплаквала сваю прэмію. Ёй здавалася, што ўсе калегі, якія ўчора гэтак хораша віншавалі з перамогай, толькі смяяліся з яе. За што? За што? Як жыць? Тэлефон маўчаў, нібы горад вымер, а яна засталася адна ў цэлым свеце. І каб не дачка, якая цяпер гасцявала ў бабулі, варта было б памерці. Дзеля чаго тут трымацца? Хацелася некаму паскардзіцца, выказаць крыўду, але яна не знаходзіла сярод знаёмых такога блізкага чалавека.

Па абедзе тэлефон ажыў, адгукнулася Клара Нерат, даўняя знаёмая, што некалі напісала станоўчую рэцэнзію на яе першую кніжку. Тады ў Клары бачылі перспектыўнага крытыка, але яна выйшла замуж за пісьменніка Стася Бязмена, перастала пісаць, нібы ахвяравала свае здольнасці на алтар сям'і. Цяпер у літаратуры Клара была старонні чалавек, і Алеся наважылася даверыць ёй свой боль.

Сапраўды, Клара адчула яе настрой з паўслова, сказала, што не варта давяраць халоднаму тэлефону такую размову, паабяцала зараз жа прыехаць з мужам, каб разам спакойна абмеркаваць усе праблемы. І не забавілася, з'явілася хвілін праз трыццаць.

Госця была ўражана Алесіным выглядам. Вочы чырвоныя і падпухлыя ад слёз, вусны бледныя, рукі халодныя. Усё ў ёй, ад голасу да цела, было ломкае, на мяжы зрыву.

— Алеся, што табе баліць?

— Душа... Хацела наглытацца таблетак, каб заснуць і больш ніколі не прачынацца.

— Яшчэ чаго! Нельга гэтак трагічна ўспрымаць свет. Што здарылася? Былая сяброўка аказалася дрэнным чалавекам? Ну і што? Колькі добрых людзей на свеце жыве! І дачка твая здаровая! І мама! У цябе ўсё ёсць: вядомасць, дом, сям'я. А колькі яшчэ ўсяго цікавага наперадзе...

— Так, так,— падтакваў Кларын муж,— трэба ўспрымаць свет такім, які ён ёсць, і не рэагаваць на чужое зло.

— Табе трэба гарачанькай гарбаты, Алеся, нешта ў цябе ў кватэры холадна.

— Я задыхалася, паветра не хапала, балкон быў адчынены. Зараз чайнік пастаўлю.

Распаліць канфорку Алеся не здолела, дрыжэлі рукі. Стась пасадзіў яе на зэдлік, распаліў пліту, Клара заварыла свежую гарбату. Алеся, кранутая іхняю ўвагаю і спагадлівымі словамі, пачала патроху адыходзіць душою. Але раптам яе затрэсла ліхаманка, нібыта ўраз усё цела абклалі лёдам. Клара захутала Алесю ў коўдру, яшчэ раз напаіла гарачаю гарбатаю, пакуль яна не сагрэлася, ажно кропелькі поту выступілі на лобе.

Калі Клара і яе муж пачалі збірацца дамоў, Алеся з жахам уявіла, што зноў павінна застацца адна ў чатырох сценах, дзе з усіх куткоў гучыць голас Ёўгі Смаляр: "Гэта ты, самадайка, усіх падкупіла!" І пакутліва б'ецца пытанне: "За што?", на якое няма адказу. Алеся заплакала наўзрыд.

— Што? Што з табой, Алесечка?— усхапілася Клара.

— Гэта дэпрэсія,— цвёрда сказаў Стась.— Трэба псіхіятра.

— Мо варта твайго брата выклікаць, ён добры спецыяліст... Алеся, паклікаць да цябе доктара?

— Зрабіце, зрабіце што-небудзь. Маё сэрца разрываецца на кавалачкі, я заб'ю сябе...

Гэтак упершыню Алеся апынулася ў псіхдыспансеры. Тады Каця наведала яе ў бальніцы. Паэтка была змарнелая і вялая. Яна доўга ўзіралася ў Кацін твар, нібы не пазнавала:

— Каця, ты нейкая не такая. Галава ў цябе вялізная, як у пачвары, твар пляскаты, не твой... А, гэта, пэўна, ад лекаў свет мяняецца, робіцца пукаты і агідны...

— Усё мінецца. Як ты тут?

— Нічога... Страшна, як у турме, усё на замках... Але дома страшней.

— А дактары што кажуць?

— Увесь час нешта пытаюцца, а я нічога не магу растлумачыць...

— А доктар хто, мужчына ці жанчына?

— Усялякіх хапае...

— Алеся, ну што ты скуксілася? Было б з-за чаго бедаваць. Табе далі прэмію, ты выдатная паэтка, цябе любяць чытачы. Ты ёсць і будзеш, што б твае зайздроснікі ні гаварылі. Закахайся тут у добрага доктара. Як мне зрабілі аднойчы аперацыю на апендыцыт, дык мой хірург мяне на руках насіў, а на развітанне мы з ім пляшку каньяку выпілі і нацалаваліся...

— Я нікога не хачу бачыць, Каця. І адной страшна заставацца. Адно выратаванне — праца, мо хоць нешта людзям застанецца. Ды што могуць мае радкі зрабіць для іншых, калі яны нават мяне не ратуюць. Раней напішаш верш, адчуваеш радасць, палёгку. Цяпер — стома, стома...

Алесю выпісалі з бальніцы тыдні праз тры, але яшчэ доўга яна заставалася хваравіта-прыгнечанаю, не знаходзіла адхлання, цягнулася да людзей і асцерагалася, ранілася недаверам і раніла іншых. Але гэта ўжо было пры канцы жыцця. Хаця яна мо і не адчувала, што збягаюць яе апошнія дні.

Каці згадваўся той ці іншы выпадак з жыцця Алесі, але бессістэмна і блытана, а хацелася ўсе факты паставіць у пэўнай храналогіі, каб зразумець, як гэтая таленавітая, светлая жанчына прыйшла да душэўнага крызісу, што не пасіліла ўласнага жыцця. Зрэшты, Каці было вядома шмат, але гэта толькі нейкія вонкавыя праявы характару паэткі, а што яна магла ведаць пра глыбока інтымныя пачуцці? Хіба толькі здагадвацца, прачытваць паміж радкамі вершаў, успамінаць нешта недагаворанае Алесяю. Трэба было выцягнуць у ланцужок розныя падзеі, каб зразумець, калі пачаўся гаротны шлях, калі яна адчула ўпершыню:

А за-за спіны ўжо смерць, як патароча,
Падглядвае, прыспешвае крадком...

За сцяною засігналіў тэлевізар, скончыліся перадачы. Каця пайшла ў пакой, дзе моцна спаў муж, выключыла тэлевізар.

— Ідзі ў пасцель, тэлевізіёншчык.

— Я буду тут,— прамармытаў ён скрозь сон.

Каця і Алеся былі зямлячкі. Вёскі іхнія стаялі на Дняпры кіламетраў за пятнаццаць адна ад адной. І хоць сустракацца ў малецтве ім не даводзілася, Каці яскрава і лёгка

ўяўлялася Алесіна жыццё ў прыдняпроўскай вёсцы, дзе рака кліча, зачароўвае, захапляе малых і старых. На яе можна глядзець гадзінамі, яна кожны момант інакшая і заўсёды дзівосна прыгожая.

Алеся расказвала, што Дняпро ёй сніцца па-рознаму, то затуманены і бурлівы, то, наадварот, лагодны, з жоўтым пяском на беразе. Сніўся часам ненатуральна, зусім без высокага берага, які ў вёсцы называюць гарою, але з заўсёднаю мацярынкаю, якой шмат расло на гары. Гэтую духмяную і гаючую траву Алеся заварвала сабе ад усіх хвароб.

Даводзілася Каці наведваць Алесіну вёску, калі яшчэ працавала ў Гомелі на тэлебачанні. Цяпер там засталося мала людзей, паўцякалі жыхары ад чарнобыльскай навалы, пустуюць хаты, ды і тады ўжо яна была не надта людная, але цягнулася ўздоўж Дняпра кіламетры на два, з драўлянымі пасляваеннымі хатамі за высокімі платамі і варотамі. З вуліцы Дняпра не было відаць, толькі там, дзе два равы спускаліся да рэчышча, выблісквала рака, высвечвалася сярод вербалозу пяшчотным блакітам.

Алеся яшчэ школьніцаю пачала змяшчаць вершы ў рэспубліканскім друку, не вельмі заседзелася ў пачаткоўцах, бо творы былі сталыя, вылучаліся вобразным ладам, іх нельга было зблытаць з нечыімі, паэтка мела свой голас і почырк. У Мінску заўважылі таленавітую дзяўчынку, пачалі запрашаць на семінары творчай моладзі, дзе Алеся знаёмілася з аднагодкамі, якія захапляліся літаратураю, і завязвалася сяброўства. Алеся шмат з кім ліставалася, дзялілася вершамі, кнігамі, уражаннямі. Маладых паэтаў забіралі ў войска, яна не ленавалася пісаць ім, пасылала новыя кнігі і цікавыя публікацыі. Гэта было шчырае сяброўства, а кахала яна толькі Ціхана Рапака, з якім пазнаёмілася на самым першым сваім семінары. Разгаварыліся ў перапынку паміж пасяджэннямі секцый.

— Галоўнае,— даводзіў Ціхан,— не прадаць д'яблу душу. Заставацца самім сабою.

— Але ж д'ябал — гэта не нейкая абстрактная пачвара, якая прыходзіць і спакушае. Спакуса — усё наша жыццё,— запярэчыла Алеся.— А мы ўжо вольныя выбіраць тып паводзінаў.

— Так, як быццам вольныя. Вось мне нядаўна адзін генерал прапанаваў напісаць за яго мемуары, абяцаў добра заплаціць. Гэта спакуса? Я адмовіўся, каб пісаць тое, што жадае мая душа.

— А мо ён цікавы чалавек?

— Ён таксама спакушаны. Давялося мне яго бачыць збянтэжаным і паслужлівым перад вышэйшым начальствам...

— У вас, журналістаў, цяжкая праца. Усё бачыце, ды не пра ўсё можаце сказаць, таму я ў журналістыку не пайду, хоць і збіралася,— нечакана для сябе вырашыла Алеся.

— Канечне, гэтая справа няпростая, але мне падабаецца тым, што можна паехаць куды заўгодна. Хочаш, я да цябе прыеду?

— Прыязджай,— запрасіла Алеся,— толькі загодзь папярэдзь, я цябе сустрэну ў Гарошкаве.

Ён прыехаў у чэрвені без папярэджання. Па абедзе разам выйшлі на гару, доўга ўзіраліся ў блакітнае задняпроўе, што неадольна вабіла да сябе.

Лодкаю пераплылі Дняпро. Той бераг быў пясчаны, парослы лазою і шчаўем, далей цягнуліся балотцы з залатымі касачамі сярод ярка-зялёнага аеру. Зямля прыхарошвалася, купалася ў красе і маладосці, цвіла шчодра і весела, рыхтавалася да чароўнае купальскае ночы. Чайкі хавалі ў кустоўі свае гнёзды, насіліся над вадою. І ў гэтым свеце юнак і дзяўчына даверліва прыглядаліся адно да аднаго, шукаючы блізкую душу.

Выпадковы дождж з гарэзлівай хмары раптоўна абрынуўся на іх, нечаканы, неверагодны, але гэтакі рэальны.

Адзінаю схованкаю былі лазовыя кусты. Гэта быў дождж лёсу, ад яго нельга было схавацца. Яны і не хаваліся, а туліліся адно да аднаго, каб абараніць сябе ад навакольнага свету, абыякавага і загадкавага. Дождж скончыўся гэтак жа раптоўна, як пачаўся, зноў выбліснула сонца. Алеся і Ціхан, вымаклыя да ніткі, пабеглі ў лодку.

На свой бераг вярнуліся мокрыя, з дрыжыкамі ў целе, але шчаслівыя, аб'яднаныя гэтым дажджом, каб пасля ў светлыя і горкія часіны вяртацца сюды, у задняпроўе, згадкамі, каб саграваца надзеяю на новую сустрэчу.

Сустрэліся яны зноў у Мінску, калі Алеся паступіла ва універсітэт на філалагічны факультэт. Тады Ціхан рыхтаваўся пастпаць у аспірантуру, быў вельмі заняты. Алесю таксама забіраў вір студэнцкага жыцця, літаратурныя вечарыны, сустрэчы з былымі семінарыстамі. Дні праляталі неўпрыкмет, але жыла нейкая прытоеная туга і радасць, што Ціхан далёка, у Маскве, але праз тры гады ён вернецца. І магчыма, з ім вернецца страчанае свята раптоўнага дажджу, якое абрынулася і знікла, але адначасова працягвае жыць і прагне вярнуцца.

Часам Алесі хацелася вызваліцца ад пачуцця наканаванасці, што толькі ён, Ціхан Рапак, той адзіны чалавек, якому належыць яе душа, што толькі з думкамі пра яго можна ўявіць сваю будучыню. Тады яна пачынала хадзіць на танцы, у кіно са знаёмымі хлопцамі, але гэтыя сустрэчы забываліся, як будзённасць, душа прагнула сустрэчы з адзіным абраннікам.

Ціхан пасля вяртання з Масквы здаўся ёй чужы, яна ўважліва прыглядалася да яго, імкнучыся зразумець перамены ў ім. Інтуітыўна яна здагадвалася: там было іншае жыццё, іншыя людзі і, напэўна, жанчына. Але пра гэта нельга было пытацца, нельга гаварыць, трэба чакаць. І асцярожна, ненавязліва вяртаць яго ў будучыню.

Завіхурыла, закруцілася кудасамі апошняя студэнцкая Алесіна зіма, калі ў снежні з'ехаліся на семінар ў Кара-

лішчавічы маладыя літаратары рэспублікі. Прыехалі туды і Алеся з Ціханам, але не як пачаткоўцы, а як пісьменнікі, якія мелі па кніжцы і маглі даць параду, разабраць чужы верш, падзяліцца творчым вопытам. На лекцыях і занятках секцый моладзь высвятляла свае пазіцыі, было шмат гаворак пра касмапалітызм і традыцыі. Нібыта ва ўсіх дэбатах удзельнічала і Алеся, але думкі яе і сэрца, як штучны спадарожнік, кружлялі вакол Ціхана, толькі яго бачыла і чула, чакала моманту, каб застацца з ім, каб выйсці ў лес пад ахову вялізных елак, назіраць за блакітнымі сойкамі, саграваць сваю далонь у Ціханавай далоні і адчуваць, што тваё шчасце насяляе ўвесь гэты свет, яно месціцца скрозь: у самай маленькай сняжынцы, у шышцы, што звісае з ґаліны, у першай вячэрняй зорцы.

Гэтак пачалася яе светлая зіма пад знакам кахання і шчасця. І было яго столькі, што здавалася, хопіць на цэлае жыццё.

У маі згулялі вяселле. У чэрвені Алеся атрымала вольны дыплом. Праца доўга не знаходзілася, існаванне ў адной кватэры са свякрухаю наводзіла тугу і няпэўнасць. Тут яна адчувала сябе лішняю. Краем вока заўважала, як свякруха, свёкар, а часам і Ціхан перамірґваюцца, нібыта нявестка ўвесь час паводзіць сябе не так, як патрабуюць абставіны, не тое гаворыць, нешта не так робіць. Часта свякруха, прыходзячы з вуліцы, расказвала сваім сямейнікам:

— Якую дзяўчыну бачыла! Загледзелася! Высокая! Стройная! А з твару хоць вады напіся! Вылітая мадонна!

Алеся, каб абараніцца, пярэчыла:

— Цела — толькі абалонка, невядома, якая ў тае дзяўчыны душа...

— А што душа? Яе не відно, затое цела заўсёды навідавоку!

— І што ж рабіць тым, хто не надта ўдаўся целам?

— Шукаць сабе роўню, а не вешацца на прыгожых ды разумных хлопцаў, якія з-за сваёй дабрыні не могуць адбіцца ад гэтакіх нахабніц!

— Гэта, па-вашаму, я нахабніца?

— А вось думай што хочаш. А мой Ціша ажаніўся, як у палонку ўваліўся.

— Эх, мама, што ж вы робіце? Вы ж не мяне бэсціце, вы наша каханне знішчаеце...

— Я старэйшая, больш пражыла і ў жыцці лепш разбіраюся.

Алеся нізка схіляла галаву, каб не паказваць слёз, ішла ў свой пакой. Дзіця, якое месцілася пад сэрцам, трывожна варочалася, Алеся гладзіла яго рукою, супакойвала.

Адной Алесі вядома, колькі яшчэ давялося ёй вытрываць прыхаваных намёкаў і адкрытых папрокаў. Асабліва невыноснае жыццё стала пасля нараджэння дачкі. Свякруха лаяла нявестку за тое, што ў яе не хапае малака, каб карміць малую. Вядома, скуль у гэтае таранкі малако возьмецца? Выходзіла, што Алеся скрозь няўдаліца. Ціхан рабіў выгляд, што не заўважае матчыных прыдзірак, а іншы раз і сам гаварыў са шкадаваннем: "Не магла ты сына нарадзіць..."

І пачала заўважаць Алеся, што Ціхан глядзіць неяк скрозь яе, нібы і не заўважае. Калі нешта гаворыць, дык толькі дзеля прыліку, жонка яго зусім не цікавіць. Ён жыве сваім жыццём, дзе Алесі няма месца. Алеся асцярожна хадзіла па чужой кватэры, каб не выклікаць чыйго гневу, бавілася з дачкою і з кожным днём усё больш і больш адчувала сваю непатрэбнасць у гэтым доме. Душа яе высыхала, як расліна, перасаджаная ў непрыдатную глебу. Яна, напэўна, аднойчы непрыкметна і ціха памерла б, каб не вершы, якія малітваю і споведдзю, заклёнам і зарокам вырывалі яе з чорнай багны побыту.

Алеся трывала два гады. Пасля чарговай сваркі са свякрухаю забрала дачку і паехала ў вёску да маці. Коратка расказала пра сваё жыццё, маці ўсё зразумела, супакоіла дачку, узялася гадаваць унучку, пакуль Алеся знойдзе кватэру і працу ў Мінску.

Першы чалавек, да якога прыйшла Алеся ў Мінску па дапамогу і параду, быў яе любімы універсітэцкі настаўнік Лукаш Самковіч, які разам з выкладчыцкай працай меў яшчэ чыноўніцкае крэсла ў праўленні Саюза пісьменнікаў.

Ён усмешліва падняўся насустрач Алесі, пацалаваў руку, запрасіў сесці, не столькі ўбачыў, колькі адчуў, што на душы ў яе нядобра, запытаўся здалёк, асцярожна:

— Як жывецца, Аляксандра Паўлаўна?

Яна горка пасміхалася, не спяшалася перакладваць на староняга чалавека свае беды. А хіба ж ён староні? Гэта ж яго яшчэ тады ва універсітэцкіх вершах называла яна Песняром і Сівым Баянам, таемна захаплялася ім як выдатнаю асобаю, сапраўдным мужчынам, ідэалам, на якога можна толькі маліцца.

— Усё дрэнна, Лукаш Кандратавіч, горш не бывае...

— Раскажаце?

— Для таго і прыйшла.

— Я слухаю вас...

Апошняя яго фраза неяк насцярожыла Алесю, было ў гэтых словах шмат афіцыйнасці, але вочы яго добра глядзелі з-пад навіслых цёмных броваў, яна перасіліла сваю зацятасць і пачала расказваць:

— Не вытрымала я, пайшла ад мужа. Цяпер мне няма дзе жыць, я нідзе не працую, словам, ні кала ні двара. А ў мяне ж маленькая дачка на руках... Я разгубілася... Не ведаю, што рабіць, куды падзецца...

— Усё бывае! Ды ўсё мінае! Цяпер вольных кватэр няма, але месяцы праз тры будуць. Думаю, Саюз пісьменнікаў гэтую праблему вырашыць. Працу з часам таксама знойдзем, куды-небудзь у рэдакцыю часопіса ці ў выдавецтва дапаможам уладкавацца. А пакуль можна пажыць у Доме творчасці месяц-два, а яшчэ лепш павыступаць ад Бюро прапаганды мастацкай літаратуры. І заробак які-ніякі будзе, і сярод людзей бяда лягчэй забываецца.

— Дзякую, Лукаш Кандратавіч, мне пасля размовы з вамі ажно ў вачах пасвятлела...

— Усё будзе добра, Алесечка Паўлаўна. Калі патрэбны грошы, дык у мяне тут нешта з сабою ёсць,— ён палез у кішэню.

— Калі ласка, нічога не трэба, грошы ў мяне ёсць, мама дала, на першы час хопіць. Дзякую за ўсё...

Алеся захоплена глядзела на Самковіча. Такому чалавеку можна даверыць лёс, каханне, надзею. Ён не здрадзіць, не размяняе лепшыя пачуцці на дробязі, мудра разважыць і развее трывогу. Як добра яна зрабіла, што прыйшла да яго. Другі мужчына вылаяў бы Алесю за тое, што не ўжылася з мужам, што легкадумна разбурыла сям'ю, а Лукаш Кандратавіч усё зразумеў. Які цудоўны чалавек! І зусім не падкрэслівае, што ён удвая старэйшы, што прафесар...

Ад узнёслага захаплення гэтым чалавекам да глыбокага расчаравання Алеся Вішанька прайшла доўгі шлях. Рэдка якая студэнтка-філфакаўка не была закаханая ў прафесара Самковіча, высокага і прыгожага чалавека. Густыя, коратка падстрыжаныя валасы і барада, моцна кранутыя ранняю сівізною, надавалі яму дабраоднасці і шляхетнасці. Чытаў лекцыі выразна, добра пастаўленым голасам. У перапоўненай аўдыторыі панавала ўважлівая цішыня.

Каця і сама некалі была ў захапленні ад ягоных лекцый па тэорыі метакоду фальклору. Цяпер ёй не трэба было нават напружвацца, каб наяве пачуць ягоны голас.

"Чалавечы дух,— гаварыў ён узнёсла,— заўсёды адчувае далучанасць да таго, што ёсць Космас. Паспрабуем жа вылучыць агульны прынцып чытання зорнага коду старажытных культур, бо існаванне метакоду ў фальклоры гэткае ж рэальнае, як існаванне генетычнага коду ў біялогіі. Метакод — сталая сістэма зорнай сімволікі, агульная

для арэалаў розных культур, хоць ніводзін народ не валодае метакодам цалкам.

Прапаную выявіць зорны код на прыкладзе беларускай народнай казкі. Возьмем усім вядомага Пакацігарошка. Гэты вобраз — увасабленне маладзіковага і сонечнага героя. Ягоная маці пайшла па ваду, убачыла гарошыну, падняла і з'ела. І нарадзіўся ў яе хлопчык. Гэтак круглая поўня гарошынаю плыве ў небе, а пасля знікае і зноў нараджаецца маладзіком. Калі Пакацігарошак вырастае, набывае сонечную сімволіку, ён справядлівы і добры, дужы і непераможны, вызваляе з няволі сястру і братоў. Бойка Пакацігарошка з Цмокам адбываецца на Калінавым мосце. Прымем Калінавы мост за Млечны Шлях, дык тады дванаццацігаловы Цмок — дванаццаць зорак Пегаса. Як бачым, сонечныя героі вандруюць і нясуць вызваленне, маладзіковыя героі гінуць і зноў нараджаюцца..."

Цяпер Каця разумела: шмат што ў гэтай тэорыі было надуманае і спрэчнае, а тады Самковічаў голас зачароўваў, здавалася, далучаў да таямніцы, схаванай тысячагоддзямі.

Самковічавы вершы таксама былі надзелены складанаю сімволікаю, іх трэба было разгадваць больш розумам, чым адчуваць душою:

Крона — гэта адлюстраванне кораня,
Кветка — гэта пяшчота прыроды,
Восень — гэта пажар вясны,
Неба — гэта душа зямлі,
Цень — гэта позірк ночы,
Ноч — гэта сон дня,
Жанчына — гэта прастора мужчыны,
Мужчына — гэта час жанчыны,
Сум — гэта чаканне кахання,
Каханне — гэта праява вечнасці...

Гэтая своеасаблівая творчасць Самковіча падабалася моладзі, бо выбівалася з агульнага фону, была адметная, ні на што не падобная. Сама Каця чытала і перачытвала

яго кнігі, мноства вершаў ведала на памяць, хоць запомніць іх было і цяжка.

Алесі Лукаш Кандратавіч таксама падабаўся. Час ад часу яна паказвала яму свае вершы і была шчаслівая, калі ўдавалася пачуць ад настаўніка пахвальнае слова. Зрэдзь пад уплывам Самковічавай творчасці і сама спрабавала мудрагеліць нерыфмаванымі радкамі, але гэтыя спробы лічыла няўдалымі. Душа яе спявала рыфмаваным вершам, узнёслым і лёгкім, як вясновая песня, як подых ветру, як плынь Дняпра, як шолах лазы пад кручаю. Абрысы роднага краю, гаворка суседзяў, іхнія адвечныя турботы напаўнялі Алесіны вершы натхнёна і натуральна.

Самковіч і сам вылучаў Алесю як лепшую студэнтку і здольную паэтку. Пазней, гадоў праз пятнаццаць, гэтая ўзаемная сімпатыя перарасла ў каханне. Хоць хто ведае, ці можна было тыя адносіны назваць каханнем, калі ў выніку яны ператварыліся ў нянавісць?

Алеся спярша паехала выступаць ад Бюро прапаганды мастацкай літаратуры ў Віцебск. Раней ёй ніколі не даводзілася бываць у гэтым горадзе. Ды якая розніца, куды ехаць, калі табе свет нямілы? Адно палохала, як са сваім настроем выйдзе да людзей, як будзе чытаць вершы, калі сэрца разрываецца ад болю, што больш ніколі яны не будуць разам з Ціханам. Перад вачамі час ад часу паўставаў гнеўны твар свякрухі і ў вушах гучалі яе словы: "Ты майму сыну свет завязала і з мяне ўсю кроў выпіла!.."

Чужы вечаровы горад сустракаў яе агнямі, якія ярка адлюстроўваліся ў восеньскіх лужынах. Пракураны гасцінічны пакой дасць ёй прытулак, хай бы пашанцавала на аднамесны нумар. Крый Божа давядзецца жыць там з нейкаю выпадковаю жанчынаю, хаваць ад яе настрой і думкі. Алеся ішла праз вакзальную плошчу, вочы засціліся слязамі, яна іх не выцірала, бо твар яе хаваў змрок.

І раптам перад сабою яна ўбачыла машыну, упала рукамі на капот, яе адкінула ўбок. І больш нічога яна не помніла...

Апрытомнела ў бальніцы амаль праз суткі пасля апера-

цыі. Адчула на сабе цяжкі гіпс, які скаваў яе стан і ногі. Агледзела белы пакой рэанімацыі, сустрэлася позіркам з медсястрою, запыталася слабым голасам, які далятаў з грудзей, нібы з-пад зямлі:

— Дзе я?

— У бальніцы. Не бойся, усё добра...

— Што са мною?

— Машыну збіла, гэтакая маленькая, худзенькая, а машыну — на друзачкі!— засмяялася медсястра, радая, што пацыентка нарэшце прачнулася пасля цяжкой аперацыі.

— Машыну?

Алеся пачала згадваць, што ж з ёю адбылося. У душы ўжо не было таго пранізлівага болю з-за Ціхана. Узнікла трывога за сябе.

— Я буду хадзіць?— папыталася яна холадна.

— Будзеш...

— Хадзіць ці кульгаць?

— Трэба спадзявацца на лепшае.

Алеся змоўкла. Спадзявацца можна, а які вынік будзе, невядома. Калі не здолее хадзіць, заб'е сябе, каб не пакутаваць самой і не назаляць сваім калецтвам маме. Ах, як шмат ёй трэба было: працу, кватэру, грошай... І вось што мае: бальнічную палату і казённыя харчы. Дзякаваць Богу, хоць галава і рукі цэлыя. Можна вершы пісаць. Як страшна за іх брацца! Што гэта? Выратаванне? Ці пакаранне? А магло здарыцца інакш. Выпадковасць скончылася б смерцю... Страшна паміраць і жыць страшна...

І пакуль Алеся вярталася да жыцця, праз фізічны боль пазбаўлялася болю душэўнага, ехала да яе заплаканая мама, везла цяпло і пяшчоту, якіх так цяпер не хапала.

Гэтак у Алесі і павялося, што з аднаго няшчасця яна выбаўлялася праз другое, яшчэ большае. Хто ведае яе таемныя беды, душэўныя катастрофы, калі нявечылася

душа, і толькі вочы ды вершы выдавалі прытоены боль?

Аперацыя была зроблена ўдала. Пасля таго як знялі гіпс, Алеся хутка пачала хадзіць, не кульгала.

Абноўленая, яна вярнулася ў Мінск з вялікім жаданнем працаваць і жыць. Адразу ўладкавалася літкансультантам у газету і адначасова атрымала кватэру на адзінаццатым паверсе высознага гмаху. Пачаліся прыемныя турботы пра дробны рамонт, пошукі мэблі. Жанчына ладзіла свой утульны і ціхі дом, дзе і пражыла з дачкою рэшту жыцця да таго апошняга трагічнага кроку. Сама яна адважылася на яго ці яе падштурхнулі? Гэта хацела ведаць Каця.

Мараль і дзяржава заўсёды з недаверам ставяцца да праяў вольнасці, імкнуцца кантраляваць кожны крок асобы: месца жыхарства замацоўваецца прапіскаю, закаханыя звязваюцца шлюбам... А як далей будзе жыць і пачуваць сябе чалавек, гэта дзяржаву не хвалюе. І калі асоба паспрабуе, нават з самымі высокімі душэўнымі парываннямі, парушыць ланцугі абавязкаў, яе чакае кара. Ведаючы гэта, чалавек пад прыгнётам дзяржавы і абставін пачынае хітраваць, ілгаць сабе і блізкім.

Прынамсі, гэтак жыла і Каця. Яна даўно расчаравалася ў сваім мужу, але не ўяўляла, як пачаць новае жыццё. Дзе жыць? Наймаць кватэру? Дык на гэта цяпер зарплаты не хопіць... А варагаваць у адной кватэры бессэнсоўна.

Выходзіла замуж — нібыта падабаўся чалавек, а пасля развеялася ўсё некуды, адна звычка засталася. А сама яна ці каму патрэбная, акрамя роднага сына? Нарадзілася душа, як той ліст да запатрабавання, па які ніхто не прыйшоў. Адляжыць пэўны тэрмін, і спаляць яго. І колькі гэткіх душ, што згубіліся ў жыцці і свеце?

Інакш ставілася да жыцця Алеся. Калі ўжо яна каго кахала, дык адкрыта, не прыхоўвала на потым пачуцці і

словы. Калі ненавідзела, дык таксама не ўтойвала гэтага. Яна жыла шчыра і даверліва, часта захаплялася людзьмі і часта расчароўвалася.

І цяпер, калі Каця прыкідвала, хто заўтра прыйдзе на аўкцыён, каб купіць перадсмяротную запіску, дык, канечне, згадала пра Уладзю Мялькоту, які быў сябрам Алесі, а пасля паступова гэтае сяброўства перарасло ў каханне...

Ён працаваў рэферэнтам у Савеце Міністраў, быў удачлівы празаік. Атрымлівалася, што ён быццам апярэджваў час, пісаў вытворчыя раманы, якія вызначалі стратэгічныя лініі партыі і ўрада. Гэтыя творы ахвотна інсцэніраваліся на радыё і тэлебачанні. Уладзя Мялькота спраўна атрымліваў камсамольскія і прафсаюзныя прэміі за актуальнасць раманаў і з дня ў дзень пісаў свае дваццаць пяць старонак, што б там ні здарылася на свеце: землятрус, патоп, катастрофа. Напэўна, нават смерці давялося б пачакаць з шасці да дзевяці гадзін раніцы, пакуль не будзе выкананы план напісання старонак.

Ён і Алесі неяк раіў:

— Чаму ты толькі лірыку пішаш? Напісала б што-небудзь з пафасам пра партыю, пра Леніна.

— Вершы — гэта пачуцці. А якія ў мяне пачуцці да партыі? Ну, сядзяць там нейкія дзядзькі ў кабінетах... Сёння адны, заўтра — другія. Вось калі ўжо ты там уладкуешся, тады мо і напішу...

— Ды кінь ты какецтва сваё жаночае. Я пра што хочаш магу напісаць.

— Але ж галоўнае, Уладзя, не тое, пра што пісаць, а як пісаць. Тэмы вечныя, але адчуванне і разуменне розныя ў кожнай асобы, і кожны творца унікальны.

— А мне дык самае важнае — выбраць тэму. Гэта ствол. А далей пайшоў раман галінiцца!

— Але ж усё роўна нейкі штуршок да ўзнікнення задумы існуе? Нейкае адчуванне...

— Часам я працую як журналіст. Еду, напрыклад, у Салігорск у творчую камандзіроўку, жыву з шахцёрамі. А

пасля пішу раман. Чаго ты ўсміхаешся? Другі раз едзь са мною, таксама нешта напішаш...

— Я ніколі не ведаю, што напішу. І ці напішу ўвогуле... Вершы прыходзяць самі тады, калі ім трэба. Ад мяне залежыць толькі прыняць іх, занатаваць на паперу...

З Уладзем Алеся была знаёмая даўно, з універсітэта, і блізка звёў лёс гадоў праз дзесяць у купэ спальнага вагона па дарозе ў Маскву на Дэкаду беларускай літаратуры. Усю тую ноч ад Мінска да Масквы яны хораша прагаварылі, згадваючы студэнцкія гады. А ўдзень яна зусім не адчувала стомы, цела было напоўнена лёгкасцю, сілаю і святлом, якое, ёй здавалася, перайшло да яе ад Уладзі.

Ён меў танклявую хлапечую постаць, светлыя валасы, зачэсаныя ўгору, якія раз-пораз рассыпаліся, і яму даводзілася прыгладжваць іх рукою. Гэтакія мужчыны да старасці застаюцца маладжавыя. У ім адчувалася мужчынская дужасць і лагоднасць, гэтак уласцівая беларусам. Увесь час ён быў побач з Алесяю, гатовы падаць руку, дапамагчы апрануць плашч, абараніць ад заляцанняў нахабных масквічоў.

А вярнуліся ў Мінск, і тое ўзнёслае пачуццё блізкасці душ пачало сцірацца і тухнуць. Некалькі разоў сустрэліся выпадкова ў Доме літаратара, пры людзях толькі і здолелі, што павіталіся ды перакінуліся ветлівымі словамі. Алеся баялася навязвацца, хоць і вельмі хацелася ведаць, як і чым ён жыве.

А Уладзя тым часам перажываў непрыемнасці: трапіў пад чарговае скарачэнне апарату Савета Міністраў. Ісці радавым рэдактарам у выдавецтва не хацелася. І ён з'ехаў ад жыццёвых праблем на паўгода ў Арменію з намерам вывучыць мову, каб аддацца перакладчыцкай працы. Хацелася пакаштаваць вольнага хлеба. Можа, якраз з-за службы ён і не напісаў яшчэ сваю лепшую кнігу? Заняты справамі і турботамі, Уладзя не развітаўся з Алесяю. Яна даведалася пра ягоную камандзіроўку позна, пакрыўдзілася, сумавала, пісала вершы пра недасяжнае, нязбытнае шчасце.

Уладзя адгукнуўся па вяртанні з Арменіі. Ягоны голас у тэлефоннай трубцы: "Куды ты прапала?" — ускалыхнуў яе радасцю. Нібыта гэта не ён, а яна ездзіла некуды, а цяпер вярнулася, каб ніколі не разлучацца. З гэтага дня пачалося яе новае жыццё, якое палохала і няўхільна вабіла, душа поўнілася каханнем і натхненнем, яна нават вершы перастала пісаць. Хто іх піша ў шчасці?

Не такі малы горад Мінск, але калі ні пройдзеш па цэнтры, абавязкова ў метро ці на вуліцы сустрэнеш знаёмага чалавека. Алесю ведалі. І яна пакутавала ад гэтай вядомасці. Часам на аўтобусным прыпынку падыходзілі незнаёмыя людзі, гаварылі пра яе вершы, распытвалі пра іншых пісьменнікаў, нешта расказвалі пра беларускіх класікаў, якіх даводзілася некалі бачыць гэтак жа на вуліцах Мінска. З жалем Алеся думала, што сустрэцца з Уладзем і проста пахадзіць па вуліцы не мае магчымасці, занадта яны прыкметныя людзі. Дамоў да сябе запрашаць не хацела з-за дачкі. Прыгнятала і тое, што Уладзя меў сям'ю. Алеся нібыта крала сваё шчасце ў іншае жанчыны.

Сустракаліся яны рэдка, калі Уладзю ўдавалася прыдумаць нейкую прычыну, каб вырвацца з дому. Тады на машыне яны ехалі куды-небудзь далей ад Мінска, у лес, у глухамань. Нахвалявалася Алеся, пакідаючы дачку адну дома вечарамі. Затое яны амаль штодня размаўлялі па тэлефоне, хораша і пяшчотна, разам марылі пра будучую сустрэчу. Уладзя нецярпліва чакаў пачатку паляўнічага сезона, калі заўсёды, у любы вечар можна будзе вырвацца з дому.

Паляўнічы сезон пачынаўся ў першы тыдзень жніўня. Высозны бор завабіў Алесю і Уладзю, і толькі магутныя сосны ды поўня былі сведкамі іх шчаслівае ночы. Алеся бачыла, што Уладзя трохі ніякавата адчувае сябе ў лесе, рыхтуе стрэльбу, нібы чакае нейкага нападу, а ёй падабалася начаваць пад аховаю шумлівых дрэў, пад камарыны

енк. Гэта былі ночы любасці і пяшчоты, гэтым шчасцем можна было жывіцца да наступнае сустрэчы. Як соладка пасля згадвалася кожнае слова, сказанае ім, кожны дотык. Цела дрыготка напружвалася, нібыта зноў і зноў адчувала ягоныя рукі і вусны.

Закаханы чалавек прагне волі і раскаванасці. Алесю раздражняла тое, што яна павінна хаваць сваё шчасце, што яна нібыта не мае права на пачуцці. Нязвыклая трываць хлусню, яна аднойчы сказала Уладзю:

— Ці не пара паглядзець праўдзе ў вочы? Трэба нарэшце вырашыць, як нам жыць далей.

— Ты нешта хочаш памяняць? А я ніколі не быў гэтакі шчаслівы, як цяпер. Мы цудоўна жывём, Алесечка. Як жылі, гэтак і будзем жыць,— ён прыгарнуў да сябе жанчыну, але яна вызвалілася з абдымкаў, памаўчала, паўзіралася ў цёмнае акно машыны, убачыла сваё адлюстраванне, першыя маршчынкі каля вачэй, як напамінак, як перасцярога, што маладосць хутка мінае. Стрымана запыталася:

— А што, у канцы паляўнічага сезону развітаемся да наступнага? Так і будзем існаваць і жывіцца сезонным каханнем?

— Не думай пра тое. Усё будзе як у людзей.

— Не ведаю, як там у людзей, а я не магу больш хлусіць дачушцы, не магу трываць тое, што вымушаны хлусіць і ты. Я хачу быць з табой заўсёды, а не толькі ў гэтыя крадзеныя дні.

— Гэта немагчыма,— ён паглядзеў на Алесю спалохана і бездапаможна, нібыта змізарнеў пад яе позіркам.

— Чаму?

— Я не ўяўляю, як гэта можна... Як я магу адмовіцца ад сваіх дзяцей? Ды яны без мяне проста загінуць. Гэта жорстка, Алеся...

— Бадай... А жыць побач з жанчынаю, якую ты даўно не кахаеш, хіба не жорстка?

— Я пакутую адзін, ім са мною добра. Зрэшты, я сам вінаваты, сам выбіраў, памыліўся... Што ж цяпер?

— Божа літасцівы, якая самаахвярнасць! А тое, што я кахаю і пакутую, не ўлічваецца?..

— Алесечка, я стараўся, я хацеў, каб табе было добра... Ты вольная... Табе не даводзіцца апраўдвацца... Я думаў, што табе патрэбна мая падтрымка...

— Так! Патрэбна! Але хлусні больш не хачу! Надумаеш — прыходзь назусім. Не прыйдзеш — бывай назаўсёды.

Пасля гэтых слоў трэба было выйсці з машыны і не азірацца, ісці і думаць толькі пра будучыню, лепшую, чыстую, без шкадавання і пакут.

Ён не прыходзіў і не званіў. І ў думках яна апраўдвала яго. Напэўна, каханне і павінна быць гэтакім, схаваным ад чужых вачэй. Вялікая тайна, незразумелае пачуццё, яно ёсць, і яго няма. Яно самаахвярнасць і нянавісць, найвялікшае захапленне і дзёрзкая пагарда. Свеціць сляпучым сонцам і ахутвае цемраю неразумення. І нельга яго наблізіць, нельга ім валодаць і жыць без яго немагчыма.

Ды і што гэта было з ёю: каханне сапраўды ці толькі патрэба кахаць? Чаму ж гэтак лёгка і жорстка пачала ставіць умовы свайму каханню? Ці не хлусіць ў рэшце рэшт сама сабе? А мо гэта прыйшоў час безлюбоўя, калі трэба быць адной, бо ўжо ўсё было аднойчы ў жыцці з Ціханам. Бадай, пачуцці да Уладзі былі зусім іншыя, гэта толькі прага няздзейсненай мары, якая ператвараецца ў вершы і паэмы, якая перажываецца, як час. Усё перажылося, перабалела. Старымі сцежкамі хадзіць нельга, а новыя непатрэбныя. Пустата... Застаўся толькі жаль да сябе, самотнай і кволай, да Уладзі, які апошнім часам сустракаў яе прыгнечаным і бяспраўным позіркам скрозь вінаватага чалавека, якому цяжка дастаюцца грошы, а ў сям'і дзве дачкі, які не надта ладзіць з калегамі ў часопісе, дзе цяпер працуе. І няма ў ягоных вачах ніякага пачуцця, акрамя ўстурбаванасці і мітусні, якою ён жыве з дня ў дзень.

Алеся нават перастала наведваць Дом літаратара, каб лішні раз не сустракацца з Уладзем, каб не рабіць выгля-

ду, быццам нічога ніколі не было і яны ледзь-ледзь знаёмыя. Хоць цвяроза разумела, што ён не пакіне сям'і, але чакала яго тэлефоннага званка, ягонага голасу, як раней. Ды гэта была толькі туга па шчаслівых днях. А праз некалькі месяцаў Алеся прачытала Уладзева апавяданне "Паляўнічы сезон", дзе ён шчыра і адкрыта спавядаўся, расказваў пра сваё нікчэмнае жыццё. Жонка — чэрствая і абыякавая кабеціна, якая ў ім бачыць толькі сродак бязбеднага існавання, не кахае яго, нават пасцель яму сцеле нейкаю старызнаю на канапе, лянуецца есці наварыць. А каханая жанчына, якую ён назваў Алісаю, хоць і аддае яму душу, але патрабуе вялікіх ахвяр. Нічога не ўтаіў ён у сваім апавяданні, хораша расказаў пра начныя вандроўкі ў лес, асабліва тую ноч добра выпісаў, калі іх няшчадна елі камары, яны не маглі і на хвіліну задрамаць да ранку, наталялі смагу чорным вінаградам. Аказваецца, разрыў і ён перажыў цяжка, адзін наведваў тыя мясціны, дзе яны бывалі разам.

Апавяданне заканчвалася трагічна. Герой не вытрымліваў раздвоенасці, не змог знайсці вырашэння жыццёвай задачы. Выехаў у адну з восеньскіх начэй на паляванне і застрэліўся з імем Алісы на вуснах.

Гэтак Уладзя загінуў і гэтак заставаўся жыць, мітусіцца, здабываць грошы, перакладаць і пісаць раманы. Забіў сваю душу, адкупіўся імітацыяй, выдумкай, пераклаў на паперу трагедыю, выплакаўся. Крызіс мінуў. А сама яна хіба не гэтак жа ратуецца? Напісала з дзесятак расчараваных вершаў, перахварэла чаканнем і паступова вярнулася да вольнай адзіноты, якая не прыносіць радасці, але не расчароўвае дробязямі і дае магчымасць цвяроза глядзець на свет, засяроджвацца на сённяшнім дні, а не азірацца са шкадаваннем на мінулае.

Суцешся, сэрца, што ўжо ўсё было,
Няма чаго чакаць, чаму здзіўляцца.
А галубы злятаюць пад акно
Спакусна і няўтольна цалавацца.

І рада я нязводнаму жыццю,
Святлу нябёсаў, веснавым прасторам.
Я ахвярую галубам куццю,
Што на Дзяды варылася заўчора...

Аказваецца, не так ужо і мала ведала Каця пра Алесю. Такія падрабязнасці раптам згадаліся. Адкуль? Нешта Алеся сама расказвала, пра нешта Каця здагадалася, чытаючы вершы, а нешта чула ў калялітаратурных хаўрусах. Мо зусім і не гэтак усё было. Аднак Уладзя можа прыйсці на аўкцыён толькі з цікаўнасці. Хутчэй за ўсё з'явяцца тыя, хто непасрэдна вінаваты ў Алесінай смерці. Напэўна, там будзе Клара Нерат...

Бадай, з Клараю Алеся была ў апошнія гады найбольш шчырая, мо таму, што чарнявая, з цыганістым тварам Клара любіла варажыць на картах, іншы раз яе варажба спраўджвалася. Хто ж не хоча ведаць, што чакае наперадзе?

Кларына жыццё таксама не надта ўдалося. Некалі ў маладосці нарадзіла яна сабе сына, трымала ў тайне, хто ягоны бацька. На яе смуглявую прывабнасць шмат хто з мужчын звяртаў увагу, але застацца з ёю назаўсёды добраахвотнікаў не знаходзілася.

І раптам заўважыў яе празаік Стась Бязмен, быў ён старэйшы за Клару гадоў на дзесяць, карэнны мінчук са шматлікаю раднёю, якая была згодная на гэты шлюб.

Клара наважылася выйсці замуж, з такою навіною і наведалася да Алесі.

— Нашто табе гэтае нудоцце?— здзівілася паэтка.

— Цікава. Я ж ніколі замужам не была. Дачку хачу нарадзіць.

— Але ж ты яго, пэўна, і не кахаеш...

— Няхай ён кахае, я ўжо накахалася...

У хуткім часе Клара стала замужняю кабетаю, зажыла, як усе людзі, клапацілася пра сям'ю, нарадзіла сабе дачушку Ілонку. Шмат дапамагала Стасю, выкарыстоўваючы сваіх колішніх сяброў. Праўда, Стась быў лядашчы, пісаў мала і нудна, часта ягоныя опусы вярталіся з выда-

вецтваў з адмоўнымі рэцэнзіямі. Клары даводзілася прыкладаць шмат намаганняў, каб давесці да ладу рукапіс і выдаць.

Сярод Стасевых чарнавікоў адшукала неяк Клара некалькі запісных кніжак, у якіх муж занатоўваў нечаканыя думкі, уражанні. Жанчына апрацавала гэтыя запісы, назвала іх вершамі ў прозе і вырашыла выдаць. Тэксту набралася аркушы на тры, усё будзе нейкая капейчына ў хату, тым болей што галоўным рэдактарам выдавецтва зусім нядаўна прызначылі Сымона Паўтараку, Стасевага аднакурсніка. Там жа рэдакцыяй паэзіі загадвала Алеся Вішанька. Няўжо сяброўка не паспрыяе Кларынай задуме? Ды ці мала якія кніжкі выходзяць! Як быццам у Саюзе пісьменнікаў адны геніі. Усялякіх хапае...

Кларыны надзеі не спраўдзіліся, якраз Алеся і заўпарцілася.

— Гэта не паэзія,— нечакана рэзка сказала яна.

— Але ж галоўны рэдактар ухваліў рукапіс,— паспрабавала абараніцца і бесклапотна пасміхнулася Клара.

— Калі яму падабаецца, няхай сам і рэдагуе.

— Гэты зборнічак можна выдаць як першую кнігу паэта,— прымірэнча прапанавала Клара.

— Нельга, тут няма паэзіі. І ў Станіслава былі ўжо кнігі...

— Як быццам вы не выдаяце слабых кніжак, я вось зраблю агляд паэзіі за гэты год, я вас разнясу ў пух і прах, заселі тут, геніі-самазванцы...— Клара моцна грукнула дзвярыма і рашуча скіравала да галоўнага рэдактара.

Сымон Паўтарака адарваў вочы ад нейкай паперыны, зняў акуляры, чакаў. Клара загаварыла хутка, са з'едліваю ўсмешкаю:

— Ах, Сымон Антонавіч, не ўпадабала Вішанька Стасевых вершаў. А хто ведае, мо праз сто гадоў традыцыйнай рыфмаванай паэзіі ніхто чытаць не будзе, а будуць шукаць менавіта тое, што напісаў мой непрызнаны муж.

— Што ты, Клара, гаворыш? Стась член Саюза пісьменнікаў, якога яшчэ ты прызнання хочаш? Выдадзім гэты рукапіс і без Вішанькі, рэдактараў у нас хапае.— Ён лагодна пасміхнуўся таўставатымі вуснамі, акінуў кашчавую постаць Клары.

Яна ўдзячна зазірнула яму ў вочы, сказала:

— Стась будзе рады, дзякую, Сымон Антонавіч... І заходзьце да нас калі на вячэру, хоць заўтра...

— Заўтра не змагу, [redacted] калі-небудзь наведаюся...

Пра гэты выпадак расказвала Каці і сама Алеся, абуралася і адначасова шкадавала Клару, нібыта нават апраўдвалася.

— Годзе, [redacted] ўжо ім адслужыла. Божачка, колькі ж гэтых графаманаў на свеце? І нашто ім гэта? Ні заробку, ні славы.

— Ды ім сапраўдная слава і не трэба, ім дастаткова быць у нейкім спісе, у шэрагу пісьменнікаў, яны і рэцэнзію станоўчую сабе арганізуюць, і кампазітара залучаць, каб той музыку напісаў на іхні твор, я гэтакіх таксама часта на радыё сустракаю,— адказала Каця.

— А з другога боку, шкада іх, абдзеленых Богам,— уздыхнула Алеся.— Вось паслухай верш у прозе Стася Бязмена:

Колькі за жыццё выпіта,
Не адзін самагонны апарат знасіўся,
                                        а я жыву.
І куды ўсё ўлезла і ў што вылілася?..
А колькі яшчэ ўсяго наперадзе?

Хоць Клары шчыра спачуваю, але прымірыцца з іхнім нахабствам не магу. Яна ж здольная жанчына, а праз Стася не піша. Ён ёй сказаў, што два пісьменнікі ў сям'і — зашмат. Ахвярнасць у імя бяздарнасці. Цяпер ператварылася ў літаратурнага агента ўласнага мужа.

— У жанчынах ад прыроды закладзена самаахвярнасць,

мы губляемся, раствараемся ў блізкіх, а яны гэтым карыстаюцца...

— Вось і я каго толькі ні частавала ў сваім доме, а пасля гэтыя людзі пагардліва адварочваліся ад мяне...

— Не зважай, Алеся, на чалавечую няўдзячнасць і мітусню.

— Не ведаю, як жыць. Імкнуся да людзей, апякаюся, а пасля хочацца схавацца, уцячы, каб нікога не бачыць. Але ж гэта немагчыма...— горка падціснула вусны, задумалася.

З узростам Алеся ўсё больш старалася прымірыцца са светам і людзьмі. Даравала здраду і няве'е свайму былому мужу Ціхану Рапаку, дазволіла яму бачыцца з дачкою і нават пускала дзяўчынку ў нядзелю пагасцяваць у бацькавай сям'і. Алеся шкадавала Ціхана за слабавольнасць, за тое, што не здолеў абараніць каханне.

Засватала ягоная матуля яму даўганогую гандлярку з гастранома, ды не было ў Рапаковых вачах шчасця, а толькі стома і жаль. Але чым яна цяпер магла яму дапамагчы? Нічым. Як і сабе. Трэба было суіснаваць на гэтым свеце без злосці, без праклёнаў. Не варта сумаваць па тым, што разбурылася, чаго цяпер не сабраць і не вярнуць. Яна і сама доўга забівала сваё каханне безвыходнасцю і расчараваннем.

Алеся ўзіралася ў Ціхана, нібы хацела зноў угледзець у ім тую натхнёнасць і мэтанакіраванасць, за што так падабаўся ёй у юнацтве, а мо і не было ў яго ніякае душы, а толькі бачнасць адна. Як жа яна кахала гэтага чалавека, слухала і не магла наслухацца, глядзела і не магла наглядзецца? А цяпер нават і пагаварыць няма пра што.

Калі і ёсць на свеце сапраўдны мужчына, дык гэта, канечне, Лукаш Самковіч, думала Алеся. Усё пры ім: і знешняя мужчынская прыгажосць, і ўнутраная шляхетнасць. Сям'і трымаецца, не бегае за спадніцамі, хоць пры жаданні мог бы. Яшчэ са студэнцтва згадвала, як захапляліся ім усе філфакаўкі: гэтакі прыгожы і таленавіты.

Алеся, бываючы на розных сходах, садзілася ў далёкім

кутку і назірала за Самковічам, любавалася ім, пранікалася кожным словам, якое ён вымаўляў роўным, добра пастаўленым голасам. Выступаў ён мудра, гаварыў дакладна і зразумела, гэтак мог гаварыць прарок, абраннік Бога. Пра гэтае сваё адчуванне Алеся пісала вершы. Гэта былі пялёсткі паэмы, якая складвалася паступова. Так распускаецца кветка, так нараджаецца дзень, так выспявае мара пра шчасце. Ёй хацелася наблізіцца да яго! Але яна ведала, што гэта немагчыма, нельга прыніжаць ні сябе, ні яго звычайным тлумачэннем сваіх пачуццяў, трывіяльнымі сустрэчамі. Гэта было іншае каханне, якога яна прагнула і баялася.

Зрэдзь пасля сходу Алеся падыходзіла да Самковіча, каб павітацца. Ён цалаваў Алесіну руку, усміхаўся ў сівую бараду, нешта гаварыў, але гэта былі звычайныя словы, афіцыйна ўважлівыя, да якіх яго абавязвала пасада. І нельга было прачытаць па вачах Самковіча, што ён адчувае і думае. Ёй хацелася верыць, што яна яму не абыякавая, проста яшчэ не наспеў час, які з'яднае іхнія душы.

І гэты час надышоў. Група пісьменнікаў з Беларусі прыехала ў Маскву на пісьменніцкі з'езд. Жылі ў гатэлі "Расія", па якім можна дзень хадзіць, калі заблудзішся. Выпадкова ў гасцінічным буфеце сустрэла Алеся Самковіча. Разам з'елі па салаце і бутэрброду з чырвонаю рыбаю, запілі духмянаю каваю.

— Ах, што мы сёрбаем гэтае казённае пойла, хадзем да мяне, Аляксандра Паўлаўна, я пачастую вас сапраўднаю бразільскаю каваю,— голас ягоны падаўся Алесі мяккім і няўпэўненым, бадай, упершыню яна бачыла яго такім, ён нібы баяўся, што яна можа адмовіцца.

— А што? Пойдзем! З задавальненнем,— задзірыста адказала Алеся, перамагаючы хваляванне.

Самковіч жыў у прасторным двухпакаёвым люксе. Тут было ўтульна, мэбля новая, дываны чыстыя, шторы і драпіроўка аднаго, блакітнага колеру.

— Як у вас шыкоўна! З такога нумара і выходзіць не захочацца...

— Вось і заставайцеся са мною,— ён узяў яе руку і трымаў у далонях, нібыта грэў, пасля паднёс да вуснаў, яго халаднаватыя вочы глядзелі захоплена і ўлюбёна.

Здавалася, што толькі ягоным рукам можна давяраць і падпарадкавацца. Ёй падабалася ўсё ў ім: як ён пасміхаецца, як п'е каву, як закурвае, як страсае попел. Колькі таго каньяку было даліта ў каву, чайная лыжка, а ў яе кружылася галава і непаслухмянае расслабленае цела шукала падтрымкі ў ягоных руках...

Яна была шчаслівая тры дні, душа поўнілася пяшчотаю і цеплынёю, добра і спакойна было глядзець на Самковіча з залы ў прэзідыум, дзе ён сядзеў у гурце старых пісьменнікаў з розных рэспублік. Ён быў сталы, прыгожы і вылучаўся прыроднаю шляхетнасцю і паставаю. Адно яе засмучала, што ён некалькі разоў настойліва прасіў не афішыраваць іхніх адносін. Маўляў, навошта ўскладняць жыццё сабе і іншым людзям? А калі вярнуліся ў Мінск, Алеся зразумела, што і гэтае яе шчасце крадзенае, часовае. Яна спрабавала разважыць, што нельга прывязваць каханага чалавека, трэба даваць яму волю і самой адыходзіць, каб ацаніць глыбіню пачуцця, але гэта мала суцяшала.

Найбольш яе бянтэжыла тое, што пры сустрэчах, нават калі нікога побач не было, Самковіч трымаў сябе афіцыйна пачціва, нібыта іх нічога не звязвала. Проста хацелася папытацца, ці помніць ён што-небудзь? Ці яна толькі прысніла, а ён і не здагадваецца пра яе сны.

Наступная сумесная камандзіроўка надарылася праз паўгода. Было гэта летам, напярэдадні чарговага Дня паэзіі, запланаванага ў глухім райцэнтрыку, але прыехала сюды з дзесятак вядомых пісьменнікаў і некалькі партыйных чыноў. Пасля вячэры ў мясцовым рэстаране, вельмі прасторным для невялікай творчай дэлегацыі, Самковіч знайшоў момант, каб запрасіць да сябе на гарбату Алесю. Яна моўчкі згодна кіўнула.

Да Самковіча Алеся сабралася позна, каля апоўначы, і вельмі збянтэжылася, калі, акрамя Самковіча, убачыла паўнаватага і ўсмешлівага мужчыну, здаецца, па прозвішчы Трамваеў. Алеся папрасіла ў гаспадара цыгарэту і памкнулася пайсці, але Трамваеў спыніў яе:

— Навошта вы нас пакідаеце, цудоўная фея. Злітуйцеся! Я ў захапленні ад вашых вершаў, а цяпер, калі вы гэтак блізка... Я стану на калені,— ён споўз з канапы, стаў на адно калена, пасміхаўся, як блазан.

— Так, Аляксандра Паўлаўна, Раман Іванавіч вельмі хацеў пазнаёміцца з вамі бліжэй, па-чалавечы,— заскуголіў і Самковіч, было відаць, што ён вельмі хоча дагадзіць Трамваеву.

— Дык мы ж знаёміліся ўжо, як выязджалі з Мінска,— гулліва здзівілася Алеся.

— Алесечка, мілая, дазвольце мне гэтак вас называць, ці ж гэта знаёмства? Давайце сядзем за стол, пагамонім. Вы ж сама паэзія. Падаруйце глыток святла...

“Сказаў! Глыток святла,— падумала Алеся,— у мужчын усё на глыткі, нават святло”. Яна прысела да стала, дзе ўжо стаяла раскаркаваная пляшка каньяку і такая-сякая закусь.

Самковіч наліў у гасцінічныя гранёныя шклянкі патроху каньяку, чокнуліся, выпілі за чароўную госцю. І яе прымусілі выпіць да дна. Яна і не адмаўлялася. Ёй часта даводзілася падтрымліваць мужчынскія кампаніі. Яна ніколі не напівалася, але адну-дзве чаркі магла выпіць.

Трамваеў частаваў Алесю, сыпаў жартамі і анекдотамі, па памяці расказваў вершы — дзіўная ў яго была памяць, там усё захоўвалася, што б ні трапіла,— а сам усё бліжэй падсмыкаўся да Алесі, абдымаў за плечы.

Яна сачыла за Самковічам і здзіўлялася, што ў ягоных вачах не было ні рэўнасці, ні злосці. Нейкія пустыя вочы, у якіх нічога не відно. Вось засмяяўся ў адказ на новы анекдот Трамваева, а вочы, як у воўка. Няўжо гэтак баіцца за сваю пасаду?

Калі пляшка апусцела, Самковіч замітусіўся і пачаў збірацца ў рэстаран па другую.

— Схадзі, схадзі, Лукаш, а лепш і зусім не прыходзь,— хітравата пасміхаўся да Алесі Трамваеў.

— Вы скажаце, Раман Іванавіч! Гаспадара з уласнага нумара выжываеце,— паўшчувала госця Алеся.

— Нічога, у мяне, можа, яшчэ лепшы пакой, там пераначуе.

— Я падумаю,— зноў аднымі вуснамі пасміхнуўся Самковіч і знік за дзвярамі.

На момант усталявалася цішыня. Алеся ўзіралася ў твар Трамваева, свежы, са здаровым румянцам, думала: напэўна, у гэтага чалавека добрая жонка, даглядае, а мо ў буфеце пры ЦК кухаркі адмысловы вітамінны рацыён гатуюць?..

— Што, Алесечка, разгубілася? А можна цябе на "ты" называць?

— Можна, бадай.

— Я вось таксама думаю, што трэба на рэчы глядзець прасцей. Я ў захапленні ад цябе, Алеся. Станік тонenькі, як у дзяўчынкі, каса багатая на патыліцы, ажно галоўку адцягвае. Проста рэліктавая жанчына! Ды яшчэ паэтэса!

Трамваеў прысеў перад ёю, пачаў цалаваць рукі. Алеся ніякавата трывала ягоную пяшчоту. Чужы чалавек цягнуўся да яе, не саромеўся сваіх пачуццяў, сама ж яна звычайна доўга прыглядалася да мужчын, вывучала іх, перш чым неяк выявіць свае адносіны да іх. Каб супакоіць Трамваева, яна прыгладзіла ягоны непаслухмяны чуб. І ён удзячна прыпаў да яе каленяў, аціх. А калі ўзняў на яе вочы, яна ажно адхіснулася. Твар ягоны наліўся чырванню, позірк стаў няўцямны. Алеся адчула ягоныя грубыя рукі, цела, цяжкае і неміласэрнае, навальвалася на яе, душыла, уціскала ў канапу.

— Пусціце мяне, зараз Самковіч вернецца,— узмалілася яна.

— Не вернецца, я яму забараніў! Забудзьце! Толькі мы! Ты і я!— хрыпеў ён на вуха.

— Пусціце, я не хачу!..

— Не бойся, не бойся, не пашкадуеш...

— Не чапайце мяне!..

— Не, не буду! Я толькі побач... Трошкі, трошкі...

Пажадлівыя мужчынскія рукі блыталіся ў яе адзенні, распраналі яе, ■ яна саромелася закрычаць, змагалася, колькі магла, калі ж знемаглася і аціхла, душу апанавалі агіда і абыякавасць...

— Ну і чаго ты баялася?— насмешліва запытаўся ён, закурваючы цыгарку.— Спадабалася?

— Я ненавіджу вас...

— Але за што?

— За ўсё!— Алеся заплакала ад крыўды і бездапаможнасці.

— Ну што ты, маленькая, плачаш? Пабачыш, не пашкадуеш! Я ўмею быць удзячным. Я сто разоў табе за гэта аддзячу!

— Не трэба мне нічога! Ніколі не трапляйце мне на вочы! Вы звер! Дзікі і нікчэмны чалавек!

Яна не слухала, што ён ёй гаварыў, таропка апраналася, каб хутчэй пакінуць гэтую гасцініцу, горад, усё і ўсіх, каб ніколі больш не бачыць агідных людзей. Гэта Самковіч знарок запрасіў яе, каб перадаць Трамваеву ў карыстанне. Лёкай, прыслужнік, ваўкалак, нікчэмнасць са змяінай душою! А заўтра яны абодва будуць рабіць выгляд, што нічога не здарылася.

“Ненавіджу, ненавіджу!”— адно вырывалася ў яе з грудзей, калі яна ўпала на падушку тварам у сваім нумары, доўга плакала, праклінала свой лёс, такі неміласэрны і жорсткі.

Не, яна не магла проста жыць, як усе людзі, дараваць сабе слабасці і бязглуздасць, жыццё ўвесь час балюча раніла яе. Што ж гэта за лёс такі, калі ты, нібы закляты, нібы асуджаны на самотнае існаванне, аналізуеш кожны свой крок, сочыш за сабою, каб потым перакласці ўсё гэта на паперу. Што такое верш? Скарга ці наталенне

болю, каб сказаць чытачу: ты не адзін пакутуеш, я таксама слязьмі пішу сваю споведзь. Як жа ёй існаваць цяпер? Канечне, трымацца з усіх сіл, рабіць выгляд, што нічога не здарылася, інакш зноў палічаць вар'яткаю і завязуць у Навінкі.

Алеся памылася, прычасалася, запляла касу, закінула яе за спіну, зацягнулася цыгарэтаю. Скрозь шызую рухомую смугу дыму пазірала ў нікуды, а хутчэй позірк гэты быў скіраваны ў сябе. Бывай, спадар Самковіч, не я, а ты сам выкрасліў сябе з майго жыцця. Жыві пры пасадах і ўладах, гадуйся, але помні: кожны атрымае па заслугах пры жыцці, бо ад сумлення нікуды не ўцячэш, уласнае сумленне — найвышэйшы суддзя...

Трэба было скаратаць час да ранку, але заснуць яна не магла, як ні сілілася. Хутка апусцеў пачак з цыгарэтамі, кружылася галава, ныла сэрца. Кароткая летняя ноч расцягнулася надоўга, яе хапіла Алесі, каб успомніць усё пражытае. Як толькі світальна засінела акно, яна сабрала рэчы і пайшла на аўтавакзал.

Марудна вярталіся да Алесі сілы, яна хадзіла прыгнечаная, начамі сніла цяжкія сны, якіх нельга было згадаць, але ад іх яна пакутавала. А тыдні праз чатыры адчула млявасць і млосць, са страхам здагадалася — зацяжарала. Цела пратэставала таксікозам, рабацiннем на твары, сардэчным болем, высокім ціскам.

Прайшло яшчэ некалькі тыдняў, перш чым Алеся сабралася да доктара. Яе падазрэнні пацвердзіліся. Яна адразу папрасіла накіраванне на аборт.

— Вы яшчэ маладая жанчына. Але гэта, можа, апошняя магчымасць. Маладосць мінае хутка,— пачала адгаворваць яе доктар, жанчына сталага веку, мажная, з ярка пафарбаванымі хною валасамі.

— Не магу, мужа не маю. І адно дзіця ў мяне ўжо ёсць...

— Думайце і вырашайце сама, вось вам накіраванне на аналізы і на аперацыю.

Спустошаная і стомленая Алесіна душа нібыта задрамала, а цела пакутавала, да горла падступала млосць, яе вадзіла, не было сілы рухацца і жыць. Дзіця яшчэ толькі ўтваралася з клетак яе цела, а ўжо помсціла за нелюбоў і гвалт. Якая пачварнасць была б закладзена ў ягоныя гены, у ягоную падсвядомасць ад бацькі? Хаця хіба можна назваць гэтага чалавека бацькам?

Шмат яна хацела ад жыцця, шмат атрымала. Была радасць ад авалодвання словам, ад напісаных вершаў і выдадзеных кніжак. Толькі гэта было і застаецца. А ў жыцці ёй наканаваны самота і безлюбоўе, няўпэўненасць і трывога. Бруд жыцця ліпне да яе, ёй трэба ачышчацца пастаянна споведзямі, малітвамі, заклёнамі — усё гэта паэзія. А праз тыдзень трэба ачысціць сваё нутро ад чужога насення, якое становіцца яе дзіцём. Боль і страх напаўняюць яе душу кожны раз, калі яна думае пра тое, што вымушана будзе аддаць сваё цела на пакуту ў чужыя рукі, якім ужо даўно ўсё роўна, што яны робяць: даюць жыццё ці адбіраюць.

Раніца выдалася халодная і дажджлівая. Восень нагадвала пра сябе. Алеся мерзла разам з дзесяткам жанчын у прыёмным пакоі гінекалогіі. А пасля прыйшла абыякавасць да ўсяго, нават да смерці, калі б тая раптам з'явілася, Алеся, напэўна, не надта ўпарцілася б, пайшла б услед. Толькі шкада было пакідаць сіратою Юльку. Калі надзелі маску, Алеся глыбока ўдыхнула некалькі разоў, свядомасць яеператварылася ў маленькую зорачку, якая адплыла, кідаючыся ў розныя бакі. І апусцілася на душу цемра, прамежкавая паміж сном і смерцю. Прачнулася ад таго, што медсястра паляпвала яе па шчацэ, будзіла, гаворачы:

— Годзе, годзе спаць! Нагледзелася мульцікаў...

Алеся ніяк не магла сцяміць, дзе яна, што з ёю адбываецца. Раптам здалося, што зноў трапіла пасля аўтамабільнай аварыі ў бальніцу, і яна папыталася ў медсястры:

— Я буду хадзіць?

— Лётаць будзеш!

— А што са мною?

— Аборт зрабілі.

Алеся згадала ўсё. Адчула боль, балеў ніз жывата. Нейкі смутак навалiўся на душу, нікога не хацелася бачыць і чуць, а лепш было б паплакаць зараз, пагаласіць, каб зняць з душы цяжар. Яна пастаралася супакоіць сябе: "Усе гэтак жывуць. Вунь жанчыны ад мужоў робяць аборты. А мне ж нельга было пакідаць гэтае нежаданае дзіця. Колькі ж гэтакіх трамваевых на свеце, што, як пустазелле, скрозь рассейваюць сваё насенне і не клапоцяцца пра тое, што пасля вырасце. Як страшна, калі дзіця паўтарае рысы ненавіснага табе чалавека! Як любіць, як песціць такое немаўля! Чым знішчыць сваю памяць?

Памяць жыла нават у падсвядомасці. Да самай смерці сніла Алеся ненароджанага сына, які падрастаў з гадамі ў яе снах, як у жыцці. Спачатку бачыла яго немаўлём, пасля такім, што ўжо нешта шчабятаў і хадзіў няўпэўнена, так і падрастаў... Ні вершамі, ні малітвамі не магла адкупіцца Алеся ад гэтых сноў. І толькі Самковіча вінаваціла ў гэтым сваім граху, гэта ён, лёкай, прыслужнік, стараўся дагадзіць чыноўніку, ад якога залежаў. Яна нібы толькі цяпер разгледзела, што пры ягонай знешняй абаяльнасці двудушнасць выдаюць вочы, вострыя, як цвікі, блізка пастаўленыя да пераносся, на дне іх застыў дыпламатычны халадок, што прымушае трымацца чалавека на адлегласці. Цвікі заўсёды напагатове, сцеражыся — распнуць.

Месяц пасля бальніцы Алеся хварэла: усё балела — паясніца, жывот, сэрца. Але патроху боль адступіўся, яна супакоілася, нават вершы пачала пісаць ціхія і натомленыя, як пасля доўгага птушынага пералёту, без назваў, як і тыя пачуцці, што трымала ў душы. Можна было задыхнуцца, хаваючы іх у сабе.

У Дом літаратара не наведвалася, не хацела сустрэчы з Самковічам. Але ў Саюзе пісьменнікаў пра яе згадалі

самі, патэлефанавалі і прапанавалі паездку ў Францыю. Яе гэта ўзрадавала, яна заўсёды марыла паехаць у Парыж, горад паэтаў і мастакоў. Але тут жа спахапілася, а раптам і Самковіч паедзе, тады яна адмовіцца. На шчасце, Самковіча ў дэлегацыі не было, і яна дала згоду.

Увесь месяц яна жыла ў прадчуванні свята, збіралася ў дарогу, абдумвала, якое адзенне з сабою ўзяць, які абутак, каб зручна было хадзіць і не нацерці мазалёў. Наважылася ўзяць з дзесятак экземпляраў апошняга зборніка вершаў, калі прапусцяць праз мытню. Хаця хто там іх прачытае па-беларуску, калі і тут, дома, мала хто ведае родную мову? І хто цяпер цікавіцца вершамі, акрамя саміх паэтаў? Нават закаханыя не чытаюць...

Трамваеў не забыўся пра Алесю. Ён павінен быў даказаць ёй, што на вецер слоў не кідае. І калі надарылася магчымасць узяць яе з сабою ў Францыю, ён адразу выкарыстаў яе, уключыў у склад дэлегацыі некалькі пісьменнікаў, у тым ліку і Алесю. Ягонае самалюбства тады было балюча закранута Алесінаю абыякавасцю і варожасцю. Яна павінна была ацаніць яго ў рэшце рэшт і зразумець, што шмат у чым ад яго залежыць: выданне новых кніг, атрыманне кватэры, замежныя камандзіроўкі, ды ці мала што яшчэ.

Ён ведаў сабе цану, яшчэ некалі ягоны бацька яму растлумачыў: "Нам крэсла з пасадаю, як кавалерысту конь. Асядлаў і трымайся, а разам з крэслам усё ў рукі паплыве: грошы, гарэлка, жанчыны, а галоўнае — улада! Не выпускай крэсла з-пад сябе!"

Бацька Трамваева высокіх пасад не займаў, быў наглядчыкам у турме, таму і вакол сябе жадаў бачыць турэмны парадак. Прозвішча Трамваеў яму далі з-за таго, што некалі немаўлём знайшлі яго пад трамваем. Выхоўваўся ў дзіцячым доме, вучыўся блага, адразу пасля сямігодкі пайшоў у ФЗВ, а стуль — у войска. Выпала яму

ахоўваць турму ў Сібіры, там і застаўся звыш службы, але месца службы часта мянялася, ствараліся новыя зоны, яго перакідалі на новыя месцы як надзейнага і праверанага чалавека, таму радзімаю ён лічыў увесь Савецкі Саюз.

— Ты толькі ўслухайся, якое ў нас прозвішча пралетарскае!— часта гаварыў ён сыну.— Мая маці хоць і пакінула мяне, але ведала, сучка, дзе пакінуць! Пад трамвай падклала!

— Вой, бацька,— часам блазнаваў Раман,— гэта ж яна знарок цябе паклала пад трамвай, каб напэўна было: калі сам не здохнеш, дык price коламі зарэжа.

Пра сваю смерць бацька слухаць не мог, ён брыдка лаяўся, закашліваўся ад злосці і папракаў сына ў непачцівасці:

— Ты яшчэ пад стол пешкі хадзіў, калі я краіну ад ворагаў народа аберагаў. Ды што вы, маладыя, разумееце ў жыцці? Што б з вамі было, каб не мы? Далі вам волю! Дрэнна гэта скончыцца!

— Дзе тая воля? Хіба ў тых, хто пры пасадах?..

— А каб пасаду займець, трэба партыі трымацца. Ніякай чорнай работы не цурайся! Усё тады табе будзе!

— А нашто мне чорная, тут і чыстай хопіць. Вось у партыйную школу прапаноўваюць паступаць...

— Малайчына! Хвалю! Мой сын! Благаслаўляю! Ідзі! Служы народу, як бацька!

Раман Іванавіч паспяхова скончыў партыйную школу, атрымаў маленькую пасаду ў абкаме, першае, чым ён вызначыўся, было тое, што пачаў на дні нараджэння рыфмаваць прысвячэнні свайму начальству, якое высока ацаніла ягоныя здольнасці і дазволіла кіраваць культураю ў вобласці. Паступова на культуры, як на шчодрай грыбніцы, і вырас Раман Іванавіч Трамваеў да пасады ў ЦК, цяпер ён апекаваў пісьменнікаў, з абавязкамі спраўляўся цудоўна. Але Мінск — правінцыя, хацелася ў Маскву, дзе іншыя маштабы і магчымасці.

Пісьменніцкі "рафік" спыніўся ля будынка аэрапорта, пісьменнікі выйшлі з машыны, курылі, нечага чакалі.

— Хіба з намі яшчэ нехта едзе?— запыталася Алеся.

— Канечне, з ЦК і КДБ, як звычайна,— адказалі ёй.

Трывога непрыемна вілася каля сэрца. Відаць, гэта быў страх перад самалётам, бо Алеся заўсёды баялася вышыні, лічыла, што калі ўжо гінуць, дык на зямлі. Яна нават у спальні заўсёды каля акна ставіла крэсла, каб не вываліцца, бо раптам што прысніцца такое...

На прыпынку каля аэрапорта спыніліся дзве чорныя машыны, якія пад'ехалі ў суправаджэнні міліцэйскай "канарэйкі" з мігалкай. Пісьменнікі памкнуліся вітацца з чыноўнікамі, Алеся засталася каля "рафіка". Раптам яна ўбачыла Трамваева, ён асцярожна, але спрытна выбавіў сваё цела з вузкага праёма дзверцаў машыны. Пачуццё агіды і нянавісці выплыла з мінулага, з'явілася жаданне схавацца ад гэтага чалавека, каб не бачыць, не размаўляць з ім.

Трамваеў адразу заўважыў яе, заўсміхаўся, падышоў, пацалаваў руку. І тут жа звярнуўся да ўсіх:

— Ну што, усе сабраліся? Пайшлі рэгістравацца — і на пасадку!— Ён падхапіў Алесю пад руку.

— Хіба вы таксама паедзеце?— стрымана запыталася яна, павольна ступаючы з ім поруч.

— Я згаладаўся па табе, як воўк,— сказаў ён амаль шэптам, каб пачула толькі яна.— Першае, што зраблю, як прыляцім у Парыж,— праглыну цябе.

— Вы што, зноў там збіраецеся мяне гвалціць?

— Ну, калі табе гэтак падабаецца, дык я на ўсё згодны! А што? У гэтым нешта ёсць! Кажуць, кракадзілы таксама...

— Вы мярзотнік,— прамовіла Алеся, твар яе спалатнеў.— Вы злачынец!

— Не трэба кідацца такімі словамі,— ён пацягнуў яе за руку,— і так табе занадта дарую.

— Не дакранайцеся да мяне!

— Трэба ж быць хоць трохі ўдзячнаю за тое дабро, якое я табе раблю. Няўжо ты думаеш, што я ў Мінску не знайшоў бы вартай жанчыны, з якою можна было б паехаць у Парыж?

— Нягоднік! Ненавіджу!— Алеся замахнулася на Трамваева сумачкаю, але не выцяла, а закрыла твар рукамі, зайшлася істэрычнымі рыданнямі ад бездапаможнасці і прыніжанасці.

Гэты тупы чыноўнік, тлустая жывёліна купляў яе за паездку за мяжу, ён нават не хаваў гэтага. Тут не патрэбны былі ні яе талент, ні яе зборнікі, ён яе браў у якасці самадайкі. Гэтыя думкі, як маланкі, праціналі яе мозг.

Яе абступілі пісьменнікі. Нехта пытаўся, што здарылася, нехта імкнуўся суцешыць. Яна нічога не тлумачыла, а толькі закрывала заплаканы твар рукамі і не магла супакоіцца.

Трамваеў тым часам пашаптаўся са сваімі падначаленымі, нехта выклікаў "хуткую дапамогу", Алесю запіхнулі ў машыну і завезлі ў псіхлячэбніцу.

Яна адразу пазнала двор бальніцы, спалохалася, тузанулася, каб уцячы, але яе моцна трымалі за рукі санітары. Цяпер за гэтаю агароджаю яна была вар'ятка. І што б ні сказала пра Трамваева, ні адно слова не мела вагі. Зараз ёй зноў пачнуць даваць розныя ўколы, пасля якіх людзі здаюцца галавастымі пачварамі, а ўвесь свет нібы выварочваецца.

— Не хачу! Пусціце мяне!— закрычала яна.

— Такая прыемная дамачка і гэтак непрыстойна сябе паводзіць,— крыва пасміхнуўся ў вусы доўгі худы санітар.

Алеся згадала, што бачыла гэтага чалавека мінулы раз, аднойчы ён біў хворага, а той бараніўся рукамі, не разумеючы сваёй віны. Яна апусціла галаву і пакорліва пайшла наперад. Відаць, гэтакі лёс ёй выпаў, каб убачыць непрыхаваныя чалавечыя эмоцыі, калі людзі плачуць і смяюцца, ірвуць на сабе валасы ад невядомага гора, калі жан-

чыны прагнуць пакахацца з санітарамі, яны не ведаюць, што такое розум і сорам. Ці не для таго жыве паэт на свеце, каб усё ўбачыць і адчуць на сабе і, магчыма, калі здолее, расказаць пра гэта на паперы?..

Ад уколаў Алеся заснула. І прысніўся ёй сон, які час ад часу паўтараўся і раней. Быццам ляціць яна над дняпроўскаю кручаю да вады. На беразе пясок, чысцюткая вада прабіваецца хваляю. Яна проста ў басаножках ступае ў ваду і доўга ідзе ўздоўж берага, пакуль круча не знікае, а на беразе з'яўляецца высокая трава. Зводдаль стаіць матчына хата, але чамусьці маці там ужо не жыве. І няма чаго Алесі ісці туды, і няма чаго там шукаць. З гэтым адчаем і абудзілася. Над дзвярамі свяцілася чырвоная лямпачка. У палаце храплі і стагналі хворыя жанчыны. Алеся не адразу зразумела, дзе яна знаходзіцца, пасля ўспомніла.

"Што азначае гэты сон? Ці не захварэе маці, ці не пераедзе да мяне? А мо мяне Трамваеў збіраецца замураваць тут на ўсё жыццё?" Ад гэтае думкі зрабілася страшна. Але яна супакоіла сябе тым, што ведае туташнія парадкі, пастараецца быць спакойнаю, разумна і абгрунтавана гаварыць з дактарамі, дык, напэўна, доўга тут не затрымаюць. Да таго ж ёсць у яе сябры! Хоць бы і Клара Нерат! Ды і чаго ёй баяцца? Яе з пасады паэта ніхто не здыме, гэта вышэй чалавечае волі!..

Пра гэтыя падзеі ведала Каця ад самой Алесі, нешта чула і ад пісьменнікаў, якія ездзілі тады ў Парыж. Быў знаёмы ёй і Трамваеў. Таму ўявіць гэтую сітуацыю было ёй не цяжка. Але хацелася ведаць, чаго дабіваўся ад Алесі Самковіч? Напомніў пра сваю паслугу, каб нешта атрымаць ад яе? Што? Гэта можна будзе зразумець толькі заўтра на аўкцыёне.

З-за таго, што ўчора не магла доўга заснуць, Каця ледзьве не праспала на працу. Муж не пабудзіў, бо не ведаў, ці

трэба ёй сёння рана ўставаць, усё-такі яна журналіст, чалавек вольны. Здаўна ў іх павялося, што не робяць яны адно перад адным справаздачы. Давер гэта ці абыякавасць? Цяжка сказаць.

Каця спяшалася. Выпіла кавы, сабралася хутка, па тэлефоне папярэдзіла калег, што яна сёння на аўкцыёне. Ах, хутчэй бы, хутчэй усё пачыналася!

Зала была не вельмі поўная. Каця села ззаду, каб трымаць у полі зроку ўсіх наведвальнікаў. Адразу ўсярэдзіне залы са спіны пазнала Самковіча, хоць ён і хіліў галаву, нібы стараўся зрабіцца непрыкметным, меншым, ды яго круглая галава з сіваватымі кароткімі валасамі выдзялялася сярод пераважна маладой публікі багацеяў. Хвілін праз колькі праходам прадыбала і Клара Нерат, зладзеявата азірнулася, села з краю на адным з пярэдніх радоў.

“Ну вось, збіраюцца патроху ўсе знаёмыя асобы. Добра, што прыйшла трохі раней, дык усіх і пабачу. Значыць, і Самковіч не ўседзеў дома. Адчувае віну? Але якую? Тут, напэўна, не толькі Трамваеў быў прычынаю, але нешта яшчэ...” Каця перабірала ў памяці розныя падзеі. Гэта ж было перад выбарамі... Самковіч выставіў сваю кандыдатуру ў дэпутаты. Тады нечакана даверанаю асобаю стала Клара Нерат, выступала разам з ім на перадвыбарчых сходах. А ці не Алесі ён прапаноўваў гэтую ролю? Бо Клара ніхто, у той час як Алеся выдатная паэтка, якую людзі ведаюць... Таму і напамінаў, што ён зрабіў усё для таго, каб яна атрымала прэмію. Алеся, напэўна, адмовілася ад гэтае ролі. І яшчэ больш пакрыўдзілася на Самковіча, бо лічыла прэмію заслужанаю. Можа, і Клары расказала пра сваю крыўду, а тая кінулася сама на дапамогу Самковічу. Вось гэтак і сустракаюцца сквапнасць з хцівасцю, зло са здрадай.

Пасля смерці Алесі выйшла ўсё-такі кніжка Стася Бязмена ў каленкоравай цёмнай вокладцы з залатым ціснен-нем. Пэўна, Самковіч пастараўся, аддзячыў Клары за працу ў час перадвыбарчай кампаніі, тым больш што недар-

ма яна старалася: абралі ўсё ж Самковіча дэпутатам. Дык што атрымліваецца: галоўнаю прычынаю з'яўляецца кніжка Бязмена, якую імкнулася выдаць Клара?..

А вось яшчэ адзін знаёмец. Каця ўбачыла Жору Лазюка. Выгляд дзелавы, у руках дыктафон, каб усе бачылі: чалавек пры справе. А з якіх гэта часоў адказны сакратар газеты, саліднай, рэспубліканскай, ходзіць на рэдакцыйныя заданні як звычайны рэпарцёр? Што гэта з яго боку — цікаўнасць? Ці і ён нейкім чынам прычыніўся да гэтай трагедыі? Каця ліхаманкава збірала думкі. Лазюк быў аднакласнікам Бязмена, мо яны нават сябравалі. Дык што, зноў выплывае тая самая кніга? Божа, як жа бяздарнасці ўмеюць клапаціцца пра сябе! Як яны ўмеюць ствараць міфы! Перад выхадам кнігі ў той газеце, дзе працаваў Лазюк, раптам з'явілася хвалебная рэцэнзія, дзе творчасць Бязмена выдавалася за нешта незвычайнае ў плане фарматворчасці і глыбіні філасофскага зместу. Няшчасны Стась Бязмен! Колькі б цябе ні хвалілі, уся твая творчасць аднадзёнка, як тая рэцэнзія ў газеце. Хто цяпер помніць тую кнігу? Хіба адна Каця. І толькі таму, што гэта звязана са смерцю Алесі... Яны і пра Алесю спрабавалі скласці міф. Клара гэтак тлумачыла Алесіну смерць:

— Яна не памерла, яе душу ўзялі... Гэта ўжо не першы выпадак у Мінску, калі чалавек выкідваецца ў акно, а пакаёвыя тапкі застаюцца стаяць на падваконні...

— Не расказвай мне казак,— адмахнулася тады Каця,— тапкі застаюцца, бо няма сэнсу самазабойцу браць іх з сабою, усё роўна зваляцца, пакуль да зямлі даляціш.

— Ты не разумееш, іншапланецянам патрэбны здольныя людзі...

— Як я разумею, дык гэта пасрэдным зямлянам таленавітыя людзі замінаюць спакойна жыць. Трэба высільвацца, цягнуцца да іхняй вышыні. Дык ці не лепш знішчыць талент, і ніякіх праблем! Тады графаманы касякамі бягуць у выдавецтвы і выдаюць свае опусы, а найміты-крытыкі вышукваюць у пустаце глыбокі сэнс і падтэкс-

ты — у бязглуздзіцы. У цябе, Клара, у гэтай справе таксама рука набітая, ці рэцэнзію на апошнюю кнігу свайго Стася Бязмена ты не сама пісала? Нейкі псеўданім прыдумала дзіўны — Сымон Бязвінны...

— Хто ты такая, каб судзіць нас, пісьменнікаў?— злосна бліснула чорнымі вачамі Клара.

— Я вышэйшы суддзя, я чытач,— здзекліва адказала Каця.

Пачаўся аўкцыён. Звінеў малаточак аб стальную талерку, называліся сумы, нешта прадавалася, ад нечага пакупнікі адмаўляліся. Людзі тут былі пераважна маладыя і багатыя, тыя, што цікавіліся мастацтвам па-сапраўднаму, але былі і тыя, што набывалі карціны, пано, рукапісы ў камерцыйных мэтах, каб пасля ўдала збыць гэты тавар за мяжою.

Аўкцыён добра ўжо раскруціўся, калі неяк бокам, асцярожна, увайшоў у залу Ціхан Рапак. Напэўна, купляць запіску ён не збіраўся, але цікаўнасць прывяла чалавека сюды, ды і ён, відаць, адчуваў нейкую віну, хаця мы, жывыя, заўсёды вінаватыя перад мёртвымі.

Каця напружылася. Уключыла дыктафон. Нарэшце васемнаццаты пункт. Тут можа быць важнаю кожная дэталь. Прагучаў заахвочвальны голас аўкцыяніста:

— Прапануецца перадсмяротная запіска выдатнай паэткі Алесі (Аляксандры Паўлаўны) Вішанькі, якая сем гадоў таму скончыла жыццё самагубствам. Стартавая цана — адзін мільён.

Першаю выкінулася рука Клары Нерат. Але багатыя аматары літаратурных сенсацый перахапілі ініцыятыву. Клара двойчы яшчэ паспрабавала высунуцца, але пасля пяці мільёнаў аціхла. Самковіч з Лазюком таксама марудзілі. Дык што, хіба яны прыйшлі сюды толькі з цікаўнасці? Не трывалася разгадаць іхнія намеры Каці.

Калі лічба вырасла да дзесяці мільёнаў, дзялкі на хвіліну замерлі. І тады ўзляцела рука Жоры Лазюка.

— Адзінаццаць мільёнаў,— сказаў аўкцыяніст.

І тут упершыню падняў руку Самковіч, уключыўся ў барацьбу. Яна працягвалася не доўга. Пасля пятнаццатага мільёна пакупніком стаў Самковіч.

— Апошняя здзелка сённяшняга аўкцыёна завершана,— абвясціў вядучы,— але ў мяне для прысутных ёсць сенсацыйнае паведамленне: уладальнік запіскі, які пажадаў застацца невядомым, хоча зрабіць заяву. Калі ласка, прашу вас, спадар Інкогніта!

На сцэне з'явіўся малады чалавек у строгім цёмным касцюме, модна падстрыжаны, тыповы цяперашні бізнесмен ці банкір. Ён задаволена пасміхнуўся і пачаў сваю прамову:

— Шаноўныя, сёння я шчаслівы. Сем гадоў насіў я на сэрцы цяжар праз гэтую запіску. Хаваў яе і перахоўваў, бо яна адзіная з'яўлялася маім алібі. Я быў выпадковым сведкам смерці паэткі. Гэта здарылася на маіх вачах. Што стала прычынаю самазабойства, я не ведаю. Але прычына была! Карацей, здарылася гэта так: [redacted] тады займаўся кватэрнымі кражамі. Абраў Вішаньку, бо даведаўся, што яна адна з самых вядомых пісьменніц, тады-сяды нават за мяжою бывае. Прыйшоў аднойчы ўдзень, калі Вішанька была на працы, а дачка ў школе, але мне перашкодзілі суседзі ўвайсці ў кватэру. Вырашыў надоўга гэтую справу не адкладваць, а наведацца ў суботу, не бяда, калі гаспадыня акажацца дома, яе можна стукнуць разок па галаве і зачыніць у ванным пакоі. Прабачце, так было... Як гаворыцца, з песні слова не выкінеш,— раптам збянтэжыўся дзяцюк, але працягваў апавядаць:— Як ні дзіўна, дзверы ў кватэру аказаліся незамкнёныя. Я ўвайшоў у пакоі і ўбачыў, што гаспадыня стаіць на падваконні ў расчыненым акне і хутаецца ў коўдру. Яна дрыжэла ад холаду ці ад страху, пазірала ўніз. А я стаяў як аслупянелы і не ведаў, што павінен рабіць: рабаваць кватэру, ці ратаваць жанчыну, ці ўцякаць адсюль...

Раптам яна коратка ўскрыкнула і рынулася ўніз. Я прабег праз пакой, на хвіліну зірнуў за акно, убачыў яе рас-

пасцёртую на коўдры. Далей не розум, а чалавечая спагада кіравалі мною. Я падбег да тэлефона і выклікаў "хуткую дапамогу". Краем вока заўважыў грошы на тумбачцы і запіску, якую і ўзяў з сабою, узяў з чалавечае спагады і цікаўнасці, каб зразумець прычыну самазабойства. Пасля гэтага выбег з кватэры.

Каля пад'езда ўжо стаяла машына "хуткай дапамогі". Я здзівіўся, што па маім выкліку гэтак хутка паспелі. Аказалася, гэтая машына была выклікана для Алесі, але некім іншым, з псіхдыспансера. Машына, якую выклікаў я, прыехала хвілін праз дваццаць. Я зразумеў, што нехта накіроўваў гэтае самазабойства, але самому мне раскруціць нічога не ўдалося, пэўна, я быў занадта далёкі чалавек ад літаратуры.

Запіска пазбавіла мяне спакою. Вельмі часта Алеся снілася мне, вось яна падае, а я стараюся дабегчы да акна, ногі не слухаюцца, і я не паспяваю... Нейкую віну нашу ў душы з таго часу, хоць я толькі сведка. Пазней пакінуў сваё зладзейства, пачаў займацца валютнымі аперацыямі, гэта мне здалося больш прыбытковым. Купіў магазін, так і жыву... Прабачце, вымушаны апраўдвацца, ▪ вам давядзецца верыць мне на слова. Запіску наважыўся прадаць, каб убачыць зацікаўленых людзей ды свой неспакой перакласці на іхнія плечы. Вось і ўсё.

Каця ўскочыла з месца, крыкнула:

— Прачытайце запіску!

— Не маю права,— адказаў Інкогніта,— запіска цяпер належыць іншаму ўладальніку. Я гатовы зараз жа перадаць яму гэтую каштоўнасць.

Самковіч падняўся і пайшоў на сцэну нейкаю не ўласціваю яму старэчаю паходкаю, плечы прыгорбленыя, галава апушчаная, нібыта прыгнечаны цяжарам, нябачным чужым вачам.

— Аўкцыён закончаны,— абвясціў аўкцыяніст.— Шаноўнае спадарства, дзякую за працу, за актыўнасць! Зычу шчасця і ўдачы ўсім.

Людзі пачалі выходзіць з залы. Каця неадрыўна сачыла за Самковічам, як ён падпісвае нейкія паперы, як прымае ад Інкогніта канверт з Алесінаю запіскаю. І калі ён спусціўся са сцэны і скіраваў да выхаду, Каця рынулася яму наперарэз.

— Лукаш Кандратавіч, пачакайце, адну хвіліначку,— папрасіла яна.

Самковіч незадаволена зірнуў на яе, позірк стомлены, прыгнечаны.

— Слухаю вас...

— Вам пашанцавала купіць гэтую запіску, дазвольце павіншаваць вас з набыткам. Што вы адчуваеце зараз? Падзяліцеся, калі ласка, з радыёслухачамі.

Самковіч вагаўся, не хацеў гаварыць, але і адмовіць журналістцы не мог. Каця азірнулася, нібы шукала падтрымкі, і са здзіўленнем убачыла побач з сабою Ціхана Рапака, Клару Нерат і Жору Лазюка. Яны таксама прагнулі ведаць змест запіскі.

— Напэўна, вам хочацца зараз хутчэй застацца аднаму і прачытаць запіску. Але гэтага хочацца ўсім! І радыёслухачам у тым ліку. Алесю любяць і помняць.

Самковіч на момант задумаўся, пасля згодна кіўнуў галавою. Каця хуценька ўключыла дыктафон.

— Алеся Вішанька была выдатная паэтка. Мы, яе сучаснікі, напэўна, яшчэ не ацанілі тую спадчыну, якую яна пакінула. Але ў яе будзе вечнае і цудоўнае жыццё, у гэтым я ўпэўнены. Зараз я пішу кнігу ўспамінаў, будуць там раздзелы, прысвечаныя Аляксандры Паўлаўне, таму хацелася набыць гэтую запіску, змест якой я хацеў бы захаваць у тайне, пакуль не выйдзе кніга.

— А калі гэтая запіска з'яўляецца крымінальным доказам нечай віны? Магчыма, там Алеся тлумачыць, чаму яна выбрала смерць...

— Чаго прычапіліся да чалавека? Лукаш Кандратавіч лепш ведае, што яму трэба рабіць,— раптам пачала бараніць Самковіча Клара.

— А што тут такога? Сакрэт вялікі? Можа, гэты злодзей, які прадаў запіску, падмануў усіх, паклаў у кішэню чэк на 15 мільёнаў ды пасмейваецца з дурняў, што падкінуў нам нейкую фальшыўку,— сказаў Жора Лазюк.

— Ну, вы хоць сам, Лукаш Кандратавіч, паглядзіце, што там? Мо той канверт пусты зусім,— прапанаваў Рапак.

— Добра, я згодны, толькі адыдзіце, не насядайце на мяне, як на злачынцу. У нас былі роўныя магчымасці, кожны мог купіць,— папракнуў і супакоіў прысутных Самковіч.

— Затое зарплаты ў нас розныя, не кожны можа дазволіць сабе такія дарагія набыткі,— агрызнулася Клара.

Самковіч нетаропка разгарнуў канверт, нібыта яму зусім не хацелася даведацца, што ж там напісана, дастаў цыдулку, прабег вачыма.

— Тут нічога няма пра смерць, тут — толькі пра жыццё. Ды што ўтойваць, прачытаю: "Дачушка, я паехала ў "Мэблю". Калі затрымаюся, паабедай сама і ча..." Далей запіска абрываецца, пэўна, нешта перашкодзіла дапісаць. Ці Алеся перадумала?..

— Бачыце, нічога няма! Ніхто не вінаваты ў гэтай смерці, акрамя самой Алесі!— узрадавалася Клара.

— Наадварот, шмат праясняецца,— запярэчыла Каця.— Відно, што Алеся не збіралася паміраць. Ёй дапамаглі памерці, падштурхнулі, яна нават запіску праз гэта не дапісала!

— Гэта толькі хворая журналісцкая фантазія, і больш нічога!— злосна адказала Клара.

— Усе мінулыя сем гадоў я імкнулася разгадаць тайну Алесінай смерці. І нарэшце толькі сёння зразумела, што тады здарылася.

— Ты нічога не можаш ведаць! Прарочыца знайшлася!— абурылася Клара.

— Гаварыце, гаварыце, цікава паслухаць вашу версію,— глухім голасам сказаў Самковіч, і Каця ўпершыню ўбачы-

ла, які ён ужо стары і стомлены. "Колькі ж яму гадоў,— падумала,— пад семдзесят?"

— Тое прадвесне для Алесі было занадта цяжкае,— здалёку пачала апавядаць Каця.— Тады і Ціхан Рапак прасіў Алесю, каб дазволіла прапісаць да яго дачку для атрымання большай кватэры.

— Ну і што, усе прапісваюць да сябе мёртвых душ,— апраўдваўся Рапак.

— Так, але ж у Вішанькі была вельмі ўражлівая і чулая душа. Усё ёй балела. Вось і Лукаш Кандратавіч прасіў яе стаць даверанаю асобаю ў перадвыбарнай кампаніі...

— Мана, гэта я была ягонаю даверанаю асобаю,— запярэчыла Клара.— Пацвердзіце, калі ласка, Лукаш Кандратавіч!

Самковіч маўчаў, тады Клара зноў накінулася на Кацю:

— Чаму ты нас судзіш, як пракурор? Усё — бабскія плёткі! Я супраць.

— Вам не падабаецца, дык ідзіце сабе з Богам, а мы паслухаем, што жанчына скажа,— спакойна сказаў Самковіч, і ягоная падтрымка надала Каці ўпэўненасці:

— Канечне, тое, што я зараз згадала,— толькі дробязі. Гэта добра ведае Клара, таму і нервуецца. Таямніца хаваецца ў іншым. Успомніце, што казаў прадавец запіскі наконт дзвюх машын "хуткай дапамогі". Адну выклікаў ён, а другая, з псіхдыспансера, была выклікана некім іншым. Ці не таму Алеся стаяла на падваконніку і чакала гэтай машыны? Калі б машына не прыехала, Алеся засталася б жывая. Нехта пагражаў ёй псіхушкаю! Яе смерць — гэта пратэст, нежаданне падпарадкавацца чужой волі.

— Лухта! Начыталася дэтэктываў і вярзе абы-што!— закрычала Клара, твар яе перакрывіўся ад нянавісці.

— Не перашкаджайце, калі ласка,— падазрона зірнуў на Клару Самковіч.

— Я думаю,— працягвала Каця,— усё адбывалася гэтак: зранку Алеся была ў добрым настроі, праз тыдзень

яна збіралася адзначыць свой дзень нараджэння, трыццаць сем гадоў, таму хацела купіць новую кніжную шафу, а мо яшчэ што з мэблі, каб прыемна было запрасіць гасцей. Звечара падрыхтавала грошы на пакупку, ранічкаю адправіла дачку ў школу, зрабіла сякія-такія хатнія справы, пачала пісаць запіску, як нехта патэлефанаваў і катэгарычна выставіў свае патрабаванні. А калі Алеся не згадзілася, дык пачаў пагражаць, што выкліча машыну з псіхлячэбніцы і засадзіць туды Алесю надоўга, пакуль яна не дасць згоду выканаць тое, што ад яе патрабуецца. Алеся была абурана, бо званіў блізкі чалавек. Яна адначасова прыйшла ў адчай ад ягонай подласці і дзікасці, верагоднасць здзяйснення пагрозы была вялікая! Паэтку апанаваў страх: раптам зноў апынецца ў псіхушцы. Яна сумнявалася. Нават хацела не звяртаць увагі на пагрозу, а ехаць у краму.

І тады зноў зазваніў тэлефон. Алесі сказалі, што машына выклікана і едзе па яе. Алеся рванулася да акна, расчыніла яго. Сырое прадвесне абдало холадам. Яна схапіла плед з канапы, акрылася ім, стала на падваконнік і чакала машыну. А калі ўбачыла яе — рынулася насустрач!

— Не магло такога быць! Лухта!— крыкнула Клара, скура пад яе левым вокам нервова тузалася, яна выцерла сухое вока.

— Праўда, Клара, праўда! І гэта ты добра ведаеш!— пачала насоўвацца на яе Каця.

Клара хлюпнулася ў крэсла і сцялася.

— Гэта ты патрабавала ад Алесі станоўчага заключэння на рукапіс Стася Бязмена. А калі Вішанька не згадзілася, дык ты са сваяком-псіхіятрам наважылася патрымаць яе ў псіхушцы, пакуль не скарыцца. Праўда, пасля ты схамянулася, спалохалася, схапіла таксі і прыехала да Алесі, але яе ўжо везлі ў морг. Ты дагнала яе там. Паплакала, пагаласіла, а калі рэгістравалі нябожчыцу, няправільна назвала прозвішча. Таму цела Вішанькі з цяжкасцю адшукалі ў моргу. Яна значылася пад прозвішчам Вінь-

ка. Але знайшлі яе ўсё-такі, пахавалі... А потым у Бязмена выйшла кніжка вершаў у прозе, дапамог Лукаш Кандратавіч, у якога ты, Клара, замест Алесі стала даверанаю асобаю. Ты, Жора, не хацеў мне дапамагчы даследаваць гэтую справу, бо стараўся абараніць Трамваева. Баяўся той партыец, што ягонае імя не ў лепшым святле выплыве з гэтай гісторыі. Што ж, цяпер табе баяцца няма чаго. Трамваеў жыве ў Маскве. А ты можаш даваць сенсацыйны матэрыял у газету. Ды не пасмееш. У табе страх перад начальствам сядзіць пажыццёва...

Мужчыны моўчкі глядзелі на Клару. Яна ўціскала сваё кашчавае цела ў крэсла, нібы хацела стаць нябачнаю пад гэтымі позіркамі.

# *Мастацтва забіваць*

Чалавек падняўся на ўзгорак, акінуў позіркам наваколле. У малочнай смузе белай палярнай ночы расплываўся гарызонт, раствараліся абрысы будынкаў і дрэў. У думках ён назаўсёды развітваўся з гэтаю зямлёю, душою ўбіраючы бляклую прастору. Раптам глеба пад яго-нымі нагамі здрыганулася і аплыла. "Адтала мерзлата",— паспеў падумаць ён, падаючы. Рука ўперлася ў круглы камень, чалавек падняў яго — убачыў ашчэраны чэрап, з жахам адкінуў, азірнуўся, нібы шукаў абароны,— за яго-най спіной на свежым зрэзе зямлі ляжала мноства чалавечых касцей. Чалавек закрычаў і кінуўся бегчы, але зрабіў некалькі крокаў і спыніўся, павярнуўся тварам да ўзгорка, пакланіўся невядомай магіле. Гэта было яго мінулае, ад якога не ўцячэш. Аднаму Богу вядома, як ён, Багдан Кардуба, здолеў падмануць смерць і выжыць. А мог бы таксама тут парыць косці, так-сяк прысыпаныя бульдозерам. Стоячы пад узгоркам, ён згадаў сваю маладосць гэтак яскрава, быццам усё адбылося толькі ўчора. А як светла ўсё пачыналася...

У 1947 годзе падаўся вясковы хлопец Багдан Кардуба вучыцца ў Львоў на кінамеханіка. І быў шчаслівы тым, што яго прынялі ў вучылішча, што выдалі карткі на харчы, якія ён тут жа прадаў і купіў тое-сёе з адзення. Цяпер, праходзячы па вуліцы, задаволена паглядвае на сваё адлюстраванне ў вітрынным шкле.

Ён любіў гэты горад з маленства. Некалі бацька зрэдзь браў яго з сабою, як ездзіў на кірмаш. Багдана зачароўвала велічнасць старадаўніх храмаў, непаўторнасць будынкаў, упрыгожаных архітэктурнымі рэльефамі, скульптураю і ляпнінаю. Да гэтае прыгажосці нельга было пры-

выкнуць. Горад кожны раз бачыўся па-новаму, меў свой характар і настрой.

Багдан пасяліўся на кватэры ў рахманай, яшчэ маладой удавы Вольгі, меў асобны пакойчык, адчуваў сябе самастойным і вольным чалавекам. Адно бяда, што харчы, якія ён прывёз з дому, хутка скончыліся, трэба было падумаць пра хлеб надзённы. Да бацькоў ехаць далёка, вырашыў наведацца да стрыечнай сястры, якая жыла кіламетраў за трыццаць ад Львова на хутары, мела добрую гаспадарку. Якраз стаяў пагодлівы кастрычнік, у такую пару у сялян яшчэ шмат работы. Багдан разлічваў, што дапаможа сястры па гаспадарцы, а тая аддзячыць хлебам, крупамі, салам.

Багдан рушыў у дарогу ў суботу пасля заняткаў, трохі пад'ехаў на спадарожнай палутарцы, кіламетраў дванаццаць прайшоў пешкі, паспеў на вячэру, што было вельмі дарэчы, бо апошнія два дні галадаў.

Сястра паставіла на стол вялізную міску крупніку. Двое сестрыных дзетак нешта шчабяталі на птушынай мове, зразумелай толькі ім ды іхнім бацькам. Сястрын муж з лагодаю пазіраў на дзяцей, хітравата пасміхаўся ў чорныя вусы, прыгаворваў:

— Навошта ты, маці, дала дзецям такія дзіравыя лыжкі? Вунь як паналівалі. Пакуль да рота данясуць, дык лыжка пустая.

— Марычка, Дзяніска, бярыце патрошку, не будзеце разліваць,— падказвала маці дзецям, парадкуючы ля печы гаршкі.

— Сядзь ты сама ды пад'еш,— паклікаў яе гаспадар.

Сястра прысела да стала бокам, не было калі расседжвацца, толькі паспела зачэрпнуць колькі лыжак стравы, як у сенцы ўладна пастукалі. Сястра прыпала тварам да цёмнае шыбы, але нічога не ўбачыла, падалася ў сенцы.

— Хто там?— папыталася ўстрывожана.

— Свае! Адчыняй, бо дзверы выб'ем!— адказалі з надворку.

— Хто свае?

— Адчыняй, бо чырвонага пеўня падкінем,— загрукалі нагамі.

У хату ўвайшло чалавек восем, усе маладыя, з вінтоўкамі, у цывільным адзенні, нахабнаватымі позіркамі акінулі пакой, пільна прыгледзеліся да гаспадароў.

— Ну, гаспадыня, хто тут у цябе ёсць?— папытаўся адзін.

— Гэта мой муж, гэта дзеці, а гэта брат, у Львове вучыцца.

— Брат з Львова, кажаш? А чаму ж яму ў горадзе не сядзіцца? Там жа танцы-шманцы...

— Прыехаў нам дапамагчы, не ўпраўляемся з мужам, а дзеткі, бачыце, малыя,— хутка загаварыла сястра, нібы прадчуваючы нядобрае.

— А ён што ў вас, нямы? Скажы нам, браце, ці не служыш ты часам чырвонапагоннікам, ці не прадаеш нашы праведныя душы НКУСу?

— Нікому я не служу, а вучуся ў вучылішчы. І адзін у мяне клопат, як пракарміцца, як выжыць у горадзе.

— Што ж цябе саветы не могуць накарміць? Ненажэрны ты нейкі, хоць з выгляду і здохлы.

— Які ўжо ёсць, перарабляць не будуць.

— Ого, яшчэ як пераробяць, перакуюць. Ану, выйдзем, пагаварыць трэба.

— Вой, хлопчыкі! Вой, родненькія! Ён жа яшчэ зусім дзіця! Семнаццаць гадкоў! Такі маладзенькі! Куды ж вы яго?— загаласіла сястра, заламала рукі, кінулася да мужчын.

— Маўчы. Усё будзе добра!— крыкнуў на жанчыну той, што гаварыў.

У сенцах Багдан пацягнуўся зняць з цвіка свой паліточчык, нехта прыкрыкнуў на яго:

— Пакінь, гэта табе не спатрэбіцца.

Людзі выйшлі ў цемру восеньскае ночы, сухую, з першымі прымаразкамі, з рэдкімі зоркамі ў небе. Багдана ка-

лацiла ад страху цi ад холаду. Яго павялi за хлеў да старой дзiкай грушы, стоўпiлiся навокал, i гэтая варожая сцяна адгарадзiла яго ад усяго свету: ад бацькоў, ад сястры,— ад усiх, хто мог бы абаранiць.

— Ну, а цяпер расказвай усё!— сказаў той самы чалавек, што гаварыў з iм у хаце, астатнiя па-ранейшаму маўчалi.

— Я нiчога цiкавага не ведаю,— адказаў Багдан, стрымлiваючы дрыжыкi ва ўсiм целе.

— Навошта ездзiш сюды, што вынюхваеш?

— Я ўжо казаў, у горадзе голадна, я прыехаў па хлеб.

— Табе ж карткi ў вучылiшчы давалi.

— Я iх прадаў, трэба былi грошы...

— Вы паглядзiце на гэтага анёлка, ён яшчэ i гандлюе! А мо ты згадаеш, колькi душ прадаў?

— Нiкога я не прадаваў.

— Нiчога, зараз мы дапаможам табе ўспомнiць. Давай, Санько, сваю пяньковую сяброўку.

Мужчыны спрытна перакiнулi вяроўку цераз тоўстую грушавую галiну, на адным канцы зрабiлi пятлю, падвялi Багдана да дрэва, усцягнулi пятлю на галаву, шурпатая вяроўка абвiла шыю, сцiснула, перахапiла дыханне. Болю не было, толькi страх i задуха да звону ў галаве. Гэта доўжылася адзiн момант, ён расцягнуў пятлю рукамi, ухапiў паветра, цяжка задыхаў.

— Што ўспомнiлася?

— Бацька i мацi ў вачах стаяць,— адказаў Багдан.

— Ён нас разжалабiць хоча! Каму служыш?

— Нiкому.

— Давай, Санько, яшчэ раз, ён не ўспомнiў пакуль нiчога.

Зноў пятля абвiла Багданаву шыю, гарачая хваля прылiла да твару, перахапiла дыханне, ногi адарвалiся ад зямлi, ён страцiў прытомнасць. Ачомаўся, седзячы пад грушаю. Балела шыя, кружылася галава, ён з цяжкасцю расплюшчыў вочы.

— Адышоў, пеўнік! Будзеш цяпер гаварыць?

Багдан не адказаў, толькі адмоўна пахітаў галавою.

— Ды ён знямеў ад страху, цяпер будзе маўчаць як рыба,— засмяяўся нехта з хаўрусу.

— А які ж хітры, двойчы ў рай наведаўся і маўчыць, як быццам нічога з ім не здарылася,— здзекліва сказаў другі.— Мо ён мала там пабыў, не паспеў разгледзець той свет, мо яшчэ разок паспрабаваць?

— Гэй, ты, ці чуеш мяне?

Багдан кіўнуў галавою.

— Чуе! Чуе!— адказаў нехта са спачуваннем, як здалося Багдану, а мо хацелася пачуць гэтае спачуванне, усё ж кругом не звяры, а людзі.

— Дык вось,— сказаў адзін, відаць, галоўны,— калі мы даведаемся, што ты прадаўся чырвонапагоннікам, дзе б ні быў, знойдзем, з-пад зямлі дастанем і павесім на гэтай грушы. Зразумеў?

Багдан кіўнуў галавою ў знак таго, што ён усё зразумеў, і заплюшчыў вочы. Найбольш яму цяпер хацелася, каб гэтая хеўра пакінула яго ў спакоі. Ён быў знясілены, стомлены, але больш, чым цела, балела растаптаная душа. Ён пачуў іх крокі, якія аддаляліся, але адбіваліся ў сэрцы, нібы гэта сама смерць адыходзіла ад яго. Ён расплюшчыў вочы. Побач нікога не было. Сабраўся з духам, з цяжкасцю падняўся, пайшоў у хату.

Сястра ўбачыла яго, загаласіла, шкадуючы і радуючыся, што ўсё абышлося. А ён сеў на лаву, прыпёрся спіною да сцяны і адчуў, як пад сестрыно галашэнне жыццё вяртаецца да яго.

"Хто яны, гэтыя людзі?— думаў ён.— Гавораць панашаму, у звычайнай цывільнай вопратцы, у аднаго нават бачыў з-пад пінжака сарочку-вышыванку. Што яны шукаюць, чаго хочуць? Няўжо ім падабаецца здзекавацца з людзей? І адкуль у іх такое права? Страшна загінуць ад рукі ворага, але яшчэ страшней гінуць ад сваіх людзей. Як жа ўсё пераблыталася ў свеце, свае становяцца ворагамі..."

Да Багдана падышоў сястрын муж, патрос за плячо:

— Усё абышлося, і добра! Ты прыехаў і паездзеш. А нам тут заўсёды жыць. Дык не паміраць жа ад страху раней часу.

— Хто яны?— запытаўся Багдан.

— Мо лясныя браты, а мо чырвонапагоннікі пераапранутыя... Хто ж іх ведае?

— Страшны, страшны час, сваіх бойся, чужых бойся... Мне бабы ў вёсцы расказвалі: вось гэтак завіталі да аднаго дзеда браты лясныя, папрасілі хлеба. Закруціў чалавек у хустачку дзве булкі і даў. А назаўтра выклікаюць яго ў сельсавет, пытаюцца пра ўчарашніх гасцей. Дзед давай аднеквацца, а яны яму пад нос яго хустачку з хлебам: пазнаеш? І забралі. Як у ваду кануў чалавек праз дабрыню сваю.

— Я пакуль не змагу да вас ездзіць, не чакайце мяне,— цвёрда сказаў Багдан.— Яшчэ бяду наклічу на вашу сямейку. Жывіце шчасліва.

— Браточак мой, ты ж у нас самы меншанькі, мне цябе найбольш няньчыць даводзілася, ты ж мне не проста брат, ты як сын мне. Як жа ты будзеш адзін у чужым горадзе?

— Чаму адзін? Там жа Сцяпан жыве, таксама брат, мо не дасць з голаду памерці.

У нядзелю ён вярнуўся ў Львоў, у ціхую прыгарадную вулку, дзе наймаў кватэру. Гаспадыні дома не было, яго з усмешкаю сустрэла Света, дачка гаспадыні, цемнавокая танклявая дзяўчынка, якой ішоў пятнаццаты год. Дзяўчынка ўбачыла сінякі ў яго на шыі, папыталася:

— Што гэта, Багданчыку?

— Дзеўкі зацалавалі ў вёсцы, такія нахабныя...

— Не хлусі, я не маленькая, ведаю, як гэта робіцца.

— Адкуль ты ведаеш?

— Ніадкуль,— засаромелася Света, адвярнулася да акна.

Багдан патузаў Свету за доўгую цёмную касу:

— Як мне твая каса падабаецца, такая цяжкая, такая доўгая...

Яна павярнула да яго здзіўлены і амаль шчаслівы твар:

— Гэта праўда? Праўда?

— Праўда, Світалачка.

Дзяўчынка прытулілася да яго, і ён пацалаваў яе пяшчотна і асцярожна.

— Якое ты мне імя прыдумаў, так мяне яшчэ ніхто не называў,— твар яе свяціўся сарамлівым і шчаслівым румянцам. Яна вызвалілася з яго абдымкаў, села ля акна.

Ён пачаў распакоўваць сваю валізку, прыгаворваючы:

— Я цябе зараз пачастую дзікімі грушамі. У гэтых груш незвычайны смак. Ты ела калі-небудзь гнілушкі?

— Ела, ела,— заўсміхалася Света.

— А яшчэ гэтыя грушы нешта ведаюць пра смерць і пра жыццё, каб ты ўмела гаварыць з дрэвамі, яны табе нешта расказалі б...

— Багданчык, я ніяк не магу зразумець, калі ты жартуеш, а калі праўду гаворыш.

— Жарты, Світалачка, гэта і ёсць самая чыстая праўда. А тое, што людзі называюць праўдаю, часта аказваецца нікчэмнаю хлуснёю.

— Ай, цябе паслухаеш, дык і на свеце жыць не захочаш.

— А жыць хочацца, ты ведаеш, як я люблю жыццё! Як я люблю гэты горад! Як я спяшаўся ўбачыць цябе...

Яму яшчэ хацелася сказаць, што, можа, толькі сёння ён зразумеў, як любіць і яе, Світалачку, але пасаромеўся.

Праз нейкі час харчы, якімі разжыўся ў сястры Багдан, скончыліся. Зноў для хлопца надышлі галодныя дні. Ён знарок прыходзіў дамоў позна, каб гаспадыня і яе дачка не здагадаліся, што ён галадае. Калі голад трываць было ўжо немагчыма, сабраўся Багдан у госці да старэйшага брата, спадзяваўся пазычыць грошай ці хоць папалуднаваць, бо ўжо два дні, акрамя хлеба з вадою, нічога не еў.

Багдан чужаўся Сцяпана, мо таму, што амаль яго не ведаў. Старэйшы брат рана вылецеў з гнязда. Яны са Сця-

панам былі родныя па маці. Першы муж маці загінуў у імперыялістычную вайну, яна засталася з трыма дзецьмі на руках. Свёкар, строгі чалавек і дбайны гаспадар, не захацеў дзяліць свае дзесяць гектараў з нявесткаю і таму прымусіў свайго малодшага сына ўзяць замуж братавую, тады і з'явіўся на свет божы Багдан. Бацька ніколі не крыўдзіў братавых дзяцей, каб людзі не папракнулі, што здзекуецца з сірот. Затое Багдану ўжо даставалася за ўсіх, ні адно свавольства не даравалася. Зноў жа, відаць, каб людзі не сказалі, што разбэсціў чалавек роднага сына.

Сцяпан сустрэў Багдана ветліва, пасадзіў на канапу, пачаў распытваць пра вучобу, пра хлопцаў, з якімі Багдан сябруе, пра гаспадыню, дзе пасяліўся. Хлопец у трох словах расказаў пра сваё жыццё-быццё, чакаў зручнага моманту, каб пазычыць грошай, але тут Сцяпан сам пачаў скардзіцца:

— Эх, дзе мае семнаццаць! А тут ні Богу свечка ні чорту качарга. Мая ахмістрыня ўсю палучку згрэбла, а мне фігу пад нос. Няма за што піва выпіць.

— Шкада, і ў мяне цяпер ні капейкі,— пачаў апраўдвацца Багдан.

— Што ты, браце, я ж разумею, ты бедны студэнт! Я ж цягну, як вол, на заводзе! Во, нават есці не наварыла! Усе чарапкі пусценькія! Слухай, у мяне ідэя! Мяне даўно кліча ў госці адзін добры чалавек. Гайда да яго! Там і пакормяць, і чаркаю пачастуюць.

— Мо няёмка?

— Ды кінь ты... Пайшлі...

Яны праехалі прыпынкаў пяць трамваем, пайшлі вузкім завулкам і нырнулі пад арку старога будынка, упрыгожанага ляпнінаю, падняліся на другі паверх, пастукалі ў дзверы.

Іх сустрэла гожая гаспадыня, у німбе светлых падпloеных валасоў, у доўгім, да пят, квяцістым халаце, заўсміхалася Сцяпану, відаць было, што ён тут госць часты і, можа, нават жаданы. Насустрач з нетраў кватэры выйшаў

гаспадар, па-вайсковаму стройны, павітаўся з гасцямі за руку, запрасіў у пакой.

Пакуль Сцяпан з гаспадаром перакідваліся ветлівымі фразамі пра жыццё, Багдан разглядваў дарагую, напэўна, старадаўнюю мэблю, якою быў застаўлены пакой, дзівоснай прыгажосці крышталёвы і фарфоравы посуд у камодзе. Яны не доўга затрымаліся ў гэтым пакоі, бо гаспадыня павяла іх у вялікую кухню, якую назвала сталоваю, дзе ўжо быў падрыхтаваны на хуткую руку пачастунак: чырвонае віно, кілбаса, сыр, печань траскі, крабы, ікра.

Багдан хоць і стрымліваў сябе, але наваліўся на ежу, нават і не заўважыў, як непрыкметна знікла некуды гаспадыня, не надта прыслухоўваўся да размовы за сталом, бо гаспадар з братам гаварылі нешта пра палітыку, чым Багдан амаль не цікавіўся.

— А ты, Багдан, заходзь да нас, калі ласка, часцей. Мы з жонкаю сумуем без людзей, асабліва такіх маладых, як ты. Гляджу на цябе і думаю: скінуць бы гадкоў пятнаццаць і пачаць жыццё з самага пачатку...— сказаў гаспадар.

— Я таксама б не супраць,— падтакнуў Сцяпан.

Багдан толькі ўсміхаўся ў адказ. Яму было добра сярод гэтых людзей, шчасна ад адчування, што хоць нехта ў гэты галодны час мае хлеб і да хлеба ды яшчэ здатны шчыра падзяліцца з іншымі.

— Не, я табе сур'ёзна кажу, Багдан, прыходзь да нас. Гэта ты мяне першы раз бачыш, а мне Сцяпан пра цябе шмат расказваў, я мо больш пра цябе ведаю, чым ты сам. Дык ты, калі якая патрэба, бяжы да нас. Нават калі мяне не будзе дома, мая жонка накорміць цябе і грошай дасць...

— Дзякую,— заўсміхаўся Багдан ніякавата,— я ж не жабрак. Мне каб работу якую, каб я пасля заняткаў мог капейчыну зарабіць.

— А работы ў нас не за капейкі, а за рублі мора.

— Дзе гэта ў вас?

— У КДБ, я маёр КДБ Віннікаў.

У Багдана сэрца абарвалася і паляцела некуды ўніз, замітусіліся думкі: "Якое дачыненне да КДБ мае Сцяпан? Што адказаць маёру? Як гэта далікатней адмовіцца?"

Маёр здзіўлена паглядзеў на хлопца:

— Ну, што ты прыціх? Падумай і прыходзь. Ведай, што мы цябе чакаем.

— А ён у вас працуе?— Багдан кіўнуў на Сцяпана.

— Гэта ваенная тайна,— засмяяўся маёр.— Лічы, што мы з ім добрыя сябры. Ты можаш далучыцца да нашага сяброўства. У цябе будзе ўсё! Разумееш? Усё, што пажадаеш.

— Хіба вы багі?

— Мы большыя ад багоў, бо яны далёка, а мы тут.

На развітанне Віннікаў яшчэ раз паляпаў Багдана па плячы, нібы падбадзёрваў.

— Нішто мой малодшы брат?— спытаў Сцяпан.

— Нішто. Нам такія вельмі патрэбныя. Гэта ж ён у любой вёсцы за свайго сыдзе. Прыходзь, буду чакаць,— паціснуў на развітанне руку Багдану.

На вуліцы Сцяпан запытальна зірнуў на Багдана:

— Ты цяпер куды?

— Давай пройдземся трохі, пагаварыць хачу з табою.

— Што табе яшчэ незразумела?

— Ты сам прадаўся і мяне туды ж цягнеш? Не выйдзе па-твойму...

— Гэтая ўлада надоўга, а я хачу жыць. Дзеля жыцця я д'яблу служыць буду.

— Ты, канечне, жыві, але не за кошт іншых.

— Ты шчанюк яшчэ мяне судзіць. Ты нічога ў жыцці не бачыў, а я ўжо ўсяго пакаштаваў: і вайны, і палону, і лагераў, і ляснога брацтва...

— І шмат ужо людзей прадаў на гэтай службе? Нашых людзей...

— Нашых? А хто тут нашы? Ці не тыя, што цябе ледзь не павесілі? Я ўсё ведаю, мне сястра напісала, каб я пра цябе паклапаціўся. Дык ты з гэтымі лесавікамі адзін раз

сустрэўся, а я з імі з аднаго катла кашы папаеў. Яны табе за мяне помсцілі! Зразумееў ты гэта? Ты яшчэ смаркач папракаць мяне! Ты ведаеш, што мне выпала?..

— Што выпала, тое трэба прымаць як належнае, а ты падла прадажная.

Сцяпан размахнуўся і з усяе сілы стукнуў Багдана нагой у сцягно, закрычаў:

— Прэч адсюль, шчанюк, калі не разумееш, што табе людзі дабра жадаюць. Ты яшчэ прыпаўзеш да мяне, ды позна будзе...

Багдан сагнуўся ад болю, а калі падняў вочы, Сцяпана побач ужо не было.

— Ідзі да д'ябла,— сам сабе прабурчэў Багдан.— Ну, вось нагасцяваўся ў брата...

Багдан згадаў, што брат ніколі не любіў яго. Яшчэ ў маленстве Багдан часам чапляўся да яго, каб той узяў куды з сабою, аднак брат праганяў:

— Я табе не нянька, ідзі да дзяўчат.

Багдан пачынаў румзаць, але Сцяпана нельга было пранянць слязамі. Багдан крыўдзіўся на яго, аднак любіў і захапляўся ім. У трыццаць восьмым Сцяпана ўзялі ў польскае войска, служыў ён у Гдыні, там яго заспела другая сусветная вайна. Сцяпан апынуўся ў палоне. Сем гадоў не мелі родныя ніякіх вестак ад яго, не ведалі, ці жывы, ці загінуў. Маці ўсе вочы выплакала, а ён аб'явіўся толькі ў сорак шостым. Пра тое, што з ім было ўсе гэтыя гады, амаль нічога не расказваў, нібы яму балела нешта. І цяпер Багдан зразумеў, што ў тым мінулым збярог брат сваё цела, але загубіў душу, дагарае яна, адзін горкі попел ды балючае пякельнае вуголле засталося, што сагрэць ужо нікога не зможа, але бяды яшчэ наробіць.

У Львове жыло некалькі Багданавых аднавяскоўцаў, якія выехалі ў горад яшчэ да вайны. Багдан і раней часцяком наведваўся да старога Мірона, што меў свой закутак

на рынку, дзе рамантаваў абутак. Цяпер ён зноў накіраваўся да Мірона.

— Здароў, землячок!— узрадаваўся стары, убачыўшы хлопца.

— Добры дзень, дзядзька Мірон!

— Дзякуй, што не забываеш. Сядай, адпачні,— сказаў Мірон, выціраючы зэдлік і падсоўваючы яго Багдану.

— Ды што адпачываць, давай памагу якія атопкі падбіць. Што добрага чуваць тут у вас?

— Анічога, дзякаваць Богу, усё добра. Валька мая ездзіла ў вёску, дык табе перадачу прывезла, вунь сухары ды сыр сушаны.

— Як там мае?

— Ды ўсё добра як быццам. Вазьмі тую чорненькую торбачку, паглядзі.

Багдан падняўся, нецярпліва пачаў развязваць торбачку, якая данесла да яго пах роднай хаты, цяпло матчыных рук. Дастаў кавалачак сушанага сыру, жоўценькі, як сонца, пачаў грызці з сухаром.

— Ды ты, я бачу, зусім агаладаў,— сказаў Мірон.

— Усяляк бывае: часам густа, часам пуста.

Багдан дагрыз сухар, сеў за работу, дзядзька звычайна давяраў яму набіваць набойкі, а сам тым часам рабіў штонебудзь мудрэйшае.

— Слухай,— раптам усміхнуўся сабе ў вусы Мірон.— Хлопец ты хоць куды, дык чаму б табе ў прымы не прыстаць, неяк і давучыўся б.

— Вой, дзядзька Мірон, ды каму такі дармаед трэба?

— Не скажы, не скажы... Пасля вайны хлопцаў яшчэ доўга не будзе хапаць. А хочаш, я цябе з адною маладзічкаю пазнаёмлю, добрая маладзічка...

— Я не супраць, пазнаём.

— Ну, трымайся... Бач яго, які да дзяўчат ласы. Малады ды ранні.

Мірон падняўся з зэдліка, зняў скураны фартух, расцёр паясніцу, паморшчыўся ад болю, адкасаў рукавы гімнасцёркі, ускінуў на плечы кіцель, а наверх яшчэ патрапаны шынелік.

— Ну, хадзем, жаніх. Бо нешта ў цябе ад голаду і твар сцягнула, і жывот да хрыбціны прырос.

— Я ўчора ў брата гасцяваў.

— Яно, канечне, добра было б, каб раз на год наесціся ды быць сытым, але ж есці кожны дзень хочацца.

Мірон замкнуў свой катушок і накіраваўся ў буфет, што працаваў тут жа на рынку. Багдан ішоў следам, і яму было няёмка, што ён толькі і паспеў падбіць яму пару ботаў, а стары ўжо вядзе яго карміць. Хоць раней Багдан часцяком памагаў Мірону, але ж каму падабаецца адчуваць сябе жабраком?

Буфет быў маленькі, усяго на шэсць сталоў, але вітрына не скажаш што бедная. Тут табе і кілбаса, і кансервы, і пячэнне, і цукеркі, каб толькі грошы былі...

У буфеце ўладарыў немалады яўрэй з ружова-чырвоным тварам, бліскучаю лысінаю, аблямаванаю сівымі кучарамі, дапамагала яму маладая кабета ці дзяўчына, свежая і смуглявая, як персік.

— Добрага здароўя!— павітаўся Мірон.— Вой, Іваначка, ну і цвіцеш ты, вачэй не адвесці. Я вось табе жаніха прывёў.

— Дай вам Божа здароўечка, дзядзька Мірон, што пра мяне дбаеце. Паказвайце жаніха. Ды ён жа ў вас сарамлівы, як дзяўчына.

— Гэта, Іваначка, хутка пройдзе! Чаго ты, Багдан, за мяне схаваўся? Пакажыся, пакажыся... Дахадзяга трохі, але, як гаворыцца, абы косці...

Багдан ніякавата ўсміхнуўся на Міронавы словы, але жанчына бойка пачала распытваць, хто ён, чым займаецца, таму хлопцу давялося трохі расказаць пра сябе.

— Дык ты, значыць, бедны студэнт. Прыходзь сюды, тут табе справа знойдзецца, тое-сёе заробіш і галодны не будзеш.

Так Багдан пазнаёміўся з Іванкаю. І назаўтра, мінуўшы Міронаў катушок, заявіўся да сваёй новай знаёмай з позняю хрызантэмаю за пазухаю, што выламаў у гародчыку ў гаспадыні.

Іванка ўзрадавалася кветцы, як невядома якому дарагому падарунку, заўсміхалася прыязна:

— А я цябе чакала, усё цяжкую работу табе пакінула.

— Цяжкую работу я люблю.

— Тады паеш спярша.

Іванка паставіла перад Багданам вялізны куфаль піва, з высокаю пенаю, духмянага, залатога, салату з капусты, нарэзаную кружочкамі кілбасу, села насупраць, глядзела на яго па-мацярынску ласкава, нібы любавалася ім. Багдан адчуў лёгкі хмель ад выпітага піва, заўсміхаўся:

— Пасля такога абеду дык і на сон пахіліць.

— У мяне не заснеш, не засумуеш,— адказала Іванка і гарэзліва стрэльнула вачамі, нібы намякала не толькі на працу ў буфеце, але і яшчэ на нешта.

— Пабачым, пабачым.

— Пабачым, які ты работнік,— засмяялася Іванка, бліснула бялюткімі зубамі з-пад поўных, падмаляваных памадаю вуснаў, папраўіла шаўкавістую пасму валасоў, што выбілася з-пад белай шапачкі.

Багдан глядзеў на яе рукі, на яе вусны і думаў: "Як гэта жанчыны ўмеюць так сябе паводзіць, што кожны іх рух — нешта недагаворанае, таемнае, мо нават недасяжнае".

Ён яшчэ ў маленстве любіў назіраць за сёстрамі, як яны заплятаюць косы, акуратна падбіраючы валасы, як прыхарошваюцца каля люстэрка, папраўляюць каснічкі і хусткі, гарэзліва пасміхаюцца адна адной, гэтым іхнім рухам не было ні наймення, ні вызначэння, але бачыць — ужо насалода.

Цяпер ён з гэткім жа замілаваннем сачыў за Іванкаю, ідучы за ёю на склад. Яму падабаліся яе імклівая постаць, кучаравыя кудзеркі валасоў, што выбіліся на патыліцы з-пад шапачкі.

— Спярша паскладваем скрынкі. Ты станавіся на драбіну, а я буду табе знізу падаваць,— сказала Іванка.

— З задавальненнем,— адказаў Багдан і адзначыў, што і яна ўсё-такі трохі саромеецца яго.

Багдану хацелася выглядаць дужым і спрытным, ён хапаў цяжкую скрынку адною рукою, закідваў высока над галавою на паліцу, пры гэтым сіліўся яшчэ пажартаваць, каб рассмяшыць яе. Але, як знарок, скрынкі не ўкладваліся так, як хацелася, патрэбныя словы не знаходзіліся, [redacted] сам ён адчуваў сябе безабаронным перад гэтымі выразнымі цёмнымі вачамі, перад спакуслівымі поўнымі вуснамі. І нечага хацелася большага: ці то шчасця, ці то болю, каб вярнуцца ў рэальны свет з гэтай хмельнай бязважкасці, з варажбы і чараў жаночага позірку.

На выратаванне прыйшоў боль. Багдан знянацку падрапаў да крыві руку бляшанкаю, якою была абабіта скрынка. Ён пасмактаў рану, сказаў:

— Анічога, зажыве, як на сабаку.

— Злазь, гора ты маё чубатае, памажу ёдам, каб не нарвала.

Ёд апёк рану, але Багдан нават не скрывіўся, стрываў, пасля Іванка перавязвала яму руку, [redacted] ён стаяў і баяўся вольна дыхнуць, хоць вусны так і цягнуліся да смуглявай пяшчотнай шчакі, а рукі прагнулі абвіць стройны стан. Калі рука была перавязана, ён усё-такі не ўтрымаўся і цмокнуў яе ў шчаку, як бы з удзячнасці.

Яна здзіўлена і ўважліва паглядзела на яго, нібы прыцэньвалася, прапанавала:

— Хочаш, навучу цябе гандляваць. Нам з Якавам Саламонавічам часам падмены бракуе, бо і тавар трэба прыняць, і выручку здаць, ды ці мала што яшчэ. Словам, ты лішні не будзеш.

— Канечне, хачу,— узрадаваўся Багдан.— Цяпер я толькі цябе слухацца буду.

Багдану падабалася стаяць за стойкаю, абслугоўваць пакупнікоў, асабліва калі ў канцы дня ў буфет набівалася поўна мужчын, якія прагнулі піва. Тады Багдан увогуле стараўся, каб Іванка была як мага далей ад гэтых ліпучых кліентаў, ледзь не кожны з якіх гаварыў ёй кампліменты і прызнаваўся ў каханні. Багдан слухаў мужчын, зайздросціў іхняй раскаванасці і незалежнасці, здзіўляўся, што Іванка зусім не крыўдуе на іхнія заляцанні, а, наадварот, задаволена пасміхаецца, ружавее і ад гэтага робіцца яшчэ больш прывабнаю.

Світалачка мо не прыгажэйшая, але яна іншая, свая, ціхая, сарамлівая, яна і цалавацца яшчэ саромеецца, толькі ў ёй Багдан бачыць сваю будучую нявесту, якая якраз падрасце да таго часу, калі ён адслужыць у войску.

Іванка яму падабаецца таксама, але ён пабойваецца яе ды і не ўмее быць такім дасціпным і адважным, як гэтыя мужчыны, што жлукцяць піва без ніякае меры. Дзе яны толькі грошы бяруць? У вёсцы ж галеча, каб не мелі людзі гародаў, дык з голаду паўміралі б. А гарадскіх ніякая халера не бярэ. Хоць не яго гэта справа, ён павінен адпрацаваць за абед, яшчэ прамільгнула думка, што трэба было б трохі цукерак непрыкметна ўзяць Світалачцы. Так Багдан і зрабіў, як застаўся за прылаўкам адзін, сыпнуў жменю "Мішак на Поўначы" ў кішэню.

Амаль тры гадзіны адстаяў ён ля бочкі з півам, нават стаміўся трохі, прысеў з палёгкаю, як толькі Іванка зачыніла дзверы за апошнім наведвальнікам.

— Стаміўся?— спагадліва спытала яна.— А я гэтак з дня ў дзень кручуся. Ледзь жывая дамоў прыпаўзаю.

Са склада вынырнуў Якаў Саламонавіч з цяжкімі акулярамі на лобе, заклапочана выцягнуў з шуфляды грошы, пачаў пералічваць, дваццацьпятку падаў Багдану:

— Трымай, хлопец, за работу.

— Дзякую,— сумеўся Багдан.— А ці можна гэтак?

— Гэта не толькі можна, гэтак трэба, кожны працаўнік павінен атрымліваць плату за працу, каб рабства не заводзілася, разумееш?

Багдан схаваў грошы ў кішэню, і на душы ў яго зрабілася зусім добра ад адчування ўласнай годнасці і самастойнасці.

Іванку ён правёў да самае хаты, аказалася, што жыве яна на суседняй вуліцы і ім амаль па дарозе. Гаварылі пра пражыты дзень. А Багдан усёй душою імкнуўся да Світалачкі, каб пачаставаць малую цукеркамі.

— Можа, зойдзем да мяне,— прапанавала Іванка.— У мяне мама і сын.

— Сын? А муж дзе?

— Хіба ты не ведаў? Не сказаў табе Мірон? Муж загінуў летась у леспрамгасе, няшчасны выпадак...

— А сын вялікі?

— Тры гады... Пайшлі?

— Не, няёмка неяк, лепш іншым разам. Позна ўжо...

— Іншым дык іншым,— згадзілася Іванка, нібы пакрыўдзілася.— Тады бывай! Прыходзь заўтра.

— Абавязкова прыйду!— на хаду адказаў Багдан, спяшаючыся да Світалачкі, каб парадаваць дзяўчынку ды запрасіць у кіно. Толькі як цяпер вольны час знайсці? А мо Іванку таксама ў кіно звадзіць? Дзіўная яна, Іванка, нібыта і ўвагі на Багдана не звяртае, а ён увесь час адчувае на сабе яе позірк — то з дакорам, то з мальбою, то з недаверам. Не пералічыць, што без слоў гавораць яму яе вочы, вусны, яе рукі.

Гаспадыня сустрэла Багдана навіною, што заходзіў Сцяпан, прасіў яго наведацца ў бліжэйшы час. Багдан падзякаваў, а сам падумаў: “Скулу яму ў бок! Не дачакаецца! Мне чужыя людзі раднейшыя за такога брата...”

Багдан зайшоў у свой пакойчык, прылёг на ложак, абдумваючы сітуацыю. Успомнілася апошняя сустрэча са Сцяпанам і Віннікавым. Не, яны так проста не адчэпяцца. Трэба, відаць, у хуткім часе памяняць кватэру, давучыцца ў вучылішчы, а пасля з'ехаць у глухую закарпацкую вёсачку і жыць спакойна цэлую вечнасць. Гэтым і супакоіўся. Пачаў думаць пра Світалачку, чаму яна не выйшла на яго голас. Няўжо спіць?

Ён падняўся, прыгладзіў валасы, пышныя, непаслухмяныя, паглядзеўся ў люстэрка, падаўся на кухню, дзе гаспадыня яшчэ бразгала посудам.

— Клічце, цёця Вольга, Святлану, будзем піць чай з цукеркамі,— Багдан сыпнуў жменю "Мішак" на стол.

— Божа, які цуд! Светка! Светка, хадзі сюды!— паклікала яна дачку.

Світалачка з'явілася ў дзвярах з капрызліва нахмуранымі броўкамі: маўляў, навошта я вам спатрэбілася?

— Светка, паглядзі, якія цукеркі!— сказала маці.

Дзяўчына ўбачыла цукеркі, не стрымалася, засвяцілася:

— Я такія апошні раз яшчэ да вайны ела.

— Будзем, дзеткі, чай піць.

Багдан любіў сядзець з гэтымі жанчынамі ў кухні, слухаць іх і маўчаць, гэта быў яго ціхі прытулак, дзе яго чакалі і любілі. Гаспадыня часта называла яго жартам "мой зяцёк", а Світалачка цягнулася да яго ўсёй сваёю светлатою і непасрэднасцю, як трава да сонца.

— А дзе ты быў цэлы дзень?— папыталася Света.

"Дык вось чаму яна такая надзьмутая была,— здагадаўся Багдан.— Раўнавала і сумавала, напэўна".

— Да земляка свайго заходзіў, да дзядзькі Мірона, памог яму чаравікі падбіваць, вось і зарабіў на цукеркі.

— Ты, Багданчык, не хадзіў бы позна, такі час трывожны, крый Божа, на якіх разбойнікаў нарвешся, ні за што зарэжуць.

— Каму я трэба?— адказаў Багдан, а сам падумаў: "Галоўнае, каб родны брат мяне не чапаў, а больш мне няма каго баяцца".

Цётка Вольга пасядзела яшчэ крыху за сталом ды патупала спаць, бо ёй заўтра раненька трэба было ўставаць на завод, а Багдан са Светаю засталіся ў кухні. Ён цалаваў яе, трымаў на каленях, але нешта яму сёння замінала, час ад часу перад вачамі ўзнікала Іванка, пазірала задуменна і сумна, дакарала ці даравала.

Іванка нават прыснілася яму. Нібыта яны ішлі побач па люднай вуліцы, і раптам яго закруціла ў гэтым людскім віры, ён пачаў аддаляцца і згубіў яе зусім у шэрым натоўпе.

Паступова Багдан звык да работы ў буфеце, амаль не стамляўся ад наведвальнікаў і тлуму. Акрамя таго, што Якаў Саламонавіч плаціў яму за працу, хлопец употайкі браў сабе яшчэ пару дзесятак з касы, бо разумеў, што такому вопытнаму гандляру, як Якаў Саламонавіч, гэта не страта. З Іванкаю ў Багдана былі добрыя сяброўскія адносіны, у ёй ён бачыў сталую жанчыну, прыгожую, мо не з вельмі ўдалым лёсам. Ён стараўся быць уважлівы да яе, бо гэта толькі дзякуючы ёй ён акрыяў і мае магчымасць жыць незалежна, не галадаць. Гэта трэба было цаніць і плаціць удзячнасцю. Ён і плаціў як мог. Стараўся ў буфеце быць карысным і патрэбным. Калі бачыў, што Іванка хінецца да яго, прытуляў маладзіцу да сябе, цалаваў. Душа яго кроілася надвое паміж Світалачкаю, якую ён бачыў сваёю нявестаю і будучаю жонкаю, і Іванкаю, да якой яго цягнула цяпер.

Аднойчы Іванка прывяла з сабою на працу сына. Таўставаты, сур'ёзны, з вялізнымі цёмнымі вачамі, ён па-гаспадарску пахаджваў па буфеце, пільна разглядваў сталы, крэслы, вітрыну.

— Ого, Іванка, які ў цябе целаахоўнік!— сказаў Багдан і павітаўся з малым за руку.

— Ага! Бяда толькі, што часта на рукі просіцца, каб паднесла.

— Нічога, пад старасць ён цябе будзе насіць,— картава адгукнуўся з-за сцяны Якаў Саламонавіч.

— Нешта не бачу я, каб сыны матак насілі...— адказала Іванка Якаву Саламонавічу і звярнулася да Багдана:— Няньку шукала на тры дні, маці ў вёску паехала, ды ніко-

га не знайшла, сюды прывалакла, падумала: будзем з табою наглядаць па чарзе.

Той дзень выдаўся як усе астатнія, хіба толькі з адзінаю розніцаю, што, праводзячы Іванку дахаты, Багдан нёс на руках яе сына. Малы круціўся на руках, то цягнуўся да навіслай над галавою галіны, то яму трэба было дастаць зорку, нешта шчабятаў. Іванка ішла побач ціхмяная і задуменная. А Багдан адчуваў сябе ніякавата, нешта не стасавалася ў яго душы, ён стараўся ні пра што не думаць. Спыніліся каля весніц. Вокны ў хаце былі непрытульна цёмныя.

— Так баюся адна начаваць. Страшна нават у хату заходзіць.

— А чаго тут баяцца, замкніся на замок ды і спі сабе. А ты, Васько, таксама баішся?

— Я не ведаю,— адказаў малы.

— Заначуй у нас,— папрасіла Іванка.

Багдан нічога не адказаў, бо сам не ведаў, як тут быць, але пайшоў следам за Іванкаю ў хату. Світалачка і яе маці будуць хваляваццa і чакаць свайго кватаранта. З другога ж боку, хіба ён абавязаны даваць ім справаздачу, дзе і з кім быў? Ад яго патрабуецца спраўна плаціць за кватэру, а астатняе няхай нікога не турбуе.

— Вось тут мы і жывём,— сказала Іванка, праводзячы Багдана ў вялікі пакой.— А там у нас баковачка, там кухня.

— Добрыя харомы!— пахваліў Багдан хату, хоць хата была як хата, праўда, усё заслана вышыванымі сурвэткамі, завешана ручнікамі, нібыта гэта зусім вясковае жытло, а не гарадское.

Іванка зняла паліто і пачала распранаць Васька, той капрызіў, цёр кулачкамі вочы, відаць, змарыўся за дзень.

— Зараз, зараз пакладу цябе спаць, гора чубатае,— супакойвала яна дзіця.

— Не хачу спаць,— пазяхаў Васько.— Не хачу!

— Канечне, не хочаш, але будзеш,— сказала Іванка і панесла малога ў другі пакой, скуль даўгавата не выходзіла, угаворвала і ўкладвала малога.

Багдан нават не распрануўся, сеў да стала, засланага вышываным абрусам, чакаў Іванку. Гэтае чаканне вырастала ў непераадольную сцяну адзіноты і няпэўнасці. Яна маладая адзінокая жанчына, а ён проста баіцца яе, саромеецца сваёй няўмеласці, свайго няведання. Хіба сёння яна запрасіла толькі дзеля таго, каб ён вартаваў яе ўначы? Як паводзіць сябе з ёю? Калі б у яе быў нехта іншы, дык, напэўна, яна запрасіла б таго, іншага, ■ не Багдана. І чаго яе баяцца, калі яны столькі разоў цалаваліся на развітанне? Яна ніколі не пазбягала яго пацалункаў.

— Нарэшце ўгаманіўся. Такая юла, што будзе, як падрасце?— сказала Іванка, уваходзячы ў пакой.

— Усё будзе добра, жывы чалавек расце,— сказаў Багдан і падняўся з-за стала.

— Вой, ты нават не распрануўся. Запрасіла ў госці, называецца,— схамянулася яна.— Здымай паліто, здымай.

Багдан зняў паліто, павесіў на вешалку каля дзвярэй. Іванка падышла да яго, прытулілася да грудзей, прыціхла. Ён знайшоў яе вусны і доўга не мог адарвацца, такою жаданаю, такою салодкаю яму была яна цяпер. І ўсе астатнія іх словы і рухі былі доўгім і непрабудным сном, нібыта яны разам плылі па чорнай падземнай рацэ, над імі схілялася нізкае — не падняць галавы — неба пячоры, а імклівая плынь часу несла іх усё далей і далей насустрач невядомай яснасці і палёгцы.

Іванка стала яго першаю жанчынай, якую ён асцярожна і напружана спасцігаў, якой шаптаў словы, поўныя пяшчоты і лагоды, а яна ў адказ таксама нешта гаварыла яму цёплае, ад чаго ён адчуваў сябе дужым і ўпэўненым. І толькі калі яна замаўкала, аціхала побач, у ім раўніва пачыналі варушыцца сумненні.

Раніцай, па-восеньску позняй, калі яшчэ і за вокнамі не шарэла, іх разбудзіў Васько. Не ўспаўся малы, прыбег

босенькі ў адной сарочцы да іхняга ложка. Іванка сумелася, хуценька падскочыла, усцягнула на сябе халат, пайшла ў кухню.

— Хачу да таты! Хачу да таты!— учапіўся малы за коўдру, спрабуючы ўскараскацца на ложак.

— Ну, хадзі, хадзі сюды,— Багдан падхапіў яго на рукі, пасадзіў сабе на жывот.— Паехалі на коніку.

— Но! Но!— загарлапаніў малы.

Багдан ляжаў і думаў: "Вось і асядлалі! Які я яму бацька? І хто я цяпер Іванцы? Не, ні мужам, ні бацькам сябе не ўяўляю. І не хачу гэтага..."

Ён спусціў Васька на падлогу, крыкнуў Іванцы, каб яна пачула ў кухні:

— На заняткі спазнюся, трэба бегчы.

— З'еў бы хоць што.

— Няма калі.

— У буфет прыйдзеш?

— Пастараюся.

Яму хацелася хутчэй вырвацца з гэтае чужое хаты, вызваліцца з палону жаночых вачэй, асэнсаваць тое, што адбылося.

Ён сапраўды спазніўся на першую лекцыю і, каб не трапляць лішні раз на вочы выкладчыкам, да перапынку пахадзіў па вуліцы. У вучылішчы ён асабліва ні з кім не зблізіўся, хоць нешта накшталт сяброўства завязвалася ў яго з Міколам, з якім ён сядзеў за адным сталом у класе. Мікола быў тутэйшы, гарадскі, меў сваю кампанію. Багдан колькі разоў нават хадзіў з ім на вячоркі, пазнаёміўся з гарадскімі дзяўчатамі. Бяда толькі, што Багдану не хапала часу на прагулянкі.

Цяпер Багдана турбавала і тое, што няёмка яму прыходзіць на старую кватэру позна ўвечары, а тым больш не начаваць, не папярэдзіўшы. Варта было б памяняць кватэру, па-першае, яго не хутка адшукаў бы Сцяпан, а падругое, ён здолеў бы захаваць сваю незалежнасць ад Светы і Іванкі, хоць абедзве яму былі патрэбныя цяпер. З

гэтымі думкамі ён і прыйшоў на заняткі, павітаўся з хлопцамі за руку, група ў іх была мужчынская.

— Чаго праспаў?— папытаўся Мікола.

— Зоркі лічыў, ды не паспеў злічыць.

— Гэту справу ўдваіх звычайна робяць, тады, кажуць, паспяваюць.

— А я лічыў, лічыў, а пад самае ранне збіўся.

Згадка пра мінулую ноч цёплаю хваляю пракацілася па целе.

— Закахаўся, па вачах бачу, закахаўся,— засмяяўся Мікола.

— Паслухай, мне кватэра трэба. Мо каго ведаеш?

— На дваіх?

— На аднаго, я не жартую.

— Не ведаю... Хаця як вельмі трэба, дык перасяляйся да мяне, у мяне асобны пакой, памесцімся.

— А маці дазволіць?

— Я пагавару з ёю, а заўтра тады можна будзе цябе перавезці.

— Дзякую!— без лішніх слоў Багдан па-мужчынску пацiснуў Міколаву руку.

Багдан паспакайнеў, засяродзіўся на тым, што гаварыла выкладчыца. Была гэта стройная прыгожая жанчына з дзівоснымі залатымі валасамі, укладзенымі ў высокую прычоску. Адно вока ў яе трохі касіла, нельга было зразумець, на каго яна пазірае. Багдан увесь час стараўся злавіць яе позірк, але яму гэта не ўдавалася. Зноў успомнілася Іванка, нават не думкамі, а нейкімі цёплымі адчуваннямі мінулае ночы, нібыта ён запомніў яе кожнаю клетачкаю цела, падсвядома. І ўспаміналася ўсё так яскрава, быццам яна цяпер была з ім побач.

Цётка Вольга сустрэла дома Багдана папрокам:

— Ты, хлопча, як не збіраешся начаваць дома, дык папярэджвай. Бо я ўжо хацела ў міліцыю заявіць, што чалавек прапаў.

— Ды я ў сябра заначаваў, рыхтаваліся да заняткаў. Заседзеліся позна, а жыве ён на тым канцы горада, вось так і атрымалася...

— Вой, Багданчык, цяпер такі час неспакойны. Ды і Сцяпан зноў да цябе прыходзіў, турбаваўся, а мне няёмка, што нічога не магу сказаць, дзе ты, што з табою.

— Ведаеце, цёця Вольга, я вырашыў перасяліцца да таго сябра. Мне з ім зручней карыстацца аднымі падручнікамі, бо на ўсіх не хапае.

— Дык хоць адрас пакінь.

— Не хвалюйцеся, я да вас буду часта наведвацца, я вам вельмі ўдзячны за ўсё...

— А мо жыві ў нас, сынок, куды ты пойдзеш?..

— Ну, як адтуль выганяць, дык зноў да вас вярнуся. Прымеце?

— Прымем, прымем...

Багдан хуценька сабраў свае пажыткі, якія змясціліся ў невялічкі чамадан. Сёння ён вырашыў зноў заначаваць у Іванкі, пакуль яе маці гасцюе ў вёсцы, а потым пасяліцца ў Міколы. Дзіўнае жыццё ў яго пачыналася. Ён глядзеў на сябе збоку, нібыта гэта не ён, а нехта іншы жыў на свеце, а ён толькі пасміхаўся і дзівіўся з яго. Багдан нават па бацьках ужо не сумаваў, як раней.

Тры дні пражыў Багдан у Іванкі, а потым толькі сабраўся да Міколы. Іванка, праводзячы яго да весніц, горка пасміхалася.

— Чаму такія вочы сумныя, Іваначка? Мы ж будзем бачыцца штодня.

— Застаўся б тут, назусім...

— Дык сёння ж твая маці вернецца, няёмка неяк.

— Што ж тут няёмкага, калі ў нас усё было?..

— Іванка, ну хто я? Каб хоць вучылішча дабіць. Жыву з тваёй ласкі. Мужчына павінен сям'ю карміць. А што я магу?

— Ідзі,— абарвала яна гэтую цяжкую размову.— Я буду чакаць цябе штодня ў буфеце. Варажыла я на цябе ў

адной варажбіткі. Сказала яна мне, што хлопец ты добры і мяне кахаеш, але са мною не будзеш. Чакае цябе дальняя дарога ў казённы дом... Ідзі, ідзі. Я буду чакаць.

Багдан і ўявіць сабе не мог, што гэтак лёгка і проста зжывуцца яна з Міколам. Першыя дзве ночы дык прагаварылі навылёт. І адкуль тыя думкі і словы браліся?

Мікола жыў з маці ў двухпакаёвай кватэры. Бацька яго загінуў на вайне недзе пад Берлінам. Маці працавала санітаркаю ў бальніцы і яшчэ дома шыла трохі людзям, асабліва шмат дзяўчат прыходзіла да швачкі, і амаль кожнай кліентцы жанчына гаварыла адзін і той жа камплімент:

— Якая паненка гожая. Нічога не хацела б, каб толькі мне Бог паслаў такую нявестку.

Дзяўчына расцвітала ў адказ удзячнаю ўсмешкаю, і другі раз, як трэба было што пашыць, прыносіла толькі да цёткі Лізы.

Багдан хутка прывык да гэтае не надта прыбранае кватэры, дзе скрозь валяліся абарваныя ніткі, латкі, купамі ляжалі сфастрыгаваныя сукенкі і яшчэ не кранутыя кавалкі тканіны, таўкліся чужыя людзі. Тут Багдан знаёміўся з дзяўчатамі, як было жаданне, праводзіў іх дахаты, але не забываў пра сваіх Іванку ды Світалачку.

Сплыла паводкаю зіма, добрае вясновае сонца падоўжыла дні. Багдану не хацелася сядзець у чатырох сценах, яны амаль не разлучаліся з Міколам, скрозь хадзілі разам: у кіно, на футбол. Ды ў такім дзівосным горадзе можна цэлы дзень проста хадзіць па вуліцах, разглядаць будынкі. Будзеш глядзець, не нагледзішся.

У той дзень Багдан з Міколам выправіліся на спатканне да Світалачкі, якая таксама павінна была прыйсці са сваёю сяброўкаю. Хлопцы не спяшаліся, мелі час, ішлі доўгаю дарогаю па вуліцы Хмяльніцкага. У Багдана настрой быў прыўзняты, ён гаварыў узрушана:

— Ведаеш, Мікола, прырос я да гэтага горада, люблю тут трамваі, брукаванку, скверы і паркі, будынкі... Са страхам думаю, што давядзецца хутка паехаць адсюль у нейкую вёску.

— Як вельмі захочаш, дык можаш і застацца тут назаўсёды.

— Ты ведаеш, гэты горад наколькі адкрыты, настолькі і загадкавы, нібы таямніцы нейкія хавае.

— Канечне, хавае,— згадзіўся Мікола.— Тут шмат старажытных будынкаў. Ну, вось якраз падыходзім да царквы Ануфрыя, яшчэ ў часы княжання Льва Данілавіча, сына заснавальніка горада, тут пасяліліся манахі. Спачатку на гэтым месцы стаяла драўляная царква, пасля ў XVI стагоддзі паставілі каменную, праўда, яе таксама шмат перабудоўвалі пасля пажараў...

— Дык на ёй мо старадаўняга нічога не засталося?

— Затое магілкі засталіся, а там пахаваны Іван Фёдараў, што ў Львове занядбанае друкаванне аднавіў, як ён сам казаў.

— Слухай, адкуль ты ўсё гэта ведаеш?

— Ды цікаўлюся часам. Такі горад! Адна назва чаго вартая.

— Мне таксама падабаецца. Як будзе ў мяне калі сын, абавязкова назаву Львом.

— А замашкі ў цябе каралеўскія. Падаўся б ты лепш у будаўнікі, дык мо храмаў якіх хоць набудаваў бы ў горадзе. Азірніся, вунь крыжы бачыш, гэта касцёл Івана Хрысціцеля. Па паданні, ён пабудаваны для жонкі князя Льва, Канстанцыі — дачкі венгерскага караля Белы IV. Тут кожны будынак мае сваю гісторыю і сваю таямніцу. Я мару калі-небудзь напісаць кнігу пра мой горад, пра яго людзей, а цяпер проста назапашваю матэрыял.

— У цябе атрымаецца. Я ўпэўнены. У цябе ж не галава, а энцыклапедыя. Як ты гэтыя даты запамінаеш? Дзіва проста дзіўнае!

— Не суроч. Плюнь тры разы. Я табе адкрыў самую запаветную тайну, не прагаварыся каму, бо пачнуць хлопцы смяяцца.

— Хлопцы мо і смяяліся б, а вось дзяўчаты нашы калі даведаюцца, дык абедзве ў цябе закахаюцца.

— Кінь ты. Не падабаюся я дзяўчатам.

— А раптам мая Світалка прывядзе непрыгожую дзяўчыну. Што будзеш рабіць?

— Мая маці кажа, што непрыгожых дзяўчат не бывае. Любой скажы добрае слова, адразу прыгажэе і дабрэе.

— Твая маці — мудрая жанчына.

— Уся мудрасць у тым: калі чалавек добры, дык і прыгожы. А злосны адварочвае ад сябе ўжо адным позіркам. А ўвогуле мне ўсе дзяўчаты падабаюцца, здаецца, кахаў бы ўсіх адразу.

— З цябе будзе толк, хутка ажэняць.

— Ды і ты, відаць, не захаласцякуеш...

Яны абняліся, выказваючы прыязнасць адзін аднаму, пачалі дужацца проста пасярод вуліцы, пасля схамянуліся, засмяяліся, пайшлі ў бок плошчы, дзе каля "Чорнае камяніцы" іх павінны былі чакаць дзяўчаты. Занятыя гаворкаю, яны і не заўважылі, як перад імі ўзніклі тры чалавекі ў шэрых гарнітурах, з нейкімі стандартна строгімі тварамі.

— Органы бяспекі,— коратка сказаў адзін, запыняючы хлопцаў, кіўнуў сваім памочнікам, і тыя ў адзін момант скруцілі Багдану і Міколу рукі за спіною, абмацалі кішэні.

— Што вам трэба?— абурыўся Мікола.

— Маўчаць! Вы арыштаваныя. Пайшлі.

Іх вялі да турмы вячэрнім горадам, які толькі пачаў запальваць агні, рыхтаваўся да адпачынку. Недзе каля "Чорнае камяніцы" чакалі іх дзяўчаты, недзе Міколава маці варыла вячэру, а іх вялі ў няволю. Гэтае слова "бяспека" людзі баяліся і ўспамінаць лішні раз.

Бадай, няма большага прыніжэння, чым тое, калі цябе гвалтоўна хапаюць і вядуць са скручанымі рукамі па вуліцы. А ўслед табе азіраюцца людзі, хітаюць галовамі. Зразумела, героем у іхніх вачах ты не выглядаеш, хутчэй пакутнікам. І ты сапраўды пакутуеш ад адчування сваёй бездапаможнасці, ад няведання і неразумення сваёй віны. Зрэшты, так ужо заведзена ў людзей, калі цябе крыўдзяць, дык ты сам і вінаваты.

У турме хлопцаў развялі па камерах-адзіночках. І як толькі за Багданам грукнулі дзверы, яму здалося, што ад яго адгарадзілі ўвесь свет, усё добрае, і цяпер толькі зло мае правы на яго асобу. Ён не адчуваў за сабою ніякае віны, гэта яшчэ больш насцярожвала і палохала, бо калі бязвіннага чалавека можна проста на вуліцы ні за што арыштаваць, дык што ім перашкодзіць асудзіць гэтага чалавека або проста знішчыць.

Што такое чалавек увогуле? Гэта згустак жывых клетак, які выпадкова нарадзіўся і гэтак жа выпадкова можа загінуць. І толькі ты сам павінен клапаціцца пра сваё жыццё, абараняць яго і доўжыць, калі табе выпала такое шчасце з'явіцца на гэты свет.

Ён доўга не мог заснуць, круціўся на мулкім ложку, супакойваў сябе: "Я ні ў чым не вінаваты. Мо гэта Мікола чым правініўся, якую забароненую кніжку чытаў? А мяне загрэблі з ім за кампанію? А мо Сцяпан помсціць? Нічога, я за сябе пазмагаюся. Што яны мне зробяць? Як там Світалачка? Напэўна, пакрыўдзілася на мяне. А заўтра ў буфеце будзе, чакаць Іванка, таксама невядома, што падумае..."

Яму захацелася прайсці скрозь сцяну, як гэта часта ўдавалася ў снах, вырвацца на волю, жыць незалежна ад усіх і ўсяго.

Пасля ва ўяўленні выплылі твары бацькоў. Маці, немаладая ўжо, стомленая жыццём, памоліцца перад сном і мо нават не адчуе сэрцам, што з яе малодшанькім здарылася бяда. І бацька на прызбе дакурыць цыгарку, патушыць,

прытопча абцасам, паўзіраецца ў начное неба, прыкідваючы, якое надвор'е будзе заўтра. Што Багдану вядома пра яго? Быў на грамадзянскай вайне, змагаўся з чырвонымі ў войску Пятлюры, трапіў у палон. Па ўказу Леніна вярнуўся дамоў. Бацька не любіў гаварыць пра вайну, не любіў успамінаў, адмахваўся ад дакучлівага Багдана; маўляў, што там успамінаць, кроў, пот, бруд і смерць — вось і ўся вайна. Ворагу не пажадаеш такое перажыць. Але часам нешта ўсё-такі ў ім прарывалася, ён адкрываўся на момант і зноў хаваў душу глыбока, толькі вочы глядзелі з горкаю ўсмешкаю, якую цяжка было зразумець.

Аднойчы на раённым кірмашы паказаў бацька Багдану незнаёмую кабету і сказаў:

— Вось гэта мая нявеста была. Любіў яе болей за жыццё. Але доля вырашыла ўсё па-свойму. Твой дзед загадаў ажаніцца з братавай удавою, інакш, сказаў, не дасць поля. Як мне балела, як балела...

— Чаму ж ты яму не растлумачыў?

— Тады дзеці бацькоў слухаліся, не тое што цяпер,— сумна пасміхнуўся бацька ў абвіслыя вусы.

Багдан, успамінаючы гэта, кожны раз думаў: калі бацька ажаніўся б з тою жанчынаю, дык Багдан ужо не быў бы Багданам, а быў бы нехта зусім іншы, мо нават дзяўчына якая атрымалася б. Выходзіла, што нявдзейсненае бацькава шчасце падаравала Багдану жыццё.

Хлопцава душа яшчэ трохі пакружляла над родным котлішчам, супакоілася і заснула.

Уначы яго вывелі на допыт. Спрасонку ён ніяк не мог сцяміць, чаго ад яго патрабуюць. Пасля, калі трохі ачомаўся, назваў сваё прозвішча і імя, сказаў, дзе вучыцца, дзе жыве. Пытанні следчага яму ўрэшце надакучылі, і ён абурыўся:

— Вы схапілі мяне, прывялі сюды без ніякае прычыны ды яшчэ распытваеце, хто я ды што я.

— Такі парадак. І дзеля цябе выключэння рабіць не будзем. Хаця, канечне, пра цябе мы ведаем усё. Але злачынца сам павінен расказаць следству, у чым ён вінаваты.

— А ў чым я вінаваты? Што я такога зрабіў?— устрывожана запытаўся Багдан. Яго прыгнятаў гэты замкнёны, без вокнаў, пакой, рэзкае святло ад лямпы без абажура біла ў вочы, яму не падабалася варожасць гэтых двух людзей, якія вялі допыт. Адзін пытаўся, а другі запісваў.

— Падыдзі да стала, паглядзі ўважліва на гэтыя фотаздымкі. Каго з людзей ведаеш, пакажы, раскажы пра іх,— сказаў следчы.

Багдан наблізіўся да стала, убачыў некалькі дзесяткаў фотаздымкаў, раскладзеных на стале. Твары былі пераважна маладыя мужчынскія, зрэдзь дзявочыя, але ўсе незнаёмыя.

— Я не ведаю гэтых людзей.

— Ты прыгледзься, прыгледзься. Гэта злачынцы і здраднікі, гэта бандэраўцы, якія яшчэ хаваюцца ў лясах.

— Адкуль я магу іх ведаць?

— У цябе, хлопча, памяць дзявочая. Ты ж з імі сустракаўся, як ездзіў да сястры. Што яны табе казалі? Чым купілі?

— Яны мне казалі тое, што і вы тут. Яны хацелі мяне павесіць. А вы таксама нешта задумалі.

— Ну, вось і ўспомні, як яны выглядалі? Пра што пыталіся? Вось табе ліст паперы. Напішаш усё падрабязна пра тую сустрэчу.

Багдан вярнуўся ў камеру. Галава гарэла, ён кіпеў гневам. Выходзіла, што гэта Сцяпан данёс на яго. Родны брат па маці! Дапамог, падсобіў. Цяпер паспрабуй апраўдайся. Ён упаў на ложак, ляжаў нерухома і знясілена, прыгнечаны цяжкімі прадчуваннямі. Праз колькі хвілін пачуў злосны голас наглядчыка з-за дзвярэй:

— Устаць! Спаць трэба ноччу. Удзень можна толькі сядзець.

Багдан не варухнуўся. Заклацаў ключ у замку, і Багдан зразумеў, што вымушаны падпарадкавацца гэтай нахабнай сіле і турэмным законам. Падняўся, стаў насупраць акна, паўзіраўся ў чыстае ранішняе неба праз краты. На вочы нагарнуліся слёзы.

Другі раз яго павялі на допыт апоўначы ў той самы глухі пакойчык з голаю лямпаю на сцяне. Зноў яму давялося адказаць на тыя самыя пытанні, што і ў мінулы раз.

— Дык ты нікога на фотаздымках так і не пазнаў?— папытаўся следчы.— Паспрабуем інакш.

Ён падняўся з-за стала, узяў у кутку гумовы кій, выгнуў яго, нібы правяраючы, сказаў Багдану:

— Пагаворым?— нахіліўся над самым хлопцавым вухам і закрычаў:— Адказвай, калі ў цябе пытаюцца!

Багдан ажно ўздрыгнуў ад нечаканасці, і ў гэтую хвіліну адчуў цяжкі пякучы ўдар па спіне палкаю, сцяўся перад новым ударам. Ён не плакаў, толькі стагнаў і ўскрыкваў, калі немагчыма было трываць боль. Пасля раз'юшаны кат зваліў яго з табурэткі, і ў Багдана не было сілы, не было жадання падымацца з падлогі. Наперадзе была доўгая ноч. Калі падняцца, напэўна, будуць біць яшчэ.

Калі Багдана прывялі на допыт трэці раз, ён убачыў за сталом на месцы следчага Сцяпана. На стале ляжаў Сцяпанаў капялюш.

— Э, браток, ды цябе не пазнаць. Што гэта з табою зрабілася?— пасміхнуўся Сцяпан.

— Маўчы, Юда,— адказаў Багдан і адвярнуўся.

— Ты тут не вельмі выбрыквай. Ніхто з табою цацкацца не будзе. Адправяць туды, дзе нават белы мядзведзь не зімуе.

— Ты мяне не палохай. Я ні ў чым не вінаваты, і ты гэта ведаеш. Тыя твае сябры мяне вешалі, а гэтыя забіваюць. Я праз цябе пакутую!

Няголены амаль месяц, Багдан аброс мохам, бо якая там яшчэ барада была. Схуднелы на турэмнай нішчымніцы, пабіты, на момант ён выклікаў у Сцяпана спачуванне, але дзёрзкасць хлопцава была недаравальная.

— А скуль я магу ведаць, што ты не вінаваты? Дапамагаць органам ты адмовіўся. Памяняў кватэру, мяне пазбягаеш, думаў, схаваешся? Памыляўся.

— Ты не брат мне. Ты вораг! Забойца!

— Годзе скавытаць, як баба. Словам, так: у цябе адно выйсце. Падпісвай абавязацельства, што будзеш працаваць на органы — і будзеш вольны.

— Ніколі!

— Тады згніеш тут, а я пальцам аб палец не ўдару, каб табе дапамагчы.

Сцяпан глядзеў на ўпартага малодшага брата і ў душы смяяўся. Яшчэ не такіх ламалі, а гэты смаркач з сябе героя робіць. Паглядзім, што ён праз месяц заспявае. Яшчэ ён не ведае, у што здатны ператварыць чалавека голад і холад. А страх страціць жыццё?! Сам Сцяпан прайшоў усё гэта ў нямецкім палоне. Тады чалавечае жыццё не каштавала нічога. Немцы знарок стваралі такія ўмовы, што слабыя паміралі, а тыя, хто заставаўся жывы, згодны былі на любыя ўмовы, на ўсялякую працу, абы выжыць. Побач паміралі сябры, аднапалчане, але кожны быў засяроджаны на сабе, на сваім жыцці, на сваім голадзе. Людзі вар'яцелі з-за міскі баланды, звярэлі, трацілі ўсё чалавечае ў сабе.

Аднойчы Сцяпан прачнуўся, нібы ад штуршка. Аказалася — ад чужых вачэй. Над ім схіліўся чалавек са шкельцам у руцэ, відаць, хацеў зарэзаць. Сцяпан закрычаў. Той адскочыў і знік у цемры. А раніцаю знайшлі ў суседнім бараку зарэзанага і пагрызенага чалавека.

Не, моцных людзей мала. Сцяпан шмат у жыцці пабачыў. А гэты шчанюк больш за тыдзень не пратрымаецца, у яго ўжо цяпер рукі калоцяцца, голас зрываецца. Кожны павінен атрымаць належнае...

Багдан вярнуўся ў камеру, злосны і стомлены. Ён ненавідзеў брата лютаю нянавісцю, якая, як яму здавалася, не пакіне яго ніколі. Гэта ж вылюдак, бандыт, нездарма ён працаваў на фашыстаў. Яму ўсё роўна, каго забіваць, на каго працаваць, абы свая шкура была цэлая. Але як

вырвацца адсюль? А мо згадзіцца і падпісаць тое, што яны патрабуюць, а пасля знікнуць адсюль назаўсёды, з'ехаць куды-небудзь на край свету або ў глухую вёску? Ён глядзеў у неба, адгароджанае кратамі, такое блізкае і такое недасяжнае, слёзы цяклі і цяклі па яго шчоках. Ён не выціраў іх.

Ад слёз прыходзіла палёгка, зноў хацелася жыць, вярнуцца ў страчаны звычайны свет, дзе стаяў вечны горад з яго каменнымі скульптурамі, яго сімваламі і загадкамі, дзе засталіся людзі, якія любілі яго і якіх любіў ён.

Праз месяц пакут, фізічнага і душэўнага болю ён згадзіўся падпісаць паперы на супрацоўніцтва з органамі КДБ. Яму далі адрас явачнай кватэры, куды ён павінен быў прыходзіць і прыносіць неабходныя звесткі пра людзей, якія, на яго думку, варожа ставяцца да савецкай улады. Паабяцалі за добрую службу вялікі аклад, а магчыма, у хуткім часе нават накіраваць на вучобу, ды пасля турмы няблага было б падлячыцца ў санаторыі, дык і пуцёўку атрымае, як толькі пакажа, на што здатны.

Багдан вярнуўся да сябра на кватэру. Да яго кінулася Міколава маці са слязамі. Але што мог сказаць Багдан? Ён і тут быў вінаваты, бо вярнуўся адзін. Жанчына ў той жа дзень паехала ў турму, але ёй там нічога не сказалі...

Багдан пераначаваў у гаспадыні і пайшоў на вакзал. Няхай шукаюць! Краіна вунь якая вялікая. Але ён далёка хавацца не будзе. Ды цяпер, летам, кожны кусцік нанач пусціць. Ён будзе тут, у Карпатах, з роднымі смэрэкамі і бярозамі, а яны ўжо яго не прададуць. А Сцяпану ён ніколі не даруе ягонае подласці. Багдан здолее ўласным жыццём даказаць, што можна жыць сумленна, не за кошт іншых, не прадаючы і не прадаючыся. Ён уявіў перад сабою Сцяпана, кінуў яму ў твар: "Сёння я святкую перамогу, але ты пакуль пра гэта не ведаеш. Ты думаеш, што зламаў мяне, купіў? І тым прынізіў, зрабіў падобным да сябе? Аб цябе кожная душа можа пакалечыцца, бо ты жывы мярцвяк. Ты не мяне губіш, ты сябе даядаеш".

Багдан падхапіў свой чамаданчык, яго чакалі ўсе цягнікі і дарогі, каб схавацца ад зла, ад нечалавечых законаў, ад людзей, якія не любілі і не цанілі жыцця. Ён скочыў у першы прыгарадны цягнічок "зайцам", бо грошы яго зніклі ў турме, паехаў туды, куды пажадала яго душа. Цяпер Багдан давяраўся толькі ёй.

Багдан наняўся на працу да старога хутараніна, маўклівага, унуранага, з прыгорбленаю спіною, але зацятага да работы. Яго жонка, глухая Міраслава, была хворая на ногі, яна ледзьве перастаўляла таўшчэзныя апухлыя ступакі, кожны крок даваўся ёй з цяжкасцю. У гэтым доме амаль не гаварылі. У Багдана не пыталіся, хто ён і адкуль. А Багдан таксама не распытваў, што яны за людзі, ці ёсць у іх дзеці. Ды і хто здатны сказаць пра сябе чыстую праўду? Кожны трохі нахлусіць, трохі прыхарошыць сябе. Іх аб'ядноўвала праца, цяжкая і лягчэйшая, будзённыя дні і святы, якія давалі перадых. І тады Багдан хадзіў на вячоркі ў вёску. З асцярожнасці асабліва ні з кім не зближаўся. Ды была яшчэ жывая памяць пра Світалачку і Іванку, здавалася, гэтых жанчын яму ніхто не замяніць. Пасля турмы ён не змог забегчы ні да адной з іх, бо не хацеў трывожыць спакой, бо не меў чым абнадзеіць. Цяпер жа, калі яго жыццё трохі ўсталявалася, карцела паехаць і сустрэцца з імі.

А вячоркі былі вясёлыя. Скакалі польку, факстрот, гуцульскія танцы пад гармонік, скрыпку і бубен. Ён запрашаў на танцы самых прыгожых дзяўчат, хаця ўсе яны тут былі па-вясковаму прывабныя ў стракатым адзенні, агністых хустках, свежыя, ружовыя, бы крамяныя яблыкі. Дакранісся — апячэшся. Але ён ні да адной не прыкіпеў душой, любіў іх усіх адразу за хараство і маладосць. А душа дзень і ноч цягнулася да таго, што засталося ў мінулым. Яму жыццёва неабходна было хадзіць старым гарадам, адчуваць сябе вольным чалавекам, кахаць Світалачку,

марыць з ёю пра будучае шчаслівае жыццё. Яму патрэбны былі падтрымка і спакойны позірк Іванкі, якая адчыніла яму дзверы ў свет даросласці, зрабіла мужчынам. Гэта тое незабыўнае, што дапамагае выжыць, што лечыць у самоце, бо яно — заўсёды надзея. А з надзеяй кладзецца шлях у будучыню.

Багдан не збіраўся доўга затрымлівацца ў хутараніна, адзінае, што яму замінала — канчаўся тэрмін часовае прапіскі ў пашпарце. А за парушэнне пашпартнага рэжыму яго ў любы момант маглі пасадзіць у турму. Як жа яму хацелася вярнуцца зноў у Львоў, уладзіць справы з пашпартам і тады ўжо вольнаю птушкаю ляцець у любы канец краіны.

У верасні ён вырашыў ехаць у горад. Старая Міраслава сабрала яму на дарогу вялізную гуцульскую торбу харчоў, заплакала, выціраючы вочы ражком хусткі, перахрысціла яго, пасля доўга стаяла каля весніц, і ён спіною адчуваў яе позірк. Так магла глядзець толькі яшчэ адна жанчына ў свеце — яго маці.

Тады ён падумаў, што ўсе старыя вясковыя жанчыны аднолькава падобныя між сабою сваёю стрыманасцю, задуменнасцю, мудрасцю, якая прыходзіць да іх ад зямлі, ад цярплівасці і адвечнасці іхняй працы. А ён, чужы чалавек, ужо паспеў прыкіпець да гэтага гнязда, што прыляпілася на ўзгорку.

“Кожны валодае тым, што мае: хто ўзгоркам, хто далінаю. А галоўнае ў нашым жыцці — спакой і ўпэўненасць у заўтрашнім дні”,— сказаў некалі Багдану хутаранін, намякаючы, відаць, на тое, што з маладым работнікам можа прыйсці на хутар і якая-небудзь бяда, бо невядома, ад каго і ад чаго ён тут хаваецца. Канечне, усім добры не будзеш, але трэба дапамагаць людзям у бядзе. Таму і дазволіў Багдану жыць, пакуль не надакучыць. Хлопцу часам здавалася, што гэты стары ўсё можа зразумець і прадба-

чыць, пачуць думкі без слоў. За яго спіною, за яго сценамі было спакойна жыць і верыць у тое лепшае, што павінна было прыйсці на змену гэтай часовай Багданавай няпэўнасці.

Горад жыў сваімі звычайнымі клопатамі, некуды спяшаліся незнаёмыя людзі, шамацела пад нагамі першае апалае лісце, кружыліся ў небе галубы. З таго часу, як Багдан з'ехаў адсюль, мінула ўсяго адно лета. Канечне, "бясшпека" яму нічога не даравала, але мо ўжо стамілася шукаць і чакаць. Хоць і баяўся, і з цяжкасцю ўтаймоўваў сваё хваляванне, але рушыў хлопец у пашпартны стол. Без гэтае кніжачкі не было яму месца на зямлі, а з ёю ён у той жа дзень мог узяць сваю Світалачку і ехаць куды захоча.

Начальнік пашпартнага стала, высокі, сярэдняга веку чалавек, з бліскучаю лысінаю, у вайсковым мундзіры без пагонаў (няхутка яшчэ даносяць людзі адзенне, у якое іх апранула вайна, хоць яна скончылася тры гады таму), пагартаў Багданаў пашпарт, пакапаўся ў нейкіх паперах, паморшчыў лоб, паглядзеў на хлопца паверх акуляраў, падняўся з-за стала:

— Пройдзем са мною.

Ён завёў Багдана ў невялічкі пакойчык, пасадзіў ля стала, сказаў пачакаць, пакуль будуць рыхтавацца дакументы.

— Што я тут буду адзін сядзець, скажыце, праз колькі прыйсці. Я тым часам лепш па вуліцы пахаджу.

— Гэта вельмі хутка, нікуды не хадзіце, вы мне спатрэбіцеся,— адказаў начальнік, выйшаў, і замок на дзвярах зашчоўкнуўся.

Багдан толькі ў гэты момант канчаткова зразумеў, што трапіў у пастку. Хвілін праз дваццаць па яго прыйшлі тыя ж людзі ў шэрых гарнітурах з казённа-заклапочанымі тварамі.

Яго змясцілі ў тую самую турму, толькі цяпер, акрамя яго, у камеры было яшчэ двое хлопцаў, яго аднагодкаў. Хлопцы сядзелі тут ужо даўнавата, ведалі парадкі, памоўчвалі, прыглядаліся да Багдана. Ці не чарговага даносчыка падсунулі ім у камеру? Давер з'явіўся толькі пасля таго, як Багдана пачалі вадзіць на допыты, [redacted] пасля збітага амаль волакам прыцягвалі назад.

Увогуле ўсе вязні баяліся надыходу ночы, калі ў турэмным двары ўключалі рухавічок, які выў і ракатаў, заглушаючы пакутлівыя крыкі вязняў, якіх мучылі каты. Але звонкіх прарэзлівых галасоў жанчын не мог заглушыць нават рухавічок. Яны крычалі, клікалі сваіх матак, ды ніхто не мог іх вызваліць, ніхто не мог ім дапамагчы.

Багдан разумеў, што і яму ўжо ніхто не дапаможа, цяпер у іх ёсць падставы для арышту, цяпер яму споўнілася васемнаццаць. І адказваць ён будзе як дарослы чалавек за ўсе правіны, якія яму прыпішуць. І самае горшае было тое, што не нейкі чужы вораг, [redacted] родны брат уладкаваў яму гэтае пекла.

Сцяпан прыходзіў на адзін з допытаў. Зайшоў у пакой, зняў скураны плашч, кінуў на стол капялюш, прыгладзіў цёмныя валасы, заўсміхаўся:

— Што з'явіўся, не запыліўся? Ад нас далёка не ўцячэш. А цяпер згодны на органы працаваць?

— Ніколі!— зацята адказаў Багдан.

— А мы і без цябе абыдземся. Але ты больш па гэтым горадзе хадзіць не будзеш. Мы цябе загонім у руднікі. Турма — гэта кветачкі. У рудніках ты зажыва згніеш, як чарвяк земляны. Не будзе там табе дзевачак з буфета, там у цябе адна дзевачка будзе — смерць!

— Ты гад! Гад! Юда! Ненавіджу!— задыхнуўся ў гневе Багдан.

Сцяпан глядзеў у шэрыя ашалелыя братавы вочы, у яго змарнелы твар, і раптам з нейкага глыбокага закутка памяці выплыў другі чалавек з гэткімі ж шалёнымі вачамі, з гэткаю ж нянавісцю. Тое было таксама ўвосень, але

ўвосень сорак пятага. Бандэраўскі атрад, у якім быў Сцяпан, прарываўся з блакады. Вырваліся адзінкі, рассыпаліся па лесе дробнымі групкамі. Са Сцяпанам быў худзенькі, малады, амаль падлетак, Нікадзім, добры хлопец, але не ўмеру ўпарты і зацяты, да фанатызму аддаты справе, за якую ўзяўся. Сцяпан разумеў, што атрад разбіты. Няхай збярэцца яшчэ дзесяткі два людзей, пагойсаюць месяцаў колькі па лесе, а потым усё роўна канец. Не ўратуюць ні Карпаты, ні лес. Трэба здавацца, пераходзіць на бок чырвонапагоннікаў. Так ён выратаваў жыццё сабе некалі ў нямецкім палоне, калі згадзіўся служыць у немцаў у рабочых атрадах. Пасля, каб вярнуцца дамоў, запісаўся ў бандэраўскі атрад. Цяпер зноў трэба было павярнуць курс на сто восемдзесят градусаў і падацца на службу да новай улады, якая ўсталявалася ў Закарпацці. Пра гэта ён сказаў Нікадзіму.

— Гад! Гад! Здраднік!— крычаў Нікадзім, вырачыўшы вочы.

— Тады бывай! Мне направа, табе налева. Я забяру аўтамат, раптам мяне чырвонапагоннікі не так зразумеюць. Табе пакуль і нагана хопіць,— Сцяпан падхапіў аўтамат і пайшоў.

— Стой! Стой! Страляць буду!— закрычаў Нікадзім, але гэта быў крык спалоханага дзіцяці, якое баіцца застацца адно.

— Дурань! Яшчэ не жыў на свеце, а ўжо гатовы памерці невядома за што. Цьфу!— плюнуў Сцяпан сабе пад ногі.

І ў гэты момант прагучаў стрэл. Куля ўпілася Сцяпану ў левую руку. Ён інстынктыўна кінуўся за дрэва, амаль не цэлячыся, пусціў з аўтамата чаргу па Нікадзіму, убачыў, як той прыпаў да зямлі і прыціх.

На другі дзень Сцяпан прывёў на гэтае месца чырвонапагоннікаў, яны падабралі Нікадзімава цела. Ягоным жыццём аплаціў Сцяпан сваё жыццё. "Так і бывае: слабыя гінуць, а дужыя жывуць",— думаў тады ён.

— Дужыя выжываюць, а слабакі гінуць,— сказаў Сцяпан і заляпіў Багдану такую аплявуху, што хлопец зляцеў з табурэткі, апынуўся у куце з разбітаю губою.

— Кат! Забойца! Мой час яшчэ прыйдзе!

Суседзі па камеры, Раман і Валодзя, задумалі ўцячы. План быў просты: у нядзелю следчых мала, толькі дзяжурныя. Два чалавекі штораніцы павінны выносіць парашу. У гэты момант яны і меліся напасці на дзяжурнага, забраць ключы, выпусціць астатніх вязняў і ўцякаць. Багдан таксама загарэўся гэтаю ідэяю. Ён быў упэўнены, што ўцёкі будуць удалыя, адно палохала: што іх чакае пасля. Ён ужо пабегаў, пахаваўся некалькі месяцаў ад "бяспекі", і гэта сумна скончылася. Але воля была такая жаданая, што ён адганяў усе сумненні.

А ноччу яму прысніўся сон. Нібыта ён вяртаецца з горада дамоў, спускаецца з гары па дарозе, уваходзіць у свой сад, а насустрач яму ідзе маці і пытаецца:

— Дзе ты быў так доўга, сынок?

— У турме, мама.

— Я адчувала, што з табою здарылася нешта нядобрае. Скрозь шукала цябе. Як жа ты?

— Нам не даюць есці.

— Я накармлю цябе.

— Нас б'юць, і мы хочам уцякаць.

— А гэтага не рабі. Уцячэш — заб'юць. А так жывы застанешся. Вернешся з турмы. Я чакаць цябе буду.

Раніцаю Багдан расказаў сон хлопцам.

— Баязлівец ты, вось і сніцца такое,— сказаў яму злосна Раман.

— Я ўжо трохі пахаваўся ад "бяспекі", ведаю, што гэта такое. І ў выніку сяджу тут з табою.

— Ну і дурань, я схаваўся б.

— Падумаеш, бяда вялікая — пашпарта няма. Згубіў, вось і няма,— падтакнуў Раману Валодзя.

— Калі мы паўцякаем, нас пераловяць, як зайцоў, а могуць там жа на месцы перастраляць. Мы ім не трэба, мы лішнія аказаліся ў гэтай дзяржаве. Мне вось і вучылішча не далі закончыць...

— Няхай страляюць, мне ўсё роўна "вышка" пагражае!"— у запале адказаў Раман і апусціў кучаравую галаву на грудзі, задумаўся.

Раман помсціў за брата, забіў старшыню сельсавета. Брат быў у лесе сярод лясных братоў, пасля цішком вярнуўся ў вёску, сядзеў дома, нікуды не выходзіў, нікога не чапаў. Старшыня сельсавета неяк даведаўся пра гэта, сказаў участковаму, міліцыя забрала Раманавага брата, а Раман узяў бацькаву паляўнічую стрэльбу і забіў старшыню.

— Ты вінаваты, так? Але ж мы з Валодзем сядзім ні за што, дык ці варта нам рызыкаваць жыццём?

Валодзя сапраўды папаўся ні за што. Пасвіў мароў, а тут скуль ні вазьміся — ляціць "дуглас", нізенька, аж дзіўна стала хлопцу. Падняў ён свой кіёк, што кароў пагаляў, прыцэліўся, нібы са стрэльбы. Як той лётчык і заўважыў яго. Але тут жа на поплаў прыкаціла міліцыя, схапілі гэтага пастуха і павезлі ў турму.

— Рабіце як хочаце,— адмахнуўся Раман.— Але вы здраднікі! Вы толькі пра сябе дбаеце.

І яшчэ дзве ночы запар Багдан сніў той самы сон. Маці заклінала яго не ўцякаць з турмы.

— Не, хлопцы, вы як хочаце, а я не пабягу,— цвёрда сказаў ён.

— Ты наўмысна казкі нам выдумляеш пра сон,— схапіў яго загрудкі Раман.

— Так не выдумаеш. Гэта праўда.

— І я не пабягу,— сказаў Валодзя.

Пахмурны Раман забіўся ў куток, сеў пад сцяною, нібы скамянеў. А Багдан падумаў, што дзеці часта паўтараюць шлях сваіх бацькоў, нібы нехта праклінае род на некалькі пакаленняў наперад. Некалі Багданаў бацька вярнуўся з

Масквы, з палону, у Заходнюю Украіну, дзе ўжо ўладарылі палякі. Яны не давяралі прыхадням з Усходу. Штодня бацька хадзіў адзначацца ў паліцыю, а ўначы часцяком паліцыянты прыходзілі да іхняе хаты, стукалі ў акно, пыталіся:

— Васіль, Васіль, ты спіш?

— Сплю!— адказваў бацька.

— Ну, спі, спі!— дазваляў паліцыянт і, задаволены, адыходзіў.

Відаць, гэты праклён і ўпаў цяпер на самага малодшага, Багдана, а ён жа павінен быў даглядаць старых бацькоў, трымаць гаспадарку, стаць гаспадаром. Але другая вайна і новае жыццё разбурылі той адвечны лад, калі сын ад бацькі пераймаў сялянскую навуку і перадаваў яе наступнікам. Вялікім горам для сям'і лічылася, калі гэтая сувязь перарывалася. Бо жыццё было найвялікшаю каштоўнасцю для чалавека.

А тут раптам аказалася, што тваё жыццё не каштуе нічога. І ты прыдатны толькі на тое, каб віжаваць за людзьмі, падглядваць, падслухоўваць і пісаць даносы. Дык ці варта ўвогуле трымацца на гэтым свеце? Часам Багдану прыходзіла думка павесіцца, каб не пакутаваць, не трываць здзекаў. Але прыходзіла і супакаенне, што ён пакутуе нявінна, а таму павінен дажыць да таго моманту, калі яго ворагі будуць пакараны Богам ці людзьмі.

А мо гэта Сцяпанаў лёс яму наканаваны? Быць прадажным, любымі сродкамі ратаваць сваё жыццё. Гэта ўжо не на праклён падобна, а на пошасць. А што будзе з Багданавымі дзецьмі? Як яны будуць жыць, калі Багдан падпарадкуецца грубай сіле насуперак жаданню сваёй душы?..

На судзе яму прачыталі прысуд: "Кордуба Богдан Васильевич осужден на 10 лет исправительных работ ▪ трудовой колонии с поражением в правах на 5 лет".

Лёс яго быў вырашаны, трэба было дайсці да месца прызначэння і цягнуць свой крыж, колькі хопіць сілы. Цяпер яму амаль дзевятнаццаць, праз дзесяць гадоў будзе пад трыццаць. Што ж, у такім узросце можна і сям'ю завесці, калі пашанцуе дажыць.

Яго адразу перавялі ў камеру для асуджаных. Тут трымалі разам крымінальнікаў і палітычных. Ён забіўся ў кут, нібы зліўся са сцяною, а думкі яго ўвесь час круціліся вакол прысуду, вакол тых дзесяці гадоў, якія належала пражыць у турме. Немагчыма было ўявіць гэтую безліч дзён і начэй у няволі.

Праз колькі сутак "варанком" завезлі яго на такі знаёмы вакзал, позіркам ён развітаўся з горадам, па якім, можа, ужо ніколі не давядзецца яму хадзіць, як абяцаў Сцяпан. Але што можа ведаць чалавек пра чалавека, што можа ўгледзець у будучыні той, хто атручаны страхам і злосцю?

Раніцу Багдан сустрэў у Кіеве на перасыльным пункце, дзе амаль два тыдні збіралі этап. Яшчэ тры месяцы давялося адседзець у вялікай ленінградскай турме, пра якую ён наслухаўся розных легенд. Неяк чуў, быццам у турме 999 камер. Багдан увесь час трымаўся ў баку ад людзей, баяўся правакацыі ці яшчэ невядома чаго. Калі ўжо родны брат прадаў, калі родныя бацькі адмовіліся, не перадалі нават сухароў на дарогу і якога цяплейшага адзення, дык чаго можна чакаць ад чужых людзей?

Аднойчы яго паклікалі да сябе два вязні: адзін малады прыгожы мужчына ў вайсковай лётчыцкай форме без пагонаў, другі — у цывільным, сярэдняга веку, з прыгожымі хвалістымі валасамі.

— Хадзі да нас, сынок,— паклікаў старэйшы.

Багдан падышоў, насцярожана глянуў на мужчын.

— Ты не бойся, тут крымінальнікаў няма, усе палітычныя, прыстойныя людзі,— заспакоіў яго маладзейшы.— Вазьмі сухар, пагрызі. Трымайся нас, разам лягчэй.

— Дзякую,— адказаў Багдан, умошчваючыся каля вязняў.

Мала-памалу разгаварыліся. Аказалася, што той, у лётчыцкай форме, сапраўды быў лётчыкам. Нейк праходзілі з сябрамі ды дзяўчатамі міма турмы, вярталіся з рэстарана, а ён сказаў: "Колькі тут нявіннага люду пакутуе!"

І праз тры дні сам апынуўся ў турме, данёс нехта са сваіх, хто чуў тую яго рэпліку, з кім ён сядзеў у рэстаране за сталом, з кім спяваў песні, хто мо і ў сяброўстве кляўся.

Старэйшы і сам не ведаў, за што нёс пакаранне, меркаваў: магчыма, за пасаду, бо працаваў дырэктарам Дома настаўнікаў. Багдан прыгледзеўся да астатніх вязняў і адзначыў, што па адзенні можна пазнаць, хто дзе працаваў на волі. Вунь у таго таўставатага штаны з лампасамі, яго ўсе так і называюць "генерал". А таго сівенькага з барадой прафесарам клічуць.

З горкай іроніяй думаў Багдан, што на волі з такімі людзьмі мо і не сустрэўся б ніколі, а тут з прафесарам ды генаралам спі побач, сёрбай адну баланду...

Але што б ты ні рабіў, што б ні гаварыў, як бы ні суцяшаў сябе, пячэ дзень і ноч душу няволя. Табе не даюць нават думаць пра будучыню, бо дзесяць гадоў, што наперадзе, пра цябе будзе думаць турэмнае начальства. Вось ён, казённы дом, які некалі наваражыла Іванцы варажбітка. Ды што цяпер згадваць мінулае, яно адрэзана назаўсёды. Пакуль ён вернецца, усё будзе інакш. І яшчэ яго мучыла здрада блізкіх. Няўжо маці паверыла, што ён злачынец, не знайшла яго, не паклапацілася пра свайго меншага сына? І цяпер, каб не лётчык ды дырэктар, ён, напэўна, злёг бы ад голаду. Не мог ён змірыцца з абыякавасцю блізкіх. Праз гэта здавалася, што ўвесь свет звар'яцеў, зблытаў дабро і зло.

Па дарозе ў Інту, месца, дзе ён павінен адбываць пакаранне, яму ўсё-такі ўдалося ўпэўніцца, што дабрыня яшчэ не вынішчана ў народзе, яна жыве, адгукаецца на чужое гора.

У Волагдзе асуджаных вялі па бруднай вуліцы каля базару пад канвоем з сабакамі. Людзі стаялі абапал вулі-

цы, хрысціліся і кідалі ў астрожную калону кавалкі хлеба, яблыкі, хто што меў. Вязні хапалі на ляту харчы, па-брацку дзяліліся паміж сабою. Можа, таму і запомнілася Волагда залатымі макаўкамі цэркваў, прасветленасцю і ўзнёсласцю.

У гэтым рускім горадзе ён упершыню за шмат месяцаў нарэшце пастрыгся і памыўся. Стрыглі іх, голых, жанчыны-санпрапускніцы. Багдан саромеўся, падстаўляючы вашывую галаву немаладой кабецін. Тут іх перамяшалі зноў з крымінальнікамі. І адразу да яго прычапіўся кульгавы чалавек гадоў трыццаці пяці, у марской форме, агледзеў Багдана з ног да галавы, сказаў:

— У цябе боты добрыя, давай мяняцца. Табе ў лагеры іншы абутак дадуць.

Багдан ведаў, што крымінальнікам не варта пярэчыць. Зняў боты, пераабуўся ў чужыя разбітыя чаравікі.

Крымінальнік ускочыў у Багданавы боты, прайшоўся, задаволена сказаў:

— Як на мяне шытыя. А ты не шкадуй! А то мала насіцца будуць. Каб ты мне на волі патрапіўся, я цябе так абчысціў бы! Я злодзей вышэйшага класа.

Інта сустрэла Багдана заінелаю чахлаю тайгою, саракавасьміградуснымі марозамі, ад якіх забівала дыханне. Людзі хавалі твары ў каўняры. Цэлы іх, худыя, агаладалыя, дрэнна апранутыя, прамярзалі наскрозь. Вязняў чакалі баракі за двума радамі калючага дроту, двух'ярусныя нары. Усяго і радасці, што пакармілі з дарогі, далі магчымасць так-сяк памыцца. Хоць якое там мыццё — прыгаршчы вадкага мыла і тазік вады. Выдалі цёплае лагернае адзенне: ватныя штаны, бялізну, ватоўку з нумарам на спіне. Цяпер забывай сваё імя, зэк № 287. Прайшлі камісію. Багдана прызналі годным для работы на шахце. Ён трапіў у брыгаду з шасці чалавек, якім абвясцілі, што за 105 працэнтаў нормы будзе надбаўка хлеба, за 80 працэнтаў — абед будуць зразаць.

І пацягнуліся бясконцыя дні, а дакладней, палярныя ночы. Доўгія зімы, кароткія леты. Багдан меў права напісаць два лісты за год, але ён вырашыў нікому з родных не пісаць, раз яны ад яго адмовіліся. Няхай яны жывуць шчасліва, а ён неяк параб'ецца сам. Праўда, адзін ліст ён усё-такі паслаў. Намаляваў на паперы шыбеніцу з падвешаным чалавекам, напісаў: "Гэта цябе чакае!" і заадрасаваў Сцяпану.

У гэтыя галодныя і халодныя зімы Багдана выратавала толькі тое, што ў шахце яны працавалі з вольнанаёмнымі, якія здабывалі вугаль, ■ зэкам давяралася мацаванне лавы. Вольнанаёмныя стараліся болей зарабіць, таму падкормлівалі сваіх паднявольных памочнікаў. Прыносілі хлеб з маслам, каўбасу, часам нават частавалі гарэлкаю.

Калі нарэшце раставала мерзлата, дадавалася яшчэ адна пакута. На працу хадзілі пад канвоем у гразі ледзь не па калена, а тут яшчэ канвою іншы раз захочацца паздзекавацца з асуджаных, вось і загадваюць:

— На месцы шагам марш!

Маршыруеш, месіш мулю. А тут зноў загад:

— Сядай!

І вымушаны сесці дзе стаіш, бо непаслушэнства або крок улева, крок управа лічыцца за ўцёкі — і расстрэл.

Хоць і крыўдаваў на родных, а кожную вольную часіну жыў успамінамі пра блізкіх людзей, згадваў маці, бацьку, сясцёр. Калі пакутаваў ад голаду, адразу выплывалі ў памяці матчыны баршчы, варэнікі, пірагі. Увогуле цяпер часта ў сне бачыў хлеб, удыхаў яго пах, не мог надыхацца, еў і не мог наесціся.

Калі прыходзіла ў зону папаўненне, бегаў глядзець, ці няма землякоў. І сустрэў-такі аднойчы свайго аднавяскоўца-настаўніка. Узрадаваўся, пачаў распытваць пра сваіх. Той чалавек і напісаў сваёй жонцы пра Багдана. А тая ўжо расказала бацькам пра сына, дала яго адрас.

Атрымаў Багдан першы ліст ад бацькоў. Плакаў і смяяўся, смяяўся і плакаў. Бадай, гэта быў шчаслівы дзень. Маці дакарала яго за доўгае маўчанне і прасіла не крыўдаваць, бо яна і ў турме шукала яго, і Сцяпанам сухары перадавала, і куды толькі ні пісала, куды толькі ні ездзіла, а ніякіх слядоў не знайшла.

"Дык вось хто паеў мае сухары, і не сталі яны яму папярок горла!— думаў Багдан пра Сцяпана.— Нічога, цяпер ужо я выжыву, цяпер я матчынымі малітвамі пратрымаюся, цяпер я не адзін".

Багдан у шахце ўпотайкі напісаў ліст бацькам, у якім расказаў пра тое, што выпала на яго долю праз Сцяпана, пра цяперашняе сваё жыццё. Другое пісьмо напісаў Світалачцы, светлай дзяўчынцы, дзеля яе яму хацелася таксама жыць цяпер. Падпісаў і трэці канверт на Сцяпанаў адрас, зноў уклаўшы ліст з шыбеніцаю. Тут жа аддаў гэтыя лісты вольнанаёмным, каб укінулі ў паштовую скрынку. Цяпер трэба было дачакацца адказу.

Цяжкая, чорная праца ў шахце стамляла, атупляла. Часам навальвалася такая туга і абыякавасць, што не было жадання нават рукою паварушыць, у той час як трэба было падымацца і ісці на працу. Асабліва невыносна было, калі на зямлю навальвалася слата, мокрае адзенне не паспявала прасохнуць да рання. Тады ён парушаў рэжым, хаваўся ў чужы барак, не ішоў на работу, а спаў цэлы дзень дзе-небудзь у цёмным кутку, пакуль не знаходзіў наглядчык. За гэта яго чакала пакаранне — барак узмоцненага рэжыму.

У той дзень ён не пайшоў на работу таксама, але па хваробе. Доктар сапраўды прызнаў у яго грып, і Багдана накіравалі ў лячэбны барак, дзе на нарах покатам ляжалі дахадзягі. Санітар паказаў хлопцу, дзе ён можа легчы. Багдан умасціўся на нарах, агледзеўся. Побач ляжаў чалавек, які не варушыўся, не спаў і, здавалася, не дыхаў. Багдан спалохана азірнуўся:

— Хлопцы, ён мёртвы!

— Маўчы! Не твая справа!— прыкрыкнулі на яго.

Багдан замоўк, адвярнуўся да сцяны, заціх. Было цяжка, балела галава, усё цела круціла, падымалася тэмпература. Але думкі пра нябожчыка за спіною не пакідалі яго. Пасля ён зразумеў, што мерцвяка ўтойвалі, каб атрымаць за яго абедзенны паёк.

Тры дні трымалася высокая тэмпература. Багдан ляжаў у гарачцы, у цяжкай дрымоце, трызніў, блытаў сон і яву, не еў. Калі трохі акрыяў, пачаў прасіцца на работу, не хацеў быць сярод гэтых дахадзяг, якія былі асуджаны на смерць. Яны яшчэ імкнуліся хоць як падмацаваць сябе, не грэбавалі нават памыйнаю ямаю, што была за сталоўкаю. Вылоўвалі рыбныя косці, малолі, нешта варылі з іх і елі. Яны адцягвалі сустрэчу са смерцю. Але мёртвым было, бадай, найлепш. Ім ужо ўсё роўна. Не мучыць голад, не даймае холад, не баліць душа. Усё роўна, дзе ён будзе ляжаць: у бараку ці ў моргу, дзе яго распрануць і надзенуць на вялікі палец бірку з нумарам, каб пасля замерзлае цела кінуць, як бервяно, у сані, вывезці за зону і выкінуць у снег. А вясною бульдозерам заграбуць яго, зраўняюць з зямлёю, ні магілкі, ні знаку не застанецца ад чалавека. Мо зямля злітуецца і ўздыме бярозку над галавою, каб не так самотна было чалавечаму праху ляжаць на чужыне.

Багдан адчуваў: калі ён затрымаецца ў гэтым бараку, дык ніколі адсюль не выйдзе, бо тут лячыліся хворыя на сухоты, на язву, былі і сардэчнікі, а яшчэ і такія, што немагчыма было і хваробу вызначыць, а чалавек згасаў на вачах, адыходзіў.

У гэты час прыйшоў першы ліст ад Світалачкі, яна помніла і кахала яго. Багдан быў шчаслівы, ён не разлучаўся з гэтым лістом, чытаў і перачытваў. Да яго з дабром вярталася мінулае, жывіла, падтрымлівала светлымі надзеямі.

Доктар дазволіў Багдану вярнуцца ў свой барак. І пакуль ён яшчэ быў не зусім здаровы, яго накіравалі на працу ў сталоўку. Са здзіўленнем сустрэў тут хлопец знаёмага чалавека, разам сядзелі ў буры. Гэты зэк Багдану не спадабаўся адразу. І тут, у сталоўцы, час ад часу лавіў на сабе яго зладзеяваты позірк, увесь ён быў нейкі коўзкі, бы намылены, слізгаў міма людзей, нібы ўвесь час баючыся ўдару знянацку.

У абед два наглядчыкі прыйшлі і забралі гэтага чалавека, сказалі, што выклікаюць яго ў штаб. Па сталоўцы пракаціўся нейкі шум, незразумелая незадаволенасць, асуджаныя, якія ў гэты час абедалі, правялі наглядчыкаў і коўзкага вачамі да дзвярэй. Раптам з-за стала ўсталі двое, пайшлі следам. Яны дагналі коўзкага на вуліцы, наглядчыкі не паспелі нічога зразумець, як асуджаныя ўсадзілі ў коўзкага свае нажы. Усе гэта бачылі праз акно. Нехта прабурчаў:

— Яшчэ адзін стукач дабегаўся.

Тыя двое тут жа аддалі наглядчыкам скрываўленыя нажы, склалі за спіною рукі, гатовыя несці кару за здзейсненае.

Узрушаны, прыгнечаны Багдан глядзеў на гэтых зняволеных людзей і думаў: "Відаць, калі жыццё нічога не каштуе, дык людзі не надта яго шануюць..."

Багдан карыстаўся тым, што яму выпала працаваць у сталоўцы, пад'ядаў сам і не прамінаў хоць як падкарміць сяброў. Калі варылі свіныя галовы, стараўся адрэзаць кавалак мяса або выразаць язык, каб занесці сябрам у барак. І, напэўна, не так важныя былі тыя харчы, а проста была патрэба клапаціцца пра некага і каб узаемна клапаціліся пра цябе.

Найбольш ён пасябраваў з Толем Шымко з Беларусі, маленькім, русявым, кірпатым, з шырокім усмешлівым ротам. Апошні час яны працавалі ў адной брыгадзе. Любіў яго Багдан за вернасць, за дабрыню, за стараннасць на рабоце, за сумленнасць. Не было ў ім тае пыхі, што часам

назіралася ў лагернікаў, якія дзялілі асуджаных на хахлоў, чурак, бульбашоў. Багдан не адчуваў сябе ні горшым і ні лепшым. Ён ведаў, што ў яго народа ёсць свая гісторыя, свая культура, сваё жыццё. Некалі старэйшыя ў іхняй вёсцы збіралі падлеткаў, расказвалі ім пра подзвігі дзядоў і прадзедаў, пра сечавікоў, якія гінулі за тое, каб радзіма была вольная. А якія песні спявалі! Багдану найбольш падабалася гэтая:

Їхав стрілець на війноньку,
Прощай, моя дівчынонька,
Прощай, миленька,
Бо їду ў чужу сторононьку.

Подай, дівчыно, хустыну,
Може, я [redacted] бою загіну.
Накрыють очі темноі ночі,
Може, я в полі спочину.

Яго выхоўвалі і гадавалі для жыцця вольнага, хоць тады Заходняя Украіна была пад Польшчаю. Ужо тады ён спрабаваў выказаць па-дзіцячы свой пратэст у польскай школе, дзе вучыўся. Аднойчы са сваім сябруком Хведзькам заспяваў замест польскага гімну:

Ешчэ Польска не згінэла,
Але згінуць мусі.
Ешчэ поляк украінцу
Чысціць боты мусі.

Настаўніца ўзвілася, як змяя, біла лінейкаю па руках, дома яшчэ бацька дадаў.

— Песня правільная, але б'ю [redacted] цябе за тое, каб ты ведаў, дзе, каму і што можна спяваць,— сказаў бацька.

Тут, у лагеры, усе болькі грамадства вылазілі наверх, былі відаць больш яскрава, бо людзі жылі з аголенымі нервамі. Багдану з ягоным беларускім сябрам не заміналі іх розныя, але вельмі блізкія мовы. Яны цудоўна разумелі

адзін аднаго, калі перад сном шэптам успаміналі сваіх родных, сваё маленства.

— Бывала, як наварыць маці салонікаў, сопкіх, прыгарэлых зверху! Смаката!— шаптаў Толя, глытаючы сліну.

— А што такое салонікі?— пытаўся Багдан.

— Бульба, звараная ў печы.

— Картопля? Мая маці таксама на сняданак картоплю варыла, скваркі смажыла, а як былі яйкі, дык і яечню. А я варэнікі з вішнямі вельмі любіў.

— Напомніў!— ажно стагнаў Толя.

— А мамалыгу з малаком ты калі-небудзь еў?

— А ты жур каштаваў?

— А грэцкія лежні са смятанаю ці нюхаў?

— У нас грачанікі пякуць.

— А галушкі ведаеш?

— А нашы клёцкі каштаваў?

— Эх, зараз бы хоць сала кавалачак з чорным хлебам і часнаком.

— І каб хлеб свежы! Скарыначка хрумсціць, хлеб духмяны...

— А пасля запіць квасам!

— А з чаго ў вас квас робяць?

— З хлеба.

— І ў нас з хлеба, а яшчэ з буракоў. Каб ты знаў, Багдан, які смачны квас з буракоў! А бярозавік! А кляновік!

— Сок бярозавы? Мы таксама рабілі!

— А свежына! Кілбасы! Крывянка з грэчкаю!

— Пячонка смажаная!

— Усё, маўчы,— стагнаў Толя,— я зараз памру, у мяне ад гэтых размоў страўнік выварочваецца.

А ў час работы ім і словы не патрэбныя былі, яны разумелі адзін аднаго па адным руху, па позірку.

У той дзень у забоі яны таксама былі побач. Недзе ў апошні момант перад абвалам інтуітыўна адчулі небяспеку, паспелі перакінуцца спалоханымі позіркамі. Пад страш-

ны нутраны гул зямля абрынулася на іх і зажыва пахавала ў цемры і цішыні. Пакуль быў прытомны, Багдан з жахам думаў, як жа ён далёка ад Радзімы, як глыбока, ніхто з родных не знойдзе ягонай магілы.

Ад недахопу кіслароду страціў прытомнасць і абудзіўся толькі ў бальніцы, расплюшчыў вочы, убачыў на акне белыя фіранкі і побач доктара.

— Здароў, Багдан!— прывітаў доктар хворага.

— Добры дзень.

— Што баліць?

— Нічога.

— Дык падымайся, чаго ляжыш?

Тузануўся Багдан, каб падняцца,— усё цела пранізаў востры боль.

— Не магу.

— Ляжы, ляжы, я пажартаваў. А ты, брат, асілак. Шэсцьдзесят тон пароды выбралі над табою, пакуль дасталі.

— А як жа Толя? Як астатнія?

— Табе аднаму пашанцавала, паміж шчытамі зашыўся, неяк дзівам ўратаваўся.

Багдан заплюшчыў вочы, слёзы пацяклі праз прыкрытыя павекі па шчоках.

— Не плач, хлопец, мёртвых не вернеш. Ты, можна сказаць, двойчы ад смерці ўратаваўся. Пакуль ты тут у нас тыдзень без памяці валяўся, у вашым лагеры вайна адбылася. Крымінальнікі ўнадзіліся вашы баракі рабаваць. Дык палітычныя ўзбунтаваліся, пайшлі на крымінальнікаў вайною. Такое пабоішча было. Дзе самі на смерць пазабіваліся, іншых салдаты кулямётамі з вышак пакасілі.

У бальніцы застала Багдана навіна, што памёр Сталін. Медперсанал быў у жалобе, а Багдан ціха радаваўся, чакаў амністыі ці хоць нейкіх перамен на лепшае. Спадзяванні яго пацвердзіліся. З зоны зніклі аўчаркі, былі зняты з вышак кулямёты, у бараках з вокнаў спілавалі краты.

Тут жа са сцяны на прахадной садралі нумар, такім чынам яму вярталася яго прозвішча і імя. Пачалі плаціць грошы за працу. Першая палучка была маленькая, усяго трыццаць пяць рублёў, а пасля заробак вырас да трох соцень.

Цяпер неяк грэў і абнадзейваў заклік на сцяне барака: “Запомни эту пару строк, работай так, чтоб снизить срок”. Усе жылі чуткамі пра амністыю, што быццам некага недзе ўжо выпусцілі. Асуджаныя пасмялелі, не надта баяліся наглядчыкаў, іншы раз збіраліся гуртам увечары і праз дзірку ў калючай агароджы хадзілі за тэрыторыю зоны да дзяўчат. Вярталіся таксама разам.

Набліжаўся Вялікдзень, кожны з вязняў па-свойму ўспамінаў гэтае свята з фарбаванымі яйкамі, з салодкімі булкамі, але ўсе сыходзіліся на тым, што пры цяперашняй лаяльнасці кіраўніцтва такое свята нельга не адзначыць. Багдану даверылі сябры пранесці ў зону тры пляшкі гарэлкі. Ён сам не ведаў, як яму ўдасца гэта зрабіць, бо кожны раз каля прахадной іх абмацвалі. Ён прыдумаў у самы апошні момант, як яму ашукаць ахову. Перад самым правяральшчыкам ён нібы незнарок спатыкнуўся, выкачаўся ў снег, яшчэ і цераз галаву кульнуўся пад агульны рогат. Наглядчык на яго толькі рукою махнуў: маўляў, ідзі, калі выкачаўся, як свіння, аб цябе толькі рукі намарозіш, абмацваючы.

Увечары хлопцы адзначылі свята, павесялелі, доўга гаварылі пра тое, як яны вернуцца на волю, а захмялелы Багдан сеў на нарах, расклаў фотаздымкі, на якіх была сфатаграфавана Світалачка то каля хаты, то ў садзе, то з сяброўкаю, то дома на канапе, доўга разглядаў іх і перачытваў лісты ад каханай.

А ўначы яму прысніўся сон, што ён у Карпатах. Перад ім высозная гара, каля гары крынічка. Раптам у гэтай гары ўтварылася пячора, а праз яе адзін за адным вылятаюць камяні. На тым і прачнуўся і адразу пабег да старога румына Апанаса, які ўмеў варажыць і разгадваць сны.

— Э, сынок, добры табе сон прысніўся, для ўсіх нас добры. Крыніца — гэта новае жыццё нас чакае. Гара — наша гара. Будзем мы з яе вылятаць па адным.

Перш чым збыўся гэты сон, здарыўся ў жыцці Багдана яшчэ адзін чорны дзень. Напісала Світалачка, што выходзіць замуж. Ён у адчаі ўсе яе лісты і фотаздымкі знішчыў, называў яе самымі брыдкімі словамі, але палёгка не прыходзіла. Тады падсеў да яго Апанас, паклаў руку на галаву і сказаў:

— Не бядуй, што гэтая дзяўчына не дачакалася цябе, цябе другая чакае, глядзі, не прамаргай.

— Адкуль ты ведаеш?

— Па вачах, сынок, па вачах. Другая табе наканавана, адзіная на ўсё жыццё. А страчаную не гань, не трымай на яе зла, яна дапамагла табе выжыць у самы цяжкі час. Будзь удзячны ёй за гэта.

Вызваленне прыйшло толькі ў пяцьдзесят шостым. Багдана выклікалі ў штаб. У пакоі было трое ў цывільным. Двое мужчын і жанчына. Кароткая была тая размова. У яго папыталіся, як завуць, сказалі яму, што ён ні ў чым не вінаваты, а вінаваты ва ўсім Гітлер. Відаць, гэта былі стандартныя фразы, якімі афіцыйныя асобы карысталіся, паведамляючы рэабілітаваным аб іх вызваленні.

— З заўтрашняга дня вы вольны і сумленны грамадзянін Савецкага Саюза. Заўтра вам выдадуць пашпарт, а пакуль атрымаеце даведку аб рэабілітацыі.

Багдан ад радасці дрэнна разумеў, што гавораць гэтыя людзі, пры чым тут Гітлер, ясна было адно: яго вызвалялі.

Назаўтра сябры праводзілі яго да прахадной, абдымалі, прасілі, каб пісаў, не забываў іх. Ён выйшаў за вароты, сеў на чамадан і заплакаў. Восем гадоў жыцця было пахавана ў нізкіх бараках, а наперадзе невядомасць. Куды падзецца цяпер? На бацькаў хлеб?

Ён застаўся на шахце, падпісаў дамоўленасць на тры гады, атрымаў пяць тысяч пад'ёмных, наняў кватэру, пачаў новае жыццё. Але найперш у натарыуса ёй узяў дзесяць копій даведкі аб рэабілітацыі.

Як толькі дачакаўся першага чарговага адпачынку, сабраўся праведаць бацькоў, карцела вярнуцца ў Львоў, сустрэцца са сваім любімым горадам, а галоўнае, хацелася плюнуць у твар Сцяпану, сказаць, што вось ён, Багдан, вярнуўся.

Сустрэча са Сцяпанам адбылася так, як Багдан сабе ўяўляў. Сцяпан адчыніў дзверы, збялеў, адступіў у калідор, не мог прамовіць ні слова.

— Здароў, Сцяпан. Не рады мяне бачыць? Я ўсё-такі вярнуўся стуль, куды ты мяне паслаў!

— Заходзь, заходзь,— прамямліў Сцяпан, замітусіўся.— Мо сто грам возьмем...

— Ах ты, гад, няўжо ты думаеш, я з табою за стол сяду? Ці ты баішся мяне? Не, я цябе не зачаплю. Тваё сумленне цябе заб'е.

Багдан выйшаў з кватэры, адчуў, як лягчэе і святлее душа. Вясновы горад усміхаўся яму, асляпляў бліскучымі вокнамі, зачароўваў. Было радасна пазнаваць знаёмыя вуліцы і будынкі, родны трамвай "адзінку". У яго ўскочыў Багдан і паехаў да Світалачкі, не мог ён яе не ўбачыць. Якая яна цяпер? Замужняя жанчына? Ён яе помніў дзяўчынкаю з коскамі.

У двары яго сустрэла цётка Вольга, пазнала адразу, забожкала, заўсміхалася:

— Багданачку, які ты стаў прыгожы! Вярнуўся, сынок! Зайдзі ў хату!— абняла, пацалавала ў лоб.

— Не варта. Спяшаюся я. Дзякую вам. Мне каб Свету пабачыць.

— Яна дома, яшчэ спіць, у дэкрэтным цяпер, унука чакаю. Гэта ж у яе яшчэ адзін хлопец быў, таксама Баг-

дан. Яна мне сказала, які з іх першы вернецца, гэта значыць, ці ты з турмы, ці той з войска, за таго і замуж пойдзе. Той вярнуўся першы.

Світалачка выйшла з хаты, жмурылася ад ранішняга сонца, моўчкі пазірала на яго.

— Добры дзень, Світалачка. Ты не пазнаеш мяне?— павітаўся ён.

— Пазнала. Добры дзень.

— А чаму ж ты мяне не дачакалася?

— Стамілася чакаць, прабач.

Яна павярнулася і пайшла ў хату, стуляючы полы плашча на вялікім жываце.

Не мог Багдан не зайсці да Міколы, хацелася даведацца, як ён выблытаўся з таго арышту. Шмат разоў парываўся напісаць сябру з турмы, але нешта яго спыняла.

Багдан узбег на трэці паверх, задыхаўся ад хвалявання ці ад хуткае хады, адпачыў, націснуў кнопку званка. Дзверы адчыніліся, на парозе з'явілася немаладая незнаёмая кабета.

— Прабачце, ці жыве тут Мікола Гайдамака?

— Не, тут такіх няма. Да нас жыла тут жанчына, але яна памерла, зямля ёй пухам. Казалі, быццам сын у яе быў, ды згінуў недзе...

— І даўно вы тут жывяце?

— Трэці год пайшоў.

— Даруйце, што патурбаваў.

Раптам жанчына схамянулася, нейкая здагадка працяла яе:

— Дык мо вы і ёсць яе сын?

— Не, я сябраваў з Міколам. Не мог ён проста так загінуць! Не мог! Разумны быў хлопец!

З каменным сэрцам выйшаў Багдан з цёмнага пад'езда ў веснавую цеплыню і яснату дня, выцер змакрэлыя вочы. Падумаў, мо трэба было б наведаць Іванку, але ўсё тое незваротна засталося ў мінулым, не варта цяпер трывожыць яе, калі-небудзь іншым разам...

Вестка пра тое, што Багдан вяртаецца, апярэдзіла хлопца. Відаць, перапалоханы Сцяпан паспеў паскардзіцца сваім калегам, таму ўчастковы сустрэў Багдана ў бацькавай хаце. Гэта дадало хвалявання бацькам. Але сустрэча была са слязамі радасці, з успамінамі. Маці дапытвалася, што ён пісаў у першым лісце, бо ўсё напісанае было замазана, немагчыма нічога прачытаць.

— Цэнзура пастаралася. А што там было напісана, дык ўжо не помню.

Ён жыў насалодаю сустрэчы з радзімаю, удыхаў родныя пахі, азіраў знаёмыя ўзгоркі, хадзіў па садзе, які вось-вось павінен быў зацвісці, жыў у прадчуванні квітнення і харастава.

Калі ў садзе аблятaлі апошнія белыя пялёсткі, а галіны акрыліся зялёнаю лістотаю, Багдан ад'язджаў назад у Інту. Маці збірала яго ў дарогу, прасіла часцей пісаць, не забываць родных.

— Знаеш, сынок, грэх мне, пракляла я Сцяпана за ягоную подласць, што ў турму цябе пасадзіў і нават сухары не перадаў. Співаецца ён, гіне. А не магу яму дараваць, хоць баліць душа і па табе, і па ім. Як баліць...

— Ён сам сябе пакараў, мама. Тут тваёй віны няма.

— Страшны час, страшны, немагчыма выжыць, каб не пакалечыцца душою і целам.

Багдан вяртаўся ў Інту. І ведаў, што там яму давядзецца пражыць доўга, бо ў Львове нават з даведкаю аб рэабілітацыі яму не прапісацца. А працаваць у калгасе задарма не было сэнсу.

Гэтак і прайшло ўсё жыццё Багдана Кардубы ў Інце. Тут ён сустрэў гожую дзяўчыну, сваю зямлячку, таксама з рэабілітаваных, ажаніўся. Калі нарадзіўся першы сын, назваў яго Львом у гонар любімага горада. З падскокам

бег шчаслівы з раддома і крычаў: "У мяне Леў нарадзіўся! У мяне Леў нарадзіўся!" Гады праз два з'явілася яшчэ дачка Світалачка.

Калі прызначылі яму шахцёрскую пенсію, вырашыў вяртацца на радзіму. Сёння ён развітваўся з гэтай зямлёю. І яна, адпускаючы, раскрытаю магілаю яшчэ раз вярнула яму яго мінулае, можа, хацела затрымаць, а мо і наадварот.

# *Зло чужымі рукамі*

Леанід Сымонавіч Мізэрыя ў свае трыццаць тры адчуў, як раптам запякло каля сэрца, нібы залпам асушыў шклянку першаку. Ён не разумеў, што з ім адбываецца, хваравіта прыслухоўваўся да сябе, пакуль нарэшце са здзіўленнем і задавальненнем не пачаў здагадвацца, што закахаўся ў сваю падначаленую Любу Назарук. Гэтае пачуццё ўсё часцей замінала ягоным будзённым думкам, бо ён быў чалавек справы, якую рабіў з імпэтам, умела абыходзячы ўсялякія інструкцыі і загады.

Дзелавыя якасці выявіліся ў Мізэрыі яшчэ ў маленстве. Калі суседка, таўшчэзная, з тлустым двайным каркам і слановымі нагамі Сара Саламонаўна, пасылала яго з курыцаю да рэзніка, паслухмяны хлопчык ахвотна браўся выканаць гэтае далікатнае даручэнне. Ён спаважна выходзіў з двара суседкі з кошыкам у руцэ, мінаючы свой агарод, умомант пераскокваў цераз плот, куляўся ў бульбоўнік, скручваў курыцы да хрусту галаву, пакуль яна непрытомна не заплюшчвала блакітнымі павекамі вочы, хуценька пераразаў сцізорыкам шыю, спускаў кроў, як гэта рабіў рэзнік, ахайна заграбаў чырвоную лужынку зямлёю, клаў кашэрнае мяса ў кошык, пералічваў грошы, якія павінен быў аддаць рэзніку, хаваў іх глыбей у кішэню. Потым адлежваўся пад парэчкавым кустом, зрываў кіславатыя ягады, смактаў іх, а ў належны час з'яўляўся перад удзячнаю Сараю Саламонаўнаю. Жанчына частавала маленькага Шлёму цукеркамі і прадказвала, што з яго вырасце вялікі чалавек. Ён і сам у гэтым не сумняваўся, адчуваў сваю выключнасць, прыдумляў розныя праекты, каб разбагацець праз фінансавыя махінацыі, крадзеж і нават рабаванне. А для адмывання брудных грошай збіраўся за-

весці трусіную ферму. Трусікі будуць пасвіцца пад каўпаком-загародкаю, пастаўленай на колы і замацаванай на сталёвых тросах. Жуючы траву, звяркі будуць паступова рухаць клетку, эканомна карыстацца пашаю і не разбягацца.

З гадамі розум Леаніда Сымонавіча абвастрыўся, думка зрабілася больш гнуткаю і прадпрымальнаю. Ён навучыўся дасягаць мэты любымі сродкамі. І цяпер, калі яго прызначылі начальнікам новага рамонтна-будаўнічага ўчастка, ягоная думка пульсавала, нібы кроў у жылах у чалавека, хворага на ліхаманку. Мізэрыя прыдзірліва падбіраў кадры. На прарабскую пасаду запрасіў старога будаўніка Чухлея, колішняга свайго настаўніка, якому заставалася гады тры да пенсіі. Майстрам узяў грудастую і таўстагубую Ліду Хлус, прыкінуўшы, што з яе выйдзе паслухмяная лялька. Гадоў пятнаццаць яна працавала тынкоўшчыцаю, а зусім нядаўна адмучыла завочна сельскагаспадарчы тэхнікум. Прыгледзеў Мізэрыя сабе і эканаміста — жонку начальніка мясцовай аўтабазы. Кладаўшчыцаю стала жонка дырэктара масласырзавода. Шафёрам на грузавую машыну паклікаў Алёшу Брыкуна, з якім яшчэ зусім нядаўна працаваў у аддзеле забеспячэння, праехаў не адну тысячу кіламетраў, памяняў, прадаў з выгадаю шмат тон розных дэфіцытаў. Словам, Алёша Брыкун быў чалавек правераны і надзейны, здатны выйсці сухім з самай безнадзейнай сітуацыі. Толькі Любу Назарук прыняў інжынерам Мізэрыя невядома чаму: мо за выдатны дыплом, мо не змог адмовіць трэстаўскаму кадравіку, які прапанаваў яму ўчарашнюю студэнтку, а мо сам Бог паслаў гэтую супрацоўніцу.

Адчуўшы першыя прыкметы закаханасці, Мізэрыя не разгубіўся, а паплыў насустрач новай прыгодзе. Спачатку пачаў актыўна ўключаць Любу ў працу, хадзіў з ёю на аб'екты, знаёміў з рабочымі. Іншы раз даганяў яе раніцаю па дарозе ў кантору, стараўся правесці ўвечары дахаты. Вырашыў паступова далучыць дзяўчыну да свайго жыцця

і спраў, зрабіць яе сваёю аднадумніцаю, астатняе само сабою складзецца.

— Ведаеце, Любачка, я з пяці раніцы ўжо не сплю, усё пра вытворчасць думаю, што ды як зрабіць,— з мяккаю ўсмешкай гаварыў ён, нібы скардзіўся.

— Трэба вам пустырнічку папіць, супакойвае.

— Ды не, я здаровы! Мне той сон і не трэба. Я ў сабе такую шалёную сілу адчуваю, міністрам быў бы!

— Што ж вам замінае?

— Правінцыя заела. Прапіска, кватэра, сям'я... Звязаны! Горш, чым у клетцы! Але такі мой лёс: пра ўсіх клапаціцца, старацца для іншых, а для сябе нічога.

— На тым свеце ваша самаахвярнасць вам залічыцца. І будзеце вы ў райскім садзе птушак слухаць і адпачываць душою.

— Але ж таго-сяго і цяпер хочацца...

— Чаго ж вам такога недасяжнага хочацца?

— Пра гэта так проста не скажаш. Не тыя абставіны. А вам, Любачка, якія мужчыны больш падабаюцца: бландзіны ці брунеты?

— Якая розніца, абы чалавек быў добры.

— Гэта вы правільна сказалі. Канечне, мужчын узрост не ўпрыгожвае, затое душа маладая застаецца. Я прынясу вам заўтра фотаздымкі, пабачыце, які я быў хлопчык і ў штоператварыўся...

— Грэх вам скардзіцца, Леанід Сымонавіч...

Назаўтра Мізэрыя прынёс у кантору пачак старых фотаздымкаў, на якіх ён быў адзін і са сваімі родзічамі, падлеткам і ўсмешлівым юнаком. Доўга расказваў пра свайго брата, з якім не бачыўся гадоў дзесяць, бо той недзе плаваў па морах-акіянах; пра сваю маці-нябожчыцу, якая была нашмат маладзейшая за бацьку, але вельмі рана памерла; пра бацьку — вялікага майстра па драпіроўках. Паўзіраўся ў свой фотаздымак, дакрануўся да вуснаў, пас-

кардзіўся, што вось, маўляў, у маладосці разбілі губу ні за што, а цяпер жыві з пакалечанаю ўсё жыццё.

— Леанід Сымонавіч, пра што гаворка? Мужчын шрамы толькі ўпрыгожваюць,— шчыра суцешыла яго Люба.

— Мне вашы словы, Любачка, як бальзам на душу.

Любе падабалася, што яе начальнік, сталы чалавек, на дзесяць гадоў старэйшы, гэтак гаворыць з ёю. Увогуле ёй падабалася сябраваць з мужчынамі, да гэтага звыкла яшчэ ў студэнцкія гады, бо ў яе групе было ўсяго пяць дзяўчат, астатнія хлопцы. Ёй хацелася слухаць і слухаць Мізэрыю, бо гэта была даверлівая гаворка, на якую не кожны здатны.

— А як гэта здарылася, хто вас набіў?— спачувальна папыталася дзяўчына.

— Была тут некалі прыгожая, але шалапутная дзеўка Людка Коршун. Жыла з сухотнаю маці ў бараку і часта прыходзіла да нас у інтэрнат, нават жыла па некалькі дзён то ў адным, то ў другім пакоі. Вось і я, дурань зялёны, аднойчы на танцах пачаў запрашаць гэтую мясцовую зорку да сябе ў госці. Раптам падыходзіць да мяне нейкі бамбіза і кліча на вуліцу перакурыць. Выйшлі, а ён, ні слова не кажучы, б'е мяне кулаком у твар. Я спачатку нават не зразумеў, што здарылася, проста адчуў, што лячу і зоркі з вачэй сыплюцца. Завялі мяне хлопцы ў траўматалогію, там губу зашылі, боль страшэнны.

Ляжу назаўтра ў інтэрнаце халодны і галодны, галава кружыцца, свету божага не бачу, вочы пазаплывалі. Замест твару нешта сіняе і азызлае. І раптам з'яўляецца тая самая Людка, цвіце, свеціцца ўся і пытаецца, нягодніца:

— А куды ты ўчора знік? Правесці ж абяцаў. Ну і рыцар! Але я не ганарыстая! Сама прыйшла, рэж мяне на кавалкі, еш мяне з маслам!

А мне ўжо не да кахання, шапчу толькі:

— Ідзі, ідзі адсюль, мне праз цябе і так дасталося. Яшчэ які твой палюбоўнік убачыць, дык зусім заб'е.

— Ах ты мярзотнік! Сам запрашаў, а цяпер гоніш! Я да яго з дарагою душою, а ён мяне крыўдзіць! Не дарую!

Яна пачала раскідаць пасцелі трох маіх суседзяў; пасля дастала з маёй тумбачкі мяшэчак з крупамі, брала жменю за жменяю і шпурляла ў мяне, калі крупы скончыліся, абсыпала мяне ўсяго мукою. А сама прыгожая, як ведзьма! Валасы распатланыя, вочы гараць.

— Вось табе госцейкі! Вось табе пачастунак! Вось табе падарунак,— прыгаворвала яна і здзекавалася з мяне, пакуль не стамілася.

Такое было маё першае каханне. Ледзь выжыў.

Мара — вечны рухавік чалавечае душы. Без мары чалавек траціць сэнс жыцця. Мізэрыя заўсёды ведаў, чаго хоча. Рамонтна-будаўнічы ўчастак, якім ён кіраваў у правінцыі, падначальваўся сталічнаму трэсту, таму ўсё часцей апаноўвала Мізэрыю жаданне перабрацца і самому ў сталіцу, дзе ёсць вялікія магчымасці для такога здольнага чалавека, як ён. А дзеля гэтага трэба як след дагадзіць трэстаўскаму начальству, паказаць сябе з найлепшага боку.

У хуткім часе над дзвярыма канторы зачырванеў лозунг-дэвіз: “Першы не той, хто ідзе наперадзе, а той, хто за сабою вядзе”. Пазней гэты лозунг узяў на ўзбраенне трэст, а пасля і міністэрства. Трэстаўскае начальства хутка заўважыла свайго ўвішнага падначаленага ў правінцыі і пачало наязджаць да яго з праверкамі.

Мізэрыя меў добры густ, гэта выявілася яшчэ ў юнацтве. Як толькі ўласнае імя яму здалося немілагучным, ён памяняў яго і стаў называцца Леанідам. Ягоны бацька, калі даведаўся пра гэта, вельмі раззлаваўся і сказаў, што не імя ўпрыгожвае чалавека, а наадварот. Але сын слушна заўважыў: у чалавеку ўсё павінна быць прыгожае.

У імя прыгажосці Мізэрыя ўзяў на працу разьбяра, здольнага хлопца-самавука, той з ліпавых круглякоў выразаў сувеніры: статуэткі, ліштвы, разеткі. Гэтымі цацкамі шчодра адорваў Леанід Сымонавіч трэстаўскіх праўральшчыкаў. Чым вышэйшая пасада была ў госця, тым

большых памераў сувенір атрымліваў ён на развітанне. А ў аддзяку правяральшчыкі пісалі на Мізэрыю і ягоны ўчастак цудоўныя характарыстыкі.

Калі нарэшце завітаў да Леаніда Сымонавіча сам начальнік трэста, тут ужо ўсім давялося пакруціцца. Напярэдадні візіту высокага госця рабочыя ўсю ноч браканьерствавалі — лавілі рыбу ў возеры, а Мізэрыя тым часам шчодра частаваў дома рыбінспектара, запрасіўшы на прыдуманыя імяніны.

Кладаўшчыца Галя перагледзела ў складзе дэфіцыты і шчодра падзялілася з дырэктарам. Разьбяр аддаў пяць найлепшых сувеніраў. Жонка Мізэры гатавала вячэру, каб добра пачаставаць шаноўнага госця, бо ўсім вядома: чым чалавек багацейшы, чым большую пасаду займае, тым ён скупейшы і прагны на чужое дабро.

Леанід Сымонавіч пры начальніку паводзіў сябе вельмі сціпла, але не прамінуў правесці яго па вытворчай базе, цудоўна абсталяванай, і падкрэсліць, што ўсё зроблена на голым месцы і за лічаныя месяцы. І гэтакае жаданне сапраўднай працы чулася ў ягоных словах, што начальнік падазрона паглядзеў на падначаленага, не разумеючы, чаго той ад яго дамагаецца. Мізэрыя адчуў, што сказаў нешта не тое, пачаў апраўдвацца:

— Тут можна жыць і працаваць, але хочацца большай прасторы...

— Ну-ну, пайду на пенсію, зоймеш маё месца.

— Што вы? Я зусім не пра гэта... Я проста хачу, каб вы ведалі, што тут людзі заўсёды гатовы самаадданa працаваць на славу трэста і рады вас бачыць...

— А дзе не рады?

— Гэта я так, да слова...

Не ладзілася ў Мізэры размова з начальнікам, але пакутаваў ён недарма. За вынікі працоўнага года ягоны ўчастак атрымаў першае месца, хоць, зразумела, усе гэтыя спаборніцтвы як тралейбусныя гонкі: каго першым паставілі, той і перамагае.

Адразу, як толькі ўладкавалася на працу, Люба пасябравала з Рэгінаю Янаўнаю, сардэчнаю жанчынаю, якая лічылася ў канторы на пасадзе эканаміста, але бўдаўнічай эканомікі зусім не ведала, таму займалася прафсаюзнымі справамі. З дня ў дзень запаўняла яна вялізныя стосы сацыялістычных абавязацельстваў за ўсіх рабочых акуратным почыркам. Акуратнасць была яе галоўная рыса.

Люба з жалем глядзела на гэтага спецыяліста і старалася пры зручным выпадку хоць чаму-небудзь навучыць. Рэгіна Янаўна ахвотна прыслухоўвалася да Любіных тлумачэнняў, хапала ўсё на ляту.

Мізэрыя, як толькі згледзеў, што Люба шчодра дзеліцца ведамі з Рэгінаю, насцярожыўся:

— Навошта вы гэта робіце, Любачка?

— Яна ж эканаміст, павінна ведаць сваю справу.

— Калі яна будзе ведаць тое, што і вы, вашы веды абясцэняцца. Ды і не трэба ёй гэтага ведаць...

— Тут жа ўсё проста...

Мізэрыя замоўк, яго здзіўляла Любіна прастадушнасць і ўпартасць. А яму гэтак не хацелася дапускаць Рэгіну да каштарысаў. Усялякая вытворчасць павінна мець камерцыйную тайну. Была яна і ў Леаніда Сымонавіча. Яму не патрэбны быў занадта дружны калектыў, паміж падначаленымі павінны быць падазронасць, сваркі, каб на гэтым фоне начальнік выглядаў бездакорным і справядлівым. Законы кіравання аднолькавыя для дзяржавы і малога ўчастка.

Надышоў час, калі нарэшце Мізэрыя адчуў, што Люба вельмі прыязна ставіцца да яго і, магчыма, адкажа ўзаемнасцю на ягоныя заляцанні. Урэшце, ён не хлопчык, каб марнаваць час на платанічныя ўздыханні, увогуле ён не ўяўляў сабе кахання без авалодання жаданаю жанчынай.

Як толькі надарылася магчымасць, узяў Любу з сабою ў камандзіроўку ў Мінск. Пасяліліся яны ў адной гасцініцы, нумары — праз сцяну. Пасля працы пайшлі ў рэстаран павячэраць. За акном было прадвесне, сырое і шэрае,

а тут утульна, цёпла. Мізэрыя нешта гаварыў пра справаздачу, пра начальства, а Любе гэта ўжо было нецікава, яна нібыта і слухала, але думала пра сваё: што дарма ўзяла накіраванне ў гэты трэст і апынулася ўрэшце ў правінцыі, усё ж сталіца ёсць сталіца, тут цікавей. Вунь як дзяўчаты апранутыя, як раскавана паводзяць сябе, а яна паступова ператвараецца ў шэрую мышку, на якую хіба вось такі Мізэрыя можа звярнуць увагу.

Зайграла музыка, Леанід Сымонавіч запрасіў Любу на танец, але яна адмовілася, не было настрою, не хацелася пераходзіць тую мяжу, дзе прыязнасць і сяброўства ператвараецца ў любоўныя заляцанні.

— Я ведаю, чаму вы адмаўляецеся,— сказаў ён,— вам няёмка, што вы ў ботах.

— Лічыце, што так. Сапраўды, мы з вамі апрануты не для рэстарана, пойдзем адсюль,— прапанавала яна.

У гасцініцу вярталіся па бязлюднай вуліцы. Мізэрыя спрабаваў неяк наладзіць гаворку, ды ў галаве было пуста. Успаміналіся барадатыя анекдоты ці яшчэ якая-небудзь лухта. Ён не ведаў, як павінен паводзіць сябе начальнік з падначаленаю, калі яна яму падабаецца, і нават вельмі. Чамусьці пачаў расказваць, як некалі служыў у войску і сумаваў без жаночае ласкі. Прынамсі, цяпер ён адчуваў тое самае. У той глухамані, дзе стаяла ягоная часць, была толькі адна жанчына, цяжарная жонка камандзіра. І калі аднойчы яна сабралася ў лес па суніцы, камандзір паслаў яго, маладога салдата, ахоўваць жонку. Мізэрыя плёўся следам за ёю, пажадліва глядзеў на яе круглыя клубы і, як цяпер, не ведаў, з якімі словамі падступіцца да жанчыны, каб яна пашкадавала яго, ёй жа гэта нічога не каштуе, і ніхто нічога не будзе ведаць...

— Навошта вы мне пра гэта расказваеце?— абурылася Люба.

— Ды так, успомнілася нейкае глупства...

Гаварыць не было пра што, яны развіталіся і разышліся па нумарах. Ён хацеў пазней пастукацца і папрасіць

прабачэння, але не адважыўся, раптам ёй і гэта не спадабаецца. Адзначыў толькі з горыччу, што не цэняць жанчыны адкрытасці, ім трэба болей дыму ў вочы пускаць. Не, не ўмее ён з дзяўчатамі гаварыць, не ўмее. Недабраў гэтае навукі ў маладосці, бо зарана ажаніўся. Магчыма, тое, што з ім адбылося, і жаніцьбаю нельга назваць. Ат, па маладосці ўсё, з дурное галавы.

За два месяцы да таго, як павінен быў ісці Мізэрыя ў войска, знайшлася нарэшце на будоўлі пасада майстра, а ў прыдачу да пасады далі маленькі асобны пакойчык у бараку, куды і пачала да яго наведвацца сімпатычная прадаўшчыца Міла. Яна жыла ў тым самым інтэрнаце, дзе раней жыў ён. Бадай, напачатку не яна яму спадабалася, а яе халат, квяцісты, пухнаты, здавалася, столькі ў ім цяпла і ўтульнасці, што хацелася дакрануцца, пагладзіць. Ён гэта і зрабіў асцярожна, бо як-ніяк дзяўчына была гады на чатыры старэйшая, магла і малакасосам абазваць. Насцярожанасць яго была дарэмная, дзяўчына ў адказ прыязна пасміхнулася, сказала нешта ласкавае, ён, не трацячы часу, запрасіў яе ў кіно.

Калі ён займеў асобны пакойчык, дык з Мілаю амаль не разлучаўся, з гонарам адчуў сябе сапраўдным мужчынам, яму здалося, што за кароткі тэрмін ён пражыў вялікае жыццё, усё спасціг і зразумеў. Нават на працы трымаўся так упэўнена, нібы зубы з'еў на гэтай справе.

Толькі ён ужыўся ў ролю сталага мужчыны, як Міла абвясціла, што яна цяжарная. Пыталася, пакідаць дзіця ці не. Ён нічога пэўнага адказаць не мог, разгубіўся, напомніў ёй, што праз месяц яго могуць забраць у войска. І тут ужо нічога не зробіш, яна застанецца адна.

— Давядзецца зрабіць аборт,— падвяла рысу ў гаворцы Міла.

— Рабі, як табе лепш.

— А як табе лепш?

— Мне добра, калі добра табе...

— А калі мне дрэнна, дык ты ўмываеш рукі...— заплакала Міла і выбегла з пакоя.

Ён не кінуўся яе даганяць і супакойваць, бо сам не ведаў, як выблытацца з гэтае сітуацыі. Няхай сама вырашае.

Міла не прыйшла ні на другі, ні на трэці вечар. Ён занепакоіўся, ці не закахалася яна ў каго іншага? Стаіць сабе ў краме, рассылае ўсмешкі налева і направа. Ён не вытрымаў, пайшоў у інтэрнат шукаць яе. Дзяўчаты, якія жылі з ёю ў пакоі, сказалі, што Міла ўзяла адпачынак і паехала дахаты.

Ён сцяміў, што Міла паехала дадому, каб там пазбавіцца ад цяжарнасці. А потым ён пойдзе ў войска, нібы ў турму, а яна будзе вольная ад усялякіх абавязкаў. Ён кінуўся на пошту і адбіў тэлеграму, каб Міла нічога з сабою не рабіла і хутчэй вярталася назад.

Відаць, тэлеграма паспела ў час, бо праз два дні Міла вярнулася, а праз тры тыдні, у будні дзень, яны афармілі шлюб, праз тыдзень яго забралі ў войска.

Аднойчы на вячэрняй паверцы камандзір абвясціў, што сённяшні дзень незвычайны для аднаго з салдатаў часці і зачытаў тэлеграму: "Лёня віншую нараджэннем дачкі... Марына".

Калі сябры пачалі штурхаць Мізэрыю ў спіну, каб ён выйшаў са строю, бедны хлопец ніяк не мог сцяміць, якая дачка, якая Марына, што да чаго. А камандзір тым часам усунуў яму ў руку тэлеграму, павіншаваў, пахваліў, астатнія заляпалі ў ладкі.

Ён цэлы вечар варажыў над тою тэлеграмаю, разбіраўся, што б гэта магло азначаць, пакуль нарэшце да яго не дайшло, што Міла нарадзіла дачку, а тэлеграму паслала Мілінa сяброўка Марына. З войска ён напісаў жонцы ўсяго адзін ліст, што, маўляў, жывы-здаровы, чаго і табе жадаю, а больш пісаць няма чаго. Часам успамінаў мінулыя ночы любасці і страсці, але сумаваў толькі па яе целе.

Тры дні хадзіў салдат уражаны, не мог уявіць сябе бацькам. Трэба было неадкладна ехаць да Мілы, усё ўбачыць на свае вочы, чаго б гэта ні каштавала. Не, ён не мог

трываць, няхай яго хоць разапнуць пасля, а ён паедзе і паглядзіць на сваю дачку.

Ноччу ён уцёк на чыгуначную станцыю, падгадаў якраз да адыходу спадарожнага хуткага цягніка, спяшаўся далей ад'ехаць ад сваёй часці. Залез на верхнюю паліцу і спакойна праспаў да самага ранку. А калі ранічкаю абудзіўся і зірнуў уніз, дык са страхам убачыў ля акна старшага лейтэнанта. Мізэрыя адвярнуўся носам да сцяны і вырашыў ляжаць так, пакуль непажаданы спадарожнік не выйдзе пакурыць. Непрыкметна зноў заснуў. Прачнуўся ад таго, што з'явілася неадкладная патрэба схадзіць у прыбіральню. Як ні трываў, як ні круціўся на паліцы, а давялося яму спусціцца ўніз, казырнуць афіцэру і куляю ляцець у канец калідора.

Мізэрыя зразумеў, што вымушаны расказаць гэтаму старшаму лейтэнанту ўсё як ёсць, мо ён паспачувае і не выдасць, бо Мізэрыю ўжо, напэўна, шукаюць. Ён не шкадаваў слоў, рассыпаўся макам перад спадарожнікам. Той, відаць, паверыў. Толькі паспеў Мізэрыя расказаць пра сябе старшаму лейтэнанту, як у вагон увайшоў вайсковы патруль. Сэрца ў хлопца абарвалася і паляцела ўніз. Пакуль патруль правяраў дакументы афіцэра, Мізэрыя сядзеў і, здаецца, не дыхаў. Старшы лейтэнант кіўнуў на Мізэрыю і сказаў, нібы пра нікчэмную рэч:

— Гэта са мною.

Патруль пайшоў далей, афіцэр агледзеў постаць салдата, прыгнутую страхам, грэбліва пасміхнуўся:

— Не ўмееш прайграваць. Слабак! Каб на наступнай станцыі я цябе тут не бачыў.

Пад вечар у той жа дзень Мізэрыя стаяў пад акном свайго пакойчыка ў бараку. Акно было шчыльна завешана, як ён ні стараўся хоць што-небудзь падгледзець, яму гэта не ўдалося. Тады ён пабег і пастукаў у дзверы. Калі яны адчыніліся, ён удыхнуў пах малака і пялюшак, абняў

сваю Мілу, схіліўся над дачкою, і душа яго зайшлася ад цеплыні і пяшчоты.

Праз двое сутак ён павёз сваю вінаватую галаву назад у часць, гатовы да самае жорсткае кары. Але, як вядома, пакаяннай галавы меч не сячэ. Адседзеў два тыдні на "губе", тым усё і скончылася.

Вярнуўся з войска на сваю працу і да сваёй Мілы. Праз год нарадзілася яшчэ адна дачка. Паступіў завочна ў інстытут, падрос па службе, атрымаў кватэру. Былі жонка і дзеці, было нейкае жыццё і праца, а душа-самотніца білася, як у клетцы, не знаходзіла спакою. Часам яму здавалася, што жонка абыякавая да яго. Як сядзе за сваё вязанне, дык пляце і пляце, як павук. Быццам ёй зусім няма чаго апрануць, быццам яна, працуючы ў краме, не пазабівала ўсе шафы. Зарплаты не хапае, а яна ўсё носіць і носіць патрэбныя і непатрэбныя рэчы.

Аднойчы так яму дапякло, што выкінуў тое вязанне з балкона. Міла накінулася на яго, нібы кошка, падрапала твар, давялося хадзіць з пісягамі на шчоках. Пасля некалькіх такіх сутычак ён перастаў дамагацца жончынай ўвагі і любові. Няхай яе Бог любіць! Аддаўся з галавою працы.

Ездзячы час ад часу ў сталіцу, Леанід Сымонавіч палюбіў сталічныя агні, тлум і шматлюднасць. Ён марыў стаць тут паўнапраўным жыхаром, а побач уяўляў толькі Любу, спакойную і засяроджаную ў працы, усмешлівую і прыязную ў гаворцы. Дзяўчына хоць толькі што з інстытута, але аказалася вельмі кемлівая. Гэтая празмерная кемлівасць не надта падабалася Мізэрыі, і пры ўсёй сардэчнасці адносін ён не прамінуў рабіць Любе заўвагі, нібыта жартам, нібыта ўсур'ёз:

— Вы, Любачка, як убачыце на сцяне маленькую трэшчынку, дык павінны ведаць, што з маленькае трэшчынкі можа ўтварыцца вялікая. І каб папярэдзіць аварыю, за-

кладвайце ў аб'емы работ болей цэглы, бетону, дошак... Тады будынак будзе стаяць як крэпасць...

— Нават калі там цэгла зусім не трэба?

— Так, разумніца вы мая. Нам самае страшнае недабраць. А перабранае заказчык зрэжа.

Люба ў спрэчкі не кідалася, але душа яе працівілася розным завышэнням. "Чаму я павінна дагаджаць начальніку і рабіць нешта насуперак свайму сумленню?" — сама ў сябе пыталася Люба, прыходзячы ўрэшце да высновы, што сумленне ўсё ж важнейшае, бо яно адно на ўсё жыццё, а начальнікаў яшчэ будзе-перабудзе.

Змалку марыла Люба паехаць у неабжыты, дзікі край і пабудаваць там дзівосны горад, але не пашанцавала з размеркаваннем, усіх выпускнікоў політэхнічнага пакідалі ў рэспубліцы, а ёй, выдатніцы, прапанавалі месца ў сталічным рамонтным трэсце, яна і згадзілася, у выніку чаго і апынулася ў гэтым маленькім гарадку, дзе давялося займацца рамонтам і паперамі. Работа была дробная і нецікавая, але і яе хацелася рабіць добра і сумленна.

Калі ў чарговы раз Мізэрыя паабяцаў ёй падараваць лупу, каб яна лепш прыглядалася да аб'ектаў, складаючы каштарысы, і не шкадавала дзяржаўных грошай на рамонт, Люба, не жадаючы псаваць адносін з начальнікам, прапанавала:

— Леанід Сымонавіч, а няхай майстры самі складаюць аб'ёмы работ, яны, думаю, сябе не пакрыўдзяць, а я падстаўлю расцэнкі, зраблю каштарыс, і ў мяне сумленне будзе чыстае.

— Любачка, вы наіўная дзяўчынка! Сумленна жыць нельга! Зразумейце вы гэта. Нікога ваша сумленнасць не цікавіць, трэба план! Толькі план!

— Я ж не вінаватая, што мне Бог уклаў сумленне. У кожнага свае недахопы,— засмяялася Люба.

— Добра, згода.

Жыццё пацякло далей сваім рэчышчам. Мізэрыя болей не папракаў Любу, не было чым, а яна ўсё часцей заўва-

жала на сабе яго ўважлівыя позіркі, пры гэтым ён не прамінаў гаварыць кампліменты. Дзяўчына прывыкла думаць пра яго як пра чалавека прыемнага і памяркоўнага. І сама ўжо хінулася да яго.

— Любачка, ці вы ходзіце на танцы?— аднойчы папытаўся Леанід Сымонавіч.

— Якія танцы ў мае дваццаць чатыры? Старая ўжо...

— А што мне гаварыць у такім разе?

— Для мужчын узрост не мае значэння, было б здароўе...

— Каб нам не згарэць на рабоце, сталічнае начальства арганізавала турпаездку ў Рыгу на тры дні. Як вам гэта падабаецца?

— Цудоўна!

— З нашага ўчастка бяруць восем чалавек, дык я запісваю вас, сябе і шасцёра рабочых...

Турысцкі аўтобус цэлы дзень каціўся ад Мінска па бясконцых дарогах і толькі апоўначы знайшоў той кемпінг, дзе турыстам належала пераначаваць. Натомленыя людзі размяшчаліся ў пакоях па пяць чалавек, радыя таму, што нарэшце можна легчы і выпрастаць азызлыя за дзень ногі. Толькі назаўтра ўсе разгледзелі, якую дзівосную мясціну падаравала ім Латвія. Кемпінг стаяў пасярод векавых сосанаў і елак на беразе чысцюткага, як сляза, возера. Ля самага берага цвілі кусты чаромхі, яны поўнілі водарам усё наваколле, а яшчэ там спявалі дзівосныя птушкі, людзі былі схільныя думаць, што гэта салаўі. А наперадзе былі два дні сустрэч з новымі гарадамі, музеямі, выставамі...

Рыга вітала іх велічным спакоем старых кварталаў, старою архітэктураю, якая не прыгнятала, а ўздымала душу, акрыляла, прымушала падымаць вочы да неба ў захапленні перад Домскім саборам і царквою Святога Пятра. Царква плыла ў неба, ляцела за хмарамі, ад гэтага відовішча

круцілася галава, трэба было заплюшчыць вочы і спусціцца на зямлю, каб захаваць раўнавагу.

Толькі ўвечары Мізэрыя з Любаю змаглі застацца ўдваіх. Спачатку яны пратанцавалі колькі танцаў на дыскатэцы. Гэта былі не танцы, а хутчэй таптанне на адным месцы, бо людзей набілася ў залу больш, чым яна магла змясціць. Ачмурэлыя ад задухі, таўкатні і гучнай музыкі, яны выбавіліся на вуліцу пад прасторнае чорнае неба. Пайшлі па асветленай алеі, што цягнулася берагам возера. Успаміналі пражыты дзень, гаварылі нешта нязначнае. Мізэрыя вёў Любу за руку, і ёй падабалася яго ўвага і далікатнасць. Відаць, у гэтым і ёсць чалавечая слабасць, што некаму ты дазваляеш весці сябе за руку і не хочаш ведаць, што будзе заўтра. А ці мала яна ўжо пахадзіла вось так за руку з іншымі хлопцамі, а таго адзінага, хто б завалодаў думкамі і сэрцам, не сустрэла.

Мізэрыя падвёў дзяўчыну да берага, дзе стаяла некалькі лодак, выцягнутых на пясок, таму бездапаможных і сіратлівых, прапанаваў прысесці, яна не адмовілася. Ён прыгарнуў Любу да сябе, абаім стала цёпла ў гэты свежы майскі вечар. Яна не вызвалілася, замерла так на імгненне, пакуль не адчула яго слабыя вільготныя вусны і нешта непрыемнае варухнулася ў душы. Яна яшчэ не паспела зразумець сябе, але другі і трэці пацалункі былі ёй яшчэ больш непрыемныя, яна адвярнулася і крадком выцерла вусны. Вызвалілася з ягоных рук, паднялася.

— Любачка, куды ж вы?

— Я вельмі стамілася, Леанід Сымонавіч, даруйце.

— Як жа вам мала трэба!— непрыхавана здзівіўся ён і нібыта нават узрадаваўся.

Яны няспешна вярнуліся ў кемпінг, усмешліва развіталіся, а назаўтра яна прыдзірліва прыглядалася да яго, імкнулася зразумець сябе і свае пачуцці. Так, бадай, ён цікавы і разумны, але ці той гэта чалавек, пра якога яна марыла? Ёй не падабаюцца яго рыжаватыя валасы, якімі ён старанна зачэсвае раннія залысіны, ёй не падабаецца

яго раздвоеная губа, яго манера гаварыць, ёй не падабаецца яго абмежаванасць у веданні мастацтва, трэба ж мець як базу хоць нейкія звесткі... Да ўсяго ён жанаты чалавек, мае дваіх дзяцей. Аднаго ўжо гэтага было дастаткова, каб спыніць сябе. Але там, дзе ў справу ўцягнуты двое, адзін нічога не вырашае. Люба яшчэ цягнулася да яго па інерцыі, бо ні дабро, ні зло так проста не забываецца, на тое і даецца чалавеку памяць.

Увечары яны зноў былі разам. Люба паводзіла сябе стрымана, старалася не пакрыўдзіць яго, але і ніякае прыхільнасці не выказвала. Ён, яшчэ не разумеючы, што з ёю здарылася, загаварыў пра будучае сумеснае жыццё:

— Любачка, я гатовы кінуць-рынуць усё і ехаць з вамі на край свету. Вы не пашкадуеце, вас яшчэ ніхто так не кахаў. Вы ўбачыце, як я люблю дзяцей...

— Леанід Сымонавіч, у вас жа ёсць дзеці. Як жа вы іх пакінеце, калі любіце?

— Гэта зусім іншае... Гэта вялікія дзеці, я іх не пакрыўджу, яны ўсё зразумеюць... Я гавару пра нашых дзяцей...

— Навошта гаварыць пра тое, чаго няма і ніколі не будзе. У вас ужо ўсё ёсць, вам нічога не трэба...

— У мяне ёсць... Няхай так! А ты? Ты адна. Ты нават не ўяўляеш, як я буду клапаціцца пра цябе, як буду шанаваць... Ты ж яшчэ нічога добрага ў гэтым жыцці не бачыла, ты сама яшчэ дзіця.— Ён паспрабаваў прытуліць яе, але ўсе яго словы цяпер для яе нічога не значылі.

Яна пашкадавала, што наблізіла да сябе гэтага чужога чалавека, цяпер жа вымушана адштурхоўваць, а такія добрыя, таварыскія адносіны былі. Люба вызвалілася з абдымкаў, пажартавала:

— Навошта спяшацца, трэба спярша пуд солі разам з'есці.

— Мне здаецца, што я гэты пуд зараз праглынуў, гэтак горка зрабілася.

— Прабачце, я не хацела вас пакрыўдзіць. Ды і такі

вечар дзівосны, дзякую вам за ўсё,— яна павярнулася і пайшла ў кемпінг. Усе яго словы і сам ён былі ёй цяпер непрыемныя.

Праца, праца... Яна была Леаніду Сымонавічу раднейшая за самую блізкую радню. Толькі тут мог паказаць ён людзям, на што здатны. Толькі тут патрэбны быў яго талент арганізатара і кіраўніка. Колькі крыві і нерваў каштавала яму будаўніцтва базы на голым месцы. А ён усё зрабіў: майстэрні, склады, кантору, гараж...

Але дзеля таго, каб пачаць новае жыццё, ён гатовы быў кінуць усё. Праўда, магчымасць на гэты пачатак трэба было яшчэ вырваць з рук лёсу. Ды ён быў упэўнены ў сабе, асабліва цяпер, калі побач Люба. Якое салодкае імя, колькі яно абяцае! Вось яна сядзіць побач у аўтобусе. Падарожжа заканчваецца, а жыццё працягваецца. Яны так падыходзяць адно аднаму, што трэстаўскія супрацоўнікі пыталіся, ці не жонка гэта ягоная. Канечне, жартавалі. Ну, няхай вашы жарты спраўдзяцца, няхай вам добра будзе.

Мізэрыя агледзеўся па баках і заўважыў дваіх сваіх рабочых: Ганну Сполку і Міколу Мярэжку, якія драмалі, пераплёўшы рукі, схіліўшы галаву да галавы.

"Вось яшчэ адно шчасце выспявае",— падумаў Мізэрыя, нібы ў гэтым факце шукаў апраўданне і сабе, бо Мікола быў жанаты, а Ганна дзеўкавала, заседзелася нават, ёй ужо за трыццаць пераваліла. Была яна высокая, жылістая, дужая, як мужык. На такіх звычайна будоўля трымаецца. І Мізэрыя ў думках пажадаў шчасця гэтай пары, а заадно і сабе.

Мізэрыі была патрэба затрымацца ў Мінску, ён правёў Любу на цягнік, быў на ўздыме, адчуваў толькі свой настрой і думаў, што яна адчувае тое самае.

З пачуццём прыкрасці і незадаволенасці сабою з'явілася ранкам Люба на працу. Нешта мучыла дзяўчыну, гэтак з ёю здаралася і раней. Чым больш яна даведвалася пра

чалавека, тым больш аддалялася ад яго душою. Яшчэ не паспела ўзяцца за працу, як зазваніў тэлефон. Пачула голас Леаніда Сымонавіча, сумелася, ніякавата павіталася. Не, сёння ёй не хацелася ні чуць яго, ні бачыць.

— Любачка, я нешта такое прыдумаў, што вырашыць усе нашы праблемы.

— Ай, Леанід Сымонавіч, няма ў нас з вамі ніякіх праблем. Ад дабра дабра не шукаюць,— адказала яна і паклала трубку.

Яна марыла, што некалі ёй сустрэнецца прыгожы хлопец, з якім яна будзе спакойна і шчасліва жыць. І яна чакала гэтага адзінага хлопца. Лепш адной, чым абы з кім. Было ўжо ў яе нешта падобнае да кахання. Дзесяцікласніцаю пазнаёмілася яна з Андрэем, студэнтам педвучылішча, які прыязджаў на Новы год пагасцяваць да брата. Яны выпадкова сустрэліся позіркамі на вуліцы, запомнілі адно аднаго, а пазнаёміліся пазней на танцах у Палацы культуры каля навагодняй ёлкі. Увесь вечар яны танцавалі толькі ўдваіх, гаварылі і гаварылі, нібы добра знаёмыя, што даўно не бачыліся. Аказалася, каб Андрэй не паступіў у вучылішча пасля восьмага класа, дык цяпер яны, напэўна, хадзілі б у адну школу. Бо ўсе старшакласнікі ды і былыя ягоныя вясковыя аднагодкі вучыліся ў Любінай гарадской школе і жылі ў інтэрнаце. Таму іхняя сённяшняя сустрэча здавалася наканаванаю. Так, яны не маглі размінуцца.

Люба пасля дзесяцігодкі ў інстытут не паступіла, а пайшла працаваць на будоўлю. Андрэя пасля заканчэння вучылішча накіравалі ў далёкую палескую вёску. Сустракаліся яны рэдка, затое шчыра пісалі адно аднаму лісты. Восенню яго забралі ў войска, так і доўжылася жыццё ад ліста да ліста ў марах пра сустрэчу.

Калі Андрэй вярнуўся з войска, Люба ўжо вучылася на першым курсе політэхнічнага. Хлопец насумаваўся ды нагараваўся на казённых харчах, таму хацеў мець сваю хату і сям'ю, як належыць сталаму мужчыне. Адразу пра-

панаваў Любе пабрацца. Дзяўчына падумала, усё ўзважыла і адказала, што пакуль не варта, бо ёй яшчэ шмат вучыцца.

— Тады і [redacted] буду паступаць,— сказаў Андрэй.— Вось толькі вагаюся, на стацыянар лепш ці на завочнае?

— Вядома, на стацыянар! Што гэта за вучоба "завушная", калі цябе за вушы цягнуць.

— Угаварыла,— засмяяўся Андрэй.

Зіму ён адпрацаваў на рэтрансляцыйнай станцыі ў лесе, пісаў Любе ў Мінск вясёлыя і смешныя лісты, выдумляў розныя прыгоды, [redacted] летам паступіў у Маскоўскі універсітэт.

Цяпер яны сустракаліся толькі на канікулах, у той кароткі прамежак пасля працоўнага семестра, адвыкшы адно ад аднаго, уважліва прыглядаліся, прыдзірліва абдумвалі сказанае і недагаворанае.

У адну такую сустрэчу Люба расказала Андрэю сон, які прысніла надоечы:

— Ведаеш, прыснілася мне, што ты ляцеў на санках з гары з нейкаю бландзінкаю, а я стаяла збоку і глядзела на вас. Ты мяне нават не заўважыў.

Андрэй памаўчаў, пасля папытаўся:

— А калі б гэта было на самой справе? Што б ты сказала?

— Пажадала б шчасця. Што ж яшчэ?

— І гэта ўсё?

— Не, не ўсё. Больш ніколі не пішы мне і не прыязджай. Я не хачу цябе бачыць,— кінула Люба на хаду, каб не паказваць яму сваіх слёз, пабегла па лесвіцы наверх у сваю кватэру.

Канечне, цяжка было Любе адчуваць сябе ашуканаю і пакінутаю, але трэба было жыць далей. Яна разумела, што пакахаць яшчэ раз ёй, можа, і не ўдасца, таму давядзецца розумам узважыць прэтэндэнта ў мужы і вырашыць станоўча ці адмоўна. А які прэтэндэнт з Мізэры? Калі ён нават знешне ёй не падабаецца. Гэта яшчэ адна

прыгода ў жыцці, трэба зрабіць выгляд, што нічога не здарылася. Усяго і бяды, што ў яе закахаўся начальнік. Дык сапраўдную жанчыну заўсёды павінен нехта кахаць, і хутчэй за ўсё без узаемнасці.

Мізэрыя прыехаў з трэста, сабраў рабочых на сход, доўга гаварыў пры поспехі і новыя задачы, тым самым набіваў цану свайму мудраму кіраванню. Люба з прыкрасцю слухала яго і не магла зразумець, што прывабнае яшчэ зусім нядаўна знаходзіла яна ў гэтым чалавеку. Рыжы, з залысінамі, сярэдняга росту, раздвоеная верхняя губа, нудная прамова. Сёння ён, бадай, сумны ці расчараваны. Нічога, усё міне.

Мізэрыя вырашыў часова адступіцца ад Любы. Няхай яна агледзіцца, абдумае, каго страціла. І прэмію трэба зрэзаць, каб ведала, як начальнікам грэбаваць. А яму якраз трэба пакумекаць, як заваяваць давер галоўнага інжынера трэста, з якім Леаніду Сымонавічу найчасцей даводзіцца кантактаваць. Апошняя сустрэча ў іх выдалася асабліва цёплая. Тады Мізэрыя разам са справаздачаю ўручыў галоўнаму інжынеру драўлянага арла, выразанага разьбяром, і кілаграмаў пяць таранкі. Галоўны інжынер быў вельмі ўсцешаны падарункамі, пахваліў падначаленага і аддаў пад ягонае кіраўніцтва яшчэ два маленькія ўчасткі ў суседніх раёнах, пасля чаго ў Мізэрыі з'явілася новая пасада. З начальніка ўчастка ён ператварыўся ў начальніка вытворчасці. Такім чынам, з матэрыяльна адказнай асобы ён вырас у адміністрацыйную адзінку, якая здзяйсняла кіруючую і размеркавальную функцыі, адказвала толькі за выкананне плана. Прытым усе матэрыяльныя каштоўнасці былі пад рукою, карыстайся як хочаш, адказнасці амаль ніякай. Цяпер Мізэрыі патрабаваўся новы начальнік на базавы ўчастак, на былое сваё месца, каб самому вызваліцца для кіраўніцтва вытворчасцю. Адкрывалася шмат работы ў двух новых раёнах. Тут, дома, ён шмат паспеў: па сутнасці,

пасадзіў сабе ў кішэню ўсё мясцовае начальства. Каму пабудаваў сауну каля катэджа, каму гараж, каму хлеў, каму зрабіў рамонт ці ўбудаваную мэблю. Канечне, разлічваліся яны не са сваёй кішэні, плацілі тым, што падпісвалі "ліпавыя" працэнтоўкі за дзяржаўны кошт.

Тым часам і рабочыя змікіцілі, што ў Мізэрыі асабліва пуп рваць не варта, грошы заробяцца самі. Ды і майстры толькі ў рот глядзелі начальніку. Ніякіх пытанняў і пярэчанняў. Чухлей дык увогуле нагадваў Леаніду Сымонавічу чалавека, ні на што не здатнага. Год таму ішло абмеркаванне брэжнеўскай канстытуцыі. Чухлей раптам атрымаў ліст-падзяку з газеты "Правда" за цікавыя прапановы і дапаўненні да канстытуцыі. Стары вельмі спалохаўся, бо нікому ён нічога не пісаў. А хто і што напісаў ад яго імя, невядома. Раптам там якая крамола? Прыйдуць, забяруць, і знікне ён невядома куды. Ці мала знікала людзей у розныя часы? Чухлей не жыў, а марудна паміраў ад страху. Мізэрыя адчуваў, як ад старога патыхае магілаю, стараўся гаварыць з Чухлеем здалёку, бо па-чалавечы было яго шкада. Мо не надта вялікі розум меў Чухлей, затое быў хітры. Вайну пераседзеў дзякам у царкве, так што немцы яго не зачапілі і рускія не прыдраліся. Пасля вайны таксама хутка зарыентаваўся, падаўся ў сталіцу на будоўлю, скончыў школу майстроў, так і працягнуў астатняе жыццё на лініі без асаблівых прэтэнзій. Мізэрыі хацелася хоць як-небудзь падтрымаць свайго старога настаўніка. Неяк паклікаў ён Чухлея і прапанаваў:

— Давай мы з цябе, Харытон Іванавіч, зробім ветэрана вайны і працы. Павесім твой фотаздымак на Дошцы гонару ў трэсце, пакрасуешся, пацвіцеш...

— Які я ветэран, што ты, Лёня?

— Хопіць трэсціся, чым ты не ветэран? Усё жыццё — на будоўлі, у вайну выжыў...

— Ды няёмка неяк...

— Сарамлівы, як старая дзеўка. Падумай і давай згоду, пенсія будзе большая, прывілеі розныя...

Чухлей ноч абдумваў прапанову і прыйшоў да высновы, што ўсё роўна яму хутка на пенсію, раптам удасца нешта ўварваць, дык чаму б не...

Праз месяц Чухлееў фотаздымак ужо красаваўся ў трэсце на Дошцы ветэранаў вайны і працы. Партрэт Мізэрыі вісеў на суседняй Дошцы гонару. Абодвум была забяспечана пашана і ўвага. Чухлей пасля гэтага акрыяў, пасвяжэў, але пачаў папіваць.

Мізэрыя бачыў, што Чухлей ужо не работнік, таму ўзяў яму на падмогу маладога хлопца, сынка аднаго з мясцовых начальнікаў. Ігарок завочна вучыўся ў будаўнічым інстытуце, быў паслухмяны і спакойны, усю самастойнасць з яго бацька выбіў яшчэ ў маленстве.

Знайшлася нарэшце кандыдатура і на пасаду начальніка ўчастка. Мізэрыя запрасіў на працу бывалага будаўніка Яўгена Мікалаевіча Чакана. На ўчастку цяпер патрэбны быў менавіта гэткі чалавек, які мог бы выцягнуць план і навесці такі-сякі парадак, бо рабочыя зусім разбэсціліся. На яго і ўзваліў Мізэрыя ўсе свае нядаўнія клопаты, а сам заняўся выключна вытворчасцю і новымі ўчасткамі, набіраў кадры, разжываўся будаўнічымі матэрыяламі, знаёміўся з начальствам тых раёнаў, дзе знаходзіліся яго рамонтныя аб'екты.

Дзень на дзень не прыходзіцца. Сёння да Рэгіны Янаўны ішлі людзі са сваімі крыўдамі. Першая заявілася жонка Мярэжкі Люся са скаргаю на Ганну Сполку, што тая разбівае сям'ю, а ў дадатак ужо двойчы разбіла ёй галаву. Мікола з Рыгі паехаў да Ганны і гасцяваў там тры дні і тры ночы. Люся не вытрывала і пайшла забіраць мужыка. Забраць забрала, але Ганна наўздагон разбіла ёй галаву. Другі раз сустрэлася Люся з Ганнаю выпадкова каля гастранома. І зноў Ганна не вытрымала, каб не трэснуць суперніцу кулаком па галаве. А кругом людзі, колькі сораму было Мярэжкавай жонцы!

Давялося Рэгіне Янаўне выклікаць на размову Ганну Сполку, тая не прымусіла сябе чакаць. Увайшла з вуліцы ружовая, дыхае здароўем і сілаю, пасміхаецца шчасліва з парога:

— Добры дзень. Ці выклікалі?

— Добры дзень. Заходзьце, Ганна Сяргееўна. Тут на вас скарга, што вы сям'ю разбіваеце.

— Нічога я не разбіваю. Няма там сям'і. Я яго кахаю, ён — мяне. Дык хто нам забароніць?

— Вы сабе кахайце, але навошта ж Люсі Мярэжцы галаву двойчы разбілі?

— Ды чорт яе ведае, што ў яе за галава! Як стукну, дык і разаб'ю.

— А яна сказала, што ў суд будзе падаваць.

— Гэта ўжо яе справа.

— Дык вы, Ганна Сяргееўна, другі раз асцеражней якнебудзь...

— Буду старацца.

На тым і паладзілі. Наступным заявіўся Ваня Воўк, малады хлопец, толькі пасля войска, прынёс заяву на звальненне.

— Куды ж вы пойдзеце ад нас, Іван Ніканавіч? У горадзе з працаю цяжка. Што вас тут не задавальняе?— папыталася Рэгіна Янаўна.

— Не хачу быць падсобнікам.

— Дык мы ж вас цесляром узялі, набудзеце прафесію.

— Нічога я тут не набуду. Мяне прымушаюць толькі падносіць ды адносіць.

— У вас жа ёсць брыгадзір, які абавязаны вас вучыць.

— Ён мне сказаў, што сына свайго ён вучыў бы, а на мяне — часу няма.

— Мы пагаворым з брыгадзірам, не забірайце пакуль што заявы.

— Добра,— згадзіўся хлопец,— але калі ўсё застанецца, як было, дык я не затрымаюся.

У Рэгіны Янаўны ад гутарак з людзьмі ажно галава разбалелася, а тут яшчэ трэба сабраць цэхком ды вызначыць, каму даць званне ўдарніка. Накідала спіс, зайшла да Мізэрыі. Той прачытаў спіс, застаўся задаволены. Ніякіх пярэчанняў не выказалі Чакан і Чухлей.

Па абедзе ўвесь участак сабраўся на прафсаюзны сход, у прэзідыуме сядзелі Мізэрыя, Чакан, Чухлей і Рэгіна Янаўна, якая вяла сход. Усё ішло як заўсёды. Чухлей расказаў пра бягучыя справы, пра выкананне плана. Мізэрыя абмаляваў поспехі ўсёй вытворчасці. Чакан не выступаў, ён яшчэ прыглядаўся пакуль да людзей. Пасля Рэгіна Янаўна зачытала спіс рабочых, якім прысуджана званне "Ударнік камуністычнай працы" і "Лепшы рабочы". Калі яна назвала ў шэрагу ўдарнікаў Ганну Сполку і Івана Мярэжку, людзі загаманілі, захіхікалі, нават нехта крыкнуў:

— Якія яны ўдарнікі, калі то любяцца, то судзяцца?

— Але ж працуюць выдатна,— адгукнуўся Мізэрыя.

Ганна з Іванам стаялі плячо да пляча, ці ім месца не хапіла, ці яны не збіраліся тут доўга затрымлівацца, пасміхаліся, відаць, ім было прыемна, што людзі хоць гэтак прызнаюць іхняе каханне.

— Ды нічога нам не трэба,— гукнула Ганна,— нам і так добра.

— У такім разе дамо ім званне "Лепшых рабочых",— супакоіў усіх Мізэрыя.

— Дзякуем,— з пераможнаю ўсмешкаю адказала Ганна і пацягнула Івана за рукаў да выхаду,— пойдзем, што тут час марнаваць.

Мізэрыя з зайздрасцю паглядзеў ім услед, падумаў: "Вось гэтак трэба за шчасце змагацца. А тут не каханне, а адна пакута. Ніякае ўзаемнасці і шчырасці. Галаву зломіш, пакуль прыдумаеш, што сказаць, каб дагадзіць..." Ён раздражнёна зірнуў на Любу, тая ўтаропілася ў акно, думала пра нешта сваё. Ну, што тут зробіш? Яна не ведае, яна нават не здагадваецца, як на яго заглядаецца Ліда

Хлус. Ды яму варта толькі пальцам кіўнуць, як тая пабяжыць да яго хоць удзень, хоць уначы. Але ён пакуль трымае марку недасяжнага начальніка, адно што карыстаецца ўсімі матэрыяламі з яе складаў так, як яму зручна. Ды ў яго такое ўражанне, што Хлус не адчувае ніякае адказнасці. Яе хоць цяпер можна за растрату ў турму пасадзіць, настолькі яна яму давярае. Курыныя мазгі мае, але патрэбны чалавек. Шкада, канечне, што яна тэхнічна непісьменная, а так нацкаваў бы Ліду на Любу, яны б адна адну з'елі. Сядзе Люба правяраць Лідзіну справаздачу, а там і кубы не гэтак падлічаны, і акруглена не так, скрозь памылкі. Ліда ажно з сябе выходзіць, а з Любаю нічога зрабіць не можа, бо сама вінаватая. Бяжыць да яго, Мізэрыі, скардзіцца ды разам памылкі выпраўляць. Але Мізэрыю лепш дзесяць малапісьменных Лід, чым адна прынцыповая і адукаваная Люба. Трэба пры нагодзе адзначыць адданага майстра Ліду Хлус, мо калі ў прэзідыум пасадзіць на гарадской урачыстасці, а мо і ў дэпутаты гарсавета вылучыць.

Нейк ён надумаў уцягнуць Любу ў свае справы хітрасцю, завязаць яе на матэрыяльнай адказнасці, паставіць перад фактам недастачы, а там напалохаць і рабіць з ёю што заўгодна.

— Ліда Хлус ідзе ў адпачынак. Прапаную вам, Любоў Міхайлаўна, папрацаваць месяц на яе месцы. У вас там заробак утрая будзе большы, прэмію накіну дадаткова, а вы там хоць парадак наведзяце.

— Мне і на сваім месцы добра. А вы мяне і за дзесяць акладаў не спакусіце.

— Шкада, шкада, што вы мне не верыце. Не любіце вы мяне...

— Чаму ж, люблю,— адказала яна, спрабуючы згладзіць непрыязнасць, але ад гэтых сваіх слоў і ад хлусні ёй стала самой брыдка.

— Не, так не любяць...

Пасля тае гаворкі ён адчуў, што пачынае губляць яе, але як і чым утрымаць, не ведаў.

Трэба было канчаць сход. Мізэрыя павіншаваў рабочых са званнямі, развітаўся. Людзі загаманілі, пачалі падымацца і выходзіць. Замільгалі жаночыя хусткі і мужчынскія лысаватыя, як зрэзаныя, патыліцы.

Рэгіна Янаўна была незадаволена сабою і сходам. Як яна не здолела прадбачыць сітуацыі з Мярэжкам і Сполкаю? Гэта ёй навука надалей. Вось так заўсёды бывае: нехта любіцца, а на цябе шышкі валяцца.

Новаму начальніку ўчастка Чакану з выгляду можна было даць гадоў сорак пяць, не болей. Высокі, з прыемным, свежа-ружовым тварам, нібы яго абміналі суровыя жыццёвыя вятры, а можа, гэта ўнутраная прыгажосць свяцілася. Чакан сур'ёзна ўзяўся за справу, спыніў дачасныя ўцёкі рабочых з працы, чым выклікаў вялікую незадаволенасць падначаленых. Ён звык працаваць сам і не любіў лайдакоў.

Мізэрыя раптам з рэўнасцю адчуў, што Чакан становіцца гаспадаром участка. Гэтая думка ўсё часцей непакоіла начальніка вытворчасці, не падабалася яму і тое, што Чакан наклаў сваю руку на ўсе матэрыялы. Цяпер кладаўшчыца Галя без Чаканоўвага подпісу не выдавала нават іржавага цвічка. Мізэрыя паспрабаваў дабром дамовіцца з Чаканом, свае ж людзі.

— Яўген, нешта не ладзіцца ў нас з табою праца.

— Што маеш на ўвазе?

— Разумееш, ніякае няма крамолы ў тым, што мы тады-сяды прадамо "налева" бочку фарбы або тысячу-другую цэглы. Нам жа трэба мець вольныя грошы. Тут і камісіі наязджаюць, і там-сям наяўнымі трэба разлічыцца. Вось ты колькі ўчора даў залётнаму экскаватаршчыку за траншэйку?

— Дваццатку, а што?

— І шмат у цябе дваццатак?

— Няхай цябе гэта не хвалюе.

— Ну, хто так працуе? Падумай сам. Я ж табе дабра хачу.

— Я будаўнік, а не гандляр. Разумееш? І табе не дазволю дзяржаўнай маёмасцю гандляваць. Я матэрыяльна адказны, таму заўсёды гатовы адказаць у першую чаргу перад сваім сумленнем. А ты кіруй вытворчасцю і мне не замінай.

— Ну-ну, пабачым, што ты заспяваеш праз два-тры месяцы, калі ў цябе не будзе хапаць матэрыялаў і аб'ёмаў работ, ты сам упэўнішся, што сумленна ў нашай краіне жыць нельга...

Мізэрыя яшчэ не ведаў як, але ўжо рыхтаваўся правучыць гэтага ўпартага чалавека. Гэта ж трэба было так памыліцца! Не, Мізэрыя не мог так жыць, ён задыхаўся без працы, без новых задум, без рызыкоўных аперацый. Нуднае, пасіўнае жыццё забівала яго.

Леанід Сымонавіч зусім адышоў ад кіравання сваім базавым участкам, болей матаўся па раёнах. У начальніка аўтабазы, мужа Рэгіны Янаўны, ён узяў у арэнду маленькі "ўазік". Грузавічок быў вельмі зручны, на ім можна было перавозіць грузы і людзей, а найбольш Мізэрыя выкарыстоўваў яго як персанальную машыну, ездзіў ранкам на працу, пасля на абед і, зразумела, ва ўсе камандзіроўкі.

Яшчэ адна вялікая турбота была ў Мізэрыі. Ён будаваў базу адпачынку. Гэта будзе райская мясцінка на беразе возера, дзе змогуць адпачываць лепшыя людзі вытворчасці і трэста. Галоўны інжынер ужо выдзеліў яму навенькі катэр. Мізэрыя раздабыў дзесятак бракаваных санітарных кабін на домабудаўнічым камбінаце, заставалася прыстасаваць гэтыя кабіны пад пакоі адпачынку, абсталяваць ложкамі і ўсім неабходным. Яго ўяўленне часам малявала такія карціны, ад якіх захоплівала дух. Пакуль гэта быў яго сакрэт, якім ён вельмі хацеў падзяліцца з

Любаю. Няхай бы яна парадавалася, што цяпер у іх з'явіцца магчымасць адпачываць там разам. Але ён трываў, нічога не гаварыў, бо пакуль не ўдавалася выбіць кавалак зямлі на беразе возера, менавіта там, дзе яму хацелася.

Чакан з цяжкасцю выцягнуў план за май, канечне, віны тут ягонай не было. Вінаваты быў Мізэрыя, які зімою скарэкціраваў план, гэта значыць частку работ перакінуў на лета, апраўдваючы тым, што зімою многія будаўнічыя аперацыі нельга выконваць. Але ўзяўся за справу, дык трэба цягнуць, куды падзенешся. Сам Мізэрыя тым часам збіраўся ў адпачынак, яго быццам зусім не турбавала тое, што адбываецца на ўчастку.

Чакан не прасіў дапамогі і парады, наадварот, трымаўся незалежна і аддалена, нават перасяліўся ад Мізэры ў нейкую цёмную каморку без тэлефона. Гэта раздражняла Мізэрыю. Не, так працаваць ён не звык. Падначаленыя павінны быць падначаленымі, інакш сам начальнік не патрэбны. Чакана трэба выжыць з участка, але разумна і пажадана чужымі рукамі. Рэпутацыя чалавека — найвялікшы скарб, які, страціўшы, ні за якія грошы не купіш. І ў Мізэры выспеў план, як пазбавіцца ад Чакана, заставалася толькі пачакаць, калі створацца спрыяльныя ўмовы.

У пачатку чэрвеня Мізэрыя атрымаў з трэста санаторную пуцёўку на Чорнае мора. Ехаць вырашыў усёй сям'ёй. А Люба няхай пазайздросціць і параўнуе яго. Была б разумнейшая, паехалі б разам. Каб там лягчэй уладкаваць сям'ю, забраў усе запасы сувеніраў з дрэва. Увогуле ў гэтыя дні быў заняты толькі сабою, здаваў аналізы, рыхтаваў санаторную карту. Аднак ніхто з падначаленых чамусьці і ўвагі не звяртаў. Кожны займаўся сваёю справаю.

"Пачакайце, вы яшчэ ўспомніце мяне, вы яшчэ прыбежыце да мяне, прыпаўзяце на каленях прасіць ратунку",— пагрозліва думаў ён, калі апошні раз перад адпачынкам вяртаўся дадому.

А дома жонка напакавала тры вялізныя чамаданы. Леанід Сымонавіч глянуў і жахнуўся:

— У мяне ж толькі дзве рукі. Як я іх панясу?

— Возік возьмем,— спакойна адказала жонка.

— З возікам на Чорнае мора?— аж задыхнуўся ад злосці Мізэрыя.— Выкідай усё зараз жа! Там цёпла, ты разумееш? Там можна ў адных шортах і майцы цэлы месяц хадзіць!

— Вось ты і едзь у шортах, а сабе і дзецям я вазьму ўсё, што трэба.

— Не возьмеш,— раз'юшана закрычаў Леанід Сымонавіч і пачаў вытрасаць адзін чамадан.

— Вазьму!— заверашчала жонка і кінулася да яго, каб падрапаць, як звычайна, нафарбаванымі кіпцюрамі.

Але ён спрытна адхіліўся і выскачыў на балкон, падумаў толькі: "І навошта я гэтую язву валаку з сабою на мора? Хай сядзела б тут на скуле, а я хоць адпачыў бы па-людску. Не, ужо як не шанцуе, дык ва ўсім адразу".

Цёплы, шчодры на сонца чэрвень прамільгнуў як адзін дзень. Рэгіна Янаўна і Люба наперабой штодня мянялі лёгкія сукенкі, цвілі як півоні, на фоне шэрага індустрыяльнага пейзажу. Разняволеныя адсутнасцю Мізэрыя, яны шмат хадзілі па аб'ектах, рукі іх пакрыліся прыемным загарам, а твары свяціліся дабром і шчырасцю.

Непрыкметна наблізілася справаздачная пара, Рэгіна Янаўна і Люба заселі за працэнтоўкі, рахавалі, прыкідвалі. Да плана не хапала дзве тысячы. Яны круцілі так і гэтак, што б яшчэ дадаць, што ўключыць у план. Жанчыны шчыра спачувалі Чакану, хацелі, каб усё добра было на ўчастку, пакуль Мізэрыя лечыцца на моры. Якраз на той час наведалася кладаўшчыца Галя, папыталася ўстурбавана:

— Ну, як з планам?

— Не хапае дзве тысячы,— адказала Рэгіна Янаўна.— Трэба Чакану сказаць, мо ў каго ў доўг папросіць працэнтоўку падпісаць.

— Гэта ўсё Мізэрыя! Павялічыў план на лета і паехаў адпачываць,— абурылася Галя.— Прайдзісветы яны: ён і ягоны Брыкун. Усё дурнейшых за сябе шукаюць. Днямі просіць Брыкун: дай дзесятак накладных чыстых з подпісам. Але ў мяне не пажывіцца.

— Такое ў іх хобі: штодзень шахер-махер рабіць,— сказала Люба.— А нам трэба план выцягваць. Мяне Мізэрыя таксама пасылаў да заказчыка падпісваць заяўку на пяць тысяч штук цэглы на нейкую будыніну. Я прыкінула, аказалася, што туды і тры тысячы зашмат, ды і кажу пра гэта Мізэрыі. Ён аж барвовы зрабіўся, не ведаю, ад злосці ці ад сораму.

— Ведаеце што, я пагавару са сваім мужыком. Няхай ён падпіша працэнтоўку на гэтыя дзве тысячы. Ён Мізэрыю ненавідзіць. Ён усё зробіць, каб насаліць гэтаму круцялю,— паабяцала Галя.

Праз тыдзень справаздача была гатова, аддрукавана і праверана. Чакан не ведаў, як аддзячыць жанчынам за дапамогу, хоць было трохі няёмка, што і яму спатрэбілася працэнтоўка ў доўг. Не хлопчык жа, усё жыццё на будоўлі. Нешта не ўлічыў, нечага не дагледзеў. Як бы там ні было, а Чакан са спакойнаю душою павёз справаздачу ў Мінск.

Яшчэ адзін месяц скончыўся, можна было трохі перадыхнуць, адпачыць. Чухлей унурыўся ў газету, яго памочнік Ігарок драмаў за сталом, разморany спякотаю, паклаўшы галаву на рукі. Разьбяр па дрэве ўвогуле заваліўся пад варштат у сваёй майстэрні, ён нядаўна ажаніўся з маладою ўдавою, цяпер яму сну не хапала. Рэгіна і Люба

абмяркоўвалі мадэлі сезону, калі прыбегла кладаўшчыца Галя і сказала:

— Мізэрыя вярнуўся з санаторыя, але працягвае лячэнне ў бальніцы. Абвастрэнне атрымаў на курорце.

— Гэта ён, відаць, даведаўся, што мы план без яго выканалі, вось і злёг ад злосці,— засмяялася Люба.

— Напэўна даведаўся,— пацвердзіла Рэгіна.— Але ж трэба наведаць хворага начальніка. Хто пойдзе?

Люба і Галя адмовіліся, сказалі, што варта паслаць Ігарка. Няхай ён сходзіць, распытае, а пасля ўсё раскажа.

Сапраўды, калі Мізэрыя даведаўся, што вытворчасць паспяхова выканала план, то зразумеў, што на працу яму лепш не выходзіць, трэба яшчэ пачакаць месяц і зрабіць усё, каб Чакан заваліў план. Ён тут жа пазваніў галоўнаму ўрачу мясцовай бальніцы:

— Сяргей Сцяпанавіч, вітаю!

— Здароў! Як там мора? Ці цёплае?

— Цёплае, хай яно спрахне... Руку застудзіў, ные, ноч не сплю. Усе хваробы абвастрыліся. Ратуй, браце, бо памру.

— Да заўтра датрываеш?

— Пастараюся.

— Як моцна будзе балець, дык грамаў сто закінь за каўнер, а заўтра ранічкаю прыходзь, палечым. Будзь.

— Будзь,— адказаў Мізэрыя, паклаў трубку, задумаўся.

Зімою ён абклаў кабінет галоўнага ўрача паліраванаю плітою, зрабіў яму шафы і паліцы, таму мог разлічваць на самае цёплае стаўленне з боку персаналу гарадской бальніцы. А ў тым, што ў яго знойдзецца, што лячыць, ён не сумняваўся. Бо ён ніколі не звяртаўся да дактароў, не хапала на гэта часу. Нават кутнія зубы дагнівалі ўжо нялечаныя, адны абламаныя пянькі тырчэлі. Цяпер ён вырашыў лячыцца, пакуль не стане зусім здаровы.

Адчуваў сябе Леанід Сымонавіч сапраўды благавата. Гэта ж дадумаўся, дурань, паехаць адпачываць з сям'ёю. Два выхадныя дні з жонкаю пражыць — праблема, а то дваццаць чатыры дні! Пад канец яму ўжо выць хацелася. Жонка і дочкі выматалі ўсю душу, атруцілі сваімі бясконцымі капрызамі, слязамі і лаянкаю.

Першае, што ўзяўся лячыць у Мізэрыі галоўны ўрач, гэта поліартрыт. Хворы старанна піў таблеткі, грэў локці і калені. Яго праведвалі супрацоўнікі: спачатку Ігарок, пасля Чакан. Як яму хацелася ўбачыць Любу, але яна не ішла. Не, не спачувала яна яму, відаць, не шкадавала. Мізэрыя распытаў у Чакана пра справы, пра людзей, спытаўся і пра Любу. Але ці ж чужымі байкамі будзеш сыты? І чаго каштавала яму гаворка з падначаленым, калі ён у душы яго трываць не мог.

— Ну, як там Мізэрыя пачуваецца?— папыталася ў Чакана Рэгіна Янаўна.

— Нічога, лечыцца.

— А што ж яму баліць?

— Рука.

— І што з тою рукою?

— Нейкая белая яна ў яго.

— Ад чаго ж ёй быць чорнай? Ад загару? Дык ён жа рыжы, да яго загар не прыстае, ён яе парафінам распарыў, а пасля вам паказаў,— засмяялася Рэгіна.

Чакан не падтрымліваў Рэгініных кпінаў, бо разумеў, што проста так у бальніцу не кладуць. Але ведаў, што часам жаночай інтуіцыі даступнае тое, што іншы мужчына і вялікім розумам не спасцігне. Ён паважаў і любіў сваіх супрацоўніц, што так стараліся памагчы яму, новаму чалавеку, выблытацца з цяжкага становішча. А прыгожыя ўсе як адна. Люба светлаю сваёю маладосцю і непасрэднасцю, Рэгіна — спелаю жаноцкасцю і роўнасцю, Галя — хітрынкаю ды прадбачлівасцю. А ўвогуле ўсе яны сла-

ўныя, вартыя самых добрых слоў, шкада, што няма завядзёнкі гаварыць падначаленым камплiменты ў буднiя днi, трэба дачакацца свята.

Праз тыдзень Мiзэрыя вымушаны быў паскардзiцца доктару на страўнiк. Недзе ў iм сядзела iнфекцыя, i яе трэба было шукаць, цi мала дзе яна магла засесцi. Галоўны ўрач разумеў, што давядзецца разлiчвацца за палiраваную плiту, трываць капрызы хворага i лячыць яго столькi, колькi дазволяць абставiны. Перавёў Мiзэрыю ў сваё аддзяленне, прызначыў даследаванне страўнiка i печанi.

На працягу тыдня страўнiк, печань, ныркi i ўсе вантробы былi прасвечаны, абстуканы, праслуханы. Акрамя трывiяльнага гастрыту, нiякiх iншых хвароб, вартых сур'ёзнага лячэння, не выявiлася. Тады Мiзэрыя паскардзiўся, што даўно пакутуе ад хранiчнага танзiлiту. Гланды ў яго былi вялiкаватыя.

Леанiд Сымонавiч стойка перанёс ампутацыю гландаў, ляжаў у палаце з балючым горлам, выплёўваў крывавую слiну, але боль ад ушчэмленага самалюбства быў яшчэ большы. Як толькi горла трохi зажыло, ён паклiкаў да сябе на раду ў бальнiцу Чухлея i Брыкуна. Выдаў кожнаму асабiстае заданне на правал месячнага вытворчага плана. Цяпер ён у поспеху не сумняваўся, самае цяжкае было пратрымацца ў бальнiцы да канца месяца, каб Чакану давялося самому везцi справаздачу i прызнацца ў сваёй бездапаможнасцi i няздатнасцi кiраваць калектывам.

Чакан, навучаны цяжкасцямi мiнулага месяца, па вяртаннi з трэста ўзяўся за справу з асаблiваю стараннасцю. Накiраваў Брыкуна з машынаю ў трэст па будматэрыялы пад павялiчаны летнi план. Брыкун прывёз паўнюткую машыну фарбы, масцiкi i iншага будаўнiчага дабра, усё было выгружана i складзена. I тою ж ноччу склад абабра-

лі дарэшты. Гэта на абгароджанай тэрыторыі завода. Слядоў ніякіх, акрамя адбіткаў шын Брыкуновай машыны. Нібыта нячысты дух вынес усё на крылах. Заявілі ў міліцыю, але злодзея так і не знайшлі.

Чакану зноў давялося біцца рыбінаю аб лёд, шукаючы хоць якой фарбы, цэменту, драўніны. Вядома, цябе абакралі, ты сам і вінаваты. Канечне, цяпер спатрэбіліся б Мізэрыевы сувязі, але Ігарок пасля чарговага наведвання хворага прынёс навіну, што Мізэрыі выразалі апендыкс.

— Гэта ж проста анекдот,— сказала Рэгіна.

— Які анекдот?— навастрыў вушы Ігарок.

— Малады ты яшчэ.

— Я заўтра заяву ў загс нясу, а вы, малады, кажаце...

— Ну, добра... Гаворыць Сара Абраму: "А наш сусед не можа мець дзяцей".— "Чаму?"— "А яму гланды выразалі". Так і тут.

— Ха-ха!— зарагатаў Ігарок.— Я яму раскажу гэты анекдот.

— Ага, ідзі пастукай.

— Ды што вы, Рэгіна Янаўна, жартаў не разумееце?

Рэгіна падзялілася навіною з Любаю і Галяю.

— Мне казалі рабочыя з гарадскога звяна, што Чухлей п'е, нічога не робіць. Нездарма яны Хлус Ліду ў адпачынак адправілі, а на яе месца Чухлея кінулі. Нешта Мізэрыя задумаў,— насцярожылася Галя.

— Ды не дапусціць Чакан, каб Чухлей план заваліў,— супакоіла жанчын Люба.

— Не можа быць, каб адна паганая авечка статак сапсавала,— падтакнула Рэгіна Янаўна.

Як вядома, у жанчын слабая логіка, затое моцная інтуіцыя. Здарылася менавіта тое, чаго яны баяліся. Чухлей цягнуў да апошняга дня, не здаваў справаздачы, а ў самы апошні дзень сказаў, што план завалены. Наскрэблася нейкіх пяць тысяч, а астатнія пяць бярыце дзе хочаце.

11. Зак. 7

Чакан на момант знямеў ад гэтакай весткі. Ён ніяк не мог сцяміць, як гэта чалавек вопытны і немалады мог так бессаромна заваліць даверануто справу ды яшчэ ўтаіць гэта да апошняга моманту, калі ўжо нічога нельга паправіць, трэба везці справаздачу як ёсць. Гэта было горш, чым подласць.

Мізэрыю між тым выпісалі з бальніцы, бо інфекцыі болей не было дзе шукаць. Ён вымушаны быў выйсці на працу, дакладней, разам з Чаканом ехаць у трэст на расправу, прыніжана тлумачыць там, чаму завалены план. Для Леаніда Сымонавіча гэта было раўназначна смерці. Ён маліў усіх багоў паслаць выратаванне, і выратаванне прыйшло ў выглядзе тэрміновай тэлеграмы ад суседзяў з горада ягонага маленства: "Бацька цяжка хворы... інсульт... прыязджайце".

Так, гэта было выратаванне. Ён не адпрошваўся, бо ведаў: не пусцяць, а рынуўся ў дарогу да старога хворага бацькі. Такі ўчынак мог апраўдаць яго перад сябрамі і ворагамі.

Бацька быў пры памяці, але паралізаваны, не хадзіў. Канечне, улічваючы цяжкі стан хворага, трэба было б сыну ўзяць за свой кошт месячны адпачынак і пасядзець каля старога ў бальніцы. Ды не той цяпер быў момант. Над галавою ў Мізэрыі сабраліся чорныя хмары, трэба неадкладна вяртацца дамоў праз трэст. О, ён арганізуе такі спектакль, што начальства і падначаленыя будуць яму спачуваць. Ён абдумаў усё да дробязі.

З аэрапорта ў трэст Мізэрыя завёз бацьку на санітарнай машыне, насілкі з хворым паставілі ў фае пад дзвюма Дошкамі гонару і ветэранаў вайны. Сабраліся людзі, глядзелі на хворага, які ўтаропіўся ў столь па-дзіцячы няўцямнымі вачыма, хапаў паветра раскрытым ротам.

Цяпер Мізэрыя пачуваў сябе абароненым. Цяжкая бацькава хвароба дазваляла сыну быць разгубленым і стомленым. Слёзы і нават істэрыка ўспрыняліся б цяпер зусім нармальна. Ён ведаў, як апраўдацца перад дырэктарам і

галоўным інжынерам трэста: усё здарылася без яго. Ён хварэў і не вінаваты, што Чакан заваліў план, разваліў вытворчасць. Хоць разумеў, што за невыкананне плана начальства не даруе. Над усёю краінаю ўладарыла магія лічбы сто працэнтаў. Ёсць план — ты малайчына. Не дацягнуў паўпрацэнта — ты нягоднік, гультай, ляціш з крэсла на ніжэйшую пасаду. У імя гэтай міфічнай лічбы ішлі на злачынствы, прыпіскі, давалі хабар, кралі...

Калі Мізэрыя выйшаў з кабінета дырэктара трэста, ён быў такі ж белы, як яго бацька. Ён ніколі не пераедзе ў сталіцу. Начальства забараніла будаваць базу адпачынку, забірала назад катэр. Пасля, нібы ў жудасным сне, Мізэрыя бачыў, як з Дошкі гонару з мясам аддзіралі ягоны фотаздымак, а з Дошкі ветэранаў — здымак Чухлея, дазналіся неяк, што той не ваяваў. Ад гэтага відовішча зямля паплыла ў Мізэрыя з-пад ног, а ў вачах заскакалі чорна-чырвоныя плямы. Ён прыпёрся спіною да сцяны, стаяў так, пакуль не пасвятлела ў вачах. Трэба было ўсё-такі жыць, пачынаць усё спачатку, добра было б на новым месцы. Але калі ты гэтак дрэнна скончыў на старым, дык дзе ж знойдзеш лепшую новую працу?

Леаніду Сымонавічу далі трэстаўскі аўтобус падвезці хворага бацьку да цягніка. Стары ўжо дні тры нічога не еў і не піў, таму турбот з ім не было ніякіх. Ён ляжаў у купэ з заплюшчанымі вачамі, бяззубы разяўлены рот зеўраў чорнаю ямаю. Мізэрыя ўспомніў бацьку маладжавым, рухавым, вечна занятым. Маці часта запрашала гасцей, свяцілася маладосцю і шчасцем. А бацька кланяўся гасцям, вінавата пасміхаўся, ішоў у сваю майстэрню, дзе пахла скураю і жалезам.

Маці памерла рана і нечакана. Яна ніколі не скардзілася на свае хваробы. Жыла, колькі здолела. Згасла без скаргаў і папрокаў, нібы сама сябе прыгаварыла да смерці.

Першы свой працоўны дзень пасля доўгай адсутнасці Мізэрыя пачаў з планёркі. Сабраў інжынерна-тэхнічны персанал, доўга скардзіўся на цяжкасці. Калі зразумеў,

што ягоныя словы не кранаюць падначаленых, пайшоў на крайнасць: вырашыў вывернуць перад імі душу, але дастукацца да іхніх сэрцаў і знайсці хоць кроплю спачування.

— Вось вы мне не верыце. Думаеце, гэта я з простай цікаўнасці клаўся пад нож двойчы. Двойчы! Рызыкаваў жыццём. Вы абылгалі мяне! Вы думаеце, мне лёгка было глядзець, як мой фотаздымак здзіралі з Дошкі гонару? Хіба я сабе вораг? Хіба я мог сабе жадаць такога? Мяне не было на працы два месяцы. Я ні ў чым не вінаваты. Вы гэта ведаеце, але вінаваціць сябе вам не выпадае. Вы думаеце, я не хачу сумленна жыць і спакойна спаць? Ды тут усё вымагае хлусні: ад плана і да справаздачы. Вы атрымлівалі прэміі, падзякі, але не ведалі, чаго мне гэта каштавала. Я буду жыць сумленна. Але цяпер увесь гэты цяжар я перакладу на вас! Мы запрэжаны ў адзін воз, будзем цягнуць разам.

Пры гэтых ягоных словах вочы ў людзей прасвятлелі. І ён зразумеў: ім трэба было толькі адно, каб ён пакаяўся ў сваіх грахах. Цяпер ён можа жыць, як жыў, да наступнага пакаяння.

"Нічога, нічога,— думаў Мізэрыя.— Яшчэ я вазьму рэванш, я вам такія парадкі навяду, што вы ў мяне ні на хвілінку не затрымаецеся і не спозніцеся! Я вас завалю работаю! Я з вас сокі выцісну! Ніводнае свае пакуты не дарую. Вы мне за ўсё дорага заплоціце".

Ніколі Леаніду Сымонавічу не было так цяжка, як цяпер. Яго раздражнялі супрацоўнікі сваёю ўпартаю зацятасцю, злавалі рабочыя, якія нібыта ўжо і не прызнавалі ў ім начальніка, а болей гарнуліся да Чакана. Не ладзілася жыццё і дома. Жонка выселіла яго са спальні ў бацькаў пакой, маўляў, ты яго прывёз, ты і дагдядай. Бацька начамі пакутаваў ад болю і бяссоння, стагнаў, клікаў сына, прасіў піць ці завезці ў прыбіральню. Хоць быў яшчэ зусім слабы, стаў падымацца і соваца па кватэры, хапаючыся за сцены і мэблю, блудзіў у чатырох пакоях.

Жонка шыпела змяёю:

— Хоць бы ты свайму старому пазуры пазразаў, шморгае і шморгае па мэблі, па шпалерах, як драпежнік. Пааб-дзірае ўсё. Калі ты яго не ўціхамірыш, дык пачну яго замыкаць.

Леанід Сымонавіч адмоўчваўся. Бацька ўжо яму самому даволі надакучыў, але куды цяпер падзецца? Ён спрабаваў уявіць сябе гэткім жа старым і нямоглым. І кожны раз думаў, што чым гэтак жыць, дык лепш павесіцца.

Жыццё ўсталявалася нуднае і ціхае, зрэдзь толькі парушалася трэстаўскімі праверкамі. Праўда, высокае начальства страціла цікаўнасць да Мізэрыевага ўчастка, таму прыязджала розная драбяза. Чарговым правяральшчыкам аказаўся малады інжынер па тэхніцы бяспекі Генадзь Кашаварскі. Прычасаны валасінка да валасінкі, у гарнітуры з іголачкі, у залатых акулярах, з духмянымі, наадэкалоненымі рукамі, ён увесь блішчаў і свяціўся ад чаравікаў да ўласнага вераб'інага носіка. Генадзь прыдзірлівым позіркам акінуў усіх жанчын, якія працавалі ў канторы Мізэрыі, і знайшоў, што толькі Люба вартая яго ўвагі. З Любаю яны былі знаёмыя даўно. Ён правяраў і лёгка падмахваў праекты арганізацыі работ, якія прывозіла Люба на зацвярджэнне.

— Маё шанаванне, калега,— сказаў Генадзь і пацалаваў Любіну ручку.— Як пажываеце?

— Дзякую, жыву... Куды падзенуся?

— Чаму так змрочна? У мяне ёсць прапанова глабальна абмеркаваць гэтую праблему сёння ў рэстаране.

— А чаму ў рэстаране?

— Трэба ж нам недзе прыстойна павячэраць. Карацей, я вас, Любоў, чакаю ў канцы змены на прахадной. Згодна?

Люба разгублена кіўнула ў адказ, а Кашаварскі яшчэ раз нахіліў сваю духмяную галоўку, пацалаваў Любіну

руку, усміхнуўся, бліснуў акулярамі і падаўся выконваць службовыя абавязкі, рэвізаваць Мізэрыеву гаспадарку з прыдзіркамі, такі загад атрымаў у трэсце.

Люба расхвалявалася ад прапановы Кашаварскага, засвяцілася ўся, ажно Рэгіна паглядзела на яе падазрона. Але пакуль ніхто ні пра што не здагадваўся, Люба вырашыла маўчаць, хоць і карцела пахваліцца. Раптам спатканне сарвецца.

Без чвэрці шэсць Кашаварскі з усмешкаю сустракаў Любу на прахадной. Яны адразу скіравалі ў рэстаран, дзе было будзённа і пуста. Пад ціхую музыку і шум дажджу за акном пілі шампанскае і каву, гаварылі ці моўчкі пасміхаліся адно аднаму, і паміж імі працягнулася нейкая нітачка дабрыні, якая злучала іх самотнае існаванне ў свеце. Кашаварскі нядаўна развёўся з жонкаю, адчуваў сябе вольнаю птушкаю, але гэтая самая воля адначасова і прыгнятала. Таму ён прагнуў незвычайных сустрэч і прыгод, што магло б адарыць новаю радасцю і прыемнымі адчуваннямі.

— Пойдзем да мяне ў гасцініцу,— прапанаваў ён.

— Пойдзем, калі пусцяць,— згадзілася Люба.— Да нас у інтэрнат хлопцаў не пускаюць.

— Дзякую. Баяўся, што адмовішся.

Яна паглядзела ў ягоны па-хлапечы чысты і малады твар і падумала, што ёй добра з гэтым чалавекам, як даўно ні з кім не было.

У мясцовай гасцініцы цяжка было прашмыгнуць міма абслугі незаўважанымі, але ім гэта неяк удалося. Яны ўвайшлі ў бедны пакойчык, у якім усяго і было мэблі што стол, ложак, два крэслы і тумбачка.

Кашаварскі дастаў з тумбачкі кіпяцільнік, пачаў заварваць чай. Люба сачыла за яго дакладнымі рухамі, дапамагала яму раскладваць цукеркі, рабіць бутэрброды. Ёй падабалася адчуваць дотык яго далікатных рук, усміхацца ў

адказ на яго шчырую ўсмешку. Яна не думала пра будучыню. Гэта было сяброўства на адзін вечар. Яны пілі чай, пасмейваліся з Мізэрыі, пасля разам прыбіралі стол, мылі шклянкі.

Няўзнак Кашаварскі нахіліўся і ўпершыню пацалаваў Любу ў вусны, яна падалася яму насустрач з пяшчотаю і адкрытасцю. Расплюшчыла вочы, убачыла яго востры, смешна, па-дзіцячы зморшчаны носік, адступіла ад яго на крок. Ёй не патрэбны былі ні яго словы, ні клятвы, дастаткова гэтага цёплага вечара на дваіх пасярод восеньскае слаты з дажджом, граззю і апалым лісцем. Магчыма, толькі восень нагадвае чалавеку пра хуткаплыннасць жыцця.

Калі яна зразумела, што яму мала адных пацалункаў, мала яе сціплае дзявочае пяшчоты, яна адвярнулася душою ад яго і пачала вяртацца да сваёй самоты, з якою яна зжылася і змірылася. Бо самота, аднак, мае свае перавагі: незалежнасць і спакой. Губляць такія каштоўнасці без дай прычыны не варта. Яна пачала збірацца дахаты. Кашаварскі замітусіўся вакол яе, не ведаючы, дазволіць ёй пайсці ці ўсё-такі затрымаць. Ён абняў Любу і сказаў:

— Ты ведаеш, што я зараз з табою зраблю?

— Не ведаю.

— Зацалую і нікуды не пушчу,— ён упіўся ў Любіны вусны, а яна глядзела на яго зморшчаны вераб'іны носік, і ёй было смешна.

— Прабач, я пайду, бо ў інтэрнат не пусцяць, у нас манастырскія строгасці.

— Я правяду цябе.

Яны лёгка развіталіся каля інтэрната, ён паўсміхаўся, пажартаваў, пабліскваючы ў ліхтарным святле акулярамі. Заўтра яго чакала зноў дарога, зноў сустрэчы і развітанні.

Мізэрыеў каўчэг шыбаваў далей мутнаю жыццёваю плыню. Трэба было неяк мірыцца з жыццём і з тымі людзьмі, якія Мізэрыю акружалі. А яму многіх сваіх супрацоў-

нікаў хацелася б цяпер заманіць, ды няма ў яго такой улады, каб звольніць непажаданых падначаленых. Значыць, трэба дзейнічаць здаля, рабіць зло чужымі рукамі.

Ён ужо трохі насаліў Рэгіне, паслаўшы яе нарміраваць дзённую выпрацоўку рабочых. Нарміраванне паказала, што рабочыя не выконваюць планавага задання, не выцягваюць нормаў. Рабочых абурыла такое паведамленне, бо яны працавалі як заўсёды, а Рэгіна ім толькі замінала, сядзела і сачыла за імі. Каму такое спадабаецца? Некаторыя кабеты гэтак раз'юшыліся, што кляліся пераламаць Рэгіне ногі, калі яна яшчэ раз паткнецца са сваім нарміраваннем. Мізэрыя, гаворачы з рабочымі, браў іхні бок, а ў гутарцы з Рэгінаю падтрымліваў яе, бо ведаў, што два бакі гавораць чыстую праўду. Леаніду Сымонавічу не патрэбны быў дакладны план, інакш чым бы ён гандляваў. Цяпер, калі яму было цесна з Чаканом, Мізэрыя даўмеўся да таго, што афарміў на працу некалькі мёртвых душ, сваіх знаёмых у якасці часовых рабочых на спецработы, зарплату атрымліваў па спецведамасці сам. Словам, стараўся чалавек для вытворчасці, для дому, для сям'і, ды не было ладу нідзе, нават дома. Пасля таго як ён прывёз хворага бацьку, жонка кляла яго і ганіла за ўсялякія драбніцы:

— Цябе не паважаюць на працы, таму і не выдзяляюць машыны,— гэта быў яе звычайны папрок.

— Чарга вялікая, але сёлета абяцаюць,— апраўдваўся ён.

— Цябе знялі з Дошкі гонару, дык адшпурнуць назад.

— Не было яшчэ машын, разумееш?

— Ты асёл, цябе ніхто не паважае! Прэч да свайго старога, каб і духу тут твайго не было.

— Дурніца ты! Я начэй не сплю! Я згараю на рабоце! А ты толькі грошы пераводзіш!

— Ты злодзей! І грошы твае зладзейскія!

— Змоўкні, крэцінка! Людзі ж кругом жывуць,— ён падскочыў і заціснуў ёй рот, яна ўпілася ў ягоны твар кіпцюрамі.

Скура запякла, Мізэрыя ўхапіўся за шчаку, пабег у ванны пакой змываць кроў і скавытаць ад болю. "Гіблае месца, не бачыць мне тут шчасця",— думаў Мізэрыя, разглядваючы крывавыя пісягі на шчацэ.

I ўсё ж, нягледзячы ні на што, Мізэрыя адчуваў у сабе вялікія магчымасці. Словамі ён здатны быў абудзіць людзей і павесці за сабою. Іншы раз яму здавалася, што нейкая звышнатуральная сіла дапамагала яму ў дасягненні мэты. Хоць у сталічны трэст дарога яму была закрыта, ён шукаў магчымасці прыжыцца ў абласным цэнтры. Асабліва яго вабіла ідэалагічная праца, якая давала магчымасць кіраваць любою галіною гаспадаркі і пры гэтым ні за што не адказваць.

Нездарма гавораць, што на лаўца і звер бяжыць. Выбег жаданы звер і на Мізэрыю, калі ён браў удзел у абласным семінары кіраўнікоў. Звер быў у асобе дырэктара Галоўаблэнергабуда. Мізэрыя зразумеў, што трэба па-сабачы ўчапіцца ў скуру гэтага звера зубамі і трымацца, колькі хопіць змогі, не лічыцца ні з якімі стратамі. Але калі ён добра агледзеўся, дык заўважыў, што вакол таварыша Халатава круціцца ўжо з дзесятак дробных кудлацікаў, бадай, больш нахабных і ўчэпістых, якія пры выпадку дзіка грызуцца паміж сабою. Мізэрыі заставалася сціплае месца недзе ў хвасце, з чым ён зміръцца не мог, чакаў зручнага моманту, каб стаць гаспадаром абставін. І дамогся свайго, знайшоў момант, каб запрасіць дырэктара Галоўаблэнергабуда Халатава ў госці на сваю базу. Гэта здарылася ў перапынку паміж пасяджэннямі ў буфеце. Таварыш Халатаў сам заўважыў Мізэрыю.

— Малады чалавек, я яшчэ не запомніў, як цябе завуць, але тваю двайную ўсмешку я ні з чыёй не зблытаю,— сказаў ён, дажоўваючы бутэрброд з ікрою і прыгладжваючы на лысіне бясколерны пушок.

— Леанід мяне завуць,— па-вучнёску адказаў Мізэрыя, узрадаваны, што хоць раз у жыцці яго раздвоеная

губа прынесла карысць, прыкметна адрозніла ад іншых людзей.

— Леанід? Мо яшчэ і Ільіч?

— Не, Сымонавіч.

— Значыць, да Ільіча трохі не дацягнуў? Шкада,— засмяяўся Халатаў, а з ім і яго хаўруснікі.— А чым кіруеш? Раскажы, калі не сакрэт.

— Прыязджайце ў госці, не толькі раскажу, але і пакажу.

— Маеш што паказаць? Цікава... Сябры, нас клічуць у госці. Паедзем?

— Паедзем,— падтакнуў хаўрус.

— Добра, даседжваем да канца. А пасля не разбягаемся. Едзем да Леаніда! Трымайся, Леанід!

Рушылі ў дарогу пад вечар на трох легкавушках: адной персанальнай халатаўскай і дзвюх прыватных. Не паспелі ад'ехаць ад абласнога цэнтра кіламетраў трыццаць, як Халатаў загадаў завярнуць у лясок да Дома паляўнічых і рыбаловаў. Гэтак яны і ехалі з прыпынкамі амаль цэлыя суткі да Мізэрыевай базы. Спыняліся, каб выпіць, паесці, і ехалі далей. Колькі тых лясных гатэльчыкаў, колькі хатак наведалі, злічыў толькі Мізэрыя, бо менавіта яму даводзілася разлічвацца за гарэлку ды закусь, ён ужо не рады быў, што ўвязаўся ў гэтую авантуру, але позна, трэба было датрываць, сцяўшы зубы.

Мізэрыя ліхаманкава пракручваў сцэнарый наведання сваёй базы: паказаць гараж, бетонны вузел, пасля ў канторы наладзіць пачастунак. Літры два спірту знойдзецца, а на закусь зноў давядзецца траціць свае грошы. "Улез у нерат, што ні ўзад ні ўперад. Ненажэры, прывыклі ўсё жыццё на дармовым пасціся, каб вас парвала",— у думках праклінаў сваіх гасцей Мізэрыя.

Сцэнарый сарваўся на самым пачатку. Халатаў адмовіўся глядзець гараж і іншыя вытворчыя аб'екты, таму ўсе адразу пайшлі ў кантору.

Пакуль Мізэрыя даваў загад Брыкуну забяспечыць вячэру добраю закускаю, Халатаў пахадзіў па кабінетах без ніякае цікаўнасці, хоць Мізэрыя стараўся як мага яскравей расказаць, якое тут было запушчанае памяшканне, як перарабіў яго ў чысты палац, дзе мэбля і фіранкі, разьба на карнізах і разеткі, усё адно да аднаго, з густам. Халатаў грэбліва крывіў вусны, відаць, ён ужо шкадаваў, што заехаў у гэтую глухамань. Толькі ў тым пакоі, дзе сядзелі Рэгіна і Люба, таўставатыя вусны Халатава расквеціліся ўсмешкаю, хіжыя вочы забегалі, а ў Мізэрыі адлегла ад сэрца.

— Усё!— сказаў Халатаў.— Тут і заначуем.

— Заначуем! Заначуем!— падтрымалі хаўруснікі.

— Гаспадар, давай вячэру,— запатрабаваў Халатаў.

— Адзін момант,— замітусіўся Мізэрыя, прыслухоўваючыся, ці не прыехаў Брыкун.

І ўсе заварушыліся, пачалі ссоўваць сталы, засцілаючы іх паперамі, расстаўляючы закусь, прывезеную ў час Брыкуном. Халатаў тым часам пачаў расказваць жанчынам, як дзейнічае кацёл цеплавой электрастанцыі, а калі гэта іх не надта зацікавіла, ён пахваліўся, што некалі пісаў цудоўныя апавяданні, сам Шолахаў хваліў іх.

— Чаму ж вы іх не друкуеце?— папыталася Люба.

— Як? Вы не чыталі маёй аповесці "Крынічка"?

— Шолахава чытала, а вас не,— адказала Люба.

— А трэба чытаць, трэба...

— Ну, вы тут і Хрыстом можаце сябе абвясціць,— заўважыла Рэгіна.— Узрост, праўда, не адпавядае.

— Мае гады — маё багацце! Во, мора закусі! За стол! Усе за стол!

Пад бязладны гоман людзі расселіся за сталом, пілі за сяброўства і службовыя лесвіцы, уговорвалі жанчын піць да дна, а тыя толькі прыгублівалі, а піць адмаўляліся.

— Любоў, прашу выпіць са мною на брудэршафт,— прапанаваў Халатаў.

— Не варта.

— Ну што вы, Любачка,— заскуголіў Мізэрыя.— Ці вам цяжка?

Мізэрыя расплыўся ва ўсмешцы, гатовы поўзаць перад Любаю на каленях, толькі каб яна не адмовіла Халатаву, не парушыла той гармоніі вячэры, якая складвалася цяпер. Яму было важна, каб Халатаў застаўся задаволены, каб ён адчуў, як неабходны яму такі чалавек, як Мізэрыя.

Люба разгублена паглядзела на Мізэрыю, на Халатава, які цягнуў да яе чарку, і адважылася. Яны скрыжавалі рукі. Люба прыгубіла пітво, хацела паставіць чарку на стол, але Халатаў схапіў яе за шыю, прыцягнуў да сябе і цмокнуў у вусны. Яна адхіснулася, схапіла папяровую сурвэтку, выцерла рот. Усе засмяяліся. Гэта не спадабалася Халатаву. Ён паглядзеў на хаўруснікаў зверху ўніз, тыя змоўклі і хуценька памянялі тэму размовы, загаварылі пра новую марку "Жыгулёў", што павінна з'явіцца ў продажы.

Халатаў тым часам наважыўся выпіць на брудэршафт яшчэ з Рэгінаю. Ён прыглядаўся да яе паўнаватых рук, да статнай спелай прыгажосці і думаў, як гэта распачаць гаворку.

— Рэгіна Янаўна, Рэгіначка! Я даўно ведаю вашага мужа. Цудоўны чалавек! Давайце вып'ем за знаёмства. На брудэршафт пажадана...

— Які там брудэршафт?

— Кіньце, Рэгіна Янаўна, у нас госці, а вы...— упікнуў яе Мізэрыя.

— Вашы госці, вы з імі і цалуйцеся,— адрэзала жанчына.

— Жанчыны, даражэнькая, на тое і існуюць, каб мы іх цалавалі. А мы сапраўдныя мужчыны, таму адпаведна сябе паводзім...

— Вы не мужчына, вы — скарпіён!— адказала Рэгіна.— Пойдзем, Люба, нам няма тут чаго рабіць.

— Ну што вы так? Навошта?— заскавытаў Мізэрыя, праклінаючы ў думках фанабэрыстую Рэгіну і адчуваючы, што вячэра правальваецца.

Але жанчын ужо нельга было спыніць ні ўгаворамі, ні прымусам. Яны пайшлі.

Халатаў хвіліны тры сядзеў за сталом, нешта перажоўваў, пасля злосна сказаў:

— Хіба гэта жанчыны? Цьфу! І вы шчанюкі! Не ведаеце, як людзі жывуць. Якія там жанчыны! Зараз, зараз я вам пакажу!

Ён падсеў да тэлефона, пачаў круціць дыск, загаварыў у трубку з некім з двухсэнсоўнымі намёкамі. Чалавек на тым канцы дроту згаджаўся, падтакваў, але зразумець гэтую гаворку было амаль немагчыма. Гэта быў чыноўны сленг, зразумелы толькі вузкаму колу, якім карысталіся як паролем. Відаць, субяседнік супакоіў Халатава, што ўсё будзе добра, бо Халатаў, весела рагатнуўшы, паклаў трубку і сказаў:

— Усё, хлопцы, па конях. Нас чакаюць!

Мізэрыя праводзіў гасцей, а сам думаў, як яму нарэшце адарвацца ад хаўрусу. Развітаўся з усімі за руку, падышоў да Халатава:

— Прыязджайце...

— Э не, не развітвайся, ты паедзеш са мною. Я хачу аддзячыць табе за пачастунак, а заадно паказаць, якіх жанчын трэба браць на працу. Пайшлі ў маю машыну,— Халатаў пацягнуў Мізэрыю за крысо да сваёй белай "Волгі".

"Вось нязводнае кодла! Але трэба трымацца іх. Інакш згінеш у балоце без руху і паветра. А гэтыя прыхадні ўсё-такі варушацца, жывуць. Трэба пільней прыглядацца да іх, каб засвоіць законы іх руху на верх улады",— думаў Мізэрыя, пакуль яго везлі па маскоўскай шашы, пасля кіламетраў праз сорак звярнулі ў лес. У цемры Мізэрыя ўжо не арыентаваўся. Спыніліся ў нейкім пустым месцы каля самотнага вялікага гаража. Вароты расчыніліся, машыны заехалі ў памяшканне. Прыезджых сустрэў усмешлівы чалавек у скураным плашчы.

— Прашу, прашу вас, госці дарагія.

Мізэрыя выйшаў з машыны і са здзіўленнем убачыў, што ўсе спускаюцца ў падзямелле. У яго нават сэрца сціснулася ад страху: "Чаго яны мяне сюды прывалаклі? Навошта?" Ён спусціўся ўніз апошні і зніякавеў, калі ўбачыў пад зямлёю дываны і люстры, цудоўную імпартную мэблю, парнаграфічныя часопісы і календары, раскіданыя там-сям на нізенькіх століках. Мізэрыя асмялеў, прайшоўся па некалькіх пакоях і падумаў, што тут паўсотні чалавек шыкоўна маглі б пераседзець атамную вайну.

Калі патрапіў у кухню з трыма вялізнымі халадзільнікамі, не ўтрымаўся, каб не зазірнуць усярэдзіну. Халадзільнікі былі напакаваныя каўбасою, вяндлінаю, ікрою, кансервамі, каньякамі, шампанскім і яшчэ нейкімі каробачкамі і бляшанкамі з надпісамі на замежных мовах. Мізэрыя знямеў, калі ўбачыў усё гэта разам.

У падзямеллі ён яшчэ патрапіў у тры ванныя пакоі, тры туалеты, пяць спальняў. Усе пакоі былі абсталяваныя з вялікаю раскошаю і добрым густам. Мізэрыя мацаў, прыцэньваўся да рэчаў, пакуль раптам перад ім не ўзнік гаспадар, агледзеў Мізэрыю з ног да галавы, сказаў гідліва:

— Што, мужык, заблудзіўся? Не хадзі адзін, трымайся калектыву...

Леанід Сымонавіч зразумеў намёк і падаўся ў вялікую залу, дзе хаўруснікі паразвальваліся ў крэслах, глядзелі парнаграфічны відэафільм. Яму і тут захацелася лепш разгледзець японскую відэасістэму, але ён устрымаўся.

У густым паветры падзямелля лунала агульнае напружанае чаканне. Мужчыны нервова рагаталі над пікантнымі сцэнамі відэафільма і нібыта да нечага прыслухоўваліся. Пачаў прыслухоўвацца і Мізэрыя. Твары мужчын ажывіліся, калі з суседняга пакоя пачулася дзявочая гаворка і смех. У пакой увалілася вясёлая, яркая гурма: шэсць дзяўчат і гаспадар падзямелля.

Усчалася гамана, нават Мізэрыя павітаўся з нейкаю дзяўчынаю, доўгаю і худою, пацалункам, як з добраю знаёмаю. Яна яго цмокнула першая, яму нічога не заставалася, як адказаць.

Дзяўчаты падзяліліся на дзве групы: на Марфаў і Марый. Марыі засталіся весяліць гасцей, а Марфы пайшлі на кухню рыхтаваць пачастунак. Хутка на вялікім круглым стале з'явілася пітво і да пітва. Пачаўся баль. Людзі елі і пілі ўсмак, расказвалі анекдоты, рагаталі, абдымалі дзяўчат. Тыя папісквалі, лянiва адмахваліся ад нахабных і пажадлівых рук.

Калі страўнікі напоўніліся, а вочы асалавелі, раптам патухла святло, загарэлася цьмяна-ружовая лямпа ў далёкім куце, загучала шалёная звярыная музыка. Людзі закалыхаліся ў яе рытме, скакалі да ачмурэння, да поту, да стомы. Мізэрыя ўваліўся ў крэсла, каб аддыхацца, і тут жа яму на калені села каратка стрыжаная дзяўчына. Ён, захмялелы і размяклы, абняў яе, пачаў цалаваць, думаючы пры гэтым: "Вось жыццё! Гэтак людзі жывуць!"

— Табе горача, у цябе мокры лоб,— прашаптала яна, прасунула рукі пад пінжак, распранаючы яго.

І тут Мізэрыя адчуў, што яе рука точыцца ў патайную кішэньку пінжака, дзе ў яго яшчэ засталося сотні паўтары грошай. Мізэрыя падскочыў, нібы ўджалены, адкінуў ад сябе дзеўку, перабег і ўсеўся ў другое крэсла, правяраючы, ці на месцы грошы. Прасачыў, як яна села на калені некаму іншаму, упоцемку ён не разабраў, хто там быў. Паступова зала апусцела, пары разышліся па пакоях. Мізэрыя супакоіўся, скрыжаваў рукі на грудзях, утульна ўмасціўся ў крэсле і задрамаў.

Нарэшце шчасце пасміхнулася Леаніду Сымонавічу. Ён атрымаў па чарзе нябесна-сінія "Жыгулі", дзівосную цацку сучаснага мужчыны, з якою можна гаварыць і маўчаць, у якой можна начаваць і дняваць, з якою можна ехаць на край свету, якой можна давяраць тайны, яна не здрадзіць і не прадасць. Ён надоўга заткнуў рот жонцы, цяпер яна не смела яго папракаць. Зрэдку ён падвозіў яе на працу. Міла звысоку паглядала з акна на знаёмых, калі тыя траплялiся на вочы.

Як ні цешыўся Леанід Сымонавіч машынаю, а не радавала яго жыццё. Ён зненавідзеў сваю працу, не мог бачыць супрацоўнікаў, хадзіў раздражнёны, незадаволены сабою і ўсім светам. Але куды ты падзенешся, калі прывязаны, прыкаваны да гэтага гарадка прапіскаю, кватэраю...

Калі Ігарок сказаў яму, што збіраецца жаніцца і з такой нагоды хоча пачаставаць калег, Мізэрыя ўспрыняў гэта без энтузіязму, хоць і не забараніў. Чухлей, пачуўшы пра чарговую п'янку, прачнуўся, парухавеў. Каб скараттаць час, пабег праверыць рабочых на аб'ектах. Кладаўшчыца Галя тым часам сабрала з ітээраўцаў па пяцёрцы на падарунак маладым. Пасля жанчыны разам пачалі рыхтаваць стол з таго, што прынёс Ігарок.

А пятай гадзіне пачалася тайная вячэра за высокім заводскім плотам пры занавешаных фіранках і ўключаным электрычным святле. Жанчыны сядзелі побач за ссунутымі сталамі, спяшаліся дахаты, бо ў кожнае перад выхаднымі было шмат сваіх хатніх спраў.

Мізэрыя сядзеў побач з Чаканом у цэнтры, па два бакі ад іх масціліся Ігарок і Чухлей.

— Госпаду памолімся,— завёў басам, як сапраўдны поп, Чухлей, нездарма дзякам усю вайну праседзеў.— Да прасціт ён нашы пагрaшэнія і блаславіць раба божага Ігара на законны брак!

— Цудоўна!— заляпала ў ладкі Галя.— Пасля такога блаславення не грэх і чаркі падняць.

— Дарма ты, Ігарок, сваю нявесту не прывёў,— сказала Люба,— мы б вам "горка" пакрычалі.

— Сюды не варта нявесту весці, тут п'янка,— запярэчыў Чакан.

Любу ўразілі і здзівілі Чакановы словы. Яна глядзела на Мізэрыю і на Чакана і адчувала, як ім невыносна цяжка сядзець побач за сталом. Твар у Мізэрыі змрочны, плечы прыўзнятыя, нібыта ён унутрана сцяўся, затаіўся да часу. Люба і на сабе адчувала ягоную злосць. Днямі ён вярнуўся з трэста, са справаздачнай камандзіроўкі, сабраў ітээра-

ўцаў, усім рабіў заўвагі па справаздачы, а Любе сказаў, як на судзе:

— Прызнаяце сябе вінаватаю, што неахайна падрыхтавалі справаздачу?

— У чым жа мая неахайнасць?

— Прыклалі лішнія экземпляры папер.

— Дык трэба было выкінуць лішняе. Што за трагедыя?

— Чаму вы мне заўсёды псуяце настрой?

— Я плачу вам узаемнасцю,— адказала Люба і пайшла з начальнікавага кабінета.

А чаркі ўжо хадзілі па крузе, глуха звінелі, напоўненыя гарэлкаю. Мужчынам добра пілося, жанчыны прыгублівалі за кампанію. Гаворка за сталом не клеілася, пасля трэцяй чаркі жанчыны пачалі збірацца дамоў. Мужчыны ўсталі з-за стала, каб іх правесці і развітацца. Чакан скарыстаў магчымасць сказаць жанчынам добрыя словы. Ён не забыўся, як яны падтрымалі яго летам, як дапамаглі. Ды цяпер з жанчынамі ў яго адносіны самыя прыязныя. Чакан першай пацiснуў руку Галі, пажадаў добрага адпачынку ў выхадны і наогул светлага жыцця, нешта накшталт гэтага сказаў і Рэгіне. Пасля развітаўся з Любаю, пацiснуў руку, здзівіўся, якая яна маленькая, амаль дзіцячая.

— Няхай вас, Любачка, абмінаюць трывогі і злыбеда. Я веру, што вас чакае вялікае шчасце. Пабылі б з намі. Куды вам спяшацца?

— Ва ўсіх адна дарога. Усе на могілкі спяшаемся.

— Што вы, Любачка, мне яшчэ рана пра гэта думаць, а вам дык проста грэх.

Жанчыны нарэшце пайшлі, а мужчыны вярнуліся да стала, моўчкі выпілі па чарцы.

— Ведаеце, сяджу я з вамі за сталом, а душа мая ні да чога тут не ляжыць. Такая сітуацыя,— змрочна сказаў Чакан.

— А ў мяне такая падзея! Давайце яшчэ вып'ем,— прапанаваў Ігарок.

— Сапраўды, ты тут не ўпісаўся,— сказаў Чакану Чухлей.— Казырны кароль можа быць толькі адзін, інакш

гульня губляе сэнс. Ішоў бы ты куды-небудзь, не замінаў...

— Я не гуляю, я жыву адпаведна са сваімі прынцыпамі. А вы прадажныя, вас усіх разам можна танна купіць. Вы рабы сваёй нікчэмнасці.

— А чым ты ад нас лепшы?— узвіўся Чухлей, ухапіўшы Чакана загрудкі.

— Навошта? Навошта вы?— павіс Ігарок на руках у Чухлея.

Чухлей выпусціў Чакана, сеў, цяжка дыхаючы, закурыў. Мізэрыя ўнутры смяяўся нервовым дробным смехам. Як яму хацелася, каб Чакан і Чухлей біліся да крыві, да смерці, ён бы смяяўся з гэтых дурняў. Але гэтага не адбылося. Мізэрыя моўчкі наліў сабе поўную шклянку, пасля Чухлею і Ігарку. Чакану не хапіла. Леанід Сымонавіч сказаў Ігарку:

— Збегай прынясі спірту. Ён у шафе ў маім кабінеце, знойдзеш там. Замірымся, хто старое памяне...

Ігарок выйшаў, чапляючыся за крэслы. Побач Чухлей завёў нейкі пацер, так яму ўспаміналася маладосць. Малітвы ён тады вучыў старанна ад вялікае прагі выжыць. Калі вайна касіла разумных і дурных, выжывалі толькі хітрыя.

Вярнуўся Ігарок з пляшкаю, адкаркаваў яе, даліў Чаканову шклянку, па кроплі асвяжыў усе астатнія.

— Ну, вып'ем за мір паміж народамі, як-ніяк, а нам трэба разам працаваць,— сказаў Мізэрыя, але паглядзець у вочы Чакану не мог, утаропіўся ў стол і ўбачыў, што Ігарок прынёс не тую пляшку, гэтая была з растваральнікам, вельмі моцным, які даў яму дырэктар быткамбіната.

З гэтымі думкамі Мізэрыя кульнуў сваю чарку, следам за ім выпілі Чухлей і Ігарок. Чакан вагаўся, выпіў апошні, скрывіўся:

— Што гэта за брыдота такая?

— Спірт, спірт,— сказаў Мізэрыя, баючыся, што Чакан яму не паверыць.

— Паганыя вы людзі, паганыя! Не ідзе мне з вамі ні піццё, ні жыццё,— Чакан цяжка падняўся з-за стала, пайшоў да выхаду.

Чухлей з Ігарком, апрануўшыся, таксама выйшлі за дзверы. Мізэрыя неўпрыкмет прыхапіў пляшку з растваральнікам, выключыў святло, замкнуў кантору.

Чухлей, не разбіраючы дарогі, пасунуўся да дзіркі ў плоце, бо не рызыкнуў у такім выглядзе ісці праз прахадную. Ён уцягнуў галаву ў каўнер так, што быў відзён толькі доўгі нос. Схіліўся наперад, постаць яго нагадвала старога хворага пацука. Ногі павінны былі самі данесці яго дахаты, бо галава ўжо амаль адключылася. Бадай, такі стан яму найбольш падабаўся. Усё сваё жыццё ён пражыў пад страхам: баяўся палякаў, пасля савецкіх, у вайну — немцаў і партызанаў, пасля вайны — турмы, смерці, кары. Пад хмелем страх адыходзіў, ён адчуваў сябе вольным.

З гэтым пачуццём волі ён раптам адчуў, што ляціць у яму, і няма за што ўхапіцца, і няма каго паклікаць на дапамогу. Яго засмоктваў белы глей, цягнуў на дно, душыў. Гэта ўжо быў не страх смерці, а сама смерць. Ён неяк сцяміў, што трапіў у яму, дзе гасілася вапна. Ён выцягнуў з вапны руку, ухапіўся за край ямы, пачаў рухацца да лесвіцы. Задыхаўся, амаль траціў прытомнасць, а ўсё-такі вылез наверх. Ісці дамоў сілы ўжо не было. Ён вярнуўся ў кантору, добра, што меў дублікат ключа, запоўз у куток да цёплай батарэі, скруціўся і заснуў.

Чакан адчуў, што ногі адмаўляюцца ісці. Хапаючыся за сцяну, ён прайшоў міма вахцёра, і той закрычаў услед:

— Што за нахабства! П'яны на прахадной! Зараз міліцыю выклічу! Зусім Мізэрыя свае кадры распусціў.

— Хоць Госпада Бога выклікай,— буркнуў Чакан, адчуваючы, як цямнее ў вачах, а сэрца ледзь не вырываецца з грудзей.

Вахцёр хацеў яшчэ нешта крыкнуць, але тут згледзеў самога Мізэрыю, запытальна глянуў на яго.

— Дрэнна чалавеку, нешта з сэрцам. Я падвязу яго,— на хаду кінуў Мізэрыя вахцёру.

Чакан выйшаў з прахадной і ўпаў на лаўку. Мізэрыя з Ігарком падышлі да яго, пачалі тузаць. Чакан быў непрытомны.

— Пабудзь каля яго, [redacted] зараз падганю машыну. Толькі куды яго везці? У бальніцу не прымуць, бо п'яны, у выцвярэзнік накіруюць. Ляжыць як мярцвяк,— сказаў Мізэрыя і сам спалохаўся апошняга слова.

Ігарок пазіраў на Чакана выпучанымі вачамі і не мог сцяміць, што здарылася з чалавекам, выпіў жа не болей за астатніх.

— Давайце завязём яго да маёй цешчы, яна тут побач з заводам жыве ў вёсцы. Адляжыцца, а палепшае яму, дык дабярэцца дамоў сам,— прапанаваў Ігарок.

Мізэрыя і Ігарок з цяжкасцю давалаклі абмяклага Чакана да машыны, пасадзілі на задняе сядзенне. Ігарок сеў побач, падтрымліваў яго, каб не завальваўся ўбок.

Да Ігарковай цешчы ехалі хвілін сем. Нерухомае цела Чакана перанеслі ў хату. Ігаркова нявеста спалохана забожкала, падкладаючы пад галаву Чакану падушку. Дзяўчына была дома адна, яна разгублена пыталася:

— Што рабіць? Мо "хуткую" выклікаць?

— Нічога не трэба рабіць. Паляжыць, адаспіцца, і ўсё будзе добра,— адказаў Мізэрыя.

У думках ён шукаў нейкага выйсця. Куды ўсё-такі падзецца з Чаканом, як утаіць шыла ў мяшку?

— Не пакідайце мяне адну. Я баюся... Глядзіце, глядзіце, на падушцы кроў. У яго ідзе пена з крывёю! Доктара трэба!

— Не хвалюйцеся, [redacted] з машынаю, мы яго зараз завязём да доктара,— супакоіў дзяўчыну Мізэрыя.

Сапраўды, справы дрэнь. Трэба было неяк замятаць сляды, бо будуць вялікія непрыемнасці: па-першае, п'янка на рабоце, па-другое, калі ён памрэ, пачнецца расследаванне, экспертыза можа паказаць сапраўдную прычыну

смерці. Улічваючы дрэнныя адносіны паміж Чаканом і Мізэрыем, менавіта на Мізэрыю могуць ускласці віну. Калі завезці ў бальніцу, там яго мо яшчэ ўратуюць, але зноў тады Мізэрыя будзе вінаваты, што падставіў, зняславіў свайго падначаленага: сам напаіў і здаў у выцвярэзнік...

Мізэрыя наважыўся везці Чакана дамоў, няхай ягоная жонка сама ратуе мужа, як хоча. Вядома, ён вельмі рызыкаваў, што сеў за руль не надта цвярозы, а, з другога боку, гэта падкрэслівала ягоную самаахвярнасць у вачах Ігарка. Хоць сам Ігарок яму нічога не значыў, але ён быў сведка.

Леанід Сымонавіч ехаў не надта хутка, баяўся, што не справіцца з машынаю, як надарыцца якая небяспека. Час ад часу паглядаў на Чакана, бачыў, як гідліва Ігарок выцірае вехцікам пену з рота непрытомнаму Чакану, падтрымлівае яго.

Мізэрыя стараўся думаць, што ў гэтым здарэнні ягонай віны няма, не ён прынёс пляшку з растваральнікам, не ён налiваў. І цяпер усё робіць, каб выратаваць чалавека ад ганьбы і смерці. А сумленне брыдкім чарвячком грызла і грызла душу: "Ты забойца, ты злачынца..." Мізэрыя ў думках наступаў на галаву гэтаму чарвячку, расціраў яго абцасамі, а ён з'яўляўся зноў і зноў...

Чаканова жонка выбегла да машыны ў адным халаце, кінулася да Чакана, пачала трэсці за плечы. Роспачна закрычала, расшпіліла верхні гузік кашулі на шыі. Апошні ўздых вырваўся з Чакановых грудзей, напэўна, з перацiснутага горла выйшла паветра, а разам з ім і душа адляцела туды, дзе святло і холад. Жанчына загаласіла, інтуітыўна адчуваючы, што з мужам здарылася непапраўнае.

— Хутчэй у бальніцу,— загадала яна Мізэрыі.

— Зараз паездзем, сядай, Ігарок, на пярэдняе сядзенне.

Ігарок паслухмяна сеў у машыну, жанчына прымасцілася побач з мужам. Пакуль ехалі, яна церла яму скроні, спрабавала рабіць штучнае дыханне, будзіла яго, клікала. Толькі калі ў бальніцы канстатавалі смерць, яна абмякла, страціла прытомнасць.

Чакана яны пакінулі ў моргу. Вяртаючыся дамоў, Мізэрыя з дакукаю думаў, што яму належыць перажыць цяжкія дні. За ноч варта ўсё ўзважыць, скласці план дзеянняў, бо справа пахне судом, калі выявяць растваральнік. Трэба самому паклапаціцца пра судмедэкспертызу...

Як ні сілілася Люба ўявіць Чакана нябожчыкам, ёй гэта не ўдавалася. Як жа гэта магло здарыцца? Хаця развітваўся ён з жанчынамі так, нібы прадчуваў сваю смерць. Чаму Чакан, прыгожы і добры чалавек, вымушаны быў памерці? Каб саступіць, вызваліць месца нікчэмству? Гэта супярэчыла справядлівасці і не паддавалася разуменню.

Розныя людзі сустракаліся Любе ў жыцці: хцівыя і абыякавыя, злосныя і лагодныя. Перад Чаканом, хоць ён быў начальнік і нашмат старэйшы за яе, яна не адчувала ні страху, ні ліслівай пакоры, яна заўсёды бачыла ў ім чалавека, вартага павагі і нават любові, таго чалавечага пачуцця, якое робіць людзей роднымі па духу, а гэта вышэй за роднасць кроўную.

З такімі думкамі ішла Люба на пахаванне Яўгена Сцяпанавіча Чакана. Упершыню ў жыцці яна завязала жалобную хустку, упершыню сустрэлася з выпадкам недарэчнай заўчаснай смерці, хаця, бадай, смерць, калі б яна ні прыйшла, заўсёды не ў час.

Люба ўвайшла ў пакой, дзе стаяла труна з нябожчыкам, доўга ўзіралася ў чужы шэры твар і ніяк не магла пазнаць у ім Чакана. Гэта быў нібыта зусім іншы чалавек, як далёкі родзіч, у якім ледзь пазнаваліся знаёмыя рысы. На стале стаяў партрэт, дзе ён быў зняты яшчэ зусім малады, відаць, за працаю ды клопатамі не меў часу сфатаграфавацца. Люба слухала галашэнне жанчын, чытала боль на тварах, нібы глядзела жудасны спектакль. Спазм сціснуў горла, і яе рыданні далучыліся да агульнае жалобы. На яе ніхто не звяртаў увагі. Цяпер яна аплаквала не толькі Чакана, а і сваю віну, як быццам яна магла папя-

рэдзіць ягоную смерць, магла памагчы і нічога не зрабіла. Размазваючы слёзы па твары, яна раптам схамянулася і падумала, што, можа, не мае права плакаць у чужым доме, над чужым мужам, трэба выйсці на двор і трохі супакоіцца.

Мізэрыя ва ўсёй гэтай гісторыі шкадаваў сябе. За апошнія два дні ён вельмі стаміўся. Страх, што можа выявіцца праўда, не даваў спакою. На другі дзень пасля таго, як памёр Чакан, давялося тэрмінова ехаць у суседні раён па судмедэксперта, бо мясцовы быў у адпачынку. З першай да апошняй хвіліны Мізэрыя быў у моргу. Мізэрыя стаяў каля судмедэксперта і яшчэ раз нагадаў, што нябожчык ніколі ад чаркі не адмаўляўся, любіў хапіць лішняга, а на гэты раз, пэўна, перабраў, вось і здарылася няшчасце. Судмедэксперт вельмі спяшаўся, былі ў яго нейкія тэрміновыя справы. Ён расклаў на стале сваё паходнае прычындалле, нешта зліваў і разводзіў у прабірках. Мізэрыя супакоіўся толькі тады, калі азнаёміўся з заключэннем судмедэкспертызы. З даведкі выходзіла, што Чакан загінуў у выніку смяротнай алкагольнай інтаксікацыі. Пасля гэтага Мізэрыя актыўна заняўся арганізацыяй пахавання.

Ён усё прадугледзеў, пра ўсё паклапаціўся і не надта патраціўся, бо труну зрабілі свае рабочыя, чырвоны пар-каль ababіць труну знайшоўся на складзе, свае людзі выкапалі магілу, пяцілітровую бутлю спірту на памінкі Мізэрыя выпрасіў у дырэктара спіртзавода. Адно што за аркестр давялося заплаціць. Дык трэст грошы верне, ён не бедны.

Мізэрыя тоўкся ў двары, у дом ісці не хацелася. З пад'езда выйшла Люба, прыперлася спіною да сцяны, стаяла і глядзела ў адну кропку, твар заплаканы і бледны.

“Бач, як бядуе!— з рэўнасцю падумаў ён.— А каб са мною што здарылася, напэўна, толькі ўзрадавалася б. Апухла ад слёз! А я ў бальніцы колькі марнаваўся, ні разочку не адведала. Дык гэта яна яго кахала, а мяне ненавідзела. Але яго няма, а я ёсць і буду!”

У гэты час падбег да Мізэры і Валавец, сябар Чаканаў, высокі, хударлявы, на добрым падпітку.

— Загнаў чалавека ў магілу? Стаіш сабе задаволены...

— У кожнага свой лёс. А я ўсё зрабіў, каб яго ратаваць.

— Ведаю, які з цябе выратавальнік. Ён табе махляваць замінаў, вось ты ад яго і пазбавіўся!.. Гад паўзучы!

— Хлусня! Подлая хлусня! Я цябе за гэта ў турму ўпяку. Мы з ім душа ў душу жылі, ён з Рэгінаю не ладзіў. Вядома, баба капрызная...

— Чаму аркестра да гэтае пары няма? А труна? Што за труна самаробная?

— Я ўсё зрабіў, каб добра яго пахаваць! Усё зрабіў!— біў сябе ў грудзі Мізэрыя.

Гэты дзень Люба пражыла як у жудасным сне. Добра, што побач была Рэгіна Янаўна. Яе і трымалася Люба, каб не згубіцца сярод людзей і не быць адной у бясконцым шляху за трунoю. Раптам пайшоў мокры снег, ён густа падаў і раставаў. Чакана накрылі цыратаю, так везлі па горадзе, не даўшы нябожчыку развітацца з роднымі вуліцамі.

На могілках Люба падышла да магілы толькі тады, калі трэба было кінуць колькі жменяў волкай гліны на Чаканову труну. "Вось і ўсё, што засталося ад чалавека. Вось і ўсё!"— гаварыла яна сама сабе і не верыла, што гэта страшная рэальнасць. Раней яна была ўпэўненая, што паміраюць тыя, хто заўчасна састарэў душою і целам, стаміўся, каму смерць — выратаванне ад непатрэбнага жыцця. Чакан не збіраўся паміраць, ён быў поўны сілы і жадання жыць, працаваць, змагацца са злом і няпраўдаю, якая плодзіцца і знішчае ўсё лепшае ў людзях. І ён не быў самотны ў гэтай барацьбе. Чаму ж ён памёр?

Людзі рушылі ад могілак. Люба з Рэгінаю моўчкі ішлі разам з усімі. Кожная з іх была занята сваімі думкамі,

кожная адчувала сваю віну перад Чаканом. Маглі ж яны жаночай інтуіцыяй, сёмым пачуццём адчуць, што нельга пакідаць Чакана сам-насам з гэтымі шакаламі. Застацца б яшчэ ім хвілін на колькі, а пасля пайсці дамоў усім разам. Усё можна было тады, а цяпер нічога паправіць нельга.

Люба адарвалася ад сваіх думак толькі тады, калі пачула, што Рэгіна сварыцца з Валаўцом, даводзіць яму, што не такі Чакан быў чалавек, каб з жанчынамі лаяцца, асабіста яна ад яго бачыла толькі добрае. А той, хто нацкаваў Валаўца на яе, напэўна, сам мае бруднае сумленне, таму і адводзіць ад сябе падазрэнні. І як Валавец можа лічыцца сябрам Чакана, калі гэтага не разумее?

Люба маўчала. У яе не было сілы ні гаварыць, ні слухаць. На памінках яна з жахам глядзела на людзей, якія пілі і елі, прымусілі і яе памянуць нябожчыка. Яна выпіла шклянку ўзвару і выйшла на двор, бо не магла глядзець на ежу.

Люба пастаяла, чакаючы Рэгіны, каб разам ісці дахаты. Паступова людзі пачалі разыходзіцца з ціхаю гамонкаю, нехта нават спрабаваў зацягнуць песню. Мізэрыеў спірт рабіў сваю справу, чмурыў галовы, дапамагаў забыцца на прычыну хмелю. Жыццё працягвалася, заўтра трэба ісці на працу. Толькі Чакану гэта ўжо не трэба. Кожнаму — сваё, але так толькі здаецца. Усе мы ў гэтым жыцці звязаныя, залежым адзін ад аднаго, нават самыя далёкія і чужыя.

Ранкам Рэгіна і Люба яшчэ не паспелі прычасацца і агледзецца на сваіх рабочых месцах, як забег Мізэрыя. Павітаўся, зладзеявата пастраляў вачамі, сказаў:

— Чухлей такі мярзотнік, нават на пахаванне не прыйшоў. Трэба яго асудзіць.

— Пахаванне — гэта не вяселле, сюды не запрашаюць,— сказала Рэгіна.

— Чакану ён, напэўна, быў непрыемны...— заўважыла Люба.

— Але ж ён найбольш вінаваты перад Чаканом,— настойваў Мізэрыя.

— Мы ўсе вінаватыя,— сказала Люба.

— Правільна,— падхапіў Мізэрыя,— усе вінаватыя.

Ён паспешліва выйшаў, а Рэгіна буркнула яму ўслед:

— На разведку прыходзіў. Забіў ён яго! Забіў!

— Але ж не дакажаш.

Праз паўгадзіны Мізэрыя праводзіў сход, выступаў перад рабочымі, гаварыў, што Чакан памёр ад алкагольнага атручэння, выпіў ледзь не літр гарэлкі, што гэта наша агульная віна, прагледзелі чалавека, але гэта навука надалей. Цяпер за п'янства на рабочым месцы кожнага чакае строгае пакаранне.

Люба паднялася і пайшла з залы, яна востра адчула, што ненавідзіць гэтага чалавека, не можа ні чуць, ні бачыць яго.

Леаніду Сымонавічу часта сніўся адзін сон. Як быццам Чакан ажыў і заўтра зноў з'явіцца на працу. Ад страху Мізэрыя ўвесь халадзеў і не мог уявіць, як жа яму сустрэцца з Чаканом. У гэтых пакутах ён прачынаўся і ўжо да ранку не мог заснуць пад хрыпенне і стогны хворага бацькі. Жыццё зрабілася невыносным, хацелася нейкае добрае перамены, палёгкі. А тут яшчэ жонка прычапілася:

— Хачу паказаць маме машыну, завязі мяне на выхадныя.

— Ага, блізкі свет! Трыста кіламетраў з гакам. А бацьку з кім пакінем?

— З сабою возьмем. Якая яму розніца, на канапе валяцца ці ў машыне ехаць?

— А раптам яму зашкодзіць?

— Не зашкодзіць, сёння ўжо на двары гуляў, мо яшчэ цябе перажыве.

Бацька памёр, не даехаўшы да сваццi сто кіламетраў. Адышоў ціхенька, не сказаў на развітанне сыну ні слова.

Ды сын нічога ад яго і не чакаў. Ён крута развярнуў машыну пасярод дарогі і паехаў назад, хоць вяртацца — прыкмета дрэнная. Належала перажыць яшчэ адно пахаванне. Яго напаткала сапраўднае гора, якому павінны спачуваць людзі. Гора ачысціць яго ад каросты ранейшых грахоў і падазрэнняў.

Пасля пахавання бацькі Мізэрыя нарэшце адаспаўся, наладзіліся добрыя адносіны з жонкаю, з'явіўся апетыт, ён прыкметна патаўсцеў, ажно шчокі абвіслі, як у хамяка. Нарэшце ён адчуў у сабе сілу і энергію, каб пачаць новае жыццё, забыўшы ўсё старое і непрыемнае.

Пачынаць новае жыццё лепш за ўсё з новага адзення, тут ужо і жонка расшчодрылася, набыла мужу карычневую дублёнку, андатравую зімовую шапку, імпартныя боты. Ва ўсім новым, з неадарванаю этыкеткаю на італьянскай дублёнцы, усмешлівы і закаханы прадстаў аднойчы Мізэрыя перад Любінымі вачамі.

— Добры дзень, Любачка. Як справы?

— Якія справы?— незадаволена прабурчала яна ў адказ і адвярнулася да акна — ёй невыносна было бачыць гэтага чалавека.

— Няма ў нас з вамі кантакту. Вось і ў Ігарка спытаюся, як справы, і ён ведае, што адказаць.

— А ў мяне з вамі няма і не можа быць ніякіх спраў.

Ён расчаравана зразумеў усю марнасць сваіх намаганняў і паспешна выйшаў.

Люба апусціла галаву і маркотна думала, дзе ёй знайсці іншую працу ў гэтым маленькім гарадку, каб больш ніколі не бачыць Мізэрыі. Ці мо звольніцца і паехаць да маці? Але там цесна ў кватэры, жыве старэйшая сястра з сям'ёю, трое дзетак, шэсць душ на два пакоі. Расчырванелая з марозу, прыйшла Рэгіна Янаўна, відаць, наведвала рабочых на аб'екце, загаварыла абурана:

— Бачыла Мізэрыю, блішчыць, як новая капейка.

— Каб яшчэ душу новую дзе раздабыў, але ж гэтага не купіш.

У пакой зазірнула Галя:

— Вы тут?

— Дзе ж нам яшчэ быць?— адказала Люба.

— Паглядзіце, што робіцца? Мізэрыя цвіце і пахне! Як быццам нічога не здарылася. Мой мужык кажа, што трэба на яго ананімку напісаць у ЦК,— Галі не хапіла духу выгаварыць апошнія словы на поўны голас, яна іх прашаптала.

— А што тут на яго напішаш, калі ўсё шыта-крыта. Чакана закапаў і яшчэ прэмію ў канцы квартала атрымаў за працоўныя поспехі,— адказала Люба.— І мы таксама атрымалі і маўчым. Хаця нам і няма чаго сказаць.

— Усё трэба напісаць: пра прыпіскі, пра махлярства, пра тое, што Чакан памёр у выніку п'янкі на рабоце,— горача сказала Галя.

— А што, нам ад гэтага горш не будзе, а яму хоць настрой сапсуём,— сказала Рэгіна.

Галя дыктавала, а Рэгіна пісала першую ананімку ў жыцці, гэтага патрабавала справядлівасць, так яна лічыла і ў тым бачыла сваё апраўданне. Не ўтрымалася, далучылася да іх і Люба. Калі чарнавік быў гатовы, Галя вырашыла забраць яго дамоў, каб паказаць мужу, мо яшчэ ён што-небудзь дадасць. Муж днямі збіраецца ў Мінск, там і ўкіне пісьмо ў нейкую спецскрынку, бо з нашае пошты такі ліст на адрас не патрапіць.

З гідкім пачуццём у душы вярталася Люба дамоў. Мо і трэба было напісаць тую ананімку, каб адпомсціць за Чакана, але яна заўсёды лічыла, што лепш у вочы сказаць горкую праўду, чым паскудзіць цішком. Бо часам здаецца, што служыш справядлівасці, а на самой справе множыш няпраўду і зло.

Вестка з райкома партыі пра ананімку была для Мізэрыі як гром сярод яснага неба. Затэлефанавала сама першы сакратар Ніна Мікалаеўна. Мізэрыя расхваляваўся,

пачуўшы яе голас, яны былі знаёмыя даўно, некалі разам ездзілі ад раёна ў Польшчу з сяброўскім візітам. Яна папыталася, што ён сам думае пра ананімку.

— Ды зайздроснікаў у мяне хапае. Я вас прашу, Ніна Мікалаеўна, прыедзьце да мяне, калі ласка, на базу, самі ўбачыце, колькі працы і душы ўклаў я ў яе. А многім здаецца, што мне само ўсё ў рукі плыве, усё само сабою робіцца.

— Я вам веру, Леанід Сымонавіч, мы ж не адзін год знаёмыя. Ды і іншыя кіраўнікі пра вас толькі добрае гавораць. Думаю, мы неяк справу гэтую ўладзім. А ў мяне да вас просьба. Мне тут трэба трохі кабінет падрамантаваць і зрабіць персанальны туалетны пакой...

— Ніна Мікалаеўна, пра што гаворка, я для вас горы звярну!

— Тады пад'едзьце заўтра а другой гадзіне, прыкіньце аб'ёмы работ. Да пабачэння.— Ніна Мікалаеўна задаволена паклала трубку, падабалася ёй, калі мужчына з ахвотаю і гатоўнасцю кідаўся на дапамогу, вядома, у яе высокая пасада, але ж яна перш за ўсё жанчына.

Яна ўспомніла тую паездку ў Польшчу, у якой быў Мізэрыя. Ён аказаўся вельмі ўважлівы і далікатны, без нахабства і прэтэнзій. І ніякая ананімка не магла сапсаваць таго даўняга ўражання. Ніна Мікалаеўна ведала, што яна на сваёй пасадзе не можа памыляцца ў людзях і не здатная крыўдзіць чалавека, які ёй асабіста сімпатычны.

Мізэрыя нейкі час сядзеў як змярцвелы. Каб ён мог ведаць, хто напісаў тую ананімку, ён пусціў бы ў ход усе свае здольнасці, увесь талент, каб адпомсціць гэтаму чалавеку. Няма нічога горшага, чым трымаць на падазрэнні ўвесь свет, да кожнага прыглядацца: сябар ці вораг?

Ананімка — гэта дробязь. Але Мізэрыя працаваў на сваёй пасадзе чацвёрты год. За пяць гадоў ён мог даслужыцца да медаля або нават ордэна, як усе кіраўнікі. Яму трэба было ціха даседзець адзін гадок, каб атрымаць узнагароду. Яго ўсцешыла і супакоіла тое, што Ніна Мікалае-

ўна давярае яму зрабіць персанальны туалет. Эх, каб ведаць толькі, хто напісаў ананімку! Можа, Люба? Дык яе можна скараціць, выгнаць! Трэст яе прыслаў, няхай цяпер забірае назад! Але не трэба спяшацца. Рабі зло чужымі рукамі. Прыстаўлю Ігарка, няхай сочыць за ёю і запісвае кожнае спазненне, кожнае парушэнне. Звальняць дык з такою плямаю, каб на ўсё жыццё засталася! Яна ж мне ледзь сям'ю не разбіла, а я, дурань, макам рассыпаўся. Рэгіну таксама прыцісну ды такія лісты ад імя рабочых арганізую, што яна ў мяне не заседзіцца. Ды і Галю пара замяніць. Правядзём генеральную чыстку кадраў!

Люба хадзіла на працу без жадання, ненавідзела Мізэрыю, пазбягала сустрэч і гаворак з ім. За кароткае сваё жыццё яна зразумела: калі жыць побач з дрэнным чалавекам, дрэнню паступова абрастае твая душа, нават калі ты гэтае дрэні не прымаеш ні розумам, ні душою. Употай яна шукала сабе новую працу і была амаль шчаслівая, калі ёй запрапанавалі выкладаць у вучылішчы. Люба напісала заяву на звальненне, паслала па пошце ў трэст, дамовілася з начальнікам аддзела кадраў пра тэрмін адпрацоўкі, папрасіла, каб працоўную кніжку і разлік даслалі ёй на хатні адрас.

Нарэшце надышоў той дзень, калі яна развіталася з Рэгінай Янаўнай і Галяй і пайшла з канторы, каб больш ніколі сюды не вяртацца. Дарэмна назаўтра насупраць Любінага прозвішча паставіў Ігарок таемны значок у сваім чорным сшытку. Не вытрымаў і Мізэрыя, забег да Рэгіны, запытаўся:

— Дзе сёння Люба Назарук?

— Хіба вы не ведаеце? Звольнілася!— зларадна адказала Рэгіна.

— Як гэта звольнілася?

— А ў трэст пазваніце, вам усё і скажуць.

Расхваляваны і ўзрушаны Леанід Сымонавіч патэлефанаваў у трэст. Навіна пацвердзілася. Злосць і шкадаванне

ахапілі Мізэрыю. Як жа гэта магло здарыцца, што ён выпусціў яе са сваіх рук? Цяпер ён ужо сам не мог зразумець, чаго ж яму больш хочацца: каб Любы не было побач ці каб яна была тут. Без яе ўтваралася навокал нейкая пустэча, якая нічым не запаўнялася.

Леанід Сымонавіч жыў сваёю справаю. Цяпер яму ніхто не замінаў, не пярэчыў. Следам за Любаю звольнілася Рэгіна, бо рабочыя напісалі на яе некалькі скаргаў, што яна няправільна праводзіць нарміраванне. Галя ў хуткім часе захварэла на нейкую нервовую хваробу. Мізэрыя нават не пацікавіўся, якi там ёй дыягназ паставілі, важна, што яе больш не было на ўчастку. Чухлея ён паслаў на заслужаны адпачынак. За бездакорную працу і высокія паказчыкі атрымаў Мізэрыя ордэн "Дружбы народаў". Словам, усё складвалася найлепшым чынам. Пры асноўнай вытворчасці ён завёў звераферму, дзе гадаваліся трусы, нутрыі, лісы, пясцы. Адкрыў рамонтны кааператыў, пабудаваў сабе двухпавярховую дачу, варочаў мільёнамі. Але чым большы меў ён поспех, тым больш раслі яго жаданні. Ён рабіўся рабом сваіх здзяйсненняў. Гэта стамляла, хацелася перадыху ад спраў, перамены, цяпла. Раней была Люба. Здавалася, дастаткова бачыць яе, зрэдку перакінуцца словам, цяпер і гэта немагчыма. І хоць яна тут, у горадзе, ён не сустракаў яе цэлую вечнасць. Моцнае жаданне забыць яе не прыносіла супакаення. Яна сядзела ў сэрцы, як стрэмка.

Аднойчы ён не вытрымаў, патэлефанаваў у вучылішча. Яму адказалі, што Назарук цяпер на занятках. Мізэрыя сеў у машыну і паехаў да вучылішча, паставіў машыну на пляцоўцы пад пажоўклымі дрэвамі, чакаў гадзіны паўтары і нарэшце ўбачыў Любу, захваляваўся, разгубіўся, не ведаў, як яе спыніць, як звярнуцца.

Яна яго, відаць, не заўважыла. Няспешна ішла тратуарам, жмурыла вочы, падстаўляла твар пад скупыя промні

вераснёўскага сонца. Ён паціху рушыў машынаю следам за ёю, ехаў з маленькаю хуткасцю, бы на пахаванні. Калі машына параўнялася з Любаю, дзяўчына павярнула галаву, зірнула на Мізэрыю, як на пустое месца, прайшла яшчэ колькі крокаў, а пасля павярнула да гастранома.

Яго нібы кіпнем абварылі. Яна яго выкрасліла з жыцця, яна не пазнавала яго, нібы пахавала разам з Чаканом. Ён застагнаў, сціснуў зубы, заскрыгатаў да болю, пасля брыдка вылаяўся і пагнаў машыну ўперад.

# *Палонніца зоны*

Яна любіла лес з маленства, затоена і ціха, сумавала без яго. Ёй дастаткова было ўгледзець з гарадской ускраіны сінюю яго палоску, каб супакоіцца і ўсцешыць сэрца. Калі гарызонт быў голы, зямля ёй здавалася безабароннаю і хвораю. Яна не прапускала магчымасці сустрэцца з лесам улетку, а яшчэ лепш увосень. Ездзіла на электрычцы часам з мужам і сынам-падлеткам, а найчасцей адна, як сёння.

Яна ішла між соснаў, мякка правальвалася ў аксамітны мох, услухоўвалася ў лясны гул, старалася адпачыць душою. Была грыбная пара, але ёй грыбы не траплялія. Высокі лес неспадзявана скончыўся, і пачаўся непралазны малады сасняк. На адным дрэве жанчына заўважыла шыльдачку: "Забароннная зона". Невядома, што хавае ў сабе гэты падлесак, магчыма, там вайсковае стрэльбішча. Жанчына вярнулася назад да высокіх соснаў, прыпынілася на сухой паляне, сціпла ўпрыгожанай ружаватым верасам, паглядзела ўгору, дзе на фоне шэра-блакітнага неба плылі вершаліны соснаў. І сама нібы ўзнялася над сабою, з лёгкаю душою адчула, што наперадзе яшчэ шмат светлых дзён. Вось падрасце непаслухмяны сын, мо паразумнее і падабрэе; пастарэе і паспакайнее муж, знікне паміж імі тая хлусня, якою ён штораз апраўдваецца, калі п'яны позна вяртаецца дахаты, і зажывуць яны нарэшце па-людску...

Сасновы лес паступова перайшоў у чарналессе, шчодра размаляванае восенню ў багру і вохру. І зноў ёй трапілася на вочы такая самая шыльдачка, толькі ўжо прымацаваная да слупка. У восеньскай раскошы фарбаў усё часцей пачалі трапляцца дрэвы, кранутыя чарнатою, нібы абгарэлыя, нават у паветры адчуваўся салодка-гаркаваты пах. І раптам яна ўбачыла перад сабою мёртвы лес: чорныя стаўбуры з натапыранымі галінамі тырчалі ў неба, як рукі скамянелых істот. Шэрая лістота ўсцілала дол і рассыпалася пад нагамі на труху. Ёй зрабілася жудасна, нібы яна трапіла ў зачараванае месца.

Жанчына тузанулася, каб бегчы адсюль і не азірацца, як нечакана дзве рукі леглі ёй на плечы. Яна спалохалася і разам з тым узрадавалася гэтым рукам. Хоць якая жывая душа побач. Азірнуўшыся, ускрыкнула не столькі ад страху, колькі ад нечаканасці. За яе спіною стаялі двое мужчын, узброеных аўтаматамі, у процівагазах. Незнаёмцы былі апрануты ў бліскучыя камбінезоны, шырокія для іх постацяў.

— Пусціце мяне! Што вам трэба?— закрычала яна.

Адзін з мужчын жэстам супакоіў яе, дастаў з сумкі процівагаз, падаў ёй, ускінуў на плечы плашч, даў пальчаткі, пачакаў, пакуль яна апранецца, паказаў рукою наперад, загадваючы ісці.

Думкі яе блыталіся, яна сілілася сабраць іх: "Гэта атручаная зона... Што цяпер? Як я?.." Ад паху гарэлага лесу пяршыла ў горле, на вочы час ад часу наплывала непрыемная вільгаць, супакойвала толькі тое, што побач былі людзі, якія, напэўна, хацелі ёй дапамагчы.

Яе праваднікі былі танклявыя, як хлапчукі. Яна зразумела, што гэта маладзенькія салдаты з бліжэйшага вайсковага аб'екта.

У хуткім часе яны выйшлі на бетонку. Дзіўна, што яна, ведаючы лес, ніколі не бачыла гэтае дарогі. Мужчыны прыпыніліся і на мігах паказалі, што вымушаны завязаць ёй вочы. Яна хацела абурыцца, адмовіцца, але як гэта зрабіць у процівагазе?

Вочы развязалі толькі ў памяшканні, дзе яна ўбачыла перад сабою стомленага, яшчэ не старога чалавека з грубаватымі рысамі твару, з капою сівых кучаравых валасоў над шырокім лобам, зрэзаным маршчынамі. Ён напружана паўзіраўся ў яе вочы, усміхнуўся, ветліва сказаў:

— Добры дзень! Здыміце, здыміце гэты камуфляж, тут вам нічога не пагражае.

Яна адклеіла ад твару спацелую, ліпкую гуму проціваказа, зняла плашч і пальчаткі, падала маладому праваднікy, што стаяў побач, адказала:

— Добры дзень. Прабачце, не ведаю, як да вас звярнуцца... Я заблудзілася, дапамажыце мне, калі ласка...

— Завіце мяне проста доктар. Не хвалюйцеся, мы пастараемся вам дапамагчы. У нас здарылася невялічкая аварыя, таму ўсіх людзей, якія будуць трапляць у зону, мы вымушаны затрымліваць і даследаваць.

— А як жа мая сям'я? Трэба ж папярэдзіць...

— Напішыце вось тут, калі ласка, усё што палічыце патрэбным, каб мы змаглі адшукаць вашага мужа,— ён падаў жанчыне паперу і ручку.

Яна скончыла пісаць, адклада ручку. Ён пастараўся нязмушана ўсміхнуцца:

— Як вы сябе адчуваеце?

— Ведаеце, я вельмі спалохалася, калі трапіла ў мёртвы лес, а пасля яшчэ вашы хлопцы... У мяне дагэтуль калоціцца сэрца, туман перад вачыма, горыч і сухасць у горле...

— Гэта пройдзе. Зараз я выклічу фельчара, ён возьме ў вас кроў з вены на аналіз, а пасля вы зможаце адпачыць у ізалятары. Туды вам прынясуць і абед,— сказаў доктар.

Ён націснуў кнопку на пульце, на выклік тут жа з'явіўся маладзенькі фельчар у рэспіратары і шэрай уніформе. Доктар задаволена акінуў позіркам падначаленага. Яго заўсёды здзіўляла празмерная стараннасць і абавязковасць гэтага маладога чалавека. Вось і цяпер ён апрануты па самых строгіх патрабаваннях тэхнікі бяспекі. У лабараторыі такія людзі неабходныя, але занадта нудныя.

Фельчар павёў яе па доўгім калідоры. Усюды былі жалезныя дзверы, і нідзе, нават у кабінеце доктара яна не бачыла вокнаў. Ёй здалося, што за гэтымі цяжкімі дзвярамі месяцца страшныя таямніцы, а мо там жывуць страх і адзінота, сабраныя з усяго свету. І калі раптам дзверы адчыняцца, дык страх запалоніць усю зямлю, людзі пачнуць баяцца нават сваіх ценяў. Яна азірнулася на фельчара. Вочы яго былі трывожныя, нібыта ён адчуваў тое самае, што і яна.

У канцы калідора фельчар націснуў кнопку на сцяне. Перад імі расчыніліся дзверы ў невялічкі пакой, пасярод якога стаяў ложак, засланы белаю капаю, побач нізкая тумбачка, на ёй свяцілася лямпа з аранжавым абажурам. Фельчар прапусціў жанчыну ў ізалятар. Дзверы за імі нячутна зачыніліся, зліліся са сцяною.

— Я сапраўды атруцілася?— папытала яна, закасваючы рукаў.

Ён пахітаў галавою, супакойваючы яе, іголка ў яго руках спрытна знайшла вену, уджаліла, і жанчына ўбачыла, як цёмныя кроплі крыві расцякаюцца па шкле прабіркі.

Фельчар склаў свае прылады ў хітры чамаданчык, што расчыняўся, нібы кніга, і выйшаў. Яна засталася адна, адчула млоснасць ва ўсім целе, бездапаможна акінула позіркам пакой, адчула, што сцены і столь зрушыліся з месца, паплылі, закружыліся, нервовы спазм сціснуў горла, жанчына ўткнулася тварам у падушку, заплакала.

Фельчар паклаў перад доктарам лісток паперы, спісаны літарамі і лічбамі. Доктар прабег вачамі напісанае і адзначыў, што формула крыві жанчыны мае даволі вялікае адхіленне ад нормы, сказаў:

— Ваша задача — паназіраць за ёю. І ніякае дапамогі! Ідзіце.

Хоць аэразоль на людзях не правяралася, па тэарэтычных разліках вялікія дозы яе маглі выклікаць таксічную кому і смерць, пад уздзеяннем сярэдніх доз у атручанага чалавека мог узнікнуць інтаксікацыйны псіхоз з сутарга-

вым сіндромам, пасля крызісу адбывалася поўная перабудова псіхікі. Чалавек ператвараўся ў паслухмяную бяспамятную жывёліну. Доктару карцела даведацца, калі ўжо надарылася такая магчымасць, як жа ўплываюць на чалавека самыя малыя дозы, каб ведаць поўную характарыстыку рэчыва.

Ён сеў да камп'ютэра, звыклым рухам націснуў некалькі кнопак, на экране з'явіліся і пабеглі сінусоіды і зубцы. Камп'ютэр быў зусім новы, нядаўна яго набылі ў камплекце з некалькімі спецложкамі, якія размясцілі ў ізалятарах. Дастаткова было пакласці хворага на такі ложак, як адразу ўсе звесткі пра стан яго здароўя можна было чытаць на экране дысплея. Доктар адчуваў тое знаёмае хваляванне, той азарт, які заўсёды ахопліваў яго перад адкрыццём, магчыма, тое самае адчувае заядлы гулец перад выйгрышам.

Ён сачыў за лічбамі і графікамі, што мяняліся і мільгалі на экране, радаваўся, як няўхільна перамагае аэразоль жывыя клеткі.

— У яе сутаргі. Стан крытычны,— пачуўся ў дынаміку бязвольны голас фельчара.

— Пра што вы?— неўразумела запытаўся доктар, не жадаючы адрываць позірку ад дзівоснага відовішча, дзе ішла вайна паміж жывымі клеткамі і яго аэразоллю.

— Жанчына памірае,— бясколерна паўтарыў фельчар.

— Памірае? Чаму? Доза мізэрная. Мышкі на такія дозы амаль не рэагавалі.

Доктар задумаўся. Хутчэй за ўсё ён не ўлічыў фактару часу. Так, дозу трэба было памножыць на час уздзеяння, як і ўсё ў жыцці варта множыць на час. Сам ён нібы забыўся на існаванне часу, вымяраў пражытае толькі працаю. А па сутнасці праца — той самы наркотык, які непрыкметна высмоктвае сілы і розум, асабліва калі працуеш з натхненнем і жаданнем, не заўважаеш нават, калі прыходзіць старасць.

— Дайце ёй інгаляцыі кіслароду і транквілізатары, у крайнім выпадку — эфірна-кіслародны наркоз. І не пані-

куйце. Я тым часам звяжуся з Цэнтрам, выклічу санітарную машыну,— сказаў доктар.

Сёння ён парушыў усе інструкцыі, і пра гэта пакуль не ведалі ў Цэнтры. Праўда, выкіды атрутных рэчываў здараліся і раней, але такая аварыя, як сёння, адбылася ўпершыню. За ноч лес загінуў на плошчы значна большай, чым ахоўная зона лабараторыі. Самае непрыемнае, што ў атручаны лес могуць трапіць людзі, якіх не заўважыць ахова. Праз аднаго атручанага чалавека магла ўсчацца эпідэмія невядомай нервова-псіхічнай хваробы.

Пяць гадоў патраціў доктар на вынаходства аэразолі, якую заказала ваеннае ведамства. Яго не цікавіла, дзе і як будзе выкарыстоўвацца рэчыва, ён меў патрэбу творча працаваць, дасягаць пастаўленае мэты, бо верыў у існаванне справядлівасці не толькі на небе, але і на зямлі. За сваё вынаходства і талент ён быў шчодра ўзнагароджаны, атрымаў пэўныя прывілеі і адмятаў усялякія сумненні, што часам узнікалі ў душы і сеялі адчуванне марнасці і нават злачыннасці яго навуковага адкрыцця.

Ён ганарыўся сваёю працаю, што яшчэ магло радаваць старога халасцяка, які за навукаю так і не завёў сям'і. Ды ці можа быць асабістае жыццё ў чалавека, далучанага да дзяржаўных тайнаў, калі за кожным тваім крокам сочыць нядрэмнае вока ўнутранай службы? І не так проста знайсці тую адзіную жанчыну, неабходную, як паветра, а звязваць свой лёс абы з кім не хацелася. Праўда, некалі, у студэнцкія гады, сустрэлася яму дзяўчына, з-за якое ён страціў спакой, але яна выбрала дацэнта. Для яго гэта была цяжкая страта. Напіўшыся з гора віна, ён хацеў выкінуцца з чацвёртага паверха і зрабіў бы гэта, каб не сябар, што ўтрымаў за крысо пінжака. Тады ён толькі разбіў сабе лоб, знак застаўся на ўсё жыццё. На канікулы да маці прыехаў схуднелы і прыгнечаны. Маці доўга да яго прыглядалася, пасля сказала: "Не бядуй, твая дзяўчына ад цябе не ўцячэ".

Яму нічога не заставалася, як зміры́цца з тым, што ёсць, пайсці з галавою ў навуку і працу. Апошнія тры

гады ён нават адпачынку не браў, даследаванні ішлі на апошнім этапе, хацелася хутчэй завяршыць справу.

Доктар уключыў тэлекамеру, на сцяне засвяціўся экран. Ён убачыў твар жанчыны, прыгожы, яшчэ даволі маладых. Прывабна акрэсленыя вусны, тонкія, нібы ў здзіўленні прыўзнятыя бровы, ясната чала. Відаць, прыступ задушша адпусціў, яна супакоілася і заснула. Рэдка хто з людзей умее прыгожа спаць. Гэтыя няўцямна разяўленыя раты, раскінутыя рукі, ненатуральныя позы — шмат што можа сказіць чалавека. У яе быў твар, на які хацелася глядзець. Невядомае хвалюючае пачуццё абудзілася ў ім, забілася частым пульсам, ён засаромеўся сам сябе. Стала шкада яе, як шкадуюць хворых дзяцей. Раптам па яе твары прабег цень, сутарга скамечыла рысы, жанчына пачала размахваць рукамі, стагнаць, трызніць.

Доктар зморшчыўся, як ад болю, выключыў тэлекамеру. Цяпер яму было зразумела: малыя дозы проста расцягваюць пакуты чалавека, а вынік той самы. Трэба было нарэшце папярэдзіць начальства ў Цэнтры. Ён набраў нумар галоўнага дыспетчара, расказаў усё, як ёсць. Дыспетчар не спяшаўся перадаваць непрыемную вестку наверх, падрабязна распытваў пра аварыю і жанчыну, якая трапіла ў атрутную зону. Калі даведаўся, што яе трымаюць у ізалятары лабараторыі, моцна абурыўся:

— Вы што, пакруціліся там?! Ды праз яе ўся лабараторыя можа ператварыцца ў вар'яцкі дом! Высылаю санітарную машыну! Усіх, хто быў з ёю ў кантакце, тэрмінова змяшчайце ў ізалятар.

— Мяне — першага...

— Як? Вы? Гэта злачынства!

— Усё маё жыццё ў сценах гэтай установы — злачынства, і ваша — таксама, шаноўны!

— Ды вас гнаць трэба!

— Сёння ж напішу заяву на звальненне.

— Ха-ха! Заяву ён напіша! Няўжо ты думаеш,— нечакана дыспетчар перайшоў на "ты",— што цябе выпусцяць

з тымі ведамі пра ваеннае ведамства, якіх ты тут нахапаўся. Ды ты згніеш малодшым лабарантам, калі няздатны кіраваць лабараторыяй. Гэта ў лепшым выпадку, а ў горшым — табе свеціць турма або жоўты дом...

— Тады я памру, гэтага права ў мяне ніхто не забярэ!

— Чорт з табою! Адным дурнем меней будзе!— гаркнуў дыспетчар на развітанне.

Доктар паклаў трубку, уключыў тэлекамеру. Жанчына задыхалася, трызніла, ускудлачаныя валасы закрывалі твар. Ён нервова выключыў тэлекамеру. Адчуў слабасць і млявасць ва ўсім целе, адкінуўся на спінку крэсла, заплюшчыў вочы, падумаў, што страшэнна стаміўся ад напружанай працы, абмежаванага кола людзей і сябе самога. Да таго ж трэба збірацца ў Цэнтр, там прывяжуцца са сваімі камісіямі і праверкамі. Сумота!

Ён пачаў парадкаваць на стале паперы, і калі да горла падступіў задушлівы камяк, з-пад ног паплыла падлога, нібы лінза, выгнулася процілеглая сцяна, ён яшчэ паспеў падумаць, утрымліваючы на некалькі хвілін свядомасць: "Галюцынацыі? Разгерметызацыя?.. Так неасцярожна... Так і трэба..."

Здалёку пачуўся голас маці. Яна стаяла на маладым лужку, ружова-жоўтым ад смолак і кураслепу, у той самай цёмнай сукенцы, у якой яе пахавалі. Было балюча глядзець на сляпучае сонца. І ён, прыжмурыўшы вочы, кінуўся насустрач маці, натыкаючыся на сонечныя промні, як на пікі. Яна клікала яго, махала рукою, адплывала і ўрэшце ператварылася ў агеньчык, знікла ў марыве. Тады свет пачаў перакульвацца, неба падала на зямлю, а зямля імкнулася стрэсці са сваёй паверхні чалавека, як непатрэбшчыну. Ён, ахоплены страхам, да знямогі біўся ў дзікім хаосе, а пасля доўга ляцеў у цемру, пакуль душа яго не стала згусткам чарнаты. А над целам схіліўся атручаны лес.

---

# *Васька*

Апошнім часам каню нядужылася, а сёння дык увогуле не меў ён ніякае ахвоты нават хвастом варушыць, такая слабасць і разбітасць ва ўсім целе. Аднак ніхто яго настроем не цікавіўся. Гаспадар моўчкі ўсцягнуў на шыю хамут, запрог у аглоблі, сеў на вазок і патузвае сабе лейцы, час ад часу сцябае пугаю ды пакрыквае:

— Но, Васька! Но! Застаяўся за ноч, лайдак стары!

Васька зажыўся на гэтым свеце. Па конскіх мерках пара б яму на заслужаны адпачынак, але ў коней выбар не надта багаты: або рабі, або — на бойню. Вось і цягне ён вазок няроўна, штуршкамі, матляе галавою зверху ўніз. Моташна каню, цяжка. А як на душы, так і на целе. Даўно гаспадар не мыў і не чысціў яго, рукі не даходзяць. Ваську здаецца, што ён ужо ўвесь прасмярдзеў свінарнікам, дзе яму далі месца на стойла.

Гаспадар яго, Нехадзімавіч, гэтак клічуць чалавека ў гарадку, хоць па пашпарце ён Нікадзімавіч, нагадвае стары зашмальцаваны рубель у сваёй вечна аблезлай і абшарпанай адзежыне, прапахлай памыямі, якія ён звозіць з гарадскіх сталовак на свінаферму. Словам, абое рабое. У гарадку іх ведаюць усе: старыя і малыя. Дзеці любяць каня. Як Нехадзімавіч не бачыць, стараюцца прычапіцца да вазка ззаду і трохі праехацца. Дарослыя глядзяць на Ваську па-рознаму: хто з пагардаю, хто са спачуваннем, хто абыякава. І толькі каля піўнога бара, як здаецца каню, усе яму рады, усе яго паважаюць. Таму ён не прамінае выпадку, каб не спыніцца тут. Вось і сёння, хоць гаспадар лаецца і сцябае пугаю, каля бара конь стаў нібы ўкопаны.

— Но, алкаш, ліха тваёй матары!— злуецца Нехадзімавіч.— Няма ў мяне сёння ні капейкі, не дала баба.

Васька не разумее, нашто тыя грошы, калі асабіста яго людзі і так частуюць. Вось ужо цягнецца нечая рука да ягонай сівой грывы, чухрыць за вухам, голас у чалавека лагодны:

— Васька прыйшоў, сябар сардэчны! Гэй, хлопцы, у каго што засталося, злівайце ў мой куфаль.

Мужчыны зліваюць у адну пасудзіну недапітае піва, нехта нават гарэлкі капнуў, не пашкадаваў, гамоняць, смяюцца, абступаюць каня. Урачыста дабрадзей падносіць Ваську куфаль. Конь звыклым рухам, з насалодаю апускае морду ў пасудзіну, смачна пацягвае, у адзін момант піва як не было.

— Малайчына, Васька! Сапраўдны мужык!— рагоча дабрадзей і ляпае каня па шыі.

— Што яму куфаль? Такому, можа, і вядра мала,— заўважае другі.

— А давайце праверым, скінемся на вядро піва!

— Годзе з жывёліны здзекавацца,— абрывае мужчын Нехадзімавіч.— Напоіце яго, а мне пасля на сабе бітоны вазіць? Лепш пазычце, хто не скупы, рублёўку да заўтрага, нешта ў горле перасохла.

Пакуль Нехадзімавіч пазычае грошы і п'е піва, Васька хмялее і весялее. Ён іржэ, шчэрыць шчарбатую зяпу, пахітвае галавою з боку ў бок, пераступае няпэўнымі нагамі. Міма праходзіць жанчына, і ён хапае яе за рукаў зубамі. Тая спалохана адскоквае ўбок, пачынае лаяцца, але конь глядзіць на яе з пагардаю: "Дурная баба, жартаў не разумее". Яму ўжо не стаіцца на месцы, ён нецярпліва чакае гаспадара, асалавелыя вочы няўцямна азіраюцца навокал. Яшчэ Нехадзімавіч не паспеў уваліцца ў вазок, а Васька ўжо рушыў з месца подбегам, з п'яным пахістваннем.

— Но, саколік!— падбадзёрвае памаладзелы і падабрэлы гаспадароў голас, і Ваську прыемна яго чуць.

Вазок хвацка развярнуўся і спыніўся каля "чорнага" ўвахода сталоўкі. Нехадзімавіч злез з воза, зазірнуў у дзверы, гукнуў:

— Дзе тут мая Пятроўна? Хадзі, хадзі, галубка, абдыму ды бусьну.

На парозе з'яўляецца мажная, разгарачаная каля пліты кабета, у караткаватым белым халаце, з накрухмаленым каўпаком на галаве. Твар яе, малады і румяны, свеціцца дабрынёю, хоць яна і надае голасу строгасць:

— Вой, Нехадзімавіч, каб цябе бяда не буськала, свавольнік ты, грэх старому чалавеку...

— Э, ластавачка мая, гэта толькі ўдзень відно, што і стары, а поначы дык ты пра мяне такое не сказала б,— смяецца ў адказ Нехадзімавіч.

— Ты спярша зубы ўставіў бы, і пасля заляцаўся б.

— Калі я зубы ўстаўлю, дык мне ад дзевак адбою не будзе...

— Ты ж хоць нашых дзяўчат не спакушай. Забірай свае бітоны ды едзь ад бяды далей. А гэта і каню вядзерца падрыхтавала, пакармі яго.

Пакуль гаспадар ставіў на воз цяжкія бітоны з памыямі ды весела перакідваўся словам з Пятроўнаю, Васька апаражніў вядро пойла, узняў мурзатую морду. На вусах павісла ружовая, з баршчу, капуста, над брывом — макароніна. Конь задаволена чмыхнуў, крутнуў галавою і абтрос недаедкі.

— Слухай, Нехадзімавіч, а мой бацька казаў, што конь ніколі не будзе есці памыяў,— смяецца Пятроўна.

— Мы людзі простыя, у нас на закуску і цвікі ідуць.

— Зноў каля бара прычасціліся?— з жалем пазірае жанчына.

— Ат, крыху для настрою...

— З кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Які гаспадар, такі і конь...

— Эх, маладзічка, ведама, старасць не радасць. Каб ты бачыла, які я хлопец быў. За мною дзеўкі цугам бегалі. Бывала, як прайдуся з гармонікам па вёсцы, аж гай зашуміць. Я і цяпер, як прычэпіцца жонка, пачне лаяць, хапаю гармонік, як урэжу польку, тут яна ўжо плача і скача.

— Што ж ты талент марнуеш? Ідзі вунь у рэстаран граць, хоць заробак мецьмеш...

— А што ты думаеш, каб мне які дыпломчык, я хоць самавук, а вучонага перайграю. Пасля вайны не да вучобы было, каб хоць як выжыць ды хлеба кавалак зарабіць. Тады такіх памыяў не было, што хлеб з баршчом напалавіну. Маладая ты, не ведаеш. У калгасе па шэсць капеек на працадзень давалі... Колькі сезонаў на Украіну папаездзіў, ніякае работы не цураўся, пакуль хату паставіў ды дзяцей пагадаваў. Усё жыццё цягнуў як вол, а цяпер аказалася, што на пенсію пара, а стажу не хапае. Такая штука, Пятроўна!— гаворыць Нехадзімавіч і лацвей уладкоўваецца на возе.— Будзь здаровая, галубка!

— Шчаслівa!— адказвае Пятроўна і знікае за дзвярыма.

Ад выпітага і з'едзенага каня ахоплівае млявая ленасць. Ён заплюшчыў вочы і дрэмле пад ласкавым жнівеньскім сонцам.

— Но, пайшоў!— тузае лейцы гаспадар.

Васька перасільвае сябе і кранаецца з месца, ледзь перастаўляючы ногі. Спіць яго цела, спіць душа.

— Но, лайдак!— злуе гаспадар.— Ні галодны, ні сыты, не цягне. Скаціна несвядомая!

"Сам такі!"— адмахваецца Васька хвастом ад пугі.

---

## *Раздарожжа*

Жанчына ішла на спатканне, апошняе спатканне з гэтым чалавекам, так яна вырашыла сама сабе. Хацелася хутчэй убачыць яго, выказаць яму ўсю сваю нянавісць і пагарду (а можа, лепш абыякавасць?) і горда развітацца назаўсёды. Яе ажно трэсла ад нецярплівасці і хвалявання. Яна даўно ўжо зразумела, што ім ніколі не

быць разам, таму досыць з яе пакутлівага чакання, рэўнасці і няпэўнасці. Так ёй думалася, калі яна адчувала сябе дужаю і заспакоенаю. Але моманты слабасці здараліся значна часцей. І тады яна зноў была гатовая трываць усё дзеля таго, каб толькі ён быў побач. Яе розум і пачуцці змагаліся паміж сабою. Адначасна яна кахала і ненавідзела, абагаўляла і праклінала таго чалавека, што стаў яе адзіным, але па закону належаў іншай.

Пазнаёміліся яны гадоў пятнаццаць таму. Неяк вярталася апоўначы ад сяброўкі з вячорак, дыбала на высачэнных абцасах. Міма праязджала легкавушка, прытармазіла, і прыемны мужчынскі барытон запрасіў яе ў машыну, як аказалася, міліцэйскую.

— Мая міліцыя мяне беражэ!— узрадавалася яна і села на задняе сядзенне.

За рулём быў малады чалавек у цывільным. Ён павярнуў да яе галаву з пашанаю і пакораю, усміхнуўся:

— Куды паедзем, пані?

Яна назвала адрас. Машына лёгка кранулася і амаль бясшумна пакаціла па вуліцы.

Ён правёў яе да самых дзвярэй кватэры. Цяпер, пры святле, яна разгледзела яго. Высокі, чарнявы, з прыгожымі і правільнымі рысамі твару, якія сустракаюцца вельмі рэдка. Яна ўмела цаніць прыгажосць і пашкадавала, што ён маладзейшы за яе гадоў на пяць. А было ёй тады ўжо за трыццаць, мела дачку-падлетка. З мужам пражыла лічаныя месяцы, пасля яго забралі ў войска. За два гады, пакуль ён служыў, яны так счужэлі і адвыклі адно ад аднаго, што сумеснае жыццё не здолелі наладзіць, развяліся.

Новы знаёмы пазваніў па тэлефоне ранічкаю, павітаўся і пажадаў добрага дня. Пасля адгукнуўся праз месяц, сказаў, што вельмі засумаваў і хацеў бы сустрэцца. З таго часу яны і сталі сустракацца, то часцей, то радзей. Усё залежала ад яго.

Ён, Косця, быў жанаты, меў двух малых сыноў, але пра сваю сям'ю і работу амаль нічога не расказваў. Яна і

не дапытвалася. Некалькі разоў схадзілі разам у кіно, пасля ў рэстаран, потым яна пачала запрашаць яго дамоў, папярэдне ўпэўніўшы дачку, што дзядзя Косця яе хросны бацька. Дзяўчынка амаль не помніла роднага бацьку, таму была рада і такому, які час ад часу з'яўляецца ў кватэры, нешта рамантуе, прыбівае палічкі, расказвае анекдоты, жартуе. Ды і маці тады прыгажэла, весялела, не сварылася за абы-што. Ён прыносіў свята на некалькі гадзін, а пасля знікаў на доўгія месяцы. Нават дачка пачынала сумаваць і пыталася, чаму хросны не прыходзіць.

Жанчына пакутавала ў чаканні, але праз свой гонар не званіла яму. Няхай не думае, што яна такая бездапаможная. Калі ўжо не было ніякае магчымасці трываць, набірала ягоны нумар, моўчкі слухала голас і клала трубку.

Гэтак прамінула пяць гадоў. Нарэшце дачка скончыла дзесяцігодку і паехала вучыцца ў сталічны універсітэт. Цяпер жанчына засталася зусім адна, таму ўсё часцей пры сустрэчы з Косцем зводзіла гаворку да таго, што трэба быць разам. Ён апраўдваўся, што зараз ніяк не можа пакінуць жонку, бо яна хварэе, гэта было б не па-чалавечы. Ды і за сынамі трэба вока ды вока. Упэўніваў жанчыну, што кахае яе, вельмі прывык і не можа без яе абысціся.

Такія адгаворкі мала суцяшалі. Ёй хацелася ціхага спакойнага шчасця на дваіх, каб нехта клапаціўся пра яе, каб было пра каго дбаць ёй. Аднойчы проста выгнала Косцю, сказаўшы, што выходзіць замуж. Сапраўды, суседка даўно збіралася пазнаёміць яе з развядзёнкам, які меў сваю хату на ўскраіне і працаваў у гастраноме, сек мяса.

— Здаровы мужык, кроў з малаком, не п'е, не курыць. Мяса найлепшага заўсёды прывалачэ. Хоць у чэргах стаяць не будзеш,— нахвальвала суседка.

— Дзе наша ні прападала!— аднойчы згадзілася яна.— Вядзі жаніха, будзем знаёміцца!

Піліп паказаўся мужчынам самавітым, гаваркім. Некалькі вечароў прыходзіў у госці, а пасля пачаў заставац-

ца нанач. Штодня прыносіў з гастранома сакавітыя, свежыя кавалкі мяса, пасля, распрануты, у майцы і трусах, сядзеў на кухні, смажыў скваркі, доўга і нудна расказваў, як і між кім дзеліць лепшыя кавалкі, а рожкі ды ножкі ідуць пакупнікам.

За месяц гэтыя гаворкі абрыдлі так, што яна ўжо не магла ні мяса есці, ні Піліпа бачыць. І ўсё думала, як выжыць жаніха з кватэры. Добра, што не ўзяла з ім шлюб ды не прапісала на сваю жылплошчу. Але, на шчасце, аднойчы ўвечары заявіўся Косця ў міліцэйскай форме, афіцыйна павітаўся, паказаў чырвоненькае пасведчанне:

— Праверка пашпартнага рэжыму. Хто жыве ў гэтай кватэры, прашу дакументы.

Яна, хаваючы ўсмешку, падала свой пашпарт, Піліп — свой.

— Вы тут гасцюеце?— запытаўся Косця ў Піліпа.

— Я тут жыву.

— Без прапіскі? Збірайцеся са мною,— строга загадаў Косця.

— Ды вы што, таварыш капітан, [redacted] лепш дамоў пайду. У мяне хата на Дуброўцы. Можаце праверыць, там у мяне маці, гаспадарка...

— Хата?— узвіўся Косця.— Вось і марш у сваю хату! Каб і духу тут твайго не было!

Яна не затрымала Піліпа, але, калі за ім грукнулі дзверы, строга папыталася ў Косці:

— Чаму ты ўрываешся ў мой дом і размахваеш тут чырвоным пасведчаннем? Што гэта за нахабства?

— Не спяшайся ты замуж,— сказаў ён і зграб яе стрыжаныя валасы ў кулак на патыліцы.— Я сам прасватаю цябе за вартага чалавека.

Міналі гады, а яна з жалем і крыўдаю думала: чым я горшая за іншых, што ўсё жыццё адна ды адна? Ні ласкі, ні радасці на людзях. Усё крадком, усё ўпотайкі, не каханне, а злачынства нейкае.

Ці то Бог пачуў яе скаргі, ці то доля такая выпала, ды прызначылі ў іх вытворчае аб'яднанне новага галоўнага

інжынера. Ён заляцаўся няўмела і старамодна, але яна так стамілася выглядаць сваё шчасце, што ўзяла ініцыятыву ў свае рукі. Неўзабаве яны пабраліся. З ім прыйшлі ў яе жыццё добрая ўпэўненасць і спакой.

Косця, як даведаўся, што яна выйшла замуж, адгукнуўся, павіншаваў, зрабіў нават выгляд, што рады, маўляў, добрага чалавека знайшла, удаўца і пры пасадзе, а мо і сапраўды парадаваўся за яе, не чужая ж. Аднак не прамінуў намякнуць, што ім і надалей трэба застацца сябрамі. Тады яна проста абарвала гаворку. Як ён не разумее, што яна стамілася ад самоты, што амаль зненавідзела яго, бо ён засціў свет, дарыў надзею і забіраў.

Учора Косця зноў прапанаваў сустрэцца. Яна згадзілася толькі дзеля таго, каб выказаць яму ўсё набалелае, хоць таемна песціла надзею: раптам ён нешта надумаў памяняць у сваім і яе жыцці? Калі гэтак, дык яна дзеля яго на ўсё пойдзе...

Косця папрасіў яе прыйсці да гаражоў, дзе стаяла ягоная машына, яны і раней там сустракаліся. Ёй было ўсё роўна, абы меней трапляць людзям на вочы. На дамоўленым месцы Косці яшчэ не было, яна паглядзела на гадзіннік, гнеўна падумала: "Спазняецца, як заўсёды! Плюнуць бы на ўсё і пайсці адсюль!" Але нешта трымала яе тут, і яна суцяшала сябе тым, што ён жа не вольны, мог дома затрымацца,  мог на працы. Чакала і няспешна хадзіла ўздоўж чыгункі. Што ж, заўтра ўжо ён не пасмее пазваніць, заўтра яна для яго будзе ніхто. Заўтра і заўсёды...

* * *

У гэты дзень Бояр доўга не мог падняцца з ложка. Балела ўсё цела, расколвалася галава. У паўсне адганяў ад сябе страшную навалач, ляцеў, правальваўся ў бездань. Калі ж нарэшце расплюшчыў вочы, дык зразумеў, што на дварэ даўно ўжо белы дзень. Трэба падняцца і пашукаць якой ежы. Напружыў памяць, каб успомніць

учарашні дзень, і, на здзіўленне, усё згадалася. Таму гэтак дрэнна сябе пачувае, што недабраў нормы, не дайшоў да кандыцыі. Зелле яму далі ў доўг. У Косай збіраліся, яна і частавала. Раздобрылася!.. І чаго гэта? І Хава ўвесь час чапляўся, ці не з рэўнасці да Косай? Трэба было садануць пару разоў гэтаму прышчаваму ханурыку... Пашкадаваў. Добры Бояр, занадта... Хаця і яго часам шкадуюць. Вось і ўчора тая, як жа яе завуць? Таня, Маня?.. Магла б адмовіць, бо грошай не меў, а не адмовіла. Маладзенькая дурніца, пухленькая... Ажно прытомнасць страціла... Хоць, зразумела, не праз яго, праз зелле. Здаецца, вадою яе адліваў, ледзь ачомалася.

Бояр ужо два тыдні жыў адзін. Бацькі паехалі да сваякоў у госці. Усё, што пакінула маці ў халадзільніку, паеў, грошы патраціў. На працу апошні тыдзень не хадзіў, без яго там не сумавалі, бо ніхто нават не пазваніў і не пацікавіўся, ці жывы яшчэ Ігар Баярчук. Нічога, затое сябры ведаюць, што Бояр сапраўдны чалавек, галаву за сябра пакладзе. Хаця дзе тыя сябры? Сядзяць пад жончынымі спадніцамі. У кім толькі не даводзілася яму расчароўвацца за сваё трыццацігадовае жыццё!

Самым першым і вялікім расчараваннем сталі ягоныя бацькі, іх несумленнасць і адчужанасць. Жылі разам, але кожны сабе. Бацька купіў машыну, маці намаглася і таксама набыла аўтамабіль. Бацька выхаднымі днямі прападаў у мамінай сяброўкі, рамантаваў кватэру, нешта ладзіў, майстраваў, хоць дома заўсёды панаваў развал. Маці мела сваіх палюбоўнікаў. Бацькі не жылі, а спаборнічалі паміж сабою ў цынізме і жорсткасці.

Неяк, яшчэ падлеткам, прагнучы справядлівасці, ён прычапіўся да маці, чаму яна не забароніць бацьку хадзіць да цёткі Марусі. Маці накрычала на яго. І ён зразумеў, што яму не трэба ўлазіць у жыццё дарослых, бо ён, сын, і ёсць тая адзіная нітачка, якая звязвае бацькоў у іхняй вечнай нязгодзе. Ён марыў хутчэй вырасці, вывучыцца, узяць замуж добрую дзяўчыну, каб была ў іх моцная сям'я, не такая, як у бацькоў.

Ажаніўся на апошнім курсе інстытута з дзяўчынаю, якая толькі і паспела ў жыцці, што скончыла дзесяцігодку. Праз год у іх нарадзілася дачка. Жылі з цешчаю, ён працаваў у радыёатэлье, сябры часта запрашалі паглядзець апаратуру, пасля частавалі, бо плату не браў грашыма. Пасля кожнага запозненага вяртання "пад градусам" жонка плакала, цешча перамывала косці, дрэнна спала і капрызіла дачка. Каб адпачыць ад жонкі, ён усё часцей пачаў наведвацца да бацькоў, дзе ў яго быў асобны пакой і дзе заўсёды радаваліся ягонаму прыходу.

Аднойчы Бояр сустрэў у двары былую аднакласніцу Натаху, яна запрасіла на каву і музыку. Ён зайшоў да яе на гадзінку і ў той жа вечар заначаваў. Вось тады і зразумеў, што яму нудна з наіўнаю Галяю, яго маладзенькаю жонкаю, якая нічога не разумее ў адносінах паміж мужчынам і жанчынаю.

Развёўся. Часта наведваўся да Натахі, якая аднойчы заікнулася наконт шлюбу, але ён папулярна растлумачыў, што ў сямейным жыцці расчараваўся надоўга. З Натахаю ён упершыню і зелле пакаштаваў.

Бояр цяжка падняўся і пайшоў на кухню, піў ваду і не адчуваў смаку. Горка, агідна. Трэба апрануцца і ісці пазычыць грошай. Драўлянымі, нягнуткімі рукамі доўга нацягваў штаны і кашулю. Схіліўся, каб завязаць шнуркі на чаравіках,— усё паплыло перад вачамі. Асунуўся каля сцяны на падлогу і сядзеў так, пакуль не прайшло галавакружэнне. Трэба брацца за розум, далёка зайшоў, трэба лячыцца. Ну, гэта заўтра... Сёння, здаецца, нядзеля. Да заўтра трэба дажыць, знайсці грошай і купіць зелля.

Завязаў шнуркі, падняўся, паглядзеў на сябе ў люстэрка і адхіснуўся: белы ў зморшчынах твар, апалыя шчокі, пад вачамі мяшкі... Выйшаў з пад'езда і спыніўся, разважаючы, куды пайсці. Пасля нядоўгіх ваганняў рушыў у бок чыгункі, дзе былі прыватныя гаражы. Мо хто са знаёмых ладзіць машыну, у горадзе яго шмат хто ведаў.

* * *

Яна ўжо хвілін дзесяць хадзіла ўздоўж чыгункі. Снег весела рыпеў пад нагамі, ад лесапаласы на тым баку клаліся доўгія цені, зімовы дзень хіліўся да вечара. Злавала на Косцю, на ягоныя вечныя спазненні. А можа, ён наўмысна прапанаваў ёй прыйсці сюды, каб пацікаваць з-за гаражоў і пасмяяцца? Нягоднік, прыгожы нягоднік! Усё! Хопіць! Яна апошні раз азірнулася на гаражы і ўбачыла мужчынскую постаць, гэта мог быць Косця. Да грудзей цёплаю хваляю прыліло радаснае хваляванне. Трэба было ўзяць сябе ў рукі, супакоіцца, напусціць абыякавасць. Божа, што з ёю робіцца? Яны не бачыліся амаль год. Яна так збалелася душою. Прагла ягоных рук і вуснаў. Няўжо яна не мае права хоць на такое маленькае шчасце — зрэдку бачыць каханага чалавека?

Прыглядалася да мужчыны і ўрэшце зразумела, што гэта не Косця, не яго паходка. Расчараванне і крыўда сціснулі сэрца, яна ледзь стрымала сябе, каб не заплакаць. Пайшла насустрач незнаёмцу: якая розніца, куды ісці, калі, па сутнасці, ты нікуды не ідзеш, а проста бавіш час?

Бояр паблукаў паміж заснежаных гаражоў і страціў надзею каго-небудзь сустрэць. Зіма не лета. Мароз прабіраў наскрозь тонкую імпартную куртку, гуляў па спіне. Каб не ляскаць зубамі, Бояр моцна сціснуў сківіцы, балюча напружыў мышцы. І тут убачыў жанчыну, якая нетаропка ішла насустрач. Яна была ў дарагім футры, у прыгожых, на абцасах ботах, з маленькаю сумачкаю пад пахаю. Сумачка адразу прывабіла яго зрок. Ён набліжаўся да жанчыны як зачараваны. Раптам здалося, што жанчына зараз сама дасць яму грошай. "На,— скажа,— я ўсё разумею, табе цяжка. Я хачу табе дапамагчы". Нават уявіў яе ціхі голас. Пачуўся грукат цягніка. Бояр азірнуўся і пачакаў, пакуль міма прагуў цеплавоз.

Жанчына мінала Бояра. Ён з безнадзейнасцю пагля-дзеў ёй у спіну, адчуў пах дарагіх духоў, хацеў спыніць,

нешта сказаць, замест гэтага рэзка тузануў з-пад пахі сумачку. Жанчына здзіўлена азірнулася і за тонкі раменьчык пацягнула сумачку да сябе. Яна нешта крычала, але Бояр не чуў — міма грукаталі пустыя таварныя вагоны. Шум заклаў вушы, адгарадзіў ад свету.

— Пусці! Заб'ю!— дзіка закрычаў Бояр і з усяе сілы тузануў сумачку. Раменьчык абарваўся. Бояр паляцеў у снег, а жанчына пад вагонныя колы. Ён толькі на момант убачыў, як яе скамячыла, пацягнула за коламі, як ярка пырснула на шэры снег кроў. Бояр падскочыў і азірнуўся. Ад гаражоў бег чалавек і махаў рукамі.

Бояр кінуўся ўцякаць, на хаду выплюнуў нешта агіднае, зялёна-жоўтае. Хацелася ўпасці тварам у снег, схавацца, перадыхнуць, але той, што бег ззаду, даганяў, вырастаў у волата, і здавалася, вось-вось схопіць за каўнер. Ён уцякаў, наколькі хапала сілы, а калі спатыкнуўся і ўпаў, дык не мог падняцца. Такая абыякавасць апанавала: няхай прыходзяць, забіраюць, судзяць. Ён нават не штурхнуў яе. Яна сама ўпала. Ён не вінаваты.

Кроў да звону пульсавала ў скронях, сэрца рвалася з грудзей. Ён хапаў ротам паветра і снег. Калі трохі аддыхаўся, азірнуўся. Нікога не было, ніхто яго не даганяў. Пальцы закляклі на сумачцы. Ён доўга сіліўся іх расчапіць, але сумачка нібы прырасла да рукі. Нарэшце ў пальцы закалолі балючыя вострыя іголачкі, і яны паслабіліся. Дрыготка дастаў тугенькі кашалёк. Замітусіліся думкі: "Забыць! Я не вінаваты! Галоўнае — ёсць грошы. Няшчасны выпадак! Заўтра я буду жыць інакш... Вярнуся да Галі, буду гадаваць дачку. А мо нічога не здарылася? Мо яна жывая?.." Ён зноў кінуўся бегчы, цяпер ужо ад сумачкі, якую падбіў нагою пад жалезную бочку, што апынулася тут невядома як. Кіраваўся да горада, хацелася ўскочыць у першы гарадскі аўтобус, далей ад таго месца. А заўтра ён пачне новае жыццё, заўтра ўсё будзе інакш...

---

# *Выпадковасць*

Мікола з жонкаю і пяцігадовым пасынкам Лёнікам стаяў на заснежаным пероне ў чаканні цягніка. Вяртаўся ён ад цешчы і быў задаволены паездкаю. Цешча прымала хлебасольна, кожны раз не забывалася прапанаваць чарку, яшчэ і з сабою нацадзіла трохлітровы слоік вясковага “сам жэнэ”. Не тое каб Мікола надта любіў выпіўкі, а проста было прыемна адчуваць цешчыну ўвагу ды павагу. Зразумела, цешча была ўдзячная за дачку, што ўзяў з дзіцем, як быццам дзіця каму замінае. Добры хлопчык, жвавы, няхай гадуецца. Гатовая нянька, а праз месяц і лялька павінна з’явіцца, першае Міколава дзіця. А тое, што не дасталася яму дзеўка цнатлівая, дык ён на лёс не ў крыўдзе, бо пабачыў і паспытаў за свае дваццаць пяць гадоў розных дзяўчат і жанчын, нават жанаты быў з адною гарадскою студэнтачкаю. Але раскідаўся той шлюб пасля яе паездкі з будатрадам у Сібір.

Мікола заклапочана паглядзеў на жонку, падумаў: “Каб не прастудзілася, такі жывот выперла, паліто не сходзіцца, мо на двойню. А што, Надзька жанчына магутная...”

— Не холадна табе?— схіліўся ён да жонкі.

— Нічога,— яна зморшчыла кірпаты нос, усміхнулася бледнымі поўнымі вуснамі.

Білеты Міколу прадалі ў розныя вагоны. Ён паспрабаваў паспрачацца з касіркаю, але давялося згадзіцца на тое, што прапанавалі, бо цягнік транзітны, месцаў няма, наступны будзе гадзін праз шэсць. Размеркаваліся так: Мікола з Лёнікам пойдуць у адзін вагон, а Надзька — у другі. Ён адчуваў, што жонка трохі хітруе, прыстаўляе пасынка ў якасці вартаўніка, ды шкадаваў яе. Няхай паляжыць, адпачне, каб не растрэслася ў дарозе. А Лёнік жвавы, за ім вока ды вока трэба. Міколу малы любіць і слухаецца. Вядома, такому жэўжыку трэба было мець бацьку. У яго ўжо перабыло тых бацькоў тры ці чатыры, ды ўсе некуды знікалі, адзін Мікола затрымаўся. Лёнік

адразу пачаў называць яго татам, толькі як бачыў, што Мікола некуды збіраецца, дык заўсёды насцярожана пытаўся, ці вернецца.

Міколава маці, як даведалася пра сваю новую нявестку, не выказала ні радасці, ні незадаволенасці, адно сказала: “Калі і гэтую пакінеш, дамоў не вяртайся”.

А жонка яму дасталася па чыстай выпадковасці. Працавалі яны разам на ферме, бычкоў гадавалі, кожны пры сваёй справе. Ён каля транспарцёра на раздачы, яна на кармакухні. Бачыліся штодня. Надзька была крамяная губастая маладзіца, старэйшая за Міколу гады на тры, мужыкі на яе ласа паглядвалі, вось і ўсё. Ці мала такога дабра на свеце? Але ці то ў нейкай вясковай пляткаркі язык свярбеў, ці сама Надзька нешта каму сказала, толькі пачалі раптам у сяле гаварыць, што ён да Надзькі заляцаецца. Ужо й мужыкі час ад часу пакеплівалі, што зусім схуднеў хлопец, у дзве змены працуючы, драбнаваты целам выйшаў, ■ на такую бабу добрая сіла трэба.

І вырашыў ён сам даведацца, што ж гэта за Надзька такая, што столькі пра яе гамонкі. Спярша двойчы падвёз на матацыкле дамоў, ■ пасля напрасіўся ў госці. Заявіўся пазнім асеннім вечарам, яна ўжо, відаць, усе чаканкі прачакала, але не папракнула, пусціла ў хату. Ён паставіў на стол пляшку, яна сабрала таго-сяго закусіць...

Пайшоў Мікола ад Надзькі ўдосвітку ачмурэлы ад бяссоння і незадаволенасці. Ён усяго мог чакаць ад яе: распусты, вар'яцтва, лаянкі, толькі не такой зацятай цярплівасці, пяшчоты і незгаворлівасці. Яна прымала яго ласкі і пацалункі, адказвала дзіўнымі словамі любасці і захаплення, была мяккаю і падатліваю да пэўнае мяжы. Яна берагла сябе. Як быццам не яе гэта сын спаў у бакоўцы, як быццам не ў яе час ад часу з'яўляліся нейкія прымакі, ■ пасля знікалі. Ён раззлаваўся, нават пакрыўдзіўся на яе. Напэўна, на гэтым яго заляцанні і скончыліся б, каб не заўважыў, што Надзька пачала пазбягаць яго, хавацца за жанчын пры сустрэчы, нібы ён у чым перад ёю вінава-

ты. Тады ён вырашыў яшчэ раз пагаварыць з ёю па-мужчынску, бо каму патрэбны гэтыя дзіцячыя гульні, навошта, каб аднавяскоўцы дарма языкамі ляскалі. Пасля працы Мікола затрымаў Надзьку, не пусціў у аўтобус, які развозіў жывёлаводаў па хатах, запрасіў:

— Сядай на матацыкл, падвязу.

— Не хачу,— пачала адмаўляцца яна.

— Сядай, кажу.

Надзька не варухнулася. Тады ён са злосці газануў, уздыбіў матацыкл, крутануў яго на адным заднім коле, так што машына зараўла зверам, прарэзала ў пяску глыбокую каляіну, і Мікола ледзьве ўтрымаўся на сядзенні.

— Заб'ешся! Што ты робіш!— спалохана закрычала Надзька.

Мікола ўтаймаваў машыну і спакойна сказаў:

— Сядай.

Яна нетаропка надзела запасны шлем, пранізала Міколу доўгім позіркам, нібы хацела прачытаць яго самыя патаемныя думкі, села ззаду, абхапіла яго рукамі ў поясе. Спіною ён адчуў яе цела, нешта цёплае прыліло да грудзей. Упершыню ён ехаў вельмі асцярожна, абмінаў выбоіны і лужыны. З таго дня і пачалі яны жыць разам без вяселля, без чужых вачэй.

Купэ было расчынена. На ніжніх паліцах каля століка сядзелі дзве маладыя жанчыны, наверсе спаў мужчына ў кароткай аблезлай майцы. Мікола павітаўся са спадарожнікамі, прапусціў наперад Лёніка. Малы замітусіўся, нецярпліва здымаючы з сябе паліто, шапку, валёнкі. Мікола таксама распрануўся і сеў. А Надзька пастаяла, паўсміхалася, папіла вады, што стаяла ў пляшках на століку невядома чыя, і пайшла ў свой вагон.

Мужчына прачнуўся ад шуму, учыненага Лёнікам, няўцямна агледзеў купэ, слізгануў уніз і выйшаў, а Мікола застаўся ў бабскай кампаніі, моўчкі пазіраў у акно. Лёнік, як заведзены, насіўся па калідоры. Міколу час ад часу даводзілася вяртаць яго ў купэ, шукаць яму якую забаў-

ку. Жанчына, што сядзела насупраць, прылашчыла Лёніка, дала цукерак, нешта пашаптала на вуха. Хлопчык зацікаўлена зірнуў на незнаёмую цётку, а тая ўжо завяла казку пра бычка-трацячка. Лёнік аціх з цукеркамі ў руках.

Пакуль жанчына гаварыла, Мікола міжвольна прыгледзеўся да яе твару. Вялікія бліскучыя вочы неверагоднага зялёнага колеру, мяккія прыгожа акрэсленыя вусны, тонкія бровы. Дзіўны гэта быў твар. Чым больш на яго глядзіш, тым больш ён падабаецца.

Жанчына скончыла сваю казку і позіркам адпусціла Лёніка. Малы зноў рынуўся ў калідор, а жанчына квола ўсміхнулася Міколу:

— Добры ў вас хлопчык, хоць і не ваш...

Мікола сам здзівіўся, чаму не аспрэчыў яе словы, чаму не зманіў, нарэшце, што гэта яго родны сын, замест гэтага пацвердзіў:

— Так, гэта жончын сын, а цяпер ужо і мой.

— Нехта губляе, нехта знаходзіць. Вам пашанцавала.

Мікола не зразумеў, пасміхалася яна з яго ці спачувала. Але вочы ў яе былі добрыя і адкрытыя, такія вочы не маглі абразіць. Паціху-памалу яны разгаварыліся. Яна ўмела пытацца і слухаць, даць гаворцы самы нечаканы накірунак. Мікола быў маўчун, а тут сам падзівіўся з свайго красамоўства. У кожнае слова ўкладаў столькі прыгажосці і сілы, нібы ад гэтага залежала яго жыццё. Ён расказваў пра сваю вёску, пра родзічаў і суседзяў, пра сваё маленства і юнацтва. З ёю было лёгка гаварыць і маўчаць. Вакол яе жыло святло, зіхацеў дзень, абуджалася радасць. У яго былі раней нейкія захапленні, падабалася тая ці іншая жанчына, але такое моцнае і раптоўнае ўзрушэнне ён перажываў упершыню. Яго няўхільна цягнула да гэтае жанчыны, нібы яна не першая выпадковая ў гэтым цягніку, а наканаваная лёсам, пра якую ён марыў, ды не здолеў дачакацца.

Між тым яна ставілася да яго як старэйшая сястра, хоць вялікай розніцы ва ўзросце ён не адчуваў, бадай, ёй

было не болей, чым Надзі. Яе ціхая гаворка, яе кароткія пранізлівыя позіркі, яе ўсмешка мелі невычэрпны сэнс, таемнае значэнне, абяцанне насалоды, якую яшчэ належала зведаць. Ён нецярпліва чакаў таго часу, калі надыдзе ноч, утаймуецца купэ, яны застануцца разам, каб выпіць па кроплі жаданую радасць. Ён дачакаўся свайго часу.

Заснуў натомлены дарогаю і ўражаннямі Лёнік, захроп на верхняй паліцы мужчына ў аблезлай майцы, заціхла на другой верхняй паліцы маўклівая маладзіца. У Міколы былі ўсе падставы не спаць, бо ягоную паліцу займаў Лёнік. Ада, так звалі суседку, таксама не спала. Яны працягвалі паціху гаварыць і пасля таго, як у купэ згасла святло. Яны мелі толькі некалькі гадзін гэтай ночы, і яму хацелася, каб у іх было ўсё, каб можна было яшчэ доўга жывіцца светлымі згадкамі ў будзённым жыцці.

У цемры ён працягнуў руку і сустрэўся з яе гарачаю рукою. Лёгкая хваля падхапіла яго і панесла ў пяшчоту, у святло, у трапяткія словы. Ён падсеў да яе, туліў да сябе, цалаваў, шаптаў нешта няўцямнае і пяшчотнае. Ва ўсім целе былі бяздумныя лёгкасць і агонь, які выпякаў душу. Ада не адштурхоўвала яго, але і не давала волі ягоным рукам, шаптала:

— Навошта нам гэта? Я такая старая...

— Не гавары так. Колькі табе? Дваццаць сем, не болей...

— Болей, і нашмат...

— Якая розніца, жанчыны заўсёды маладыя... Я ведаю...

— Але ты не ведаеш мяне. Я не магу так. Не трэба...

— Ада, сонейка, не адштурхоўвай мяне...

Чым болей гаварыў ён, чым болей маліў, тым болей яна аддалялася ад яго. Яго не абражала яе халоднасць, яе цвярозы голас, ён міжвольна адчуваў яе жаночую абачлівасць.

У іх было ўсяго дзве гадзіны новага дня, дзве светлыя начныя гадзіны на жыццё. А пасля ён уключыў святло і

пачаў будзіць Лёніка. Ада дапамагла апрануць соннага хлопчыка, хоць той злаваў і адбіваўся. Рэшту часу да станцыі яны прастаялі ў калідоры. Лёнік сядзеў пры акне на адкідным зэдліку і драмаў.

Вочы ў Ады былі такія бліскучыя, Міколу здавалася, што яна зараз заплача, яму нават хацелася, каб яна заплакала. Калі б гэткая сустрэча выпала ім на год раней, ён паехаў бы за ёю на край свету, а цяпер позна, цяпер трэба жыць як набяжыць. Яны гаварылі апошнія развітальныя словы.

— Прыязджай у госці, у нас рэчка прыгожая,— запрасіў ён.

— Лепш ты прыязджай,— адказала яна.

Мікола зразумеў, што ніхто ні да кога не паедзе, нічога ў іх болей не будзе, акрамя гэтага вагона. Цягнік пачаў сцішваць ход. Трэба было зноў будзіць Лёніка і рухацца да выхаду.

— Уставай, мужык, прыехалі,— патузаў Лёніка за каўнер Мікола.

Лёнік расплюшчыў вочы, паглядзеў на жанчыну, запытаўся:

— А цёця Ада не пойдзе з намі?

— А што, давай дамо адстаўку нашай маме, а возьмем сабе цёцю Аду.

Лёнік узважыў прапанову, з нейкіх сваіх хлапечых меркаванняў знайшоў яе слушнай, даў згоду і сказаў жанчыне:

— Ідзі апранайся, бо не паспееш.

— Які ж ты дурненькі,— засмяялася Ада.

Правадніца пайшла ў тамбур адчыняць дзверы. Трэба было развітвацца. Яны паспешліва пацалаваліся. Мікола падхапіў рэчы, Ада павяла за руку Лёніка, а калі Мікола спусціўся ўніз з прыступак, падала яму хлопчыка. Цягнік стаяў дзве хвіліны. Грукнулі вагоны, тузануліся, усё адплыло. Застаўся гарачы туман у галаве і салодкія згадкі.

Па платформе між людзьмі ішла насустрач Міколу Надзька. Яна асцярожна ступала на абледзянелы коўзкі

асфальт, пераваьвалася з нагі на нагу, стульвала на жываце полы паліто, адварочвала твар ад рэзкага ветру. Раптам яна пакаўзнулася, узмахнула рукамі, але не ўпала, утрымалася. Мікола рынуўся ёй насустрач. Гэтак зрабілася шкада яе, слабую і бездапаможную...

---

## *Ворагі*

Нешта яму не падабалася ў гэтым памяшканні. Што? Ён і сам не ведаў. Турбавала падсвядомае пачуццё няўпэўненасці і трывогі, раздражняў чалавечы пах. Кватэра была добра абжытая, застаўленая мэбляю, з падлогаю, старанна падагнанаю пад плінтус, сапраўдны дубовы паркет, але калі пад ім няма падполля, дык грош цана гэтаму паркету. Трэба прагрызці дзірку і паглядзець. Грызці — толькі зубы тачыць. Ён і пачаў неадкладна пілаваць адсухі плінтус. Справа рухалася марудна. Ва ўсім целе адчувалася млявасць — вынік учарашняга страху. Каб трохі адпачыць і падсілкавацца, пацук пасунуўся на кухню. Скочыў на табурэтку, потым на стол. Прынюхаўся да пячэння, якое ляжала на белай, з кветачкамі, талерцы, пагрыз. Здалося яно прыкра салодкім, ажно ў горле зашкрэбла і захацелася піць. Ён выцягнуў доўгае цела, зазірнуў у ракавіну, куды звонка і цяжка падалі з крана кроплі вады, асцярожна апусціў пярэднія лапы ў ракавіну і папіў. Зноў вярнуўся на стол, сабраў нейкія крошкі. Можна было яшчэ пакапацца ў памыйным вядры, што стаяла пад ракавінаю, але ён стараўся пазбягаць памыяў.

Увогуле ў сваім жыцці ён па магчымасці ўнікаў рызыкі. А тое, што трапіў сюды, адарваўся ад родзічаў, зусім не рызыка, а малапрыемная выпадковасць. Раней ён ква-

тараваў і харчаваўся пры рэстаране. Учора яго прывабіў пах натуральнай скуры. Здараецца гэтак: захочацца нечага, хоць загадзя ведаеш, што няма там ніякага наедку, адзін пах. Скураю пахла невялічкая сумачка. Ён пагрыз трохі бок, пасля перакуліў яе, залез усярэдзіну і ўбачыў маленькія арэшкі, загорнутыя ў празрыстую паперу. Такой смакаты яму ніколі не даводзілася каштаваць. Тонкія духмяныя шкарлупкі і тлустае мяккае ядро раставалі ў горле...

Раптам сумачка над ім шчоўкнула, і ён зразумеў, што трапіў горш чым у пастку. Яго некуды панеслі, а пасля і павезлі. Ён, паралізаваны страхам, нават не спрабаваў вызваліцца. Толькі калі сумачку зноў паставілі, ён пачаў грызці дзірку, асцярожна прыслухоўваючыся да крокаў звонку, якія то набліжаліся, то аддаляліся. Нарэшце дзірка была гатова. Ён высунуў галаву, агледзеўся па баках і сігануў пад газавую пліту, зашыўся там у цёмны куток.

У кухню ўвайшла жанчына ў квяцістым халаце, на які непрыемна было глядзець. Перад ягонымі вачамі мільгалі яе гладкія ногі, пакрытыя светлымі рэдкімі валасінкамі. Гэта выклікала ў пацука агіду. Такая бела-ружовая скура без поўсці ў пацукоў азначала заразную невылечную хваробу. Бедакоў з такою скураю выганялі з роду. Яны знікалі, магчыма, паміралі недзе ад непрытульнасці і голаду, ад самоты. У жаночых нагах было нешта і ад нячыста асмаленае свіное тушы. Пацук ледзьве стрымліваў сябе, каб не ўпіцца зубамі вышэй костачкі і смактаць свежую цёплую кроў. У пацучынай сям'і хадзіла легенда пра тое, што некалі пацукі нападалі на людзей і з'ядалі іх. Хоць ніхто дакладна не мог сказаць, дзе і калі гэта здаралася, паданне перадавалася з пакалення ў пакаленне. Паступова казка ператварылася ў быль.

Пацук праседзеў пад плітою да самае ночы. Толькі пасля ўжо ў цемры вылез са свайго спрату і агледзеў памяшканне. Цяпер ён адчуваў сябе тут вольна. Саскочыў з кухоннага стала на падлогу і пасунуўся па мяккіх, пульх-

ных дыванах. Воўна чаплялася за кіпці, лапы патаналі ў поўсці, нібыта ён ішоў па скуры вялізнага звера, гэта раздражняла яго. Людзі, на ягоную думку, часта карысталіся непатрэбнымі, нават шкоднымі рэчамі, сам ён зыходзіў толькі з таго, што яму карысна, непатрэбнае адмяталася. Пацук завярнуў за шафу з кніжкамі, прайшоўся пад канапаю, у чэраве якой пераначаваў сённяшнюю ноч.

Учора ўночы канапа прывабіла яго пахам скуры. Зноў гэты пах, цягне як на пагібель. Хоць на канапе спала гаспадыня, нішто не магло яго спыніць. Ён адшукаў шчыліну і пратачыўся ў паддон канапы, дзе ляжала некалькі пар абутку, трохі паношанага і зусім новага. Цудоўны куточак. Тут можна зрабіць гняздо, дзе смешныя і няўмелыя дзеці будуць грызці чаравікі, куляцца, валтузіцца і з цягам часу вырастуць у сапраўдных пацукоў. Яго трохі палохала прысутнасць жанчыны, але адначасова ў гэтым было нешта пікантнае, што дадавала яшчэ большай адвагі. Пацук не любіў людзей, баяўся іх, ды лічыў, што часам імі трэба пагарджаць, часам трываць і, канечне, карыстацца іхнім дабром.

Пацук вылез з канапы, сеў на тумбачцы насупраць галавы жанчыны. Халадна і пагрозліва блішчэлі ў цемры яго вочы. Жанчына быццам адчула яго позірк, заварочалася ў сне, уздыхнула. Ён напружыўся ўсім целам, гатовы да скачка, але пачуў яе мернае дыханне, супакоіўся.

Твар жанчыны быў бледны і чысты. Да такога твару нельга было прывыкнуць, як нельга прывыкнуць да рыжай грывы валасоў з церпкім пахам дзікай травы. Рот яе быў прыадкрыты. З-пад кароткай верхняй губы бялелі роўныя моцныя зубы. Твар выклікаў у пацука агіду, толькі зубы падабаліся яму. Чым даўжэй глядзеў ён на жанчыну, тым большае жаданне ахоплівала яго ўпіцца зубамі ў ружовыя вусны ці ў пукатыя, прыкрытыя цёмнымі вейкамі, вочы. Поўсць уздыбілася на загрыўку, хвост напружыўся, выцягнуўся, вочы загарэліся прагаю і рашучасцю. Раптам фіранка, якая завешвала прачынены балкон, узды-

білася, і пацук асеў, насцярожыўся. Новым подыхам ветру ўхапіла фіранку, гэта ранак вітаўся з ноччу. Фіранка зачапілася за дзверы, якія ціхенька грукнулі. Пацук скочыў на падлогу і зашыўся ў канапу. Ужо стуль ён пачуў, як гаспадыня абудзілася і зачыніла дзверы...

Пацук прагрыз плінтус і паркет. Насціл пад паркетам быў зроблены неахайна, дошка ў кутку ляжала карацейшая, чым астатнія. Ён пратачыўся праз дзірку ў падполле. Тут можна было жыць. Прастора, прахалода, цішыня. Цяпер заставалася знайсці выхад на вуліцу. Інакш як прывесці сюды самку, каб заснаваць свой род? Ён сноўдаўся ў каменным мяшку, спрабаваў грызці бетонныя пліты, але пакуль гэта была пустая работа ўсляпую. Зрэшты, для зносін можна было выкарыстаць і дзверы. А дзвярэй тут шмат. Ды і куды спяшацца, варта добра агледзецца, мо спачатку ўладкаваць гняздо.

Дзень цягнуўся доўга. Сонца смаліла ў вокны так, што здавалася, у кватэры хутка пачнуць загарацца рэчы. Дываны, мэбля, радыёапаратура вылучалі атрутны хімічны пах. Пацук ачмурэў ад гэтых выпарэнняў, стомлены падаўся ў падполле, скруціўся клубком. Яго ахутала трывожная дрымота. Трызнілася жанчына з церпкім пахам валасоў, яе пукатыя вочы і белыя зубы. Час ад часу ён прачынаўся і адчуваў у горле непрыемную сухасць. Ён разумеў, што гэта ад атручанага паветра. Так, людзі становяцца ахвярамі свайго дабрабыту і атручваюць тых, хто побач з імі спрабуе прыжыцца.

Ноччу ён зноў сядзеў насупраць жанчыны і доўга ўзіраўся ў яе спакойны, як нежывы, твар. І яго нават раздражнялі яе спакой і сцішанасць. Гэта быў вораг, яму хацелася адчуваць сілу свайго ворага. Зараз кінуцца і выкусіць пукатае вока! Маладое, свавольнае пачуццё запанавала ім. Ён лёгка падскочыў і мякка апусціўся на лапы, зачапіўшы кіпцямі пасму жаночых валасоў. Жанчына

войкнула і падхапілася. Яна зірнула на пацука круглымі звар'яцелымі вачамі і прарэзліва закрычала. Пацук на момант убачыў яе белыя буйныя зубы, аглух ад віску, інстынктыўна кінуўся туды, дзе ледзь варушылася фіранка, што завешвала адчынены балкон.

Жанчына доўга сілілася адшукаць уключальнік бра дрыготкімі з перапуду рукамі. Калі нарэшце мяккае святло заліло пакой, яна, асцярожна ступаючы, прайшлася па пакоі, заглянула пад стол, крэслы, канапу, выглянула на балкон, паўзіралася ў зорнае неба. Не магла зразумець, прыснілася ёй ці сапраўды нейкая здань з бліскучымі халоднымі вачамі глядзела на яе з цемры. "Трэба пустырнічку папіць, нервы супакоіць, ужо страхоцце нейкае трызніцца",— падумала яна, лацвей уладкоўваючыся на канапе.

Раніцаю, калі жанчына спяшалася на работу, яна ўбачыла на асфальце насупраць свайго балкона распластанае цела пацука. Каля ягонай галавы расцяклася невялічкая лужынка крыві. Жанчына сцепанулася ад агіды і адвярнулася, каб не бачыць. Яна баялася і брыдзілася грызуноў.

---

## *Гісторыя адкрыцця, якое не адбылося*

Дацэнт Паліна Пятроўна Віславух-Лебяда з напускным спакоем спынілася ля кафедры, прыязна і ўсмешліва павіталася са студэнтамі. Яна разумела важнасць лекцый на пачатку навучальнага года ў чацвёртакурснікаў, якія цяпер выбіраюць вузкую спецыяльнасць. І менавіта цяпер адбываецца прыхаваная вайна прафесуры за студэнцкія душы.

— Запішыце, калі ласка, тэму: “Асноўныя праявы на-рмальнай сексуальнасці ў жанчын”,— прадыктавала Палі-на Пятроўна студэнтам, пераводзячы позірк з твару на твар, выбіраючы самы ўважлівы, каб яму расказваць, гэ-так яна звыкла.

Дацэнт чытала лекцыю роўным голасам па памяці, толь-кі зрэдку заглядвала ў план, каб чаго не прапусціць.

— Тэрмінам “любрыкацыя” азначаюць увільготненне палавых шляхоў жанчыны пад уздзеяннем эратычнай сты-муляцыі. Звышмерная любрыкацыя нараджае міфы пра выдзяленне вадкасці пры аргазме ў жанчыны. Нават пра-фесар Кон у сваёй апошняй кнізе “Уводзіны ў сексало-гію” сцвярджае, што ў некаторых жанчын у момант аргаз-му спазматычна выкідваецца невялікая колькасць вадкас-ці, хімічны склад якой не вывучаны. Асабіста я лічу, што гэтае сцвярджэнне памылковае...

Яшчэ Паліна Пятроўна не дагаварыла фразу, як уба-чыла, што ў пятым радзе ўзляцела над галовамі рука. Гэта насцярожыла і здзівіла выкладчыцу, звычайна пытанні задаваліся ў канцы лекцыі.

— Слухаю вас,— суха сказала выкладчыца.

З месца паднялася вастраносенькая, ускудлачаная, як зімовы верабей, дзеўчынёха ў малінавай кофце, з лімон-ным шалікам на шыі.

“Не дзяўчына, а святлафор”,— падумала Паліна Пят-роўна.

— Я не згодна з вамі. Як вы, жанчына сталага веку, яшчэ не ведаеце гэтага? Сапраўды, пры аргазме вадкасць выдзяляецца, і ў такой колькасці, што здатна вымываць мужчынскае семя, таму не адбываецца апладненне. У мяне гэта атрымліваецца...

— Я зайду ўвечары, пакажаш, як ты гэта робіш,— гукнуў густы бас з апошняга раду.

Студэнты дружна зарагаталі. Паліна Пятроўна такса-ма засмяялася, хоць разгубілася і не ведала, як ёй нале-жыць рэагаваць на заўвагу студэнткі. Пакуль моладзь па-

ступова супакойвалася, жанчына ліхаманкава шукала тую, неабходную фразу, якую павінна сказаць у сваю абарону.

— Так, шаноўныя калегі, сексалогіі вельмі патрэбны вашы геніяльныя адкрыцці. Мусіць, чалавек яшчэ не хутка спазнае сябе да канца. Але дазвольце мне працягваць лекцыю,— сказала выкладчыца і незадаволена заўважыла, што святлафорыстая студэнтка шэпчацца са сваімі сяброўкамі.

Настрой быў сапсаваны. Паліна Пятроўна ледзьве дацягнула да званка. Сёння ў старым будынку медінстытута яе ўсё раздражняла: застарэлы пах пылу ў калідорах, духата ў аўдыторыі, шумлівая і бесклапотная моладзь. Балела галава, хацелася хутчэй вылузнуцца з гэтага вэрхалу і застацца сам-насам з горадам, які трыццаць гадоў таму прыняў яе, Паўлінку Віславух, з глыбокай палескай вёскі.

Да паступлення ў інстытут Паўлінка два гады адпрацавала санітаркаю ў сухотнай бальніцы, што была побач з яе вёскаю ў колішнім панскім маёнтку. Тады галоўным урачом бальніцы быў старэнькі і паважаны ўсім вясковым людам доктар Князеў, які служыў там яшчэ з польскага часу. На ім усё трымалася: і бальніца, і стары парк на беразе Чорнага возера. Пасля смерці Князева бальнічная гаспадарка прыйшла ў заняпад, бальніцу зачынілі. І адпала ў Паўлінкі патрэба вяртацца пасля заканчэння інстытута ў сваю вёску. У горадзе Паўлінка стала называцца Палінаю, а выбіцца ў людзі дапамагла ёй яе сялянская ўпартасць. Дзень і ноч яна зубрыла латынь, ламала язык, вымаўляючы медыцынскія тэрміны. Зрэдку бегала з сяброўкамі на танцы, а найчасцей сядзела дома, бо не мела нават капронавых панчох. Цяжка было жыць на адну стыпендыю, калі з дому амаль ніякае дапамогі — бацька загінуў на вайне, а ў маці-калгасніцы якія грошы...

Пакуль сяброўкі ў горадзе шукалі сваіх нарачоных, Паўлінка знайшла жаніха ў сваім інтэрнаце. Хлопец наведваў яе, калі суседкі па пакоі выходзілі на прагулянку. Чамусьці ён ніколі і нікуды не запрашаў Паўлінку, цяпер

сталым розумам яна разумее, што хлопец саромеўся з ёю хадзіць, надта сціпла яна апраналася.

Гэтае паспешлівае, палахлівае (каб хто не заспеў) каханне вельмі сумна скончылася для дзяўчыны. Яна зацяжарала і сказала пра гэта свайму каханаму. Ён спалохаўся, пачаў яе лаяць, як гэта яна, будучы медык, не прасачыла за сабою! А ён ужо жанаты і дзеля Паўлінкі нічога ў сваім жыцці мяняць не збіраецца...

Паплакала тады дзяўчына, пабедавала, з парады сяброўак зрабіла аборт, зненавідзела ўсіх хлопцаў, апантана аддалася вучобе. А калі ёй, выдатніцы, пасля заканчэння інстытута раптам засвяціла аспірантура, яна кінулася туды безразважна, зубамі ўхапілася за сексалогію і маладжавага прафесара Лебяду, кіраўніка зацверджанае тэмы.

Рыгору Савічу Лебядзе было пад шэсцьдзесят, але выглядаў ён значна маладзей. Высокі, жылісты, з мудрымі іранічнымі вачамі, у венчыку сіваватых натапыраных валасоў вакол лысіны. Хіба яна магла тады ведаць, што менавіта гэты чалавек стане для яе ўсім у жыцці.

Паліна Пятроўна ў думках зноў вярнулася да тае студэнткі, якая сёння сапсавала ёй настрой: "Ды як гэтае дзяўчо адважваецца нешта абвяргаць? Гэта ж проста непавага да мяне. І за што? Душу ім аддаеш, жыццё, веды! Што ж, у маладосці мне таксама здавалася, што свет перавярну... Не атрымалася..."

Жанчына не села ў аўтобус, а пайшла дамоў пешкі па кастрычніцкай вуліцы, засланай апалым лісцем, сагрэтай бабіным летам. Прайшла восем кварталаў, ажно стамілася, пакуль дадыбала да сваёй кватэры, што дасталася ёй ад мужа, прафесара Лебяды, з кнігамі, мэбляю, іншаю надобаю. Адзенне і шмат якія рэчы ягонай жонкі-нябожчыцы Паліна Пятроўна павыкідала яшчэ пры яго жыцці, але ўсё роўна кватэра дыхала колішнім існаваннем, а пасля смерці гаспадара пачала брацца тленам, нібы таксама марудна памірала.

Першы раз Паўлінка трапіла сюды яшчэ аспіранткаю. Прынесла паказаць Рыгору Савічу сваю кандыдацкую ды-

сертацыю, хвалявалася, націскаючы кнопку званка, нешта лекацела ўсярэдзіне. Яна паважала і пабойвалася свайго настаўніка са студэнцкіх гадоў. Ён быў вялікі аўтарытэт, вядомы псіхіятр, меў шмат цікавых прац, але, як здавалася ёй тады, раскідаўся, захапляўся то адной, то другою тэмаю.

Дзверы перад Паўлінкаю расчыніла прафесарава жонка Ангеліна Львоўна, няўклюдная, на азызлых, хворых нагах, з кульбачкаю. Яна ўжо тады сама не выходзіла з кватэры. Але твар у Лебядзіхі быў вельмі прыемны, з шырокаю ўсмешкаю паўнаватых вуснаў, цёмнымі, непрагляднымі вачамі. Яна ветліва запрасіла разгубленую аспірантку:

— Заходзьце, калі ласка, Рыгор Савіч дома.

Паўлінка ўвайшла трапяткая і наструненая ад хвалявання, удыхнула пах іхняга жытла і нібы прырасла душою. Сам гаспадар ужо спяшаўся насустрач, такі хатні, у выцвілай байкавай кашулі, з паперамі ў руках, нібы з радасцю адарваўся ад працы, каб убачыць сваю вучаніцу.

Пасля яна часта прыходзіла сюды. І яе прымалі як дачку, як блізкага чалавека. Дысертацыя была абаронена паспяхова. І прафесар Лебяда запрасіў Паўлінку працаваць на сваю кафедру. Пачалося яе самастойнае жыццё, але, як і раней, кожным яе крокам кіраваў Рыгор Савіч. Гэта дзякуючы ягонай рэкамендацыі яе ўключылі ў творчы калектыў, які ствараў "Даведнік па сексапаталогіі". Праца была не надта складаная, ды патрабавала сціслага і дакладнага тэксту. Ёй дастаўся артыкул пра жаночы аргазм. Паўлінка падрыхтавала матэрыял і ўсё адцягвала час, не была ўпэўнена ў сабе, хацелася сказаць сваё свежае слова, а гэтага якраз не атрымалася.

Аднойчы Рыгор Савіч пасміхнуўся куточкамі вуснаў і спытаў:

— Як справы, калега? Мо замяніць тэму?

— У мяне ўсё гатова, толькі ніяк не збяруся перадрукаваць,— адказала Паўлінка.

— Добра, тады пасьпяшайцеся, трэба здаваць рукапіс...

— Зраблю.

— А мая Ангеліна Львоўна перадае вам прывітанне.

— Дзякую, узаемна...

— Збіраліся мы з ёю сёння на дачу, каб закансерваваць хату на зіму, але нешта яна расхварэлася. Мо вы мне дапаможаце?

— Канечне, з задавальненнем, даўно-даўно не была за горадам,— узрадавалася Паўлінка. Ёй хацелася пабыць з Рыгорам Савічам удваіх і шмат пра што пагаварыць...

Рыгор Савіч загнаў машыну ў двор і пайшоў у сад, падпілоўваў сухія галіны, зграбаў лісце, а яна сядзела на прызбе, глядзела ў пахмурнае неба, думала, што трэба памагчы яму ў садзе або памыць падлогу ў хаце, але не рухалася з месца, нібы хацела прыспаць душу, каб тая здрадліва не выявіла яе пачуццяў да гэтага немаладога чалавека. Напэўна, яна падабаецца яму таксама, але толькі як вучаніца, як выхаванка...

— Паўлінка,— паклікаў Рыгор Савіч з саду.— Хадзіце сюды!

Яна паднялася і павольна пайшла, адчуваючы замілаванне і радасць, што бачыць яго, чуе голас. Ён падвёў яе да яблыні, на якой зусім не засталося лісця, толькі на адной галіне красаваўся вялізны празрысты яблык. Рыгор Савіч падхапіў Паўлінку на рукі, падняў, як малую, яна падцягнулася і сарвала крамяны плод. Ён асцярожна паставіў яе на зямлю, не выпускаючы з рук, нахіліўся, пачаў цалаваць яе твар. Яна, ахутаная ягонаю цеплынёю і пяшчотаю, зажмурыла вочы, згубіла сябе, толькі яблык прыемна студзіў далонь і вяртаў да рэальнасці.

Пасля яны прыбіралі ў хаце, палілі ў печы, варылі вячэру. Рыгор Савіч увесь час быў побач, нават калі ён не дакранаўся да яе, яна адчувала ягонае святло і сама цягнулася да яго, трапяткая і зацятая ў нявер'і і закаханасці.

Яны заначавалі на ласкавай сялянскай печы, высокай, як гара, блізка да Бога, шчаслівыя ўзаемнаю еднасцю і любасцю. Ранкам яна абудзілася першая з бязважкім целам, яснаю душою, незахмараным настроем, нібы не адну ноч, а ўсё жыццё пражыла побач з гэтым чалавекам, які здатны прадчуваць кожную яе думку, папярэдзіць кожнае жаданне.

За сняданкам ён зноў пасміхнуўся куточкамі вуснаў і спытаў:

— Якія планы ў нас на сёння?

— Мне трэба вяртацца дамоў і перапісаць артыкул пра жаночы аргазм.

Ён толькі весела і задаволена засмяяўся ў адказ.

Так, у тую ноч ёй здалося, што яна нешта адчула аглыбока таемнае, жаночае, што дапаможа ёй напісаць артыкул па-новаму, але эмоцыі не ўкладаліся ў навуковы матэрыял. Тады Паліна Пятроўна шмат разважала над тым пытаннем. Неяк выпадкова трапіў ёй у рукі абшарпаны часопіс, дзе яна прачытала пра афрыканскае племя, жанчыны якога ўмеюць выганяць мужчынскае семя пасля палавога акту. Павінна была прырода паклапаціцца пра жанчыну, над якою ўсё жыццё вісіць страх нежаданае цяжарнасці. Усё жыццё! І якія б міфы ні існавалі, вучоны не можа імі карыстацца, яму патрэбны абгрунтаваныя факты, а такіх якраз Паўлінка і не мела.

Паліна Пятроўна адчыніла кватэру, павесіла на вешалку плашч, прылегла на канапе ў вялікім пакоі, застаўленым кніжнымі шафамі. Кватэра прыгнятала яе сваім мінулым, нібы рэчы адмаўляліся прызнаваць яе сваёю гаспадыняю. Іншы раз ёй хацелася павыкідаць усю старызну, паставіць новую светлую мэблю, але дзе ты яе набудзеш цяперашнім смутным часам.

...Калі Ангеліна Львоўна зусім злегла, Паўлінка перасялілася сюды, каб не цурацца ніякае справы і даглядаць

хворую жонку Рыгора Савіча. Жанчына прымала Паўлінчыну дабрыню, не забывалася дзякаваць за кожную дробязь, ды вочы яе пазіралі з сумам і дакорам, нібы сілілася яна нешта разгадаць і баялася гэтае разгадкі. Тайна сапраўды была. Яна мясцілася скрозь, акрамя таго пакоя, дзе ляжала Лебядзіха. За межамі гэтага пакоя жыло шчасце Паўлінкі і Рыгора Савіча.

Аднойчы Паўлінка застала Ангеліну Львоўну за чытаннем Біблії, пасміхнулася:

— Чыталі б што-небудзь весялейшае...

— Тут столькі цікавага, нібы з нашага жыцця спісана. Хаця б гэты міф пра Аўраама, Сару і іхнюю служанку Агар...— яна стомлена адклала кнігу.— Пагартайце пры нагодзе...

— Добра,— згодна кіўнула Паўлінка і падалася ў кухню, хаваючы зачырванелыя шчокі.

Паўлінка зразумела намёк Ангеліны Львоўны і тое, што хворая скарылася са сваім лёсам, усё стрывае і адыдзе з годнасцю. Гэтак і сталася.

Пасля смерці жонкі Рыгор Савіч прыгорбіўся, змізарнеў, хаваў ад Паўлінкі разгубленыя вочы, нібы адзінае, што звязвала іх на гэтым свеце, было кволае жыццё Ангеліны Львоўны. Калі маладзіца паспрабавала разважыць яго, ён сказаў глухім голасам:

— Разам з Лінаю пахаваў я сорак гадоў свайго жыцця. Прабач. Прыйшла мая старасць, пара падвесці рысу...

Паўлінка нібы толькі цяпер убачыла, які ў яго жоўты і маршчыністы твар, як слязяцца пачырванелыя вочы. Яна заплакала, прыпала вуснамі да ягонай рукі. І адчула, што вяртае яго з іншага, чужога ёй свету.

Рыгор Савіч перажыў першую жонку на трынаццаць гадоў. Памёр раптам, седзячы за пісьмовым сталом. Пасля ягонай смерці Паліна Пятроўна асірацела, разгубілася. Паступова адышлі мужавы сябры і знаёмыя, якіх прыцягваў гэты чалавек сваім талентам і таварыскім характарам. Сваё прызначэнне Паліна Пятроўна цяпер бачыла ў тым,

каб сабраць кнігу мужавых артыкулаў, раскіданых па розных навуковых выданнях. Добра было б напісаць успаміны. Але зрабіць гэта складана. Рыгор Савіч пры сваёй дабрыні ўсё ж быў чалавек жорсткі, у першую чаргу да сябе і сваіх блізкіх. Не дазволіў нават Паўлінцы нарадзіць дзіця, спаслаўся на тое, што не паспее выгадаваць, не хоча пасля сябе пакідаць сірату.

За акном сцямнела, пакой запоўніўся змрокам. Паліна Пятроўна ляжала з заплюшчанымі вачамі і думала пра тое, як ёй заўтра прыйсці на лекцыю да тых самых студэнтаў. Зрабіць выгляд, што ўчора нічога не здарылася? А мо жартам папытацца ў тае студэнткі, ці не здзейсніла яна за гэтую ноч якое новае адкрыццё? Што ж, Паліна Пятроўна вымушана прызнацца, што не атрымаўся з яе вучоны-даследчык, абараніла дысертацыю і размагніцілася, быццам дасягнула вяршыні. Затое яна добры выкладчык. Канечне, пытанне студэнткі законнае. Калі прырода надзяліла чалавека свядомасцю, дык чаму ён пазбаўлены натуральнай магчымасці планаваць сям'ю, а вымушаны карыстацца ненадзейнымі і грубымі кантрацэптывамі? Калі б на свеце нараджаліся толькі жаданыя дзеці, як бы пасвятлела чалавецтва! Мо зусім не засталося б дзіцячых дамоў з нічыімі дочкамі і сынамі...

Чаму ж у час аргазму звычайна жанчыны не цяжараюць? Мо не мужчынскае семя выганяюць з сябе, а выводзяць нейкую субстанцыю, без якой немагчыма існаванне аплодненай клеткі? Але да гэтай ісціны ўжо дакопвацца маладым, ёй позна. Хоць варта пагаварыць з тою святлафорыстаю студэнткаю, мо разам зрабіць нейкія даследаванні, сацыялагічныя апытанні... Чаму ж сама Паліна Пятроўна, кахаючы мужа, не здолела спасцігнуць жаночае тайны? Сабе яна тлумачыла гэта існаваннем між ёю і Рыгорам Савічам непераадольнай дыстанцыі, сарамлівасці і затоенасці з яе боку. Ды і што мужчына можа ведаць

пра адчуванні жанчыны, калі яна сама не ведае, якой павінна быць? І якая яна, абуджаная жанчына?

Паліна Пятроўна без ахвоты павячэрала ўчарашняю аўсянкаю, запіла чаем. Паслала сабе на канапе, у спальні не начавала ні разу пасля смерці мужа. Некалькі разоў прачыналася ад таго, што здавалася, быццам правальваецца ў бездань, і зноў засынала цяжкім сном. А сёмай гадзіне паднялася, як звычайна, пачала збірацца ў інстытут.

"Эмоцыі эмоцыямі, а кожны павінен рабіць сваю справу: студэнты вучыцца, а я чытаць лекцыі,— думала Паліна Пятроўна, прычэсваючы свае сіваватыя валасы.— Няхай абвяргаюць старыя тэорыі, здзяйсняюць адкрыцці, а мне трэба зарабляць пенсію. Спрэчныя пытанні ў навуцы былі і будуць, інакш прагрэс спыніцца. Гэтую святлафорыстую трэба прыгрэць, прыгарнуць. Трэба рыхтаваць сваіх вучняў..."— гэтымі думкамі Паліна Пятроўна зусім супакоілася.

Наперадзе быў звычайны дзень...

---

# *Дзве мелодыі*

Прыгарадная электрычка спынялася на кожным паўстанку, чатыры гадзіны расцягнуліся ў бясконцасць. За акном праплывалі балотцы, аздобленыя залацістай лотаццю і кураслепам, пералескі з маладою глянцаваю зелянінаю. На Палессе завітала вясна, усё яе хараство і цяпло было яшчэ наперадзе.

Рыта прыхінулася да сцяны, заплюшчыла вочы, паспрабавала задрамаць, але ўзбуджэнне, якое апанавала яе з самага ранку, не дазволіла забыцца сном. У гэтую паездку яна напрасілася сама. У раёне ёй трэба было праверыць водазабор і ачышчальныя збудаванні, якія хранічна эксплуатаваліся з перагрузкамі, таму сюды не любілі ездзіць Рыціны калегі з абласной санэпідстанцыі. Але Рыту сёння праца зусім не турбавала, яна ехала на спатканне з Паўлам. Год таму яны пазнаёміліся ў гэтым райцэнтры выпадкова і смешна.

Тады Рыта таксама прыязджала з чарговаю праверкаю і нечакана сустрэла на пероне сваю былую аднакласніцу Святлану, якая працавала тут на масласырзаводзе пасля інстытута, мела кааператыўную кватэру, халасцякавала. Света запрасіла Рыту ў госці. Спачатку яны сядзелі на кухні, пілі чай з пячэннем і піражкамі, пасля перайшлі ў пакой на канапу, гаварылі дацямна, пакуль Рыта нарэшце не ўспомніла, што на яе заказана гасцініца, дык трэба засяліцца, бо здымуць бронь. Сяброўка прапанавала госці застацца ў яе, але Рыта адмовілася, не любіла замінаць іншым і сама хацела быць вольнай.

Гарадок заціх, ахінуты цёплым вечарам, пахам бэзу, маладой лістоты. Да гасцініцы яны прайшлі пешкі. Дзверы ў двухмесны нумар, які прапанавалі Рыце, былі не замкнёныя, сяброўка ўвайшла, ціха пастукаўшы, за ёю ступіла Рыта. У маленькім пакойчыку цесна мясцілася ўбогая мэбля. На ложку нехта спаў, накрыўшыся з галавою, відаць, хаваўся ад камароў, на падушцы быў відзён толькі па-дзіцячы бялявы чубчык.

— Добры вечар!— павіталася Рыта.

— Ну і суседка ў цябе, спіць як забітая.

— Цішэй, не будзі.

— Ды яе можна з ложкам украсці, не пачуе.

Постаць на ложку незадаволена заварочалася, нешта замармытала, і з-пад коўдры высунуўся востры хлапечы твар.

— А я думаў, што сню вас, цудоўныя феі...

— Нішто сабе пасялілі,— сумелася Рыта,— я зараз пайду...

— Усё цудоўна! Памірымся! Заставайцеся, калі ласка, я хутка ад'язджаю,— папрасіў хлопец.— Вось толькі трэба апрануцца, адвярніцеся на хвілінку, я па-салдацку...

Хлопец аказаўся вельмі высокі, блакітнавокі, белабрысы. Ён уключыў святло, прыязна заўсміхаўся:

— Рады вас бачыць, мілыя паненкі, давайце падсалодзім нашу сустрэчу, частуйцеся цукеркамі. Мяне Паўлам завуць. А вас?

— Яна — Рыта, а [redacted] — Света,— адказала сяброўка.

— Цуд! Няма лепей таго цвету, чым наша Рыта, наша Света.

— Вы, можа, паэт?

— У душы.

— А на справе?— дапытвалася Света.

— Валацуга, а дакладней — журналіст.

Гаворка адразу заладзілася вясёлая і бойкая, праўда, Рыта адчувала сябе ніякавата, колькі разоў тузалася, каб пайсці і памяняць нумар, але яе не пусцілі. Усю тую ноч яны прагаварылі ўтраіх. У пяць раніцы ён пайшоў на цягнік, [redacted] Света дадому. Гэтак Рыта пазнаёмілася з Паўлам. Для яе гэта была вясёлая прыгода, пра якую яна, напэўна, хутка забылася б, каб не Павел. Ён пачаў часта званіць па тэлефоне то на працу, то дамоў. Паступова яна прывыкла да яго голасу, ён стаў блізкім і неабходным чалавекам. Ёй нават пачало здавацца, што яна кахае яго, калі гэта магчыма — кахаць адразу дваіх: мужа і Паўла. Што датычыцца мужа, дык нікога іншага для сямейнага жыцця яна не жадала. Быў ён вельмі сімпатычны і надзейны чалавек, але яна ніколі па ім не сумавала, ніколі не раўнавала яго, часам нават пазбягала ягонай пяшчоты, спасылаючыся на тое, што баліць галава. Цяпер, калі ўдавалася застацца адной, яна доўга ляжала з заплюшчанымі вачамі, згадвала Паўла, марыла пра сустрэчу.

Замуж яна выйшла выпадкова і нечакана для сябе. Неяк у суботу задумала прайсціся па крамах, якраз быў канец месяца, можна было натрапіць на дэфіцыт. Тады і сустрэла аднакурсніцу, якая вяла жаніха ў загс. З маладымі быў жаніхоў сябар Анатоль. Яны запрасілі Рыту пайсці разам, дзяўчына згадзілася.

Ішлі да загса, жартавалі, нявеста пасмейвалася з жаніха:

— Трэці раз вяду, першы раз ён пашпарт забыўся, другі — у загсе быў выхадны.

— Рытачка, мо і нам варта падаць заяву заадно? Усё роўна некалі жаніцца давядзецца,— прапанаваў Анатоль.

— Можна! Мо на талоны якую шмотку купім,— падтрымала жарт Рыта.

Гэтак яны і падалі заяву. Вяселле ім прызначылі праз тры месяцы. Рыта разумела, што жарт ёсць жарт, але аднойчы ў інстытуце яе запыніў фіктыўны жаніх і пачаў распытваць, як яна рыхтуецца да вяселля.

— Якое вяселле? Сесія на носе,— паспрабавала адгаварыцца дзяўчына.

У цябе сесія, а ў мяне размеркаванне. Я не хачу з табою разлучацца. Перадай сваім бацькам, што сёння зайду знаёміцца. Пара ім ведаць будучага зяця ў твар. Адрас твой мне вядомы. Да вечара, любая!

Рыта не ведала, што адказаць Анатолю, як разумець гэтыя словы, ці ён зноў жартуе? Яна вучылася толькі на другім курсе, замуж не спяшалася. Анатоля бачыла зрэдку ў інстытуце, знешне ён ёй падабаўся, ■ што ў яго на душы, адзін Бог ведае. Бацькоў яна не папярэдзіла, пасаромелася і не была ўпэўнена, што Анатоль наведаецца.

Ён прыйшоў. Адарыў Рыту і будучую цешчу кветкамі і цукеркамі, цесцю прынёс пляшку каньяку, зачараваў і скарыў усіх выхаванасцю, дасведчанасцю, мілай сур'ёзнасцю. Асабліва жаніх спадабаўся Рыцінай маме, якая актыўна пачала рыхтавацца да вяселля і адмятала ўсе даччыны сумненні. Урэшце ў няпоўных дзевятнаццаць Рыта

стала замужняю жанчынаю. Праз год пасля вяселля нарадзіўся сын, але яна не ведала ніякіх турбот з малым, бо ў хлопчыка былі бабулі і дзяды і нават адна прабабка, усе яны не маглі нацешыцца першым унукам. Хутка маладыя купілі сабе кватэру і машыну, канечне, дапамаглі бацькі, хаця і Анатоль не быў лайдаком, скрозь паспяваў: рос на службе, узначальваў гаражны кааператыў і яшчэ недзе нечым займаўся. Быў вельмі заняты, але заўсёды бадзёры і здаровы. Спаў як забіты. Надоечы Павел пазваніў па тэлефоне ў дзве гадзіны ночы, дык муж і вухам не павёў.

Не любіў Анатоль заседжвацца дома, трымаў дачу, сам вырошчваў гародніну, сам кансерваваў, у час адпачынку стараўся вывезці сям'ю на мора ці за мяжу. Муж быў чалавек справы і слова, часам, праўда, нуднаваты, ужываў адны і тыя прымаўкі ў гаворцы, дарыў з году ў год адны і тыя падарункі. Іх жыццё нагадвала мелодыю "Балеро" Равеля, дзе матыў і рытм паўтараюцца, але ў гэтым ёсць свая прывабнасць.

А вось Павел... Усе Рыціны пачуцці да яго можна было б параўнаць з музыкаю Моцарта, непасрэднай і натхнёнай, узнёслай і таемнай. Павел быў непрадказальны і гарэзлівы, працаваў на рэспубліканскім радыё ў спартыўнай рэдакцыі, таму часта ездзіў праз Рыцін пагранічны горад за мяжу. Сустракаліся яны звычайна на вакзале, сядзелі гадзінку ў рэстаране, пакуль цягнік перастаўлялі на колы з вузкімі восямі. Ім заўсёды не хапала часу, каб нагаварыцца. Рыта нічога не хацела мяняць у сваім жыцці, але ад Паўла адмовіцца не магла. Яна прагнула зразумець, выведаць усю ягоную душу.

Першае, што зрабіла Рыта, калі прыехала ў райцэнтр,— уладкавалася ў гасцініцу. Ёй нават пашанцавала атрымаць асобны нумар, што сёння было асабліва важна. Павел мог прыехаць толькі пад вечар. Каб не марнаваць часу, яна пайшла ў раённую санэпідстанцыю, дзе яе сустрэў маладжавы, з залізанымі валасамі галоўны ўрач, абачлівы і добры чалавек, які прыкіпеў да сваёй працы. Хоць сам ён

нічога не мог змяніць у раёне ў лепшы бок, але добрасумленна складаў акты на парушэнні. Гэтыя самыя акты і гартала Рыта да канца рабочага дня, не вельмі ўчытвалася ў тэкст, бо думала пра Паўла: што яму скажа, як сустрэне, у што апранецца... А яна хацела зведаць усё, хацела належаць яму, хоць даймалі сумненні і сумленне, але сваім памкненням яна знаходзіла мноства апраўданняў. Можа, Павел — яе адзінае каханне, а больш нічога ў жыцці не будзе. Муж наўрад ці кахае яе, мо ён зусім не здольны на такое пачуццё. Яна была ўпэўнена, што кахаць па-сапраўднаму выпадае толькі асобным людзям, як талент. Астатнія жывуць, бо трэба жыць. Яна аднойчы папыталася ў мужа:

— Ці не па разліку ты мяне замуж узяў, баяўся, што ў глухамань размяркуюць?

— Мала ты мяне ведаеш, даражэнькая!— адказаў муж.— Я выкарыстаў усе магчымасці: атрымалася па каханню і па разліку. Міма маіх рук нічога добрага не праплыве, сама ведаеш...

— У такім разе мо нам варта яшчэ адно дзіця нарадзіць?

— Не варта, узнікнуць фінансавыя цяжкасці. І навошта табе гэтыя клопаты? Хочаш, я падару табе сабаку або ката?

Рыта не хацела заводзіць ні катоў, ні сабак, яна давяралася мужавай спрактыкаванасці і мудрасці.

Пасля працы жанчына зайшла ў буфет і купіла тагосяго, каб пачаставаць Паўла, напэўна, ён прыедзе галодны. Сама папіла чаю. Есці не магла з-за хвалявання. Каб супакоіцца, прыняла душ, прычасалася, апранулася. Лёгкая белая блузачка і цёмна-сіняя спадніца вельмі пасавалі ёй, падкрэслівалі яе стройную, хоць і невысокую постаць. Агледзела сябе ў люстэрка і засталася задаволеная.

Калі ў дзверы пастукалі, яна пругка паднялася з крэсла і пайшла да дзвярэй, але дзверы ўжо адчыніліся самі, і

яна апынулася ў доўгачаканых абдымках, паднялася на дыбачкі, каб пацалаваць Паўла. Першыя словы радасці і замілавання супакоілі яе, яна пачала раскладваць на стале ежу, прыгаворваючы:

— Зараз мы будзем частаваць дарагога госця.

Павел узяў яе за рукі, пацалаваў.

— Не трэба чаю. У нас вельмі мала часу, толькі дзве гадзіны да наступнай электрычкі. Учора я забраў з раддома жонку і дачку, ім я таксама патрэбны.

Рыце здалося, што сэрца спынілася на момант, а пасля выштурхнула гарачую хвалю, шчокі яе запалалі ад сораму і прыкрасці:

— Ты жанаты? Чаму я пра гэта нічога не ведаю?— стрымана запытала яна.

— Я думаў, што цябе цікаўлю я, а не мая жонка.

— Навошта ты ехаў, калі такі заняты?

— Я паабяцаў табе, дык як жа мог не прыехаць?

— А мне не трэба! Чуеш? Збірайся і едзь да іх! Мне нічога не трэба!

— Што ты, Рытачка? Хіба я цябе пакрыўдзіў? Ты ж таксама замужам,— кінуўся да яе Павел.

Яна вырвалася з ягоных абдымкаў, цела білі дрыжыкі, яна з цяжкасцю валодала сабою.

— Ідзі! Ідзі! Я ненавіджу цябе!— закрычала яна так пранізліва, што і сама не пазнала свайго голасу.

Павел, асцярожна ступаючы, пайшоў да дзвярэй. Перш чым выйсці, яшчэ раз азірнуўся, убачыў напружаны і жорсткі Рыцін твар, пайшоў, прычыніўшы дзверы.

Нібы скамянелая, яна стаяла ля акна, чакала, калі ён з'явіцца на вуліцы,убачыла і ціха паклікала: "Паўлік! Паўлік! Азірніся!"— нібыта ён мог пачуць яе.

Павел не азірнуўся, пайшоў проста на прыпынак, першы ж аўтобус праглынуў яго. Больш не было чаго чакаць, на што спадзявацца. Яна знясілена села на ложак, скамечыла на каленях спадніцу, слёзы крыўды і безвыходнасці хлынулі з вачэй. Яна не ведала: страціла ці знайшла сваё

каханне, цяпер ёю кіравала дзікая рэўнасць, якую яна адчувала ўпершыню.

---

## *Хто нас вядзе?*

Сёння Чазару прыснілася рака яго юнацтва, светлая і чыстая. Такою ўбачыў яе ўпершыню, калі вясковым дзецюком прыехаў у сталіцу. Горад ужо акрыяў ад вайны, адбудаваўся, але скрозь былі незнаёмыя людзі, чужыя вуліцы і будынкі, толькі рака вітала яго ласкавым плёскатам, галубіла пагляд, суцяшала.

Чазар жыў, старыўся, мяняўся. Здавалася, што для вечнае ракі адно чалавечае жыццё? Ды і яна прыкметна абмялела і забрудзілася. Гадоў пяць таму прыйшоў ён апошні раз да яе, пасядзеў з вудаю, паўзіраўся ў зялёную каламуць вады, паўдыхаў гнілы пах і зразумеў, што дзівосная рака яго юнацтва ператварылася ў атручаны канал, які п'яна матляецца між берагоў. З таго часу Чазар пачаў пазбягаць сустрэч з ракою, як пазбягаюць сустрэч з жанчынаю, якую разлюбілі.

Сёння рака прыснілася яму ва ўсёй сваёй прыгажосці. Вабіла і чаравала, абдымала і песціла. Такі сон абяцаў добрую перамену, хоць Чазар даўно пераканаўся, што чакаць яму ад жыцця ўжо няма чаго. Адзін ён застаўся, ніхто не падорыць на шчасце з новаю вясною марцішораў, усё лепшае адышло беззваротна.

Прачнуўся, і так закарцела сустрэцца з ракою, аднак непакоіла думка, што не здолее дайсці. Бадай, яшчэ ніколі не адчуваў ён сябе гэтак блага, як сёння. Яго хістала і кідала ў бакі, у роце высахла, нутро пякло агнём, нібы чэрці раздзьмулі там горан. Сустрэчныя абачліва сяступа-

лі яму дарогу, думаючы, што ён п'яны. Чазар заглядваў ім у вочы і пакутліва думаў, што ўсіх іх, маладых і здаровых, чакае хвароба і смерць. Што сам ён не што іншае, як іхняе адлюстраванне праз колькі гадоў.

Пакуль была жывая жонка, Чазар толькі дзеля яе падтрымліваў нейкія стасункі са светам. Калі яна памерла, Чазар пакінуў працу на заводзе і ўладкаваўся дворнікам. Цяпер ён зажыў гэтак, як яму хацелася. Найчасцей апоўдні напіваўся і рэшту дня спаў. Уночы выходзіў падмятаць свой участак, шоргаў мятлою з боку ў бок, зганяў смецце да краю тратуара, пасля зграбаў шуфляю, сноўдаўся ў цемры, як сляпы. З таго часу, як прэзідэнт абвясціў лозунг: “Каб заўтра разбагацець, сёння трэба жыць эканомна”, а дзесятай гадзіне вечара адключылася электраэнергія, свяціліся толькі ўрадавыя ўстановы і гатэлі для замежных турыстаў.

Чазар любіў працаваць уночы. Ніхто табе не замінае, паветра чыстае, ветрык абдымае разгарачаны твар. Калі маеш здароўе, не праца, а насалода. Калі ж па спіне цурчыць халодны пот, рукі калоцяцца, а дрыготкае сэрца рвецца з грудзей, тады пакута.

У маладосці Чазар лічыў, што яму вельмі пашанцавала нарадзіцца ў гэтай краіне, дзе, як яму здавалася, існуе самы справядлівы лад, якой кіруе самы мудры прэзідэнт. Чазар маладым сэрцам верыў прэзідэнту, захапляўся яго-наю рашучасцю, нават вонкава стараўся быць падобным да яго: зачэсваў валасы набок і насіў гарнітур хоць і танны, але ў рэдкую вузкую палоску, як у першай дзяржаўнай асобы. Будучая Чазарава жонка звярнула на яго ўвагу толькі праз гэтае падабенства. І замуж за яго пайшла ў надзеі, што гэта добры знак. Усё падгаворвала Чазара ўступіць у партыю, каб выбіцца хоць у дробненькае начальства і займець прывілеі. Не магла зразумець, што яго-ныя рукі былі створаны для працы, што ён загінуў бы ад нуды над чыноўніцкімі паперкамі.

Няспраўджаныя жончыны надзеі ператварыліся ў незадаволенасць і злосць, прывабная ўсмешлівая дзяўчына ператварылася ў панурую і языкатую кабету. А пасля яшчэ цяжкае гора звалілася знянацку: пайшоў служыць у войска сын і загінуў там на вучэннях. З усяго гэтага жонка пачала хварэць. Спатрэбілася аперацыя на жоўцевым пухіры. Жанчына панічна баялася хірургаў, баялася бальніц, бедных, запушчаных, неабсталяваных. Трывала, на аперацыю не згаджалася. У адну з начэй здарыўся чарговы цяжкі прыступ. Пакуль “хуткая дапамога” вазіла яе з бальніцы ў бальніцу — у горадзе хранічна не хапала бальнічных месцаў,— жанчына памерла.

Пасля яе смерці Чазар узважыў пражытае і перажытае і зразумеў, што ўсюды мана. Маніць прэзідэнт, калі абяцае лепшае жыццё, маняць газеты, маніць тэлебачанне. Ён ірваў на шматкі газеты, калі сустракаў партрэт прэзідэнта, аднойчы на падпітку нават тэлевізар разбіў і не шкадаваў, бо тэлебачанне працавала толькі дзве гадзіны ў суткі, і ўсе перадачы прысвячаліся прэзідэнту і яго жонцы.

Разам з усімі смяротнымі сваёй краіны Чазар хварэў і мёрз, бо кватэры зімою амаль не ацяплялі, разам з усімі галадаў, бо ў крамах у дастатку было толькі віно, разам з усімі баяўся даносаў і паліцыі. Горад прапах сырасцю і цвіллю, твары ў людзей парабіліся жоўтыя, занураныя ад вечных турбот і галадухі. Дык гэта ў сталіцы, а ў правінцыі было яшчэ горш. Дзеці і дарослыя жабравалі, кралі, займаліся спекуляцыяй. Кожны ратаваўся як мог. Шмат хто ад бясспраўнага і жорсткага жыцця ачмураў сябе віном і наркотыкамі. Чазар таксама піў.

Вось і ўчора ён перабраў, трэба было б пахмяліцца, але ў кішэні засталася нейкая драбяза, якой, напэўна, не хопіць і на пачак цыгарэт. Галоўнае — дайсці да ракі, але цяпер зрабіць гэта не так проста. У горадзе будавалася метро, не столькі было таго будаўніцтва, колькі перакапалі, ператрушчылі ўвесь горад. Каб трапіць да ракі, трэба

было даць кругаля кіламетры са тры, а Чазар адчуваў сябе гэтак блага, што здавалася, вось-вось зваліцца. На паўдарозе ён прыпыніўся каля невялічкае крамы, на якой вісела шыльда "Далікатэс". Чазар абапёрся аб сцяну плячом, зазірнуў праз вітрыну ўсярэдзіну. На паліцах убачыў пляшкі з сідрам і апельсінавым лікёрам, ніякіх іншых далікатэсаў не было. Кульнуў бы зараз кілішак рускай гарэлкі, мо палепшала б, ды нават пітво талковае перавялося. Ногі млелі, і ён асцярожна прысеў пад сцяною, абапёрся рукамі на слабыя калені. Але і гэта не прынесла палёгкі, хацелася легчы, выцягнуць ногі, скінуць з сябе цяжар.

Дзень быў хоць пахмурны, ды сухі і цёплы, такія дні часам дорыць восень на памяць пра сябе. Чазар лёг, адчуў халадок асфальту, прыціх боль у нагах, у вачах пасвятлела. Над ім схілілася незнаёмая жанчына і папыталася, ці не трэба дапамога. Спыніліся яшчэ колькі цікаўных. Чазар паспрабаваў усміхнуцца людзям, сказаць нешта добрае, але вусны не слухаліся яго. Ён ніякавата адвёў вочы ад спагадлівых людзей, сам яшчэ не разумеючы, што з ім адбываецца. Пагляд яго спыніўся на царкве, што стаяла наўскасяк на тым баку вуліцы. Яна была чорная ад сажы, з вялізнаю трэшчынаю на сцяне, абсела над тунелем метро.

Хударлявая жанчына з хваравіта бледным тварам узяла Чазара за руку і пачала падымаць. Была яна яшчэ маладая, гадоў сарака, прыгожая міласэрнасцю і патоляю.

"Такая жанчына магла б уваскрэсіць душу, але цела майго яна не падніме",— роспачна думаў Чазар. Ён цяпер адчуваў сябе не чалавекам, а сухім дрэвам, вывернутым з коранем, высушаным сонцам і ветрам.

З "Далікатэса" выйшла прадаўшчыца ў блакітным халаце і белым каўпаку, незадаволена агледзела натоўп:

— Што здарылася?

— Чалавеку дрэнна,— адказала тая, што сілілася падняць Чазара.

— Меней віна трэба піць...

— Не, ён цвярозы, трэба доктара выклікаць,— запярэчыла заступніца.

— Зараз выклічу каго-небудзь,— адказала прадаўшчыца і знікла ў краме.

Людзі пастаялі яшчэ трохі і разышліся, толькі з-за вугла “Далікатэса” сачылі за Чазарам галодныя вочы цыганяці, хлопчык чакаў, калі Чазар застанецца адзін. Але дзень быў святочны, людзі хадзілі туды і сюды.

Чазар глядзеў на людзей і шкадаваў іх. Яны яшчэ нічога пра сябе не ведаюць, а шмат каму з іх давядзецца дажыць да таго часу, калі душа памрэ, [redacted] цела будзе жыць і пакутаваць ад непрыкаянасці і тугі. Не, пекла не на тым свеце, а на зямлі. І рай на зямлі: пад матчынаю шаўкавіцаю з салодкімі ягадамі. А калі ты яшчэ не дарос, каб дацягнуцца да галін, дык назбірай у траве даспелых ягад, якіх прадбачліва наабтрасаў за ноч табе вецер. Людзі, якія вучылі Чазара першаму слову і першаму кроку, хадзілі ў белым адзенні і босыя, як багі. Гэта былі чыстыя і светлыя людзі, хоць і рабілі чорную сялянскую працу. Многія з іх загінулі ў агні і канцлагерах сусветнай вайны. Чазар прыжмурыў вочы і ўбачыў твары сваіх бацькоў і землякоў, усе яны памерлі, але заставаліся з ім у ягонай памяці.

Раптам Чазар адчуў над сабою вільготнае дыханне. Той, хто дыхаў побач, быў невялічкага росту, з мокрымі вусамі, так уявілася Чазару. І калі ён расплюшчыў вочы, дык убачыў пысу старога сабакі, худога, аблезлага, хворага. Сабака і чалавек змералі адзін аднаго доўгім позіркам.

— Пайшоў вон!— кінуўся ад сцяны хлопчык і замахнуўся на сабаку, сабака спалохана адскочыў, пабег праз вуліцу.

— Гэй, п’янчуга, я паліцыю выклікала! Выбірайся адсюль, пакуль не позна!— гукнула з дзвярэй прадаўшчыца.

— Цётачка, я дапамагу яму падняцца,— кінулася цыганя да Чазара.

Лёгкія дзіцячыя рукі абхапілі старога. Спрытныя, нібы яшчаркі, пальчыкі слізганулі ў Чазараву кішэню, выграблі

дробязь і пакінулі ў спакоі напаўжывое цела. А Чазар застаўся ляжаць з заплюшчанымі вачамі і ўжо не адчуваў холаду, быццам ягонае нямоглае цела здолела сагрэць тратуар.

— Ён не п'яны, ён хворы. Выклікайце доктара,— пачуў Чазар над сабою мужчынскі голас, прыўзняў павекі, убачыў двух палісменаў, узброеных аўтаматамі.

— Дык у вас жа таксама доктар ёсць,— сказала прадаўшчыца.

— У нашага доктара іншая спецыялізацыя.

Зноў Чазар застаўся адзін, на яго глядзела царква сваімі чорнымі вокнамі, сама амаль чорная ад бруду і сажы, якія ўвабрала ў сябе, каб людзям дыхалася лягчэй. Ад царквы проста да Чазара ішла жанчына ў доўгім цёмным адзенні. Ён здалёк адчуў сілу яе ўладных і засяроджаных вачэй, якія супакойвалі, абнадзейвалі, падпарадкоўвалі. У яе былі такія лёгкія крокі, нібыта яна плыла над зямлёю. Жанчына паклала на ягоны лоб халодную руку, і галаве зрабілася лёгка і пуста. Яе пальцы апусцілі і прыціснулі Чазаравы павекі, і ён убачыў чорны калідор, у канцы якога свяціцца і адплывае агеньчык. Чазар памкнуўся за ім, ляцеў, пакуль сам не растварыўся і не прапаў.

Доктар бездапаможна развёў рукамі.

— Позна, няма чалавека,— прыўзняў Чазаравы павекі, паглядзеў у нерухомыя зрэнкі.

— Усё роўна забірайце яго, чуеце!— залямантавала прадаўшчыца.— Што я з ім буду рабіць? Не павалаку ж на сабе на могілкі!

— Выклікайце паліцыю, я сваю справу тут зрабіў, мяне чакаюць жывыя.

Расхваляваная прадаўшчыца вынесла вялікі ліст паперы і накрыла нябожчыка. Час ішоў, а паліцыя не ехала. Каля "Далікатэса" зноў сабраліся людзі, абураліся, праклiналі паліцыю. Прадаўшчыца зноў пачала тэлефанаваць і

прасіць, каб хутчэй забралі мерцвяка. Ёй адказалі, што трэба пачакаць яшчэ трохі, бо паліцыя з-за беднасці не мае спецыяльнага транспарту вазіць трупы. Няхай, маўляў, паляжыць, ён жа есці не просіць.

Машына з'явілася гадзіны праз дзве. Два палісмены прыехалі легкавушкаю. Яны сагнулі цела Чазара і запхнулі на задняе сядзенне. Сагнёны нябожчык нагадваў пытальнік, нібыта ўсё яшчэ чакаў адказу на нейкае пытанне, што не здолеў вырашыць пры жыцці. Машына ад'ехала. На асфальце застаўся вялікі ліст паперы, нібы шэрае крыло. Вецер падхапіў яго, скруціў і пагнаў па вуліцы.

---

## *Адамаўна*

Далася ім у знакі гэтая рэйка, бітую гадзіну валаводзіліся, здаецца, усе спосабы перабралі, а яна не клалася, хоць ты плач. Брыгадзір і трое рабочых у брудных жоўтых безрукаўках, усцягнутых на ватоўкі, спыніліся перадыхнуць ды яшчэ раз памеркаваць, як тут быць.

Малады і гожы брыгадзір Кудласевіч, хоць і меў тры гады будаўнічага стажу, што адбыў на Поўначы пасля тэхнікума, на чыгунцы быў навічок. Ён хадзіў уздоўж рэйкі і стараўся знайсці выйсце. А час няўмольна ляцеў. Да падыходу хуткага цягніка заставалася трохі болей за дзве гадзіны. Не хапала яшчэ парушыць графік руху праз такую дробязь, як замена рэйкі. Кудласевіч быў у роспачы, напэўна, каб не стаялі побач людзі, заплакаў бы, як у маленстве, калі не атрымлівалася якая-небудзь задача. Тады на дапамогу заўсёды прыходзіла маці. Яна часам знаходзіла правільнае рашэнне, ідучы зваротным шляхам, ад адказу.

На акалодку было дзве брыгады. І Кудласевічу нічога не заставалася, як паклікаць на дапамогу майстра ці брыгадзіра другой брыгады. А рабіць гэта вельмі не хацелася: каму ахвота выглядаць бездапаможным і няўмелым. Таемна ён яшчэ спадзяваўся, што, можа, рабочыя самі дадумаюцца, як пакласці рэйку, і адначасова яго грызла сумненне: раптам яны знарок не хочуць нічога рабіць, каб паздзекавацца з ягонай нявопытнасці.

Чырванатвары, як наліты, Сымон курыў і каравым пальцам стрэсваў попел, адварочваўся ад пранізлівага асенняга ветру. Худы і малы, як падлетак, Васіль, уцягнуўшы галаву ў плечы, грэў настылыя рукі ў кішэнях, не вымаючы цыгарэты з рота. Яны былі аднагодкі, абодвум стукнула па пяцьдзесят, але Сымон выглядаў маладым і здаровым, а Васіль быў зморшчаны, як яблык, што на яблыні перазімаваў. Трэцяю сярод рабочых была жанчына, таксама сталага веку, хударлявая, трохі прыгорбленая з-за звычкі хадзіць, апусціўшы галаву. Яна зводдаль назірала за мужчынамі, шкадавала Кудласевіча тою мацярынскаю жаласцю, якую адчувала хіба да роднага сына, што ўжо і ў войску адслужыў, але быў гэткі ж няўмелы і неспрактыкаваны. Сядзець бы Кудласевічу ў канторы пры паперах, вунь якія рукі ў яго белыя. Як ні круці, а кожнаму сваё месца прызначана. Шчаслівы той, хто яго знайшоў. А другі дык усё жыццё пракалоціцца, ні радасці ад тае працы, ні заробку. Памагчы брыгадзіру парадай яна не магла, сама тут была новы чалавек, а да гэтага амаль чвэрць веку дзяжурыла на пераездзе, сустракала і праводзіла цягнікі. Пераезд быў тлумны, працы хапала. А пасля ўвядзення эксперыменту, сэнс якога зводзіўся да таго, каб, скараціўшы колькасць рабочых, павялічыць заробак, перавялі яе рабочай на пуці, далі магчымасць дацягнуць да пенсіі. Дык і на гэтым дзякуй.

Праўда, хутка той эксперымент адгукнуўся аварыяй на былым яе пераездзе, не спрацавала аўтаматыка, аўтобус сутыкнуўся з таварняком, загінулі людзі, давялося

начальству зноў ставіць на пераезд дзяжурных. Прапанавалі і ёй, Адамаўне, вярнуцца на ранейшую працу, але яна адмовілася, бо на пуцях болей плацяць, як-небудзь дацягне тры гадочкі, затое пенсія будзе добрая. Не проста было ёй прыжыцца ў мужчынскай кампаніі, набрыдлі іхнія мацюкі і акуркі, асабліва не любіла, калі плявалі на падлогу ў бытоўцы, дзе яна адна падмятала і мыла.

Увогуле да мужчын яна ставілася абыякава. Не пашанцавала ёй з мужам. Яшчэ як заляцаўся, нібы адчувала бяду, пазбягала яго, але ж прыліп, што не адкараскацца. Тады яна жыла ў бараку, адведзеным пад інтэрнат вясковай моладзі, што шукала на чыгунцы хоць якога заробку. Да бацькоў ездзіла на выпадковых машынах. Кавалер і тут пачаў набівацца ў спадарожнікі, казаў, што баіцца адну пускаць, ды і па дарозе ім было, яго бацькі жылі ў суседняй вёсцы. Нарэшце ён наважыўся і прыслаў сватоў.

"Ідзі, донька,— параіла маці.— Хлопец ён, здаецца, добры, бач, як на цябе хараша пазірае..."

Вось і пайшла. Пакуль жыла з ім у інтэрнаце, неяк жыццё яшчэ ладзілася. Пасля нараджэння сына вымушана была паехаць да бацькоў у вёску, а муж нібы скруціўся, запіў так, што не спыніць, не ўгаварыць. Не стрывала Адамаўна мужавых п'янак ды гулянак, развялася. Ён хутка ажаніўся другі раз, нарадзіла яму тая жонка дзіцякалечку, а ён крыўдаваў, што Адамаўна пракляла.

Праклясці не пракляла, але за сваю змарнаваную маладосць дабра яму не зычыла. Ды маці раней часу ў магілу сышла праз зяця. Адчувала сваю віну перад дачкою, што параіла пайсці за такога нікчэмнага чалавека, каялася, пакутавала. Памерла яна ранічкаю, калі варыла снядана, асела на падлогу каля печы і ні слоўка сказаць не паспела.

З усіх гэтых нягод злегла Адамаўна ў бальніцу, пакінуўшы на старэйшую сястру маленькага сына, думала ўжо, што давядзецца пайсці следам за маткаю, гэтак блага было

з сэрцам. Ажно абышлося, выкараскалася неяк з хваробы і зноў уцягнулася ў працу на чыгунцы і дома. Ды і цяпер гаспадарку трымае. Праўда, цяпер дапамагае сын, які працуе механізатарам у калгасе: прыедзе на абед, дык і скаціну накорміць, і зробіць усё, што трэба. Ат, было б здароўе, жыць можна. Вядома, нясоладка адной век векаваць, але добры чалавек не сустрэўся, а за абы-каго ісці не хацелася. Так-сяк дажыве век, а калі зрэдзь, як тое кошцы, заманецца чаго, дык ператрывае.

Мужчыны дакурылі цыгаркі, і Кудласевіч няўпэўнена запытаўся:

— Дык што будзем рабіць?

— Наша справа цялячая, што загадаеш, тое і зробім,— абыякава адказаў Васіль.

Сымон толькі задаволена крэкнуў і пацёр далоні: маўляў, так, брыгадзір, загадвай, дык мы імгненна выканаем. Кудласевіч зразумеў, што дарма спадзяваўся на рабочых і на сваю вынаходлівасць. Ён павярнуўся да Адамаўны, стрымана папрасіў:

— Схадзіце, калі ласка, да дыспетчара, няхай прышлюць Стасюка ці Лобача.

— Добра, добра, я хуценька,— згодна заківала жанчына, бо і сама ўжо знервавалася ад няпэўнасці і бездапаможнасці, гэта ж не жарт — затрымка на чыгунцы.

Адамаўна заспяшалася ў бок дыспетчарскага паста. Была на яе дарозе мясціна, якую яна заўсёды абыходзіла. Месяцы тры таму бяздомны п'яніца трапіў там пад цягнік. Але цяпер жанчына спяшалася, таму старалася не думаць пра нябожчыка, бо трэба было дапамагчы жывым. Адвярнулася толькі, каб не глядзець на рэйкі, дзе загінуў чалавек, і раптам у кювеце згледзела рэшту белых высахлых кішак. Не хацела, а ўбачыла, нават вусцішна зрабілася. Казалі людзі, што небараку разрэзала напапалам, а як міліцыя забірала нябожчыка, дык тулава склалі, а вантробы чапаць пагідавалі, пасля сабакі расцягалі рэшту чалавека па ваколіцы.

“Эх, людзі, людзі! На што ж мы здатныя, калі нават нябожчыка пахаваць не можам як належыць? Грэх нам,— з горыччу падумала яна.— Па дарозе назад трэба будзе прыкапаць гэта...”

Міжвольна думкі яе зноў перакінуліся на Кудласевіча. Як гэта далікатней сказаць дыспетчару пра брыгадзіравы цяжкасці і каго папрасіць на дапамогу? Брыгадзіра Стасюка ці майстра Лобача? Ні бачыць Лобача лішні раз, ні гаварыць з ім не хацелася, неўзлюбіла яго пасля адной сутычкі. Аднойчы на свята была Адамаўна на пуцях адна. Напярэдадні ўся тэрміновая работа была зроблена, яна дзяжурыла на ўсялякі выпадак. І выпадак надарыўся. Заўважыла жанчына трэснутую накладку, якую трэба было тэрмінова замяніць. Брацца за такую справу адна пабаялася. Вырашыла пазваніць па тэлефоне майстру Лобачу, ён жыў у інтэрнаце, бо нядаўна развёўся з жонкаю, яму сюды і пешкі падбегчы блізенька, абы толькі дома застаць.

Лобач, пачуўшы яе голас, гукнуў у трубку:

— Не прыйду, не магу я... Пашукай каго іншага.

— Раптам не паспею?

— Ай, паспееш! Не магу я, дзяўчонка ў мяне зараз харошая... разумееш?

Адамаўна ўявіла майстраву няўклюдную постаць з кругленькім чэраўцам, што ладна вытыркалася з незашпіленага пінжака, яго круглы твар з носікам-цыбулінкаю і злосна падумала: “Цьфу! Трасца табе ў бок! Тут цягнік можа пад адхон пайсці, а ён з дзяўчонкаю бавіцца! Я, старая, на цябе не паглядзела б...”

Эх, каб не баялася страціць працу, дык ужо выказала б тады майстру ўсё, што накіпела, але ж трэба неяк датрываць гэтыя тры гады, бо дзе такі заробак знойдзеш, а яшчэ і санаторную пуцёўку абяцалі... Тады яе найбольш пакрыўдзіла і ўразіла тое, што на другі дзень Лобач нават не пацікавіўся, як жа яна ўправілася з тою трэснутаю накладкаю.

Цяпер Адамаўна вырашыла, што лепш паклікаць на дапамогу Кудласевічу брыгадзіра Стасюка, спакойнага і разважлівага чалавека, які ўсё сваё жыццё працуе на акалодку. Стасюк згадзіўся пад'ехаць.

Па дарозе назад Адамаўна нейкай жалязякай выкапала ямку, зграбла туды белыя плёнкі кішак, засыпала, прытаптала жоўты жвір. "Ляжы, чалавеча, вось да цябе твая рэшта вярнулася. Як табе былося на тым свеце? Нагарараўся, напэўна..."— сказала яна сама сабе і патупала далей, думаючы пра свайго сына, які таксама любіць пры нагодзе ў чарку зазірнуць. Як ні выхоўвала, усё роўна ў бацьку ўдаўся. Дваццаць пяць гадоў яе Валодзьку, яшчэ халасты. А каго замуж браць? Усіх вясковых дзяўчат горад высмактаў. Гарадскія ў вёску замуж не ідуць. Было нядаўна вяселле ў суседа. Курсант-вайсковец, суседаў сын, прывёз нявесту з Масквы. Адамаўна пусціла моладзь на начлег, паслала ўсім на падлозе. Бачыла, як адна даўганосенькая гараджаначка, суседава пляменніца, шчыльненька прыгарнулася ды прылашчылася да Валодзькі. Ён і на спатканне ў горад некалькі разоў ездзіў, ды сышло тое каханне на нішто. Адамаўне хочацца, каб усё было як у людзей: нявесткаю перад суседзямі пахваліцца, унукаў пяньчыць, сыну памагчы, колькі сілы хопіць. У самой жыццё не склалася, дык хоць бы хлопцу пашчасціла...

Стасюк не прымусіў доўга чакаць, прытарахцеў на матацыкле, павітаўся з усімі за руку. Кудласевіч у двух словах растлумачыў сітуацыю.

— Толькі і ўсяе бяды? А я думаў, тут невядома што,— здзівіўся Стасюк.— Ды выгнуць трэба рэйку, ляжа як міленькая! Брыгадзір — навічок, а вы ж, хлопцы, як гаворыцца, не першы раз замужам, няўжо не ведалі пра такі спосаб укладкі? Думаць трэба...

— Нам за думкі не плоцяць,— агрызнуўся Васіль.

— Мы ў акадэміях не вучыліся,— крыва ўсміхнуўся Сымон.

— Як не маеш сумлення, дык ніякая акадэмія не паможа,— адказаў Стасюк.

"Эх, людзі, людзі! Колькі ў вас злосці! Чаго з хлопца здзекавацца? Што малады? Дык старым яшчэ набудзецца... Гэта ж ведаць і не падказаць! Грэх вам..."— горка падумала Адамаўна і ўвішна падхапіла свой лом, каб далучыцца да агульнай працы.

---

## Абраннік

Да адыходу аўтобуса заставалася колькі хвілін. Муж прысеў побач з Валяю ў крэсла і ціха загаварыў. Яна наперад ведала ўсё, што пачуе ад яго на развітанне, таму слухала абыякава і згодна ківала галавою. Гэты яе спакой толькі падліваў масла ў агонь.

— Прычапурылася, намарафецілася! Ведаю, чаго табе спатрэбілася сярод гарачага лета ў санаторый ехаць. Абы дома не сядзець. Лепш на дачы месяц пазагарала б, дык вылечыла б усе хваробы,— змеем шыпеў на вуха муж.

— Ну-ну, адчыні санаторый на сваёй дачы без мяне...

— На танцулькі захацелася, да мужычкоў свежанькіх. Волі захацелася...

— Захацелася, захацелася,— згодна кіўнула галавою Валя, а сама падумала, што ён нават не ўяўляе, як яна ўзрадавалася, калі раптам прапанавалі ёй пуцёўку ў той горад, дзе жыў чалавек, якога яна кахала з юнацтва. Нібыта лёс даў ёй апошнюю магчымасць, каб яшчэ раз, мо апошні ў жыцці, сустрэцца з Віктарам, а можа... Не, яна баялася марыць пра нейкія перамены ў сваім жыцці, бо не ведала, як ён паставіцца да яе, хоць Віктар быў тым адзіным, каго ёй хацелася бачыць побач. Ён, напэўна, дагэтуль не здагадваецца, што яна кахае яго шмат-шмат гадоў з самае першае сустрэчы, з першага позірку. Адно пало-

хала: раптам ён змяніўся, стаў не горшы, не лепшы, а іншы, непазнавальны...

Дыспетчарка абвясціла адпраўленне.

— Ну, я пайшоў,— хуценька падскочыў муж, нібы яму прыпекла знізу.

— Ідзі,— адчужана сказала яна і з горыччу падумала: "Ні развітацца, ні сустрэцца не ўмее. А мо гэта я сама вінаватая, не тую танальнасць задаю ў адносінах? Ці гэтак трэба жыць? Гэта ж мае гады адлятаюць у незваротнасць, абцяжараныя расчараваннем і смуткам. Так недасканала пабудаваны свет, што жывуць два чалавекі побач, а душы іхнія хіляцца ў розныя бакі да свайго ўяўнага сонца, сваёй патаемнай мары..."

Побач з Валяю хлюпнулася на сядзенне маладзіца ці дзяўчына, па ўсім відаць, напорыстая і энергічная.

— Хто вас так хораша праводзіў?— папыталася яна ў Валі з добраю ўсмешкаю.

— Муж,— адказала Валя і горка падумала: "Аказваецца, гэткае развітанне звонку прыстойна выглядае. А мо ўсе так жывуць? Ні разумення, ні ўзаемнасці паміж мужам і жонкаю, а звонку — сям'я".

— Напэўна, ён вас вельмі кахае.

— Не ведаю.

— А вы?

— А што я? Жывём, дый годзе...

Што магла сказаць Валя выпадковай спадарожніцы? Нельга ж на чужога чалавека перакладваць свае нягоды.

— А вось мой, як пабачыў, што хварэю, дык пакінуў, знайшоў сабе здаровую. Ды я не прапала, скрозь сама ўпраўляюся. Сына гадую, зрабіла рамонт у кватэры, мэблю новую купіла. Усё ў мяне ёсць, адно здароўя няма. На сэрца хварэю. Рукі, ногі напухнуць, а я работу цягну. Прыязджала да вас у санаторый, падлячылася...

— А я да вас у санаторый еду,— засмяялася Валя.

— Праўда? Тады лічыце, што вам пашанцавала. Мяне будзе сустракаць муж сяброўкі на машыне, мы вас падвязём да самага санаторыя.

Імчаўся па бетонцы лёгкі “Ікарус” праз спякотны зялёны тунель са старых дрэў, якімі была абсаджана дарога. Пацíху вясёлаю ручаінкаю струменілася гаворка. А калі стамілася ад мітульгі за вокнамі, ад гарачыні і задрамала суседка, адплыла Валя ўспамінамі ў далёкае юнацтва.

Пасля дзесяцігодкі ўладкавалася яна на працу ў праектны інстытут чарцёжніцаю. Не надта ладзілася ў яе тая работа: разлівалася туш, пэцкалася адзенне, чарцяжы атрымліваліся невыразныя і мурзатыя, але дзяўчына старалася і пастурова ўцягнулася ў гэтую нудную работу, ад якой не шмат мела радасці, адно быў нейкі заробак.

У самую першую раніцу, як прыйшла на працу, сустрэла ў калідоры Віктара. Міжволі загледзелася на прыгожага хлопца. І той не вытрымаў пранізлівага позірку незнаёмкі, ніякавата павітаўся. Бадай, гэта быў адзіны з нямногіх смелых позіркаў, на які яна адважылася. Валя саромелася Віктара, пазбягала сустрэч і размоў з ім. Адчужэнне паміж імі ўзнікла яшчэ на самым пачатку. Аднойчы Віктар прынёс на капіраванне чарцяжы, папрасіў зрабіць тэрмінова. Валя зрабіла калькі і аддала, не паспеўшы ацаніць іх і запісаць сабе ў нарад. Пасля неяк яна напомніла Віктару пра тыя чарцяжы, ён паабяцаў адшукаць іх. Праз колькі дзён выклікаў яе ў калідор і сказаў, што заказчык забраў калькі, расцаніць іх ужо нельга, а таму ён заплоціць ёй сам, без бухгалтэрыі. Вось грошы. Яна збянтэжылася, пачырванела і памкнулася да дзвярэй, каб схавацца ад яго са словамі: “Дурань, нашто мне гэта?!” Сапраўды, ці ёй патрэбны былі ягоныя рублі? Ёй стала яшчэ горш, калі яна зразумела, што яе збянтэжанасць заўважылі жанчыны ў пакоі, дзе яна працавала. Яна адчувала віну перад Віктарам за сваю нявыхаванасць і нястрыманасць, а ён за тое, што стаў яе даўжніком, а вярнуць доўг не можа.

У праектным інстытуце было шмат дзяўчат і прывабных маладых жанчын, што не здолелі ўладкаваць сваё жыццё. Вясёлыя і смелыя супрацоўніцы свавольна размаўлялі

з Віктарам, хадзілі разам на абед у рэстаран, нейкія іншыя дзяўчаты тэлефанавалі яму і сустракалі з працы. У такія хвіліны Віктар быў чужы і недасяжны. І толькі калі яна заставалася сам-насам са сваімі думкамі і пачуццямі, Віктар быў блізкі і жаданы: светла-русыя хвалістыя валасы, блакітныя вочы з-пад трохі насупленых броваў, ад чаго на пераноссе клалася тонкая зморшчынка. Яго вельмі ўпрыгожвала мяккая ўсмешка, вось толькі смех не пасаваў яму. Тады твар яго напружваўся, нібыта ён не смяяўся, а пакутаваў. Хто ведае, можа, і жыла ў ім якая пакута, а ўбачыць яе можна было толькі гэтак, праз смех.

Іх цягнула адно да аднаго, і адначасова сцяна неразумення і счужэласці стаяла паміж імі. Часам надаралася тэрміновая праца, і Валя заставалася пасля змены. Ён заставаўся таксама, непрыкаяна хадзіў па пакоі, маўчаў. А калі і загаварыў бы, дык наўрад ці яна змагла б адказаць нешта па-людску, закутая ў сарамлівасць і няўпэўненасць. Было жаданне вырвацца з палону ягонай прысутнасці, маўчання. Яна хуценька складвала свае няхітрыя прылады і, не развітаўшыся, выбягала з пакоя.

А колькі разоў, ідучы з працы дамоў, яна азіралася, нібы ад штуршка, і бачыла Віктара, які ішоў следам. Тады яна хавалася ў краму, у чужы пад'езд, зашывалася ў любую шчыліну, абы схавацца. Ад каго? Тады яна яшчэ не ведала, што ад сябе схавацца немагчыма...

— Дзе гэта мы ўжо?— абудзілася і зірнула ў акно суседка.

— Амаль паўдарогі праехалі,— адказала Валя.

— Сапраўды,— здзівілася маладзічка, пазнаючы аўтавакзал, да якога пад'язджаў аўтобус.

— Стаім паўгадзіны, прашу не спазняцца,— абвясціў вадзіцель.

— Пойдзем соку вып'ем ды з'ямо чаго,— прапанавала Валя.

Суседка згадзілася, і яны пайшлі ў прывакзальны буфет. Пакуль елі піражкі з павідлам і запівалі іх бярозавікам, цемнавокая з грубаватымі, але прыемнымі рысамі твару Святлана ўсё нахвальвала свой горад і нават абяцала ўзяць над Валяю шэфства, калі раптам тая засумуе адна сярод чужых людзей. Валі карцела спытаць пра Віктара, ці мала якія супадзенні бываюць. Святлана адказала, што прозвішча Журавелька ў іх сустракаецца часта, але Віктара яна не ведае.

Валі самой належала адшукаць яго ў незнаёмым горадзе і прызнацца ва ўсім. Той Віктар, якога яна стварыла ў сваім уяўленні, павінен быў узрадавацца яе з'яўленню. А што падумае і скажа Віктар сапраўдны?

У горкія і светлыя мінуты жыцця з ёю было ягонае імя. "Віця, Віцечка, Віцька!"— паўтарала яна часам нават услых. Калі побач была дачка, перапытвала:

— Што ты сказала, мама?

— Нічога.

— А я ўсё чула,— пярэчыла малая,— ты сказала вінцік.

— Мо й сказала,— адмахвалася ад назолы Валя.

Аддзел, у якім тады працавала Валя, быў даволі вялікі. У доўгім, з вялізнымі вокнамі пакоі стаяла дзесяткі тры сталоў з кульманамі, за імі мясцілася столькі ж праекціроўшчыкаў. Віктар і Валя сядзелі насупраць, раздзяляў іх невялікі праход. Валя часта лавіла на сабе Віктаравы позіркі, але не падавала выгляду, ніжэй апускала галаву.

Аднойчы зашаргацела калька і дзяўчына пачула ці ёй толькі здалося: "Кахаю цябе". Здзіўлена ўзняла вочы і ўбачыла Віктара, які паспешна адыходзіў ад яе стала. Сказаў ён гэтыя словы ці ёй падалося, яна не ведае дагэтуль. Сама ж такіх словаў нават пад страшнаю караю прамовіць не змагла б, хоць пра Віктара думала ўвесь час. Ды і цяпер яна не вельмі адышла ад тае зацятае сарамлівае дзяўчыны, мо таму нягледзячы на свае трыццаць захавала ў паставе і выразе твару нешта строгае і дзявочае.

Як Святлана абяцала, на вакзале яе сустрэў муж сяброўкі на зялёным "Масквічы", пацалаваў у вусны, агледзеў з ног да галавы, папракнуў:

— Трэці дзень сустракаю, абяцала раней вярнуцца...

Святлана, задаволеная ягонай рэўнасцю, паблажліва ўсміхнулася, падала сваю валізку:

— А куды мне было спяшацца? Пастаў рэчы, калі ласка, у багажнік. А гэта мая новая знаёмая,— Святлана паказала вачамі на Валю.— Падвязём яе да санаторыя.

Уладальнік "Масквіча" хуценька ўладкаваў у багажнік і Валіну сумку, сеў за руль, лёгка крануў з месца. Пад польскую песню, што гучала па радыё, пачаў расказваць Святлане пра гарадскія навіны, а сам уважліва прыглядаўся да маладзіцы, нібы хацеў прачытаць па твары нейкую таямніцу. Валя не прыслухоўвалася да іхняй размовы, праз машыннае шкло старалася разгледзець кожнага сустрэчнага — раптам Віктар. Але каго паспееш разгледзець і пазнаць, калі машына хутка віляе з завулка ў завулак.

Пад дзвярамі прыёмнага пакоя санаторыя сабралася некалькі жанчын, што толькі прыехалі. Чакалі медсястру. Каля новенькіх пеўнямі пахаджалі санаторныя мужчыны, напрошваліся ў насільшчыкі. Валя прыгледзелася да дзвюх маладых жанчын, што стаялі з рэчамі. Адна з іх была высокая, хударлявая, з непрыемным тварам, пабітым вуграмі, другая — зграбная, нават прыгожая, але з цяжкім, хутчэй жорсткім позіркам. Ні адна з іх Валі не спадабалася. І яна перавяла пагляд на старэйшых кабет, прыкінула, што з адною з іх, бадай, і варта пасяліцца ў пакоі. Але калі пачалі афармляць дакументы, тая, маладая і прыгожая, прапанавала Валі:

— Давайце з вамі паселімся, мяне Алінаю завуць.

— А мяне — Валяю,— засталося даць згоду Валі.

Корпус, дзе пасяліліся Аліна і Валя, стаяў на высокім беразе ракі. За ракою распасціраўся луг, застаўлены стаж-

камі маладога сена, далей сінеў лес. Валя была ў захапленні ад таго, што пакой ім трапіўся вокнамі на раку. Яшчэ ў маленстве, калі маці вазіла яе ў госці да дзеда, Валя заўсёды здзіўлялася, чаму дзедава вёска павярнулася да Дняпра агародамі і хлявамі. Ад такога хараства адвярнуцца! Праўда, маці расказвала, што ў аднаго дзівакаватага сваяка да вайны стаяла хата вокнамі на раку, але двойчы буран зносіў з яе дах. У вайну тая хата згарэла, а сваяк пераехаў у райцэнтр. Валя бачыла, што Дняпро прыцягвае не толькі яе, малую, але і дзеда. Ён часта выходзіў на гару, абапіраўся рукамі на плот, сплецены з лазы, доўга ўзіраўся ў сіняе задняпроўе. Яна ні разу не адважылася падысці да дзеда ў тыя мінуты. А дарма, можа, менавіта тады і сказаў бы ён ёй нешта важнае і мудрае, чаго хапіла б на доўгае жыццё. Цяпер ужо не спытаешся, няма дзеда.

Валя даставала з сумкі рэчы, вешала і складвала ў шафу, а думкі самі сабою снаваліся вакол Віктара. Як з ім сустрэцца? Якую сукенку апрануць? Вінаватая яна і перад сабою, і перад ім. І маці не была ў захапленні ад яе выбару.

Пайшла Валя замуж за Алега, з якім некалі вучылася ў адным класе і нават сядзела за адною партаю. Жылі яны ў суседніх трохпавярховых дамах. Дзеці двух двароў не ладзілі паміж сабою, хлопцы часта біліся, кідаліся каменнем. Іншы раз яе запыняў Алег, калі яна бегла ў гастраном праз ягоны двор, мерыўся стукнуць, але нешта яго стрымлівала.

— Пусці, дурань!— крычала яна.

І ён адпускаў.

Вярнуўся Алег з войска ўзмужнелы, сур'ёзны. Моладзь вечарамі найчасцей збіралася ў двары на лаўцы. Бо куды пойдзеш? Дыскатэка — для школьнікаў. Рэстаран — для фарцоўшчыкаў, сафікаў і іншых багацеяў. А тут, у двары, усе свае. На гэтыя вячоркі Алег прыходзіў з гітараю і ціха спяваў салдацкія песні пра каханне і мужчынскае сяброўства, астатнія падпявалі яму.

Некалькі разоў Алег правёў Валю пасля вячорак, а потым яны пачалі сустракацца штодня. Ён быў ласкавы і спагадлівы сябар, ва ўсім саступаў ёй і падпарадкоўваўся. І яна пачала думаць, што Алег, можа, адзіны чалавек, які разумее яе і жадае ёй дабра. А ці шмат таго дабра бачыла яны ў жыцці? У сям'і пры маці заўсёды адчувала сябе непрытульна, не ладзіла з айчымам, ненавідзела яго за ціхае хатняе п'янства. На выхадны ён прыпасаў сабе пляшку ці дзве "чарніла", ляжаў на канапе, смактаў віно, глядзеў тэлевізар. Ачмурэлы, пачынаў прывязвацца да жонкі з пустымі гаворкамі, учыняў сваркі, а часам і бойкі. Усе сямейныя звады маці трымала ў сакрэце ад суседзяў і сваякоў. Ды і каму паскардзішся, сама вінаватая, што не разгледзела чалавека.

У маці Валя вучылася замкнёнасці і стрыманасці. Нікому, нават самым блізкім сяброўкам, не раскрывала сэрца, мо таму ніхто шчыра з ёю і не сябраваў. На працы яна таксама ні з кім з дзяўчат не сышлася. Кароткая стрыжка і пранізлівы позірк рабілі яе падобнаю да злоснага вожыка, хоць на самой справе гэта была не злосць і не ганарыстасць, а жаданне абараніцца ад незразумелага і чужога навакольнага свету.

Настаў аднойчы дзень, калі яны з Алегам сядзелі ў зацішным кутку сквера. Хлопец шмат цалаваў яе. І яна выказвала ўзаемнасць вуснамі, рукамі, падатлівым целам. Тады ён і прапанаваў ёй выходзіць за яго замуж. Ахопленая млявасцю, стомленая ласкамі, яна хацела пачуць ад яго гэтую прапанову. Але ці хацела яна за яго замуж? Бадай, не. Замужжа ёй уяўлялася нечым зусім іншым, святочным. І муж, зразумела, не субтыльны і паслухмяны Алег, а нехта ўладны і мужны. Яна нічога не адказала Алегу, не захацела крыўдзіць.

Раніцаю ўспамінала мінулы вечар з лёгкім сорамам і салодкаю ўсмешкаю. І на Віктара ўжо глядзела нібы праз запацелае шкло, якое размывае абрысы. А калі нехта з жанчын у аддзеле сказаў, што бачылі Віктара з нейкаю

дзяўчынаю ў салоне для тых, хто бярэ шлюб, Валя зразумела, што траціць Віктара назаўсёды. Такі лёс.

Неяк надвячоркам Алег прыйшоў з кветкамі і пляшкаю каньяку сватацца. Айчым ахвотна раскаркаваў пляшку. Алег сказаў пра свае сур'ёзныя намеры. Маці з жалем паглядзела на Валю, стрымана сказала: "Няхай сама вырашае".

Валі ўсё даводзілася вырашаць самой. Захацелася ў школу, пайшла і сама запісалася, а маглі б і не ўзяць, бо нарадзілася ў лістападзе, не мела поўных сем гадоў. Сама знайшла сабе працу. Вось і тут трэба было адважыцца. А што яна хоча ад жыцця? Спакою, дабра і дзяцей. Алег цудоўны сябар, яна паважае яго. Пасля будуць нейкія сумесныя клопаты, неяк будзе... Валя даверылася лёсу, дала згоду. Але нават у час вяселля ўсё чакала, што прыйдзе Віктар і забярэ яе. Не прыйшоў...

Праз тры месяцы пасля Валінага вяселля Віктар звольніўся і паехаў да бацькоў. Вось тады і зразумела Валя, што не можа без яго жыць. Немагчыма не бачыць яго, невыносна не чуць яго голасу, калі вось насупраць пусты стол, які помніць цяпло ягоных рук. Яна жывілася мінулым, успамінамі, кожны вечар клалася спаць і маліла яго, каб прысніўся. Сніўся ён вельмі рэдка. Яна ведала, што Віктар — яе адзінае і таемнае каханне, а больш нічога не будзе. Яна чакала ад яго званка або ліста. Ён маўчаў.

Першыя санаторныя дні былі тлумныя і насычаныя. Валя стамлялася ад працэдур. Вольны час у перапынках паміж наведваннем розных кабінетаў выкарыстоўвала на тое, каб адпачыць. Толькі на трэці дзень выбралася ў горад. Убачыла афішы заезджага Мардоўскага тэатра, купіла некалькі білетаў на спектаклі, падумала: "Раптам Віктара сустрэну ў антракце, такая прыемная будзе выпадковасць..." Адшукала Валя і тую ўстанову, дзе працаваў Віктар. З таго часу, як ён звольніўся і паехаў да бацькоў, яны

сустракаліся толькі аднойчы. Віктар прыязджаў у госці да свайго сябра. Выпадкова яны ўбачыліся на аўтобусным прыпынку, пагаварылі, як чужыя. Тады Валя і даведалася, дзе ён працуе. Віктар за тры гады вельмі пераменіўся, увесь пасівеў. І вочы, раней такія блакітныя, сталі шэрыя і халодныя. Калі падышоў яе аўтобус, Віктар сказаў:

— Ну, едзь.

— Куды?— у адчаі папыталася яна.

— Дамоў.

Як ёй хацелася, каб ён затрымаў яе. Мо тады яна і змагла б сказаць яму пра сваё каханне, пра свае пакуты... Але ён не затрымліваў. Валя ўвайшла ў аўтобус, які тут жа крануўся. Яна са скамянелым сэрцам глядзела туды, дзе застаўся ён, такі дарагі і чужы. Болей яны не бачыліся. З таго часу мінула дзесяць гадоў.

У той год, калі дачка пайшла ў першы клас, Валя ўзяла адпачынак на верасень, каб прывучыць малую прыходзіць дамоў самастойна, навучыць яе карыстацца плітою, рабіць урокі. Аднойчы, калі не было нікога дома, наважылася патэлефанаваць Віктару. Так і зрабіла. Але што гэта была за размова? Яна балбатала нейкае глупства пра агульных знаёмых, пра працу, толькі пра сябе нічога не змагла сказаць. Калі на развітанне папыталася, ці можна яшчэ яму пазваніць, ён адказаў: “Як хочаш”.

Як хочаш — стукалі звонкія малаточкі ў скронях, як хочаш — калацілася збалелае сэрца. Яму ўсё роўна. Позна! Позна! Чым жыць далей? І навошта? Пыталася ў сябе самой і не знаходзіла адказу. Не трэба ёй такога чорнага жыцця. Нічога яе больш не трымае тут. Яна не хоча жыць. Смерць — гэта выратаванне, збавенне ад пакуты і незадаволенасці. Яна нікому нічога не вінна. Дачка вырасце, маці перахварэе, мужу гэта не вялікая страта...

Валя села да стала, узяла ліст паперы, каб напісаць на развітанне апошнія словы. А каму і што? Толькі дачуш-

цы... Як навучыць яе, каб не памылілася, не разгубілася ў жыцці, каб умела слухаць сэрца і разумець іншых людзей. Дзяўчынка прыйдзе са школы апоўдні і будзе да вечара стаяць пад дзвярамі і плакаць. Можа, пакінуць кватэру адчыненай? Тады дачка першая ўбачыць яе мёртвую... страшную... Кажуць, павешаныя сінія, брыдкія... Не, так нельга... Напалохаецца... Значыць, будзе плакаць пад дзвярамі, галодная і бездапаможная. І суседзі ўсе на працы...

У грудзях запякло ад жалю да малой, боль сціснуў горла. Упершыню за столькі гадоў яна ўпала на стол і заплакала ўголас. Яна плакала — і адступала цемра, што ахутала яе стомленую душу, яна плакала — і адступалі злыя чары небыцця, што ледзь не асірацілі яе дачушку, адзіную радасць і ўцеху.

Так і засталася Валя жыць, але з таго часу пачала часта хварэць. Таемнае гора зрушыла нейкую раўнавагу, пахіснула падмурак, на якім чалавек можа стаяць цвёрда і ўпэўнена.

— Нешта мне Ваня грошай не шле,— паскардзілася Аліна.

— Які Ваня? Ты ж казала, што твайго мужа Мішам завуць.

— Муж Міша, а з Ванем я пазнаёмілася летась у санаторыі. Такое каханне было. За зіму тройчы да мяне прыязджаў.

— Куды? Проста да цябе ў вёску?— не зразумела Валя.

— У мяне сяброўка ёсць у райцэнтры, у яе на кватэры сустракаліся. Яна тады казала, што ніколі раней мяне такою прыгожаю не бачыла. Вось як каханне ўпрыгожвае.

— Ну, дык што той Ваня? Якія ў яго намеры?

— Ніякіх. Ён жанаты, мае дзве дачкі, шахцёр, пры грашах. Я загадзя яго дзяўчаткам купіла па імпартнай сукеначцы, шпалеры фінскія дастала, каб ён пакупкамі перад жонкаю апраўдаўся. А яна пра ўсё здагадалася, сказала, што ў ягонай палюбоўніцы, гэта значыць, у мяне, добры густ...

— А ты ж казала, што мужа вельмі кахала...

— Кахала ды перакахала. Кавалер ён быў завідны. Прыязджаў да вучылішча, дзе я вучылася, на матацыкле. Мне ўсе дзяўчаты зайздросцілі. Такі прыгожы і заліхвацкі хлопец быў. Павезла да сваіх бацькоў знаёміць, ён там таксама ўсім спадабаўся. Згулялі вяселле. Пераехала я да яго бацькоў у вёску, вось тут і ўбачыла, што за сямейка. Адно слова — Хвядыкіны. Там іх усё наваколле ведае. Тры браты-разбойнікі. П'яным пад руку не трапляйся, змалоцяць на горкі яблык. Ай, няма пра што гаварыць. Мне адна баба варажыла, што я ўсё роўна з ім жыць не буду.

— А мой ціхі, спакойны, але такі ўедлівы, што жыцця няма.

— Не, мне здаецца, з талковым чалавекам, дык можна было б жыць. Я вось учора вечар з адным старым праседзела...

— Які гэта?

— Помніш, мяне на танцах усё запрашаў, высокі, вусы падфарбаваныя, на Сяргея Міхалкова падобны...

— А...— успомніла Валя.— Нашто ён табе, ён жа бацька твой.

— А што тут такога? Пасядзелі, пагаманілі. Мне прыемна яго паслухаць, як ён умее кампліменты гаварыць! Тут жа няма з кім словам перакінуцца. За сталом са мною адна баба абедае. Прычапілася ўчора, дзе працую. Думаю, так я табе і скажу, што сакратарка. Зманіла, кажу, начальнік кармацэха. Яна ажно пазайздросціла, маўляў, такая маладая, а ўжо начальнік.

— Якая розніца, хто дзе працуе,— пацiснула плячамі Валя.

— Не скажы. Я вось усяго сакратарка пры дырэктары саўгаса, а ад мяне шмат што залежыць. Як захачу каго да начальства не дапусціць, дык па-мойму і будзе.

— Гэта я ведаю, у нас у інстытуце гэткая самая сядзіць.

— Слухай, а як твой знаёмы, якога ты хацела ўбачыць?

— Ніяк. Не магу адважыцца...

— Вось дзівачка. Затэлефануй і скажы, што трэба сустрэцца.

— Боязна. Наперадзе яшчэ два тыдні, паспею...

— Глядзі, каб не позна было.

Колькі ні хадзіла Валя па горадзе, колькі ні прыглядалася да людзей, а Віктара так і не сустрэла. Таму яна аднойчы пайшла проста да той установы, дзе працаваў Віктар. Хвалявалася, стоячы на рагу, бачыла, як ягоныя супрацоўнікі пайшлі на абед у кафэ, што было паблізу. Сама зайшла туды, выпіла кавы. У галаву лезлі розныя думкі. Можа, ён ужо тут не працуе, мо і ў горадзе не жыве, а мо менавіта сёння дзе ў камандзіроўцы. Трываць невядомасць не было змогі. Па абедзе яна пазваніла яму на працу. Тэлефонная трубка адгукнулася прыемным хлапечым голасам:

— Журавелька? У адпачынку ён.

— Дзякуй, прабачце.

— Няма за што.

Дзе ж ён адпачывае? Мо дома? Валя вырашыла заўтра ж даведацца ягоны адрас у бюро даведак. Яна ведала, што бацькі яго мелі свой дом.

— Дзе будзеш сёння ўдзень?— папыталася Аліна.

— У горад збіраюся,— адказала Валя.

— Вось і добра, бо я хачу ў госці аднаго чалавека запрасіць.

— Таго старога?

— Маладога. Ты ж сёння мяне з ім бачыла ў сталоўцы.

— А як жа Ваня?

— Гэта таксама Ваня.

— А каго ж ты кахаеш?

Дома разбяруся. Галоўнае, што мне цяпер добра. І не трэба мне ніякага кахання. Сытая па горла. Я шукаю надзейнага чалавека, напарніка для жыцця, разумееш? Што

ты глядзіш? Што глядзіш? Быццам ты лепшая. Таксама ж некага шукаеш, а нават сабе прызнацца ў гэтым не можаш. Толькі разбярыся, ці варта кахаць невядома што. Які ён чалавек? Які мужчына ўрэшце?

— Я думаю, калі кахаеш, дык усё гэта не мае ніякага значэння.

— Слухай, ты нібы толькі ўчора нарадзілася. Але не мне цябе вучыць, жыццё навучыць. Толькі не чапляйся да мяне, прашу, са сваімі ідыёцкімі пытаннямі.

Валя не крыўдзілася і не злавала на Аліну. Сапраўды, у кожнага сваё жыццё. Як хто хоча, так з ім і абыходзіцца. Але па сабе ведала, што вельмі цяжка і балюча выпраўляць памылкі, калі ўвогуле можна што-небудзь паправіць. Хто вінаваты, што няўдала склалася жыццё? Сама, больш ніхто. Бо зрабіла тое, што не след, бо прыняла сяброўства за каханне. А з Алінаю не згодная. Нельга перабіраць мужчын. Жанчына павінна кахаць аднаго, гадаваць дзяцей, дбаць пра сям'ю. Каб Алег з самага пачатку не паказаў сябе як уласнік, не атруціў жыццё недавераю і рэўнасцю, мо яна лягчэй перанесла б страту Віктара. А мо Алег таму і раўнаваў, што адчуваў яе абыякавасць і адлучанасць. Іграць ролю добрай жонкі — трэба мець талент. Хаця жыццё не гульня. Як разарваць цяжкія путы даўгоў і абавязкаў? Невыноснае жыццё з пачуццём віны перад блізкімі. А ёсць яшчэ даўгі перад уласнай памяццю і сумленнем. І што такое каханне? Чаму столькі гадоў мінула, а няма сілы забыць Віктара?

У адрасным бюро Валі далі Віктараў адрас. І яна пусцілася пешкі шукаць ягоны дом. Доўга ішла вуліцаю, забудаванай пераважна драўлянымі хатамі, што хаваліся за высокімі платамі і варотамі, пакуль нарэшце адшукала патрэбны нумар, пафарбаваны ў блакітны колер, з белымі аканіцамі. У двары бавіўся хлопчык гадоў пяці, гэтакі маладзачок, русагаловы і з твару нібыта падобны да Віктара.

Гэта мог быць Віктараў сын. Валя адчула глухую рэўнасць і непрыязнасць да дзіцяці. Нешта абарвалася і заныла ўсярэдзіне. Вось і ўсё. Жыццё цячэ. У Віктара сын, у мяне дачка. Застаецца жыць дзеля дзяцей. Нас няма, мы толькі глеба, на якой узгадуюцца новыя парасткі. Бывай, Віктар, бывай. Колькі пяшчотных слоў прыпасена было табе, але ніколі ты іх не пачуеш.

Яна адчувала такую спустошанасць, нібыта нехта неміласэрна яе абрабаваў, забраў апошнія надзеі. Яна пайшла ў змярканне, цёплае, па-чэрвеньску доўгае, вочы засцілаліся слязьмі, але ад іх мякчэла і дабрэла сэрца. Санаторый знаходзіўся на другім канцы горада, аднак яна не спыніла таксі і не села ў аўтобус, а пайшла, хаваючы твар ад сустрэчных людзей. Недзе на паўдарозе схамянулася: што ж гэта я? Хіба дзіця чым вінаватае? Ці Віктар вінаваты? Няхай жыве шчаслівa. Няхай хоць яму будзе добра. А ёй нічога не трэба. Пабачыць толькі. Наўрад ці прыедзе яна яшчэ калі сюды...

Аліна апошні час зусім адбілася ад свайго пакоя, нават нанач не прыходзіла. Валя самотна і непрыкаянна блукала па санаторыі, па горадзе, усё яшчэ трымаючыся за кволую надзею сустрэць Віктара выпадкова. А між тым адпачынак канчаўся, трэба было вяртацца дамоў. Яна вырашыла яшчэ раз затэлефанаваць на працу Віктару і падрабязней распытаць пра яго.

Перш чым зайсці ў тэлефонную будку, пасядзела на лаўцы, сабралася з думкамі. Набірала нумар, а сэрца калацілася ад хвалявання. Ці надыдзе калі такі час, калі яна зможа перасільваць у сабе свой рабскі страх?

З трубкі пачуўся афіцыйна далікатны жаночы голас:

— Журавелька? У адпачынку ён.

— А калі будзе?

— У пачатку ліпеня.

— А вы не ведаеце, мо ён дома адпачывае?

— Не, ён у Чэхаславакію паехаў.
— Адзін ці з жонкаю?
— А ён у нас нежанаты.
— Дзякую вам, прабачце, да пабачэння.

Валя з палёгкаю павесіла трубку. Цяпер яна ведала ўсё. Значыць, Віктар так і жыве адзін. І гэты хлопчык у двары не сын яму, а пляменнік. Валі заўтра ад'язджаць, а Віктар вернецца толькі праз тыдзень. Яны не сустрэнуцца, не лёс.

Увечары Валя зноў паехала да Віктаравай хаты, убачыла ў двары таго самага хлопчыка, прылашчыла яго позіркам. Перайшла на другі бок вуліцы, села на лаўку, каб бачыць Віктараву хату. Праз гэтыя вокны ён глядзіць на свет, да гэтых весніц дакранаецца рукою, па гэтай вуліцы ходзіць штодня. І была шчаслівая ўжо тым, што хоць так далучаецца да ягонага жыцця. Можа, ёй усё-такі трэба было затрымацца тут, дачакацца Віктара? Можа... Ды яна па-ранейшаму хоць і прагнула сустрэчы з ім, але болей баялася расчаравання, крыўды, абразы і яшчэ невядома чаго. Яна абавязкова прыедзе сюды праз год, нават калі не дадуць пуцёўкі, папярэдне напіша Віктару. Няхай ён чакае яе, мо гэтак ёй... ім будзе лягчэй. Каханне, як і гора, з плячэй не скінеш. Яна будзе кахаць Віктара заўсёды.

На вуліцу апускаўся змрок. Трэба было вяртацца ў санаторый, каб не стукацца пасля ў замкнёныя дзверы. Валя пругка паднялася і апошні раз азірнулася на Віктараву хату. Развітвалася ненадоўга, усяго на год. Тайна, якая раней прыгнятала, цяпер акрыляла новымі надзеямі і марамі.

Але ні праз год, ні праз два не давялося Валі трапіць у Віктараў горад. Зімою прастудзілася дачка. Ангіна дала ўскладненне на ныркі. І давялося Валі забыцца на сябе, гадоў пяць запар у свае чарговыя адпачынкі вазіла яна

малую ў Трускавец. Да ўсяго яшчэ і маці расхварэлася, перанесла дзве цяжкія аперацыі, таксама патрэбны быў Валін догляд.

Толькі праз дзесяць гадоў прапанавалі ёй зноў пуцёўку ў той самы санаторый, што ў Віктаравым горадзе. Жанчына спачатку ўзрадавалася, расхвалявалася, ахопленая маладымі згадкамі. А пасля падумала, падумала і адмовілася. Дачка якраз здае першую сесію ў інстытуце. Трэба падтрымаць дзіця, пакарміць у час. Ды які сэнс цяпер шукаць мінулае? За гады яны навучыліся з Алегам саступаць адно аднаму, прыцерліся, дачку добрую выгадавалі. Што яшчэ трэба. Што ёсць, тое ёсць. А ці было тое яе каханне, адзін Бог ведае. Можа, і добра, што тады яна не сустрэлася з Віктарам. Невядома, якія яшчэ пакуты давялося б ёй перажыць. А так няма чаго ўспамінаць, няма пра што шкадаваць. Яна прыкметна пастарэла за гэты час, пасівела, патаўсцела. Не варта расчароўваць чалавека. Няхай помніць яе былую, калі яшчэ помніць. Бывай, Віктар, бывай назаўсёды.

# *Змест*

## Аповесці



## Апавяданні

**Дудзюк З.**

Д 81 Палоннікі жыцця: Аповесці, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1997.— 270 с.

ISBN 985-02-0221-1.

Творы Зінаіды Дудзюк — пра нашых сучаснікаў, якія жывуць адпаведна свайму разуменню чалавечай годнасці і сумленнасці.

Напэўна, таму герой аповесці "Мастацтва забіваць" лічыць немагчымым для сябе быць даносчыкам, не згаджаецца дапамагаць старэйшаму брату, уцягнутаму ў рэпрэсіўную машыну КДБ.

Журналістка Чарановіч (аповесць "Кошт апошняга слова") усё паставіла на карту, каб раскрыць прычыну самазабойства, а мо і забойства сваёй сяброўкі — таленавітай паэткі.

Аповесць "Зло чужымі рукамі" — пра каханне, аднак герой дзеля дасягнення сваіх мэтаў ідзе на махлярства і нават злачынства.

**ББК 84(4Беи)6**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ДУДЗЮК
Зінаіда Іосіфаўна

***Палоннікі жыцця***

Аповесці, апавяданні

Рэдактары *А. П. Рыбак, І. І. Кананові*ч
Мастак *М. С. Будавей*
Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*
Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*
Карэктар Я. Ф. Харко

Здадзена ў набор 03.12.96. Падп. да друку 02.09.97.
Фармат 70x100 $^1/_{32}$. Папера кн.-часоп. Гарнітура літаратурная.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 11,05. Ум. фарб.-адб. 11,46.
Ул.-выд. арк. 12,54. Тыраж 700 экз. Зак. 7.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства "Мастацкая літаратура"
Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ
№ 3 ад 15.01.93. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня "Перамога". 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.